Андрэй Катлярчук

Andrej Kotljarchuk

Svenskar i vitrysk historia och kultur

# Швэды у гісторыі й культуры беларусаў



Кніга выдадзена пры
інфармацыйнай падтрымцы
фонду «Чалавек у нядолі».




Навуковыя рэцэнзэнты:
прафэсар Свэн Густаўсан (Упсольскі ўнівэрсытэт);
доктар Барбара Торнквіст-Плева (унівэрсытэт Люнду).
Рэдактар: Валер Булгакаў

За думкі, выказаныя ў гэтай кнізе, нясе адказнасьць выключна яе аўтар.

Катлярчук, А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007. – 328 с.

Kotljarchuk, Andrej. Svenskar i vitrysk historia och kultur. – Vilnius. Institut för Vitrysslands-studier, 2007. – 328 s.

Кніга апісвае гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў зь Сярэднявечча і па сёньняшні дзень. Шырака асьвятляюцца пытаньні, якія дагэтуль не атрымалі належнага разгляду – швэдзкага культурнага ўплыву на старажытнае Полацкае княства, характару гаспадарчай дзейнасьці вікінгаў на беларускіх землях у старажытнасьці, падзеяў Вялікай Паўночнай вайны на тэрыторыі нашай краіны.

Прызначана для ўсіх, хто цікавіцца мінуўшчынай роднай зямлі.

Выданьне другое, папраўленае і дапоўненае.

Выданьне было зьдзейсьненае пры падтрымцы Швэдзкага інстытуту




Надрукавана ў друкарні «Прынткарп».
Беларусь. Менск, вул.Ф.Скарыны, 40. 220141.
Наклад



МАІМ БАЦЬКАМ МАРЫІ ДЫ СЬЦЯПАНУ

# Зьмест

Kontakterna med Vitryssland/Belarus är gamla – och nya .................... ix
Сувязі зь Беларусьсю, старыя і новыя ................................................. x
Прадмова да другога выданьня .......................................................... xi
Förord till andra upplagan ................................................................... xiv
Падзякі ............................................................................................... xvii
Храналягічная табліца ........................................................................ xviii
Сьпіс ілюстрацыяў .............................................................................. xxii

1. Час вікінгаў у Беларусі: канец IX – пачатак XIII ст. ................... 1
1.1. Скандынаўская калянізацыя Вялікага Ўсходняга шляху ................ 1
1.2. Скандынаўскія цэнтры на абшарах Беларусі: Полацак, Маскавічы, Пруднікі, Гнёздава/Сьвінецак ............. 7
1.3. Вараскія знаходкі на абшарах Беларусі .............................. 26
1.4. Полацак і Полацкае княства ў скандынаўскіх сагах ........... 37
1.5. Вікінгі ў беларускім фальклёры .......................................... 40
1.6. Скандынаўская тапаніміка беларускай зямлі ..................... 44
1.7. Скандынаўскі ўплыў на старажытнабеларускую культуру ..................... 46

2. Раньні Новы час ............................................................................ 59
2.1. Швэдзкае каралеўства й Вялікае Княства Літоўскае ў канцы XVI – пачатку XVIII ст. ............................................. 59
2.2. ВКЛ і Швэцыя ў 1600–1629 гг.: бітва за Інфлянты .............. 68
2.3. Кейданская унія 1655 г. паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Швэцыяй ............................................................. 74
2.4. Паміж молатам і кавадлам: Беларусь у Вялікай Паўночнай вайне. Паход Карла XII па Беларусі (1702–1708) ................................................................................ 88
2.5. Швэдзкі лягер у Магілёве ...................................................... 109
2.6. Швэдзкая катастрофа пад Лясной ....................................... 120
2.7. Швэды на землях Беларусі. Грэгэр Лаўрэн Барастус ...... 128
2.8. Беларусь і Летува ў швэдзкай навуковай думцы другой паловы XVI – пачатку XVIII ст. ............................... 136
2.9. Беларусь пачатку XVIII ст. вачыма швэдзкіх жаўнераў ... 145
2.10. Беларусіка ў зборах Швэцыі .............................................. 155

3. Вобраз швэда ў беларускай культуры ....................................... 163
3.1. Швэд-чараўнік ......................................................................... 163
3.2. Швэды ў рэлігійных легендах беларусаў ........................... 167
3.3. Швэдзкія скарбы й курганы .................................................. 176
3.4. Карл XII у народнай культуры беларусаў .......................... 182
3.5. Прыказкі беларусаў пра швэдаў ........................................... 189
3.6. Швэдзкая тапаніміка ў Беларусі .......................................... 194
3.7. Вобраз швэдаў у беларускай літаратуры ........................... 196

4. Швэдзка-беларускія сувязі ў Новы й Навейшы час ................ 214
4.1. Першая манаграфія пра гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў: Яўстах Ганоры Тышкевіч і ягоныя «Лісты аб Швэцыі» (1846) ...................................................... 216
4.2. Суполка «Беларуская Грамада» ў Швэцыі (1948–1975) .. 221
4.3. Швэдзкая літаратура ў сучаснай Беларусі ........................ 224
4.4. «Швэцыя» ў Беларусі й «Беларусь» у Швэцыі: агляд сучасных культурных і гуманітарных дачыненьняў ......... 226

5. Эсэ 2006-2007 гг. ............................................................................ 231
Місія Торвальда Вандроўніка, Або скандынаўскія пачаткі хросту Беларусі ........................................................ 231
Зоф'я: забытая беларуская каралева Даніі ............................... 236
Швэцыя і пратэстанцкі збор Вялікага Княства Літоўскага ......... 239
Першы ў сьвеце дзяржаўны банк і першыя банкноты: беларускі сьлед ........................................................................ 256

Крыніцы й бібліяграфія ................................................................. 263
Асабовы паказьнік ......................................................................... 275
Геаграфічны паказьнік .................................................................. 283

Sammanfattning. Sverige och Vitryssland (Belarus). Igår och idag – ett historiskt perspektiv ........................................ 291
Innehåll ............................................................................................. 302

Кождому бовем потребная
есть реч о своей ойчизне знати
и иншым пытаючым сказати,
бо своего роду не знаючых людей
за глупых почитають.

ХВЯДОС САФАНОВІЧ, 1672
БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКІ ГІСТОРЫК



# Kontakterna med Vitryssland/Belarus är gamla – och nya.

Kanske var Vitrysslands «stamfader» Rahvalod (Ragnvald på svenska) svensk. Vi vet att vikingarna färdades på Dnjepr (vitry. Dnjapro) på sin väg till Svarta havet. I början av 1000-talet, då vikingarna bedrev sin handel från Nevas mynning till Konstantinopel var också Vitryssland, som del av Kiev-riket, en viktig partner. Myten säger att Rus och Rurik har sina etymologiska rötter i det svenska landskapet Roslagen.

Om de exakta omständigheterna vet vi rätt lite, men arkeologiska lämningar gör sannolikt att svenskar fanns bosatta under längre tid inom det som idag är Vitryssland. Svenskarna i Vitryssland blev en del av transithandeln mellan Skandinavien och Konstantinopel.

Storfurstendömet Litauen, Ruthenien (Belarus) och Samogitien liksom Sveriges stormaktsställning under 1600-talet innebar ytterligare kontakter – tyvärr ofta på slagfältet.

Dagens kontakter mellan Vitryssland och Sverige är av annat slag. Svenska institutet har kunnat vara närvarande i Vitryssland genom språkundervisning på universitet, genom utställningar om design, seminarier om svenskt samhällsliv, och vanliga människor i svenska Säffle och i Minsk har berättat om sina vardagsliv i videodagböcker. På så sätt öppnas på nytt dörrar mellan två folk.

Därför är det hedrande och glädjande att Svenska institutet nu kan presentera en ny upplaga av Andrej Kotljarchuks unika bok om Vitrysslands och Sveriges unika historia och kulturella band. Den första upplagan har mottagits mycket väl och bidragit till att sprida ett nytt ljus över Vitrysslands historia. Också i Sverige har kunskapen varit otillräcklig om denna gemensamma historia och Andrej Kotljarchuks forskning har haft stor betydelse.

Svenska institutet har sedan flera år ett brett samarbete med olika vitryska samarbetspartners inom utbildning och kultur. Det är vår förhoppning att den här boken ska bidra till att fördjupa kontakterna mellan våra civila samhällen och människor i våra båda länder. Boken ger en historisk och kulturell bakgrund som kan bidra till att föra svenskar och vitryssar närmare varandra.

Olle Wästberg
Generaldirektör Svenska institutet

# Сувязі зь Беларусьсю, старыя і новыя

Першы беларускі князь Рагвалод (ці Рагнвальд па-швэдзку), верагодна, быў швэдам. Вядома, што вікінгі вандравалі па Дняпры на сваім шляху да Чорнага мора. На пачатку XI стагодзьдзя, калі вікінгі займаліся гандлем ад вусьця Нявы да Канстанцінопаля, Беларусь, што на той час увахо-дзіла ў Кіеўскую Русь, была для іх важным партнэрам. Згодна зь мітам, словы Русь і Рурык маюць свае этымалягічныя карані ў назьве швэдзкага края Руслаген (Roslagen).

Пра дакладныя акалічнасьці вядома няшмат, але археалягічныя знаходкі дазваляюць меркаваць, што швэды працяглы час жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, што была часткай транзытнага гандлю паміж Скандынавіяй і Канстанцінопалем.

Падчас існаваньня Вялікага Княства Літоўскага, Рускага (Беларускага) і Жамойцкага, як і ў часы швэдзкага вялікадзяржаўя ў XVII стагодзьдзі, таксама існавалі стасункі паміж краінамі, але, на жаль, часьцей за ўсё на полі бою.

Сёньняшнія кантакты паміж Беларусьсю і Швэцыяй зусім іншага кшталту. Швэдзкі інстытут ажыцьцяўляе сваю прысутнасьць у Беларусі праз выкладаньне швэдзкай мовы ўва ўнівэрсытэтах, мастацкія выставы ды сэмінары, прысьвечаныя жыцьцю швэдзкага грамадзтва, а звычайныя людзі зь Менску і швэдзкага Сэфле атрымалі магчымасьць расказаць пра сваё штодзённае жыцьцё ў праекце «Відэадзёньнік». Такім чынам, па-новаму расчыняюцца дзьверы паміж двума народамі.

Мы вельмі радыя таму, што Швэдзкі інстытут можа цяпер прадставіць чытачу наступнае выданьне ўнікальнай кнігі Андрэя Катлярчука пра глыбокія гістарычныя і культурныя повязі Беларусі і Швэцыі. Першае выданьне гэтай кнігі мела вялікі посьпех і дапамагло пашырыць новыя веды пра гісторыю Беларусі. Паколькі ў Швэцыі таксама не хапала дадзеных пра нашу супольную гісторыю, дасьледаваньні Андрэя Катлярчука мелі неасьпрэчнае значэньне.

Швэдзкі інстытут ужо на працягу некалькіх год ажыцьцяўляе шырокае супрацоўніцтва з рознымі беларускімі партнэрамі ў галіне адукацыі і культуры. Мы спадзяёмся, што гэтая кніга дапаможа паглыбіць кантакты паміж нашымі грамадзтвамі і людзьмі ў абедзьвюх краінах. Кніга дае гістарычныя і культурныя асновы, якія спрыяюць збліжэньню швэдаў і беларусаў.

Уле Вэстбэрг
Генэральны дырэктар Швэдзкага інстытуту





# Прадмова да другога выданьня

З часоў першага выданьня кнігі прайшло ўсяго чатыры гады. Вельмі цешыць, што кніга атрымала такі добры розгалас і другі раз запар друкуецца ў Беларусі даволі вялікім для гістарычнай літаратуры накладам амаль у 2000 асобнікаў. На сёньня гэтае выданьне найбольш удалае з трох маіх манаграфій. Пра кнігу пісалі незалежныя і афіцыйныя мэдыі Беларусі ад «Нашай Нівы» да «Беларуси Сегодня». Навуковыя рэцэнзіі зьявіліся ў Беларусі, Польшчы, Летуве, Швэцыі. У 2003 г. праца атрымала нацыянальную прэмію імя Багушэвіча Беларускага Пэн-цэнтру як найлепшая гістарычная кніга 2002 г. У 2006 г. кніга атрымала прэмію Паўночнаамэрыканскай асацыяцыі беларускіх дасьледаваньняў (The North American Association for Belarusian Studies) імя Зоры Кіпель.

За гады пасьля выхаду першага выданьня я атрымаў каля 150 лістоў, электронных паведамленьняў і нават *sms* ад чытачоў кнігі зь Беларусі, Швэцыі, Польшчы, Летувы, Канады і ЗША. Пісалі гісторыкі, выкладчыкі, настаўнікі, краязнаўцы, бізнэсоўцы, калекцыянэры, палітвязьні. Геаграфія лістоў уразіла, бо засьведчыла, што, нягледзячы на адсутнасьць дзяржаўнай падтрымкі, кніга дайшла да самых далёкіх куткоў Бацькаўшчыны. Для мяне гэта перадусім знак існаваньня ў Беларусі моцнай грамадзянскай супольнасьці.

Падчас прэзэнтацыі манаграфіі на сусьветным кніжным кірмашы ў Гётэборгу маю кнігу набыла адна швэдка. На звыклае папярэджаньне, што кніга напісана па-беларуску, а не па-швэдзку, яна апавяла фантастычна цікавую гісторыю. Аказалася, што ўлетку 2003 г. сярод балот Прыпяцкага нацыянальнага парку яе муж-арнітоляг выпадкова спаткаў свайго беларускага калегу, які па-ангельску пераказаў зьмест маёй кнігі. Уражаны багацьцем супольнай гісторыі, швэд патэлефанаваў дахаты і папрасіў жонку набыць манаграфію. Прыемна, што пажаданьне дырэктара Швэдзкага інстытуту Эрланда Рынбарга (Erland Ringborg), выказанае ім у прадмове да першага выданьня, зьдзейсьнілася, і кніга сапраўды стала «мастом паміж супольным мінулым і супольнай будучыняй нашых краінаў».

Што зьмянілася ў швэдзка-беларускіх стасунках за мінулыя чатыры гады?

Мушу зазначыць, зьмянілася шмат і да лепшага. Падчас працы над першай вэрсіяй кнігі я ня ведаў ніводнага швэда, які б валодаў беларускай мовай. Сёньня такія людзі ёсьць. У створаных за апошнія гады су-

месных беларуска-швэдзкіх сем'ях гадуюцца дзеткі, для якіх беларуская і швэдзкая мовы родныя.

У Менску ў 2003 г. адчынілася дыпляматычнае прадстаўніцтва Каралеўства Швэцыі, якое цяпер узначальвае Стэфан Эрыксан (Stefan Eriksson), што выдатна гаворыць па-беларуску, перакладае тэксты беларускай рок-музыкі, арганізуе вялікую колькасьць культурніцкіх імпрэзаў. Штогод у чэрвені амбасада Швэцыі і Швэдзкі інстытут (Svenska institutet) ладзіць Дні Швэцыі ў Менску. А ў Пінску ўжо некалькі год запар журналіст Марыя Сёдэрбэрг (Maria Söderberg) ладзіць «Кубак маладзёвай паэзіі», першы прыз якога — паездка ў Швэцыю. Падчас конкурсу да Пінску запрашаюцца вядомыя швэдзкія і беларускія паэты.

У 2002 г. амаль не было беларусаў, якія гаварылі б па-швэдзку. Сёньня студэнты Менскага лінгвістычнага ўнівэрсытэту вывучаюць мову пад кіраўніцтвам швэдзкага лектара Мортэна Франкбю (Mårten Frankby) і перакладаюць творы швэдзкіх пісьменьнікаў на беларускую мову. Каля 20 беларускіх студэнтаў і асьпірантаў навучаюцца цяпер у ВНУ Швэцыі па праграмах Швэдзкага інстытуту — дзяржаўнай фундацыі краіны.

У 2004 г. на швэдзкія грошы была адчынена беларуская рэдакцыя Радыё Швэцыя (Sveriges Radio), дзе сёньня плённа працуюць тры журналісты беларускага паходжаньня: Дзьмітры Плакс, Юлія Канавалава і Лана Радзівонава. У праграмах радыё — навіны з Швэцыі па-беларуску, агляд падзеяў швэдзка-беларускага жыцьця[1]. Вялікую зацікаўленасьць выклікаў візыт у Стакгольм наміnанта на Нобэлеўскую прэмію, народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. З канцэртамі ў найлепшых залях Стакгольму пабывалі беларускія гурты, між якіх знакамітыя «Стары Ольса» і «НРМ». «Свабодны тэатар» зь Менску з посьпехам выступаў на сцэне Нацыянальнага драматычнага тэатру Швэцыі.

За апошнія гады ў Швэцыі зьявіўся шэраг новых кніг, прысьвечаных Беларусі. Гэта сьведчыць пра паступовы рост цікавасьці швэдаў да Беларусі[2]. Навіны зь Беларусі даволі часта друкуюцца на старонках швэдзкіх газэт. Дапамагаюць гэтаму і значныя посьпехі беларускіх спартоўцаў, напрыклад, на эўрапейскім чэмпіянаце па лёгкай атлетыцы ў Гётэборгу ў 2006 г. Згодна з новымі правіламі швэдзкага правапісу назва Беларусі можа пісацца цяпер у двух варыянтах *Vitryssland* або *Belarus* (што больш правільна зь беларускага гледзішча). Такім чынам, Беларусь зь невядомай калісьці для большасьці швэдаў краіны зрабілася рэальнай суседкай Швэцыі ў балтыйскім рэгіёне. Падкрэсьлю, што перадусім незалежнасьць, набытая ў 1991 г., зрабіла такое актыўнае супрацоўніцтва магчымым.

Усе гэта сьведчыць, што застарэлае клішэ, якое я сустракаў падчас побыту ў Беларусі, маўляў, эўрапейскія краіны намі не цікавяцца і пра Беларусь ніхто ня піша — няслушнае. Швэцыя робіць шмат, каб умацаваць прыязьнь з маладой краінай Эўропы. Толькі ў 2005 г. Беларусь атрымала ад Швэцыі гуманітарнай дапамогі амаль на 30 млн. швэдзкіх крон (больш за 4 млн. даляраў ЗША), зь іх 11 млн. на дапамогу ў сфэры правоў чалавека, 8 млн. на дапамогу ў сфэры аховы здароўя і 4 млн. на падтрымку адукацыі.

На жаль, няшмат робіцца самой Беларусьсю, каб умацаваць кантакты паміж нашымі краінамі. Марудна разьвіваецца швэдзкі турызм. Беларуская віза для швэдаў адна з самых дарагіх у сьвеце. Ня вельмі многа чуваць пра культурніцкія праекты амбасады Беларусі ў Стакгольме. Як за часамі вікінгаў, «мяч» ляжыць на беларускім полі. Засталося яго падняць. Разам мы гэта зробім.

Калі ласка, дасылайце свае думкі пра гэтую кнігу на адрас:
Andrej Kotljarchuk
Södertörns högskola, PB 209
141 89 Huddinge, Швэцыя/Sverige
Ці на e-post: andrej.kotljarchuk@sh.se

[1] Гл.: http://www.sr.se/cgi-bin/International/programsidor/index.asp?ProgramID=2215
[2] Гл.: Andrej Kotljarchuk. In the Shadows of Poland and Russia: the Grand Duchy of Lithuania and Sweden in the European Crisis of the mid-17th Century. Södertörns högskola, 2006; Länder i fickformat. 503, Vitryssland. Stockholm: Utrikespolitiska institutet, 2005; Peter Duffy, Bröderna Bielski: om de okända hjältarna som trotsade nazisterna och räddade 1200 liv. Översättning Erland Törngren. Stockholm, 2004; Tobias Ljungvall, Kontroll: rapport fran Vitryssland. Stockholm, 2003; Kjell Albin Abrahamson, Sverige och Vitryssland. Stockholm: Svenska institutet, 2002; Paulina Kluge, Vägen mot demokrati: Ryssland & Vitryssland. Stockholm, 2002.

# Förord till andra upplagan

Sedan bokens första upplaga har det gått fyra år. Det är för mig mycket tillfredsställande att boken fick ett så bra gensvar från läsarna och att den för andra gången i råd nu trycks i Vitryssland i 2 000 exemplar, en ganska stor upplaga för historisk litteratur. Denna bok är idag den mest lyckade av mina tre monografier. Det har skrivits om den i såväl oberoende som i statliga vitryska massmedia – allt från «Naša Niva» till «Belarus Segodnja». Vetenskapliga recensioner har skrivits i Vitryssland, Polen, Lituaen och i Sverige. År 2003 fick boken det vitryska PEN Bahusevič-pris för bästa historiska bok under 2002. År 2006 belönades boken med Zora Kipiel priset av det Nordamerikanska förbundet för Vitrysslandsstudier.

Under loppet av två år har jag erhållit ungefär 150 brev, elektroniska brev och t.o.m. sms från läsare av boken i Vitryssland, Sverige, Polen, Litauen, Kanada och USA. De som skrivit har varit historiker, universitetslärare, grundskollärare, hembygdsforskare, affärsmän, samlare och fångar dömda till straffarbete. Brevens geografiska ursprung är imponerande, eftersom det visar att boken, trots avsaknaden av statligt stöd, kunnat nå ut till och fa genomslagskraft hos landsmän över hela världen. För mig är detta framför allt ett tecken på att det existerar en stark medborgerlig gemenskap i Vitryssland.

Under en presentation av min monografi på Göteborgs internationella bokmässa kom en svenska fram för att köpa boken. När jag som vanligt förvarnade om att boken var skriven på vitryska och inte på svenska började hon berätta en fantastiskt intressant historia för mig. Det visade sig att hennes man, en ornitolog, av en slump 2003 hade träffat en vitrysk kollega i träskområdet i nationalparken «Prypjat» som på engelska återberättade innehållet i min bok för honom. Under intryck av rikedomen i vår gemensamma historia ringde mannen hem till sin fru och bad henne köpa monografin. Det är glädjande att den önskan som dåvarande generaldirektören för det Svenska institutet – Erland Ringborg – uttryckte i den första upplagans förord om att boken skulle komma att «bygga en bro mellan våra länders gemensamma förflutna och gemensamma framtid» därmed har förverkligats.

Vad har då förändrats i de svensk-vitryska relationerna under de fyra år som har passerat? Jag kan notera att mycket har förändrats till det bättre. Under arbetets gång med den första versionen kände jag inte till en enda svensk som behärskade det vitryska språket. Idag finns det sådana personer. I de svensk-vitryska familjer som bildats under senare år uppfostras barn som ser både det svenska och vitryska språket som sitt modersmål.



I Minsk har en svensk diplomatisk representation öppnats, vilken numera leds av Stefan Eriksson, som talar utmärkt vitryska, översätter vitrysk rockmusik till svenska och bidrar till att organisera ett stort antal kulturevenemang. I juni månad varje år anordnar det svenska ambassadkontoret och Svenska institutet svenska kulturdagar i Minsk, och i Pinsk arrangerar den svenska journalisten Maria Söderberg sedan några år tillbaka en tävling för unga poeter vars förstapris är en resa till Sverige. Till denna tillställning inbjuds såväl kända vitryska som svenska poeter.

År 2002 fanns det nästan inga vitryssar som talade svenska. Idag läser däremot studenter svenska vid det Lingvistiska universitet i Minsk under ledning av lektor Mårten Frankby, och de översätter också svenska författares verk till vitryska. De tjugotalet vitryska studenter och doktorander som för tillfället studerar vid högre läroanstalter i Sverige inom ramen för Svenska institutets program kommer att bli en stor tillgång för Vitryssland.

År 2004 skapades med svenskt statligt stöd en vitrysk redaktion på Sveriges Radios utlandssändningar, där tre journalister av vitrysk härkomst – Dmitri Plax, Julia Kanavalava och Lana Radzivonava – gör ett mycket gott arbete. Redaktionen sänder nyheter från Sverige på vitryska och bevakar de svensk-vitryska relationerna[1] . En händelse som väckte stor uppmärksamhet var den nobelprisnominerade vitryske poeten Ryhor Baradulins besök i Stockholm. Vidare har Stockholms förnämsta konsertsalar fått besök av eminenta vitryska musikgrupper som «Stary Olsa» och «NRM». «Den fria teatern» från Minsk har med framgång genomfört ett gästspel på en av Dramatens scener i Stockholm.

Under de senaste åren har det i Sverige dykt upp en rad böcker relaterade till Vitryssland[2] , vilket vittnar om ett gradvist stigande intresse hos svenskar

---

[1] Гл.: http://www.sr.se/cgi-bin/International/programsidor/index.asp?ProgramID=2215

[2] Гл.: Andrej Kotljarchuk, In the Shadows of Poland and Russia: the Grand Duchy of Lithuania and Sweden in the European Crisis of the mid-17th Century. Södertörns högskola, 2006; Länder i fickformat. 503, Vitryssland. Stockholm: Utrikespolitiska institutet, 2005; Peter Duffy, Bröderna Bielski: om de okända hjältarna som trotsade nazisterna och räddade 1200 liv. Översättning Erland Törngren. Stockholm, 2004; Tobias Ljungvall, Kontroll: rapport från Vitryssland. Stockholm, 2003; Kjell Albin Abrahamson, Sverige och Vitryssland. Stockholm: Svenska institutet, 2002; Paulina Kluge, Vägen mot demokrati: Ryssland & Vitryssland. Stockholm, 2002.

för landet. Det rapporteras numera ganska ofta om nyheter från Vitryssland i svenska tidningar. Till detta bidrar inte minst vitryska idrottsmäns framgangar, t.ex. under friidrotts-EM i Göteborg 2006. I enlighet med nya svenska skrivnormer är det idag möjligt att skriva Vitrysslands namn på två sätt, *Vitryssland* eller *Belarus* (av vilka den senare varianten är mer korrekt ur ett vitryskt perspektiv). Således har Vitryssland, från att en gång ha varit ett okänt land för de flesta svenskar, blivit en verklig granne till Sverige i Östersjöregionen. Jag vill understryka att det i första hand är den självständighet som Vitryssland uppnådde 1991 som gjort ett sådant aktivt samarbete möjligt.

Det här betyder att de gamla klichéer som jag fatt höra under mina vistelser i Vitryssland – om att de europeiska länderna inte skulle intressera sig för oss och att ingen skriver något om Vitryssland – är felaktiga. Sverige gör mycket för att stärka kontakterna med detta unga land i Europa. Bara under 2005 fick Vitryssland ta del av nästan 30 miljoner SEK (mer än 4 miljoner USD) i svenskt stöd inom ramen för det statsfinansierade utvecklingssamarbetet, varav 11 miljoner gick till demokrati och mänskliga rättigheter, 8 miljoner till sociala projekt och 4 miljoner till olika utbildningsprojekt..

Tyvärr så gör inte Vitryssland självt så mycket för att stärka kontakterna med andra länder. Turismen från Sverige utvecklas långsamt. Ett vitryskt visum är för svenskar ett av de dyraste i världen. Man hör inte heller så mycket om kulturprojekten från den vitryska ambassaden i Stockholm. På samma sätt som på vikingatiden ligger bollen nu på den vitryska planhalvan. Det gäller bara att ta tag i den. Tillsammans kan vi göra det.

Skicka gärna era kommentarer och tanker om denna bok till:

Andrej Kotljarchuk
Södertörns högskola, PB 209
141 89 Huddinge, Sverige
eller på e-post: andrej.kotljarchuk@sh.se




# Падзякі

Кіраўніку дыпляматычнага прадстаўніцтва Швэцыі ў Беларусі спадару Стэфану Эрыксану (Stefan Eriksson), які быў ініцыятарам і рухавіком другога выданьня гэтай кнігі.

Журналісту і фатографу, вялікай сяброўцы Беларусі пані Марыі Сёдэрбэрг (Maria Söderberg) за маральную падтрымку.

Доктару паліталёгіі ўнівэрсытэту Сёдэрторн Ёні Родын (Johnny Rodin) за пераклад абстракту кнігі на швэдзкую мову

Супрацоўніцам Швэдзкага Інстытуту (Svenska Institutet) Гелен Сігеланд (Helen Sigeland) і Сусаньне Конча Эмрых (Susanne Concha Emmrich) за хуткае вырашэньне пытаньня фінансавай падтрымкі выданьня.

Чытачам першага выданьня зь Беларусі, Літвы і Швэцыі за якасныя ды цікавыя камэнтары што да тэксту кнігі.

Маім сябрам у Менску Андрэю і Вікторыі Радаманам за падтрымку.

Усім суродзічам і сябрам з Турава за іх любоў да малой Бацькаўшчыны.

Звычайным швэдзкім рабочым і сялянам, якія сваімі падаткамі фактычна ўфундавалі гэта выданьне. Лічу гэта чарговым актам добрай волі швэдаў да беларускага народу.

АЎТАР

СТАКГОЛЬМ, 29 СТУДЗЕНЯ 2007 ГОДУ

# Храналягічная табліца

## Час вікінгаў

| | |
|---|---|
| **Каля 862** | Вараскі конунг Рурык аддае Полацак аднаму з сваіх ярлаў – «мужоў». Першая гістарычная зьвестка пра найстаражытнейшае беларускае места. |
| **Каля 980** | Згодна з «Аповесьцяй мінулых гадоў», у Полацку пачынае княжыць вараг Рагвалод/Рагнвальд, а ў Тураве – заснавальнік места вікінг Тур. Першая зьвестка пра Тураў – другое старадаўнасьцю места Беларусі. |
| **Сярэдзіна IX – пачатак XIII ст.** | Дзейнасьць вікінгаў у Беларусі, узьнікненьне скандынаўскіх калёніяў на землях крывічоў: Полацак, Маскавічы, Пруднікі, Гнёздава/Сьвінецак. |

## Раньні Новы час

| | |
|---|---|
| **1587** | Абраньне Жыгімонта Васы, сына караля Швэцыі Ёхана III, каралём польскім і вялікім князем літоўскім. |
| **1592–1599** | Пэрсанальная унія паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай. Абедзьве дзяржавы й іх народы былі злучаныя пад уладай аднаго караля – Жыгімонта Васы (1566–1632). Фармальна Жыгімонт Васа, застаючыся манархам усіх ліцьвінаў-беларусаў, лічыўся швэдзкім каралём да 1632 г. |
| **1593–1611** | Творчасьць у Вялікім Княстве Літоўскім паэта-лацініста швэда Грэгэра Ларсана. |
| **1600–1629** | Вайна паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Швэцыяй за Лівонію. |
| **27 верасьня 1605** | Перамога беларуска-польска-летувіскага войска над швэдамі пад Кіргольмам (Саласыпілсам). Гетман польны ВКЛ беларускі магнат Ян Кароль Хадкевіч з Быхава атрымаў бліскучую перамогу пад Кіргольмам над швэдзкім войскам, ачоленым каралём Карлам IX Васам. |





| | |
|---|---|
| **1626** | Першая дакладная швэдзкая мапа Беларусі й Летувы работы Андрэаса Бурэ. |
| **19 студзеня 1627** | Балдэнмуйскі сэпаратны мір паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Швэцыяй. Беларуска-летувіская шляхта на чале з канцлерам Лявом Сапегам і гетманам польным кальвіністам Крыштапам II Радзівілам насуперак інтарэсам Польшчы ўклала пагадненьне з каралём швэдзкім Густавам II Адольфам Васам пра спыненьне вайны й свабодны гандаль праз Рыгу. |
| **1629–1710** | Вялікае Княства Літоўскае й Швэцыя маюць супольную дзяржаўную мяжу ў Падзьвіньні. |
| **18 траўня 1642** | Выхад з друку першай швэдзкай дысэртацыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага аўтарства Ёханэса Пэтрэюса (Дорпат – Тарту). |
| **1655–1656** | У часе Малой Паўночнай вайны Швэцыя займае Браслаўскі павет. |
| **Ліпень–верасень 1655** | Кансультацыі гетмана ВКЛ Януша Радзівіла й канюшага Вялікага Княства Літоўскага, князя Слуцкага Багуслава Радзівіла пры пасярэдніцтве беларускіх купцоў Вільні й рыскіх купцоў з каралём швэдзкім Карлам X Густавам і губэрнатарам Лівоніі Магнусам дэ Ля Гарды наконт пераходу Вялікага Княства Літоўскага пад пратэктарат Швэцыі. |
| **17 жніўня, 20 кастрычніка 1655** | Кейданская унія паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Швэцыяй. Згодна зь ёй Вялікае Княства Літоўскае разарвала хаўрус з Польшчай і ўтварыла з Швэдзкім Каралеўствам адзіную фэдэратыўную дзяржаву. |
| **16 траўня 1657** | Швэдзкае войска на чале з Карлам X Густавам займае Берасьце. |
| **1702–1708** | Вялікая Паўночная вайна ў Беларусі. Швэдзкае войска (каля 35 000 жаўнераў) тройчы спыняецца ў Беларусі (1702–1703, 1706, 1708), ведучы баявыя дзеяньні супраць Расеі. |
| **15 лютага 1703** | Швэдзкая перамога каля мястэчка Салаты на Гарадзеншчыне (швэдзкі назоў *Saladen*). Войска генэрала Адама Людвіка Левэнгаўпта разьбіла прарасейскія аддзелы беларуска-летувіскай шляхты на чале з Рыгорам Антоніем Агінскім. |

| | |
|---|---|
| **3 лістапада 1703** | Маніфэст Казімера Сапегі да Карла XII. Пераход вялізнай часткі беларуска-летувіскай шляхты пад швэдзкі пратэктарат. |
| **11 студзеня 1706** | Карл XII бярэ Горадню. |
| **Люты 1706** | Пасьля перамогі швэдаў над каралём польскім Аўгустам II і расейскім войскам каля места Фраўштат (03.02.1706) беларуска-летувіская шляхта й месьцічы прысягаюць у Васілішках (Лідзкі павет) новаму вялікаму князю літоўскаму, хаўрусьніку Швэцыі, Станіславу Ляшчынскаму. |
| **Люты – сакавік 1706** | Галоўны табар швэдзкага войска на чале з Карлам XII спыняецца ў Жалудку. |
| **Сакавік – травень 1706** | Карныя апэрацыі швэдаў на чале з генэралам Карлам Густавам Крэйцам у Заходняй Беларусі. Разбурэньне местаў і маёнткаў, якія належалі Радзівілам. |
| **24 красавіка – 22 траўня 1706** | Галоўны табар швэдзкага войска на чале з Карлам XII спыніўся ў Пінску. |
| **8 лютага – 15 сакавіка 1708** | Галоўны табар швэдзкага войска на чале з Карлам XII спыніўся ў Смургонях. |
| **18 сакавіка – 6 чэрвеня 1708** | Галоўны табар швэдзкага войска на чале з Карлам XII спыніўся ў Радашкавічах. |
| **8 чэрвеня 1708** | Швэдзкае войска на чале з Карлам XII спынілася ў Менску. |
| **3 – 4 ліпеня 1708** | Швэдзкая перамога ў бітве пад Галоўчынам. Карл XII ушчэнт разьбівае расейскі корпус генэрала Анікея Рапніна. Швэды бяз бою займаюць абшары Ўсходняй Беларусі. |
| **7 ліпеня – 5 жніўня 1708** | Галоўны табар швэдзкага войска на чале з Карлам XII спыніўся ў Магілёве. |
| **28 верасьня 1708** | Параза швэдзкага корпусу Адама Людвіка Левэнгаўпта каля вёскі Лясная ад расейскага войска, ачоленага Пятром I. Зыход швэдаў зь Беларусі. |

## Новы час

| | |
|---|---|
| **1846** | Першая манаграфія пра гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў Яўстаха Тышкевіча. |





| | |
|---|---|
| **Красавік 1916** | Падчас канфэрэнцыі ў Стакгольме лідары сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада» Іван Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі ўпершыню агучылі на міжнародным узроўні патрабаваньне аўтаноміі Беларусі. |
| **1921** | Швэдзкія вайсковыя аддзелы бяруць удзел у вырашэньні польска-летувіска-беларускага канфлікту з-за Вільні. |
| **1948 – 1975** | Дзейнасьць у Швэцыі «Беларускай Грамады» пад кіраўніцтвам Васіля Лукашыка. |
| **14 студзеня 1992** | Швэцыя адной зь першых краінаў сьвету прызнае незалежнасьць Беларусі. |
| **1997** | Выданьне першай на швэдзкай мове навуковай манаграфіі Барбары Торкнвіст-Плевы з гісторыі й культуры Беларусі. |
| **1998** | Аднаўленьне дзейнасьці «Беларускай Грамады» ў Швэцыі пад кіраўніцтвам Марыі Сёдэрбэрг. |
| **1999** | Вядомы швэдзкі журналіст Шэль Абрагамсон падрыхтаваў першую папулярную кнігу пра Беларусь і гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў. |

# Сьпіс ілюстрацыяў

1. Мапа «Паходы вікінгаў» ........................................................................... с. 3
2. Скандынаўскія знаходкі на абшарах Беларусі.
Складальніца Ф.Гурэвіч ........................................................................ с. 6
3. Скарб скандынаўскіх ювэлірных вырабаў (6 прадметаў).
ХІ ст. Золата 958$^0$, ліцьцё. Знойдзены ў Полацку на Ніжнім
замку ў 1984 г. ....................................................................................... с. 9
4. Варaскі меч. Х ст. Франкі майстар Ульфбэрт. Жалеза, коўка.
Знойдзены на тэрыторыі Полацку падчас будаўнічых працаў
у 1957 г. ................................................................................................... с. 10
5. Сыгнэт віты з выспы Готлянд. ХІ ст. Золата 900$^0$, скань, D-25,0.
Раскопкі В.Булкіна на Верхнім замку ў Полацку
ў 1978 г. ................................................................................................... с. 11
6. Косьць для гульні з рунічным надпісам «kapi» (карысьць).
Пачатак XIII ст. Полацак ..................................................................... с. 12
7. Скандынаўская срэбная бляшка-падвеска з Полацку .......................... с. 13
8. Рэчы з скандынаўскага селішча Маскавічы ........................................... с. 15
9. Рунічныя надпісы на косьці, знойдзенай у Маскавічах ........................ с. 16
10. Выявы крыжа й вікінга на косьці, знойдзенай у Маскавічах ............. с. 17
11. Скандынаўская падвеска «качка» з Маскавічаў .................................. с. 18
12. Скандынаўскія рэчы, знойдзеныя А.Семянткоўскім пры канцы
XIX ст. на Віцебшчыне: 1 – пацеркі, 2 – чарапахападобная
фібула, 3 – наверша дзіды .................................................................. с. 20
13. Бронзавыя фігуркі вікінгаў: 1 – з кургану ля вёскі Лудчыцы
(Быхаўскі раён), 2 – з кургану ля вёскі Калодзецкая
(Касьцюковіцкі раён) ........................................................................... с. 27
14. Мячы вікінгаў: 1 – Горадня, 2 – Полацак ............................................ с. 28
15. Вараскі меч, знойдзены беларускай археалягічнай экспэдыцыяй
у 2000 г. ля ракі Бярэзіна ..................................................................... с. 29
16. Лянцэтападобныя вараскія дзіды: 1 – Ваўкавыск, 2 – Менск ............ с. 30
17. Скандынаўскія рэчы з археалягічных знаходак Яўстаха
Тышкевіча. Сярэдзіна XIX ст., Менскі край ........................................ с. 31
18. Мастацтва вікінгаў. Срэбная фігурка з швэдзкай выспы
Олянд (Öland) IX–X стст. Нацыянальны гістарычны
музэй Швэцыі (Statens Historiska Museum) ........................................ с. 33
19. Вараскі гельм з знаходак у Слоніме ..................................................... с. 35
20. Скандынаўская срэбная бляшка-падвеска з Ваўкавыску .................. с. 36





21. Велікодныя гліняныя яйкі XII ст., знойдзеныя ў Швэцыі,
паходзяць з абшараў украінска-беларускага Палесься ...................... с. 47
22. Грыўня з выспы Готлянд (ля Бурге) з кірылічным
надпісам «Бынята». Другая палова XII ст. ........................................... с. 48
23. Сьв. Брыгіта. Малюнак XV ст. Музэй места Лінчопінг
(Linköpings museum) .............................................................................. с. 49
24. Беларускі бязьмен з суцэльнага кавалку дрэва .................................. с. 53
25. Швэдзкая дзяржава 1660 г. .................................................................. с. 60
26. Стакгольм часоў магутнай Швэдзкай імпэрыі. Гравюра 1669 г. ....... с. 61
27. Заходняя Беларусь на мапе Олаўса Магнуса 1539 г.
Вэнэцыя. З арыгіналу ўнівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсолы
(Carolina Rediviva) .................................................................................. с. 62
28. Віленскі збор – катэдра беларуска-летувіскіх пратэстантаў.
Малюнак менскага шляхціца Яна Цадроўскага. 1682. Певень
на вежы – сымбаль лютэранскай і кальвініцкай цэркваў ................ с.63
29. Вялікая дзяржаўная пячатка Швэдзкага каралеўства часоў
Жыгімонта III Васы з выявай Пагоні. Дзяржаўны архіў Швэцыі
(Riksarkivet). Фота К.Эрыксана (K.Eriksson) ........................................ с. 66
30. Бітва войска ВКЛ на чале з гетманам Янам Каралём Хадкевічам
і швэдзкага войска на чале з Карлам IX Васам пад Кіргольмам
27 верасьня 1605 г. Малюнак з францускага замку Сасэнаж
(Sassenage) .............................................................................................. с. 69
31. Дзеяньні швэдзкіх аддзелаў падчас акупацыі войскам на чале
зь Ёханам вон Уленброкам (Johan von Ulenbrock)
Браслаўскага павету.Травень 1655 – чэрвень 1656 г. ........................ с. 78
32. Ініцыятар уніі паміж Швэцыяй і ВКЛ Магнус Габрыэль
Дэ ла Гарды. Мастак М. Мэрыян (M. Merian).
Малюнак 1649 г. Замак Скуклостэр (Skoklosters slott) ....................... с. 79
33. Карл X – кароль Швэцыі (1654–1660), вялікі князь літоўскі
(1655–1656). У траўні 1657 г. Карл X на чале швэдзкага войска
прайшоў праз Падляшша й Заходнюю Берасьцейшчыну. Замак
Грыпсгольм (Gripsholm). Мастак Абрагам Вухтэр (Abraham
Wuchter) .................................................................................................. с. 81
34. Шлях швэдзкага войска на чале з Карлам X да Берасьця.
Травень 1657 г. ....................................................................................... с. 83
35. Аблога Берасьця швэдзкім войскам на чале з каралём Карлам X.
Травень 1657 г. Гравюра Эрыка Дальбэрга (Erik Dahlberg)
з кнігі Самуэля Пуфэндорфа (Samuelis de Pufendorf)
«Рэбус Карла X...». 1696 г. .................................................................... с. 87
36. Маніфэст Казімера Сапегі з абвешчаньнем швэдзкага пратэктарату
над усімі беларускімі маёнткамі. Друк. 1703 г. ................................. с. 89

37. Унівэрсал Карла XII беларуска-летувіскай шляхце. Стакгольм.
Друк. 1706 г. ... с. 96
38. Першы паход Карла XII праз Вялікае Княства Літоўскае.
Сакавік – красавік 1702 г. ... с. 97
39. Другі паход Карла XII праз Вялікае Княства Літоўскае.
Студзень – травень 1706 г. ... с. 100
40. Швэдзкі кароль Карл XII. У 1702–1708 гг. ён тройчы прайшоў
па Беларусі. Мастак Я. Вэдэкінд (J. Wedekind). Малюнак
1719 г. Замак Грыпсгольм (Gripsholms slott) ... с. 101
41. Апошні «вялікі» паход Карла XII (студзень – кастрычнік 1708 г.)
і шлях швэдзкага войска на чале з генэралам Адамам Людвікам
Левэнгаўптам (жнівень – кастрычнік 1708 г.) праз Вялікае
Княства Літоўскае ... с. 104
42. Бітва ля Галоўчына. Швэдзкі плян (04.07.1708) ... с. 107
43. Сьцяг Ётляндзкага палка (Götalands regemente) войска Карла XII ... с. 112
44. Бітва ля вёскі Лясная паміж швэдзкім і расейскім войскамі.
Расклад стану на 11-ю гадзіну раніцы 28.09.1708. Швэдзкі плян.
Унівэрсытэцкая бібліятэка Ўпсолы (Carolina Rediviva) ... с. 123
45. Эстонская харугва ў войску Карла XII ... с. 125
46. Выбар швэдзкіх рэкрутаў у войска Карла XII. Мастак
Г.Сэдэрстром (G.Cederström). Малюнак XIX ст. ... с. 127
47. Адзін з малюнкаў Конрада Гётке, мастака швэдзкага
паходжаньня, які ў XVII ст. працаваў у Беларусі ... с. 129
48. Хрост Ягайлам балтаў-паганцаў у 1386–1387 гг. Гравюра Олаўса
Магнуса. 1555 г. ... с. 137
49. Беларусь на швэдзкай мапе Паўночнай Эўропы 1626 г. «Orbis
Arctoi nova et Accurata Delineatio». Аўтар Андрэас Бурэ
(Andreas Bure). Аддзел мапаў унівэрсытэцкае бібліятэкі
Ўпсолы (Carolina Rediviva). ... с.140–141
50. Афіцэры Карла XII. Швэдзкі малюнак.1696 г. ... с. 146
51. Вялікая Паўночная вайна ў Беларусі. Швэдзкі малюнак
часоў вайны ... с. 147
52. Беларускі шляхціц часоў Вялікай Паўночнай вайны. Швэдзкі
малюнак ... с. 149
53. Беларускія скамарохі на гравюры Олаўса Магнуса. 1555 г. ... с. 154
54. Унікальны каталіцкі катэхізыс, друкаваны беларускаю мовай
у Вільні ў 1585 г. З збораў унівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсолы
(Carolina Rediviva). У іншых кнігазборах сьвету
не зафіксаваны. ... с. 158
55. Малюнак з рукапіснай кнігі «Казаньне Сьв. Кірыла...», пісанай
уласнаю рукой Стэфана Зізанія ў 1596 г. «въ Вильно
мая 20...». Унікальны асобнік з унівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсолы
(Carolina Rediviva). ... с. 161
56. Кляштар картэзіянаў у Бярозе-Картускай.
Гравюра Напалеона Орды ... с. 173
57. Рэчы з пахаваньня швэдзкага жаўнера («швэдзкай магілы») часоў
Вялікай Паўночнай вайны. Раскопкі Я. Тышкевіча ля Лагойску.
XIX ст. ... с. 179
58. Карл XII. Мастак Г. Рэўтар (G. Reuter). Малюнак у швэдзкім
народным стылі. 1746 г. ... с. 184
59. Галава Карла XII. Левы бок. Фота 1917 г. ... с. 185
60. Карл XII у саркафагу. Малюнак Г. Гальстром (G. Hallström).
1917 г. ... с. 187
61. Беларуская шабля XVII ст. З збораў зброі замку Скуклостэр
(Skoklosters slott). ... с. 218
62. Стваральнік суполкі «Vitryssland societet» Васіль Лукашык ... с. 222
63. Рунічны камень Рагвалода ... с. 233
64. Ордэн імя Ісуса – вышэйшая ўзнагарода Швэцыі XVII ст.
Уручаны ад імя Карла X гетману ВКЛ Янушу Радзівілу
з нагоды Кейданскай уніі ... с. 260
65. Кацярына Ягелонка (Katarina Jagellonica) 1526–1583.
Дачка вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога
і Боны Сфорцы. Каралева Швэцыі ў 1569–1583 гг. ... с. 260
66. Швэдзкі плян Берасьця 1657 г. Аўтар інжынэр Банелл (Bonell).
Ваенны архіў Швэцыі (Krigsarkivet) ... с. 260
67. Герб вынаходніка банкнотаў і заснавальніка першага
нацыянальнага банку ў сьвеце Ганса Вітмахера
(Бельскага па маці) ... с. 261
68. Зоф'я Менская каралева Даніі (справа) разам з мужам
Вальдэмарам I. Выява на дацкіх манэтах XII ст. ... с. 261
69. Regni Poloniae Historia. Першая швэдзкая навуковая
праца, прысьвечаная гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы.
1642 г. Аўтар – Ёханэс Пэтрэюс ... с. 261
70. Харугва войска ВКЛ. 1702 г. Вайсковы музэй Швэцыі
(Armémuseum) ... с. 261
71. Адна зь першых банкнотаў. 10 талераў. Стакгольм. 1666 г.
Подпіс Ёвана Пальмструха ... с. 262
72. Полацак. Швэдзкі плян. 1702 г. Ваенны архіў Швэцыі
(Krigsarkivet) ... с. 262



Сыпіс ілюстрацыяў

# Час вікінгаў у Беларусі: канец IX – пачатак XIII ст.

## 1.1. Скандынаўская калянізацыя Вялікага Ўсходняга шляху

Гістарычна Швэцыя была павернутая сваім тварам на Ўсход.
ГАРАЛЬД ЕРНЭ (HARALD HJÄRNE, 1848–1922)
КЛЯСЫК ШВЭДЗКАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУКІ

Вікінгі ўва Ўсходняй Эўропе зьяўляюцца ў сярэдзіне VIII ст. і працягваюць сваю дзейнасьць да пачатку XIII ст. На жаль, пры мностве гіпотэзаў дагэтуль бракуе праўдападобных крыніцаў. Але калі савецкая «антынарманская» школа была пабудаваная цалкам на мітах пра «русы люд», «раксаланаў», «рэчку Русь», дык швэдзкія й заходнія гісторыкі заўсёды ішлі ад фактаў, якіх, тым ня менш, не хапае, каб скласьці ясны абраз тагачасных падзеяў. Як і абсалютная бальшыня сучасных гісторыкаў, аўтар падтрымлівае «нарманскую», дакладней, «вараскую» канцэпцыю гісторыі старажытнай Русі[1].

Як вядома, мэтаю данскіх і нарвэскіх вікінгаў быў Захад. Акурат у Заходняй Эўропе былі заснаваныя скандынаўскія дзяржавы ў Ангельшчыне (Ёрвік), Нармандыі, Сыцыліі. У сваю чаргу, швэдзкія вікінгі прасоўваліся на Ўсход у землі тагачасных фінскіх і славянскіх плямёнаў [Arbman 1961:89]. Асноўным цэнтрам гэтага прасоўваньня на ўсход была старашвэдзкая Бірка на высьпе возера Мэларэн (Mälaren). Потым да яе далучыўся горад Вісьбю (Visby) на высьпе Готлянд (Gotland) [Sawyer

[1] Тэрмін «нарманізм» не пасуе да рэаліяў Усходняй Эўропы, бо «norrman» (паўночны чалавек) – пазначэньне вікінгаў на Захадзе Эўропы. У нашых крыніцах яны вядомыя як «варагі», «русь» альбо «сьвеі».

1985:167]. Першай швэдзкай калёніяй была Старая Ладага/Aldejgjuborg, заснаваная ў сярэдзіне VIII ст. на паўночным захадзе сучаснай Расеі. Акурат тут швэдзкія вікінгі-купцы атрымалі ад навакольнага фінскага насельніцтва назоў «Русь» («Routsi»). Этнонім гэты паходзіць альбо ад назвы паморскай швэдзкай правінцыі Русьлаген (Roslagen), альбо ад назвы маракоў-веславаньнікаў «русь-чалавек» (rōps-maen). Пабудаваны этнонім строга паводле законаў фінскіх дыялектаў. Параўнайце наступныя назовы фінскіх плямёнаў: «Чудзь», «Весь», «Водзь», «Сумь», «Лібь». Дагэтуль тэрмін «Русь» («Routsi») выкарыстоўваецца для пазначэньня Швэцыі ў фінскай ды эстонскай мовах.

У заходняй гістарычнай навуцы паходжаньне паняцьця «Русь» лічыцца канчаткова вырашаным, а ўсе спэкуляцыі на гэты конт («русы», «раксаланы» й г.д.) антынавуковымі [Stender-Petersen 1953:242–245]. Яўхім Карскі яшчэ ў 1930 годзе заўважыў, што назва швэдзкіх вікінгаў «роусь» была запазычана ў фінскіх этнасаў наўгародзкімі славенамі й полацкімі крывічамі. У першыя стагодзьдзі існаваньня старажытнага Полацкага й Ноўгарадзка-Кіеўскага княстваў назоў «Русь» ніколі ня зьмешваўся з назовам «Славяне». Напрыклад, выразна адрозьнівае «Русь» ад «Славянаў» збор законаў «Руская праўда» [Karskii 1930:90]. Усе імёны першых князёў і грыдзяў (чаляднікаў) у даўнейшых памятках выключна скандынаўскія.

У IX ст., паступова прасоўваючыся з Ладагі й Ноўгараду на ўсход, швэдзкія вікінгі праклалі міжнародны гандлёвы шлях ад Балтыцкага да Чорнага мора й далей на ўсход. Сымбалем далечыні падарожжаў швэдзкіх ваяроў-купцоў лічыцца фігурка Буды зь Індыі, знойдзеная на высьпе Гельгё (Helgö) возера Мэларэн ля Стакгольму, якая сёньня захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музэі Швэцыі (Statens Historiska Museum).

На рачных prасторах паміж Балтыкай і Чорным морам швэдзкія вікінгі засноўваюць гандлёвую карпарацыю, якая атрымала назву «варагі» (varjager, väringar). Слова гэтае мае скандынаўскі карэнь «var» – клятва. Згодна з «Рускай праўдай», варагі валодалі выключна прывілеяваным становішчам у старажытнарускім грамадзтве [Stender-Petersen 1953:250]. Старажытнарускія летапісы злучалі паняцьце «Русь» і «Варагі» ў адно, маючы на ўвазе, безумоўна, скандынаваў: «Идоша за море къ Варагом к Русі, сіце боса звахуть Варази суть яко се друзии зъвутся







Свеі, друзии же Оурмане, Ангелане, друзии Гете» [PSRL 1997-1:19].

Першая зьвестка пра скандынаўскае гаспадарства на абшарах плямёнаў фінаў і ўсходніх славянаў датуецца 839 годам. Праз Хазарскі каганат і Бізантыю да імпэратара Сьвятой Рымскай імпэрыі Людвіка прыбыло пасольства ад народу «Русь» (Rhōs). Якраз так назваў дэлегацыю ў сваім лісьце імпэратар Бізантыі Тэафіль. Але нямецкае баярства зь зьдзіўленьнем адзначыла, што насамрэч гэтыя Русы па сваёй мове належаць да швэдаў (Suetos) [Stender-Petersen 1953: 247]. Швэдзкай дзяржавай лічылі старажытную Русь таксама арабскія аўтары [Karras 1989: 46].

У X ст., перамогшы Хазарскі каганат (акурат у часе вайны паўстала неабходнасьць пабудовы «гарадоў»-умацаваньняў уздоўж Дняпра), швэдзкія вікінгі апанавалі ўсе рачныя шляхі ад Балтыкі да Чорнага мора. Балтыцкае мора па-швэдзку мае назоў Усходняе мора (Östersjön). Славяне й фіны гэтае мора «ўсходнім» называць не маглі, бо для іх яно было заходнім. Таму назвалі яго «Вараскім» на імя купцоў, якія прыходзілі з Скандынавіі [Labuda 1960:64]. Пра гэта пісаў пры канцы XVII ст. гісторык Хвядос Сафановіч: *«Словяни осели ажь до Двины и там все берега и того край осели на остаток ажь до Ледова и Балтіского моря, которое Варяжским Русь называет»* [Safanovič 1952:96]. У сваю чаргу, Чорнае мора называлі *«морам Русов»* усходнія географы, напрыклад, Аль-Масудзі (сярэдзіна X ст.) [LI 1989: 189], тое самае мы сустракаем у «Аповесьці мінулых гадоў». «Рускім» Чорнае мора называе таксама заходнеэўрапейская «Славянская хроніка» Гельмольда (др. пал. XII ст.) [LI 1989:189].

Зь цягам часу скандынаўская дзяржава «Русь», палітычная ўлада ў якой належала швэдзкім вікінгам, апанавала ўсе рачныя шляхі ад Балтыкі да Чорнага мора. Сыстэма Вялікага Ўсходняга шляху (Storösterled), якую кантралявалі скандынавы, была досыць складанай. Існавала колькі маршрутаў яго праходжаньня. Сярод іх не згаданы канкурэнтнай Полацку кіеўскай хронікай «Аповесьць мінулых гадоў» шлях з Балтыкі наўпрост праз Полацак і Віцебск па Дзьвіне ў Дняпро, які быў карацейшы за Неўска-Ладаскі маршрут. Менавіта полацкі варыянт вялікага ўсходняга шляху ўзгадвае адзіная швэдзкая сага «Гутасага» (Gutasagan). Згодна гэтай гісторыі Готлянду, пісанай у пачатку XIII ст. готляндзкай гаворкай, *«ля 1030 году Ігар Дальняход зь сябрамі праплыў па рацэ Дзьвіна (Dyna) праз Русь (Ryzaland) у Грэцыю»*.





У швэдзкіх крыніцах краіна Русь атрымала ўласны назоў «Гардарыка» (Gårdarike) – краіна ўмацаваных гарадкоў, бо ў мэтрапольнай Швэцыі VIII–X стст. не было жаднай патрэбы будаваць умацаваньні.

Цэнтрамі «Гардарыкі», альбо «Вялікай Швэцыі», сталі Aldejgjuborg /Старая Ладага, Holmgård/Ноўгарад, Palteskia/Полацак, Syrnes/Гнёздава, Könugård/Кіеў (Княскі горад). Мэтаю падарожжа варагаў-купцоў быў Miklagård/Канстантынопаль – найбуйнейшы гандлёвы цэнтар тагачаснага сьвету. Падарожжа ад швэдзкай Біркі праз Балтыку на Русь пры добрым надвор'і займала ўсяго пяць дзён [LI 1989:145]. Багата швэдзкіх вікінгаў служыла ў каралеўскай гвардыі Бізантыйскай імпэрыі, дзе яны былі вядомы як «варангі» (varangus) [Stender-Petersen 1953]. Шмат зь іх складалі гвардыю вугорскага караля X–XI стст., дзе яны былі вядомы як «оруш» (orosz) [LI 1989: 115]. Нарвэскі кароль Гаральд (Harald, 1047–1066) у маладосьці служыў зьбіральнікам палюдзьдзя («бірчым») у кіеўскага князя Яраслава/Jaritsleif Мудрага, жонкаю якога была швэдка Інгегерд/Ірына. Закахаўшыся ў дачку Яраслава Елізавету/Ellisiv, Гаральд прысьвяціў ёй верш на старашвэдзкай мове. Твор гэты захаваўся.

Галоўнаю мэтай усходняга гандлю швэдзкіх вікінгаў былі рабы, якіх абменьвалі на срэбра. Невыпадкова куфіцкія дырхемы знойдзены на ўсходнім узьбярэжжы Швэцыі ды на заходнім, нашым, баку Балтыкі – у Беларусі, Латвіі й на поўначы сучаснай Расеі. Гандлёвае падарожжа ў Бізантыю («Усход», «Грэцыю»), мяркуючы па надпісах рунічных камянёў Уплянду, было звычайнаю справай швэдзкіх вікінгаў. Акурат яны пакінулі падчас свайго побыту рунічныя надпісы на старашвэдзкай мове ў Ноўгарадзе, Полацку, Кіеве, Канстантынопалі (Сафійскі сабор). На абшарах старажытнай Русі знойдзена вялізарная колькасьць скандынаўскіх памятак, большую за якую археолягі знайшлі толькі ў самой Швэцыі ды на фінскім узьбярэжжы. Заўважым, што на абшарах старажытнай Русі дагэтуль ня знойдзена жаднай памяткі альбо комплексу памятак данскага ці нарвэскага паходжаньня. Усе знаходкі атрыбутуюцца дасьледнікамі як акурат швэдзкія [Sverdlov, Shaskolskii 1986:113].

Гандлёвы шлях на ўсход меў выключнае значэньне для старажытнай Швэцыі. На Ўсход везьлі футра, мячы, медзь, сьвінец, коней. На абшарах усходніх славянаў і старажытных фінаў як падатак зьбіраліся каштоўныя шкуры, воск (тагачасны сьвет меў моцную патрэбу ў сьвечках), мёд. Важнае значэньне набыў гандаль рабамі, які красаваў у тагачаснай Швэцыі. Рабы былі ходавым таварам на рынках Усходу. Асноўным пастаў-




*2. Населеныя пункты Беларусі, у якіх былі выяўлены скандынаўскія памяткі. Складальніца Ф.Гурэвіч.*

нікам была Ўсходняя Балтыка. Напрыклад, эстонцам (эстам) паходжаньнем быў захоплены калісьці вікінгамі ў рабства нарвэскі кароль Улаф Трыгвасон (Olof Tryggvason) [Karras 1989: 47].

Скандынаўскія русы кантралявалі з IX ст. Чорнае мора, а таксама зрабілі шэраг паходаў на караблёх на Касьпі. Апошні швэдзкі паход на Ўсход датуецца другой паловай XI ст., калі караблі вікінгаў на чале зь Ігарам Дальняходам (Ingvar Vittfarne), верагодна, трапілі ў Грузію, але ня здолелі вярнуцца дадому. Успаміны пра гэтую выправу адбітыя на 26 рунічных камянёх Уплянду, афармленьне якіх у свой час патрабавала вялікіх сродкаў [Kan 1996:48]. Вядома, што менавіта Ігар Дальняход на чале ўласнай дружыны ля 1030 г. зрабіў рэйд па Дзьвіне [Abrahamson 2002].

Што да полацкіх крывічоў, наўгародзкіх славенаў альбо кіеўскіх палянаў, дык скандынаўскія калёніі здаваліся выспачкамі ў іх моры. Швэдзкія вікінгі забясьпечвалі збыт прадукцыі тутэйшых гаспадарак ды вызначалі памер, характар («палюдзьдзе») і месца («пагост») збору падат-





каў. Бедныя славянскія плямёны (пра гэта сьведчаць пахаваньні) ня мела аніякага сэнсу рабаваць.

Паступова, на працягу стагодзьдзяў, скандынаўская палітычная эліта асыміლявалася ў славянскім асяродзьдзі. Тутэйшыя абшары, населеныя ўсходнімі славянамі, атрымалі назву Русь і вызналі праваслаўе. Вынікам стаўся своеасаблівы скандынаўска-славянскі сымбіёз. Этнолягі даўно заўважылі, што ў адрозьненьне ад звычайных палітонімаў (этнонімаў), палітонім «рускі» адказвае на пытаньне «чый», але не на пытаньне «хто» (паляк, немец і г.д.). Таму ўсходнеславянскія этнасы лічыліся ў сярэднявеччы «рускімі». Акурат таму вызнаюць праваслаўе і лічаць сябе «рускімі» фінамоўныя карэлы й карпацкія русіны, на мову якіх паўплывалі заходнеславянскія гаворкі. Бо ад Карэліі да Карпатаў у паўночным і паўднёвым кірунку сягалі межы старажытнай Русі. Сёньня скандынаўскі карэнь «Русь» захавалі дзьве краіны Ўсходняй Эўропы: Беларусь і Расея.

## 1.2. Скандынаўскія цэнтры на абшарах Беларусі: Полацак, Маскавічы, Пруднікі, Гнёздава/Сьвінецак

Полацак горда стаіць над Дзьвіной.
Яго землямі зноў авалодаў,
вярнуўшыся ў град
пераможны й свой,
княскі род Рагвалодаў.
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

**Полацак.** Цэнтрам першага скандынаўскага княства на абшарах сучаснай Беларусі стаўся Полацак. Зь вікінгамі-русамі наўпрост зьвязана зьяўленьне места Полацкага ў гісторыі. Першае паведамленьне пра Полацак датуецца 862 г., калі вараскі конунг Рурык (Rörik) аддаў умацаванае селішча Полацкае аднаму са сваіх ярлаў: *«Овому Полотеск, овому Ростов, другому Белоозеро»* [Paszkiewicz 1963:151]. Падкрэсьлім, што найбольш ранейшыя «гарадзкія» памяткі Полацку паходзяць з

другой паловы IX ст. Пра існаваньне славянскага «дагарадзкога» селішча сьведчыць толькі ляпны посуд VIII – першай паловы IX ст. [Shtykhau 1993:507].

Наступная зьвестка пра Полацак датуецца 980 г. і зноў зьвязана з княжаньнем у горадзе аднаго з вараскіх конунгаў Рангвальда/Rangvald, які прыйшоў *«изь заморья имаше власть свою в Полотьске»*. Імя Рангвальд было досыць папулярнае сярод швэдзкіх вікінгаў і рыцараў ажно да XV ст. Напрыклад, Рангвальдам звалі ярла скандынаўскай калёніі Aldejgjuborg/Старая Ладага ў пачатку XI ст., які прыбыў на Ўсход са Швэцыі разам з прынцэсай Інгегерд/Ingegerd (†1050), дачкой першага хрысьціянскага караля Швэцыі Улафа Шоткпонунга (Olof Skötkonung, †1020).

Акурат вікінг Рангвальд стварыў першую гістарычную дзяржаву ў Беларусі, заклаў пачатак дынастыі полацкіх князёў. Княства Рангвальда (15 тыс. кв. км) супадае, згодна з археалягічнымі памяткамі, з абшарамі полацкіх крывічоў [Semyanchuk 1996:42]. Крывічы былі асноўным насельніцтвам гэтай дзяржавы, празваўшы свайго конунга-князя славянізаванай мянушкай Рагвалод. Хутка Полацкае княства пашырыла свае межы за кошт земляў ліваў і латгалаў. Апошняе, відаць, і выклікала імкненьне канкурэнта – Ноўгараду – на чале зь вікінгам Уладзімерам/Valdemar распачаць татальную вайну. Рэч у тым, што згаданы кіеўска-наўгародзкімі летапісамі клясычны шлях *«з варагаў у грэкі»* быў нашмат менш эфэктыўны за ягоны полацкі варыянт. Праз Рыскую затоку й Даўгаву-Дзьвіну (старашвэдзкае *Duna*) можна было хутчэй выйсьці ў Дняпро й Чорнае мора. Клясычны «наўгародзкі» шлях: Фінская затока-Нява–Ладаскае возера–Старая Ладага/Aldejgjuborg–Волхаў–Ноўгарад/Holmgård–Ільмень–Дняпро – быў больш складаны, доўгі й нязручны. Канкурэнцыя Полацку зводзіла на тлум міжнародны гандаль швэдзкіх купецкіх карпарацыяў Біркі й Сігтуны. Маем на ўвазе перадусім варагаў (varjager) і калбягаў (kulbingar/kylfingar). Гэтыя вараскія карпарацыі кантралявалі Ноўгарад/ Holmgård і Кіеў/Könugård. Такім чынам, наўгародзка-кіеўская скандынаўска-славянская дзяржава *«вельмі хутка сутыкнулася са спробаю гегеманіі з боку іншай скандынаўска-славянскай дзяржавы, узьніклай, верагодна, адначасова ў басэйне Дзьвіны з цэнтрам у Полацку, якая імкнулася пракласьці новы шлях з Балтыцкага мора ў Дняпро»* [Stender-Petersen 1953:248]. Акурат на грошы варагаў і калбягаў наўгародзкі конунг Уладзімер/Valdemar за тры гады (977–980) назьбіраў вя-







*3. Скарб скандынаўскіх ювэлірных вырабаў (6 прадметаў). XI ст. Золата 958⁰, ліцьцё. Знойдзены ў Полацку на Ніжнім замку ў 1984 г.*

лізарнае войска ў Швэцыі, каб зруйнаваць Полацак і Полацкае княства [Stender-Petersen 1953: 250–251].

Наступная смутная гісторыя – захоп Уладзімерам Полацку, забойства Рангвальда і ўсіх ягоных сыноў, згвалтаваньне Рагнеды/Ragnhild, зруйнаваньне места (якому давялося адбудоўвацца на новым мейсцы) – добра вядомая беларускаму чытачу. Іншая справа, што ключ усіх гэтых падзеяў знаходзіцца ў старажытнай Швэцыі й барацьбе розных купецкіх карпарацыяў (bolag) швэдзкіх вікінгаў за Вялікі Ўсходні шлях (Storösterled). Нагадаем, што барацьба Полацку з Ноўгарадам і Кіевам праходзіць скрозь усю гісторыю старажытнай Русі: *«И оттоле мечь взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуком»*. Дасьледнікі лічаць, што *«Полацкае княства ўяўляла сабою найбольш самастойную палітычную адзінку старажытнай Русі»* [Alekseev 1966:290]. Мэтаю самастойнай палітыкі гэтай скандынаўска-славянскай дзяржавы быў кантроль над гандлёвымі шляхамі з Балтыкі празь Дзьвіну й Дняпро ў Чорнае мора.

Каб забясьпечыць кантроль і абарону, Полацкае княства заснавала ў XI стагодзьдзі шэраг невялікіх гарадзішчаў-умацаваньняў. У заходнім (неславянскім) кірунку імі былі Герцыке (Gersika, Jersika) і Кукенойс (Koknese). Ува ўсходнім кірунку – Усьвяты, Сураж, Друцак, Кавалі, Каспля, Ворша, Магілёў, Быхаў, Рагачоў, Жлобін, Стрэшын, Рэчыца. Скандынаўская назва Русі – Гардарыка (Gårdarike) – азначала якраз сеціва ўмацаваньняў-гарадзішчаў, але не краіну заможных местаў. У самой тагачаснай Швэцыі ўмацаваньні селішчаў адсутнічалі, бо не было сталай пагрозы. Прыгадаем, што ў беларускай мове захавалася слова «гарадок», аль-



*4. Вараскі меч. X ст. Франскі майстар Ульфбэрт. Жалеза, коўка. Знойдзены на тэрыторыі Полацку падчас будаўнічых працаў у 1957 г.*

бо па-старабеларуску «гарадзец» у значэньні *«невялікі ўмацаваны горад»* [HSBM 7-1986:86].

Свайго росквіту Полацкая дзяржава дасягнула ў XI ст. Акурат тады князі дынастыі Рангвальда Брачыслаў/Bertsilejf (1003–1044) і Ўсяслаў Чарадзей (1041–1101) кантралявалі Рыска-Дзьвінскі й Дзьвінска-Дняпроўскі абшар Вялікага Ўсходняга шляху. Невыпадкова, што, паводле матэрыялаў раскопак, з другой паловы XI ст. рэзка ўзрастае колькасьць заходнеэўрапейскіх манэтаў у скарбах, хаваных па Дзьвіне [НВ 2000-1:158]. Сымбалем дзяржаўніцкіх амбіцыяў робіцца збудаваная ў сярэдзіне XI ст. у Полацку катэдра Сьв. Сафіі. Апрача Полацку, такі храм маюць толькі Канстантынопаль, Кіеў і Ноўгарад і пазьней – Стакгольм.

Заняпад Полацкага княства наўпрост зьвязаны са стратай кантролю над воднымі гандлёвымі шляхамі, перадусім над выхадам у Балтыцкае мора. У 1212 годзе Полацкая дружына на чале з князем Уладзімерам (†1216) прайграла вайну з рыскім біскупствам і ордэнам мечаношаў за кантроль над Рыска-Дзьвінскім шляхам. У сваёй *«Славянскай хронікі»* варожы Полацку Арнольд зь Любэку (пачатак XIII ст.) паведамляе: *«Такім чынам расьцьвіў касьцёл Божы ў Ліводзякуючы біскупу Альбэрту – але кароль Русі з Полацку меў звычай зьбіраць даніну зь ліваў, у чым яму адмовіў біскуп. Таму гэты кароль (Уладзімер Полацкі. –* Аўт.*) рабіў жорсткія напады на Лівонію й Рыгу»* [LI 1990:365]. Па вайне палітычнае значэньне Полацку падае. У XIII–XIV стст. Полацак, як Віцебск і Смаленск, працягвае гандлёвыя стасункі з швэдзкім Готляндам (да 1361 г.), але ўжо толькі праз пасярэдніцтва Рыгі. Адначасова зьнікае скандынаўскі матэрыял археалягічных помнікаў, пачынаецца так званы безманэтны пэрыяд у гісторыі Беларусі, западаюць







*5. Сыгнэт віты з выспы Готлянд. XI ст.Золата 900⁰, скань, D-25,0. Раскопкі В.Булкіна на Верхнім замку ў Полацку ў 1978 г.*

скандынаўскія калёніі ў Маскавічах і Прудніках. Новая беларуска-летувіская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае, палітычным цэнтрам якой сьпярша быў Наваградак, пераймае мэты балтыцкай палітыкі Полацкага княства. Кульмінацыяй гэтай палітыкі стаўся 1566 г., калі ВКЛ завалодала Лівоніяй і Рыгай ды зьліквідавала Ордэн мечаношаў.

Палітычная гісторыя Полацку/Palteskia й Полацкага княства IX–XII стст., як убачым далей, была добра вядомая старажытнаскандынаўскім крыніцам. Між тым у наш час галоўныя гістарычныя школы (расейская й швэдзкая), якія дасьледуюць гэтую тэматыку, звычайна зьмяншаюць значэньне Полацку, гаворачы толькі пра два палітычныя цэнтры Старажытнай Русі – Ноўгарад і Кіеў. Як вынік, нават у клясычных заходніх працах [Arbman 1961, Sawyer 1971] Полацак адсутнічае на мапах паходаў швэдзкіх вікінгаў. Толькі год таму зьявілася першая швэдзкая публікацыя, прысьвечаная Полацку часоў вікінгаў [Edberg 2001].

Сталая прысутнасьць швэдзкіх вікінгаў у Полацку/Palteskia добра адсочваецца з тагачасных наратыўных крыніцаў. Яны ж гавораць пра суіснаваньне скандынаўскага й славянскага (крывіцкага) этнасаў. Дзяржаўны й юрыдычны лад Полацкага княства быў пераняты са Скандынавіі. Скандынаўскага паходжаньня была «Руская праўда» – збор законаў, якімі рэгулявалася жыцьцё Полацкай дзяржавы [Shchepkin 1915; Karskii 1930]. Полацкае веча («вота»* – па-старабеларуску) было аналягам скандынаўскага (старашвэдзкага) «т'юну» («ting»). Скандынаўскай была гандлёвая сыстэма вагі й аб'ёму [Chakvin: 338]. Але хрысьціянства ў Полацак прыйшло з Усходу. Народная месцкая культура, відаць, сынтэзавала культурныя ўплывы й этнічныя традыцыі крывічоў, скандынаваў і балтаў. Вынікам было стварэньне ўні-

* Слова *вота* ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» не зафіксавана. – *Рэд.*





*6. Косьць для гульні з рунічным надпісам «kapi» (карысьць). Пачатак XIII ст. Полацак.*

кальнай асобнай школы старажытнага полацкага мастацтва, архітэктуры й літаратуры.

Згодна з археалягічнымі раскопкамі Полацку, якія ўпершыню распачаў у 1928 г. А.Ляўданскі, асноўным насельніцтвам места былі крывічы. Перавага славянскіх памятак у культурных стратах IX–XIII стст. відавочная. Тым ня менш, за савецкім часам замоўчвалася праўда пра існаваньне вялізнай колькасьці тыпова скандынаўскіх памятак. На жаль, дагэтуль навуковая праца ў гэтым пытаньні адсутнічае. Таму трэба спыніцца на маркерах скандынаўскай прысутнасьці ў месьце. Сярод іх вырабы, якія нясуць адбітак паўночнай школы й мiталёгii вікінгаў. Шмат якія памяткі выкарыстоўваліся як тыповы ўбор і зброя тагачаснага вікінга. Вельмі цікава параўнаць неславянскія памяткі Полацку з адначасовымі адзінкамі культурных стратаў швэдзкай Біркі, Упсолы, Сігтуны, Готлянду і адзначыць высокую долю супадзеньняў.







*7. Скандынаўская срэбная бляшка-падвеска з Полацку.*

Сярод вараскіх маркераў, знойдзеных у Полацку, адзначым каралінгскі меч X ст. франскага майстра Ульфбэрта – тыповую зброю швэдзкіх вікінгаў. Меч выяўлены пры будаўнічых работах выпадкова, у 1957 годзе. У Полацку (а таксама ў Друцку) знойдзены бронзавыя наканечнікі похвы мяча з тыпова скандынаўскім арнамэнтам і выяваю птушак [Laskavy 1992: 40–41]. Залаты віты сыгнэт XI ст. з выспы Готлянд адшуканы ў часе раскопак Полацкага Верхняга замку ў 1978 годзе. Тамсама знойдзены грабяні скандынаўскага тыпу X–XIII стст. і футаралы да іх [Shtykhov 1975:мал. 48]. Касьцяная гульнявая біта з рунічным надпісам пачатку XIII ст. адшуканая ў часе экспэдыцыі 1961–1962 гг. у Полацкім Верхнім замку. Рунічны надпіс «kapi», пісаны малодшымі швэдзкімі рунамі, азначае «карысьць». Сёньня гэты ўнікальны помнік захоўваецца ў Музэі старажытнабеларускай культуры ў Менску [Melnikova, Sedova, Shtykhov 1983:187–188]. Яскрава скандынаўская знаходка – ледаходныя шыпы на боты XIII ст. [Shtykhov 1975:мал. 31–23]. Падобная рэч – вельмі рэдкая знаходка на абшарах Усходняй Эўропы й тыповая для Швэцыі [Arbman 1943:86]. Адзначым таксама знаходкі ключоў ад замкоў X–XI стст. [Shtykhov 1975:мал. 31–18], зробленых альбо ў Швэцыі, альбо на швэдзкія ўзоры скандынаўскім рамесьнікам у Полацку. Швэдзкія аналягі гэтых полацкіх ключоў часта знаходзяць у стратах Біркі [Arbman 1943: Abb 327: Grab 950].

Сярод іншых памятак:

– падкowападобная фібула IX ст.; колцападобная фібула з доўгаю іглой XIII ст. [Shtykhov 1975]. Такія фібулы XI ст. знойдзеныя

таксама ў курганным могільніку Ізьбішча (Лагойскі раён);
– касьцяная пласьціна XIII ст. у выглядзе галавы пачвары-цмока [Shtykhov 1975:мал. 59]. «Зьвярыны стыль» – папулярная тэма акурат скандынаўскіх рамесьнікаў [Simpson 1967:89];
– срэбная сэрцападобная бляшка скандынаўскай вытворчасьці X ст. з раскопак А.Ляўданскага 1928 г. Аналягічная па арнамэнце й тыпе знойдзеная ў вараскім магільніку Яраслаўскага Павольжа [Shtykhov 1975:22]. Шмат гэткіх бляшак раскапана ў вараскіх пахаваньнях Фінляндыі.

У Полацку знойдзены 8 скандынаўскіх гірак-разнавагаў X ст. Вагі гірак заснаваны на скандынаўскай сыстэме [Bektineev 1992:5–6].

Зьвяртае на сябе ўвагу вельмі спэцыфічны абутак полацкіх месьцічаў XI–XIII стст., г.зв. цісьненьне скуры *«сетачкай»*. Гэты ўзор прысутнічае таксама на скураных торбачках для нажоў і нажніцаў. Усяго ў Полацку знойдзены 92 падобныя боты. З аднаго боку, абутак мае яскравыя скандынаўскія аналёгіі, сустракаючыся ў археалягічных матэрыялах Стакгольму. Зь іншага боку, гэты тып абутку не тыповы для месцкай культуры Старажытнай Русі [Kurbatov 1999:100–116].

У 1910 годзе ў Полацку знойдзены багаты скандынаўскі скарб (XI ст.), які складаўся зь вялікай колькасьці кавалкаў срэбра, срэбных пласьцінак, кавальскага дроту, фрагмэнтаў упрыгажэньняў. Шмат падобных рэчавых скарбаў знойдзена ў Швэцыі й месьціцца сёньня ў экспазыцыі Дзяржаўнага музэю старажытнасьцяў (Statens Historiska Museum).

Найвялікшы ў Беларусі скарб усходніх дырхемаў выяўлены таксама ў Полацку. У 1973 годзе на ўскрайку места (вёска Казьянкі) адшуканы скарб X ст., які складаўся з 7 660 манэтаў агульнаю вагой каля 20 кг. Частыя знаходкі ў Полацку ювэлірных ды кавальскіх прыладаў [Shtykhov 1975:мал. 31, 32], якія выкарыстоўваліся акурат у майстэрні скандынаўскага рамесьніка. Падобныя памяткі знойдзеныя ў культурных стратах першай старашвэдзкай калёніі на абшарах Усходняй Эўропы – Старой Ладазе [Ryabinin 1980:161–178]. З Полацкага княства паходзяць брактэаты – унікальныя вараскія манэты-мэдалі [Gurevich 1990:119].

Такім чынам, комплекс археалягічных крыніцаў пераканаўча сьведчыць пра сталую прысутнасьць скандынаўскай культуры ў Полацку. У сваю чаргу прыгадаем, што наратыўныя крыніцы адкрыта падкрэсьліваюць вялікую ролю вікінгаў у палітычнай гісторыі Полацкага княства.







*8. Рэчы з скандынаўскага селішча Маскавічы.*

**Маскавічы.** Абарончым фарпостам Полацкага княства на мяжы з балтамі былі Маскавічы. Але галоўнаю мэтай існаваньня гэтага селішча ў сучасным Браслаўскім раёне быў кантроль волакаў на Браслаўскіх азёрах. Сам назоў гарадзішча – Маскавічы – сучасны. Магчыма, старое селішча мела назоў Рубеж, бо так называецца суседняя вёска.

Месьцяцца Маскавічы на грудзе плошчаю 1 га, на адлегласьці 6 км ад Браслава. Забудова селішча тыпова скандынаўская. Плян гарадзішча мае ўласьцівую паўночнай традыцыі форму кола [Duchyts&Melnikova 1980:185–186]. Таксама на карысьць гэтага сьведчыць тое, што згодна зь мілітарнай тактыкай вікінгаў лягер ніколі не будаваўся на беразе ракі, але заўсёды «хаваўся» ў глыбі азёраў. Маскавічы знаходзяцца на ўсходнім беразе возера Дзябро, праз якое толькі мінуючы скла-



*9. Рунічныя надпісы на косьці, знойдзенай у Маскавічах.*

даную сыстэму Браслаўскіх азёраў можна выйсьці да рэчкі Друйка, а потым да Дзьвіны. Росквіт Маскавічаў прыпадае на XII – пачатак XIII ст. і супадае з часам магутнасьці полацка-скандынаўскай каралеўскай дынастыі Рагвалодавічаў.

З 1976 г. у Маскавічах працуе сталая беларуская экспэдыцыя археолягаў. Сёньня багаты збор рэчаў з Маскавічаў захоўваецца ў Менскім музэі старажытнабеларускай культуры. Як і Гнёздава/Сьвінецак, Маскавічы былі вайскова-рамесьніцка-гандлёвай скандынаўскай калёніяй Вялікага Ўсходняга шляху. Пра гэта сьведчыць археалягічны матэрыял, абсалютная бальшыня якога мае выразнае скандынаўскае паходжаньне. Гэта вараская зброя, лянцэтападобныя дзіды й стрэлы, а таксама рэчы з конскай вупражы. На вялікай колькасьці выкананых на косьці малюнкаў, якія мелі магічнае значэньне, – выявы збройных вікінгаў.

Гандлёва-рамесьніцкая дзейнасьць насельніцтва Маскавічаў цьвердзіцца знаходкамі жалезных і бронзавых прыладаў, формачкі для ліцьця, вялікай колькасьці касьцяных вырабаў. Купецкі карабель – частая выява малюнкаў з Маскавічаў. Асабліваe значэньне ў гаспадарцы жыхароў мела рыбалка [Duchyts&Melnikova 1980:190–192].

Відавочна скандынаўскімі маркерамі адзначаюцца каштоўнасьці, аналягі якіх знойдзеныя як у цэнтрах вараскай актыўнасьці старажытнай Беларусі (Полацак, Пруднікі, Гнёздава/Сьвінецак), гэтак і ў мэтраполіі – Швэцыі (Бірка, Готлянд). Удакладнім паняцьце «скандынаўскія рэчы».







*10. Выявы крыжа й вікінга на косьці, знойдзенай у Маскавічах.*

Гэта рэчы, зробленыя скандынавамі-вікінгамі ў Беларусі, скандынаўскі экспарт альбо падробкі паўночных рэчаў мясцовымі, славянскімі рамесьнікамі (апошняе давесьці немагчыма). Сярод скандынаўскіх рэчаў – шпілька-амулет з косткі з зааморфнаю галоўкай (X–XI стст.). На думку Т. Пушкінай, вырабы такога кшталту належалі рамесьніку-скандынаву [Pushkina 1979].

Да згаданых рэчаў належыць даволі рэдкая знаходка ўва Ўсходняй Эўропе – скандынаўская раўнаплечная фібула [Gurevich 1990:114]. Аналягічныя фібулы – даволі частая знаходка ў швэдзкай Бірцы [Arbman 1943:23, Ab 253:4, 307]. Таксама ў Маскавічах знойдзена іншая выразна скандынаўская рэч – чарапахападобная фібула-брошка XII ст., зробленая на высокім мастацкім узроўні. Сярод іншых вараскіх рэчаў, простыя аналягі да якіх знойдзеныя ўва адначасовых культурных стратах Біркі й Готлянду, адзначым сыгнэты [Arbman 1943: Abb 275], срэбную бляшку з паганскім арнамэнтам [Arbmann 1943: Abb 63], жалезныя шыйныя грыўні [Arbman 1943: Abb 14], палі для гульні ў шашкі. Знаходкі жаночых скандынаўскіх рэчаў – сьведчаньне таго, што швэдзкія вікінгі жылі ў Маскавічах сем'ямі. Невялікая колькасьць рэчаў крывіцкай культуры (завушніцы й г.д.) дазваляе меркаваць, што побач з скандынавамі жыхарыў і грудок славянаў.

Але ўнікальнасьць Маскавічаў у іншым. Падчас археалягічных раскопак на гарадзішчы знойдзена каля 100 (!) рунічных надпісаў на косьці. Гэта найбуйнейшая знаходка рунічнага пісьма па-за межамі Скандынавіі. Усяго на 86 касьцёх нанесена каля 265 рунічных знакаў малодшага (старашвэдзкага) альфабэту. Сярод надпісаў розныя паганскія магічныя замовы, вараскія імёны. Дзіўна, але сэнсацыйная знаходка вялікага значэньня, якую зрабіла 20 гадоў таму беларускі археоляг Людміла Дучыц, дагэтуль амаль невядомая ў Швэцыі. Між тым матэрыялы археалягічных дасьледаваньняў патрабуюць сур'ёзнага ўсебаковага вы-



*11. Скандынаўская падвеска «качка» з Маскавічаў.*

вучэньня, якое магчыма зрабіць толькі ў межах сумеснага беларуска-швэдзкага праекту. Знаходкі рунічных надпісаў даюць падставы гаварыць пра міжэтнічнае культурнае ўзаемадзеяньне паміж швэдамі й крывічамі. Сярод каля 300 знакаў, якімі карысталася насельніцтва Маскавічаў, ёсьць 11 літараў кірылічнага альфабэту [Duchyts&Melnikova 1980:205].

Даць веры, што крывічы маглі ведаць таемную рунічную пісьменнасьць, немагчыма. Таму кірыліцаю карысталіся акурат скандынавы – насельнікі Маскавічаў, якія згодна з полацкай традыцыяй былі фармальна хрысьціянамі ўсходняга абраду. Фармальна, бо на прыкладзе Маскавічаў мы бачым фэномэн «двувер'я». Сярод вялікай колькасьці паганскіх замоваў, малюнкаў сустракаюцца малюнкі крыжа, мэталёвыя нацельныя крыжыкі. Дарэчы, простая раўнаплечная форма крыжоў з Маскавічаў нагадвае крыжы рунічных каменьняў Уплянду.

Такім чынам, Маскавічы – добры прыклад узаемных культурных уплываў паміж старашвэдзкім (скандынаўскім) і крывіцкім (славянскім) насельніцтвам Полацкага княства другой паловы IX – пачатку XIII ст. Пэўная адрознасьць рунаў з Маскавічаў ад клясычных швэдзкіх рунаў таго часу дазваляе меркаваць, што мы маем справу з скандынавамі, якія нарадзіліся ўжо на Полацкай зямлі. На маю думку, няма аніякіх падставаў сьцьвярджаць, што руны існавалі ў асяродзьдзі «славянізаваных нашчадкаў выхадцаў з Скандынавіі» [Duchyts&Melnikova 1980:215].

Заняпад Маскавічаў у першай палове – сярэдзіне XIII ст. супадае зь дзьвюма эпахальнымі падзеямі ў гісторыі Полацкага княства й Швэцыі. Па-першае, гэта параза Полацкага княства (эліту якога ў значнай ступені складалі варагі) у барацьбе зь нямецкай Рыгай за кантроль Дзьвінска-Балтыцкага шляху. Па-другое, гэта спыненьне брутальнай вайны паміж Сьвеаляндам/Svealand і Готляндам за панаваньне ў Швэцыі.

У 1212 годзе згодна з «Славянскай хронікай» Арнольда зь Любэку *«кароль Русі з Полацку Ўладзімер»* страціў кантроль над Лівоніяй і Латгаліяй на карысьць Рыгі [LI 1989:363– 365]. З старашвэдзкай «Кронікі Эрыка» ведама, што ў сярэдзіне XIII ст. скончылася грамадзянская вайна ў Швэцыі, калі Ярл Біргер злучыў усе землі і заклаў новую супольную





дынастыю Фалькунгаў/Falkkungaätten [Svanidze 1999:143–172]. Цалкам верагодна, што каля 1250 году ўва ўмовах заняпаду міжнароднага гандлю Полацку на Дзьвіне й стабільнасьці ў Швэцыі скандынавы Маскавічаў перабраліся на гістарычную радзіму. Пагатоў шлях з Полацку да Швэцыі на ладзьдзях вікінгаў трываў усяго 5 дзён [LI 1989:145]. Да таго ж у 1361 годзе данскі кароль Вальдэмар/Valdemar зруйнаваў Вісьбю/Visby на Готляндзе – галоўнага канкурэнта Ганзы на чале зь Любэкам на Балтыцы. Гандаль паміж Готляндам і Полацкам ды Смаленскам цалкам заняпаў. Гоцкія купецкія двары ў Полацку й Смаленску перайшлі да немцаў [Jansson 1996:100–101].

**Пруднікі.** Другім пасьля Маскавічаў скандынаўскім цэнтрам басэйну ракі Дзьвіна была сяліба з сучасным назовам Пруднікі (Мёрскі раён на Віцебшчыне). Знаходзяцца Пруднікі на рацэ Вята ў адлегласьці 1,5 км ад сутокаў гэтай ракі зь Дзьвіной. Археалягічны комплекс складаецца з гарадзішча «Замак» і селішча «Пруднікі» далавах гары.

Раскопкі распачаліся ў 1984 годзе. На сёньня пошук працягваецца. Знойдзена шмат прадметаў, аналягічных цэнтрам скандынаўскай прысутнасьці ў Беларусі (Полацак, Гнёздава/Сьвінецак, Маскавічы), Расеі (Старая Ладага, Прыладажжа, Ноўгарад, Яраслаўскае Паволжа), Украіне (Кіеў, Шаставіцы). Найбліжэйшыя аналёгіі рэчам з Пруднікаў дае матэрыял у швэдзкай Бірцы [Arbman 1943]. Да прыкладу, тыпова скандынаўскі вусаты рубчатаканечны сыгнэт з Пруднікаў мае просты аналяг у Бірцы [Arbman: Abb 275, Grab: 854 №1, 2d]. Разам з сыгнэтам у Прудніках знойдзена формачка для ліцьця сыгнэтаў, якая датуецца другой паловай X – XI ст. [Shadyro 1986:255–262]. Важна, што скандынаўскія рэчы ў Прудніках адшуканыя ў культурных стратах X – пачатку XII ст. Апошняя дата адпавядае часу прыходу швэдзкіх вікінгаў у Беларусь.

Сярод іншых скандынаўскіх рэчаў – мэталёвая скрынька для каганца, бронзавы пярсьцёнак, гірка-разнавага скандынаўскага тыпу (другая палова X – пачатак XI ст.). Знойдзена шмат артэфактаў, якія належаць рэчам міжнароднага гандлю вікінгаў, перадусім гэта пацеркі з шкла бізантыйскай і ўсходняй вытворчасьці [Milutin, Shadyro 1994:256–259].

Тыповая для скандынаўскіх сялібаў знаходка – усходнія грошы. На сёньня ў Прудніках выяўлены 6 куфіцкіх дырхемаў (IX – пачатак XI ст.), а таксама ўнікальны рымскі дынары, які быў у паўторным абарачэньні, тыповым для Скандынавіі (выспа Готлянд). Наагул, дырхемы – важны




*12. Скандынаўскія рэчы, знойдзеныя А.Семянткоўскім пры канцы XIX ст. на Віцебшчыне: 1 – пацеркі, 2 – чарапахападобная фібула, 3 – наверша дзіды.*

пakaзьнік актыўнасьці вікінгаў на Вялікім Усходнім шляху.

Параўноўваючы Беларускае й Латыскае Падзьвіньне, варта падкрэсьліць, што пераважная бальшыня вялікіх скарбаў дырхемаў знойдзеная акурат на абшарах Беларусі. Суадносіны знаходак гэткага кшталту 30:5.

Як іншыя швэдзка-скандынаўсія сялібы Ўсходняй Прыбалтыкі, Пруднікі заняпалі ў пачатку XIII ст. Прычына, верагодна, тая самая – перамога Ганзы зь нямецкай Рыгі ды эканамічны й палітычны заняпад Полацкай дзяржавы. Археалягічны матэрыял не дае падставаў сьцьвярджаць, што ў Прудніках вікінгі жылі сем’ямі. Відаць, гэта быў апорны цэнтар скандынаўскага міжнароднага гандлю на валоках Вялікага Ўсходняга шляху.

**Гнёздава/Сьвінецак.** Калі ў Падзьвіньні цэнтрам дзейнасьці швэдзкіх вікінгаў быў Полацак, дык на зямлі смаленскіх крывічоў ім сталася Гнёздава.

Скандынаўскі кампанэнт у археалягічных стратах Гнёздава прасочваецца з IX ст. побач з славянскім [Lebedev 1996:20]. Такім чынам, пачатковая археалягічная дата супадае зь зьвесткамі наратыўных крыніцаў, што апісваюць зьяўленьне варагаў на Русі.

Варта падкрэсьліць, што паняцьце «Гнёздава» ёсьць сучаснай мадэрнізацыяй, выбранай археолягамі ў пачатку XX ст. паводле назову





найбуйнейшага побач з курганамі паселішча. Мястэчка Гнёздава Смаленскага ваяводзтва Вялікага Княства Літоўскага ўпершыню згадваецца ля 1646 г. у грамаце Ўладзіслава IV Васы [Murzakevich 1804:38–47]. У стараскандынаўскіх крыніцах Гнёздава вядома як Syrnes [Dzakson 1986:73–83]. Апошняе дае падставы для рэканструкцыі праўдзівага славянскага назову скандынаўскай сялібы.

Навуцы вядома, што назовы крывіцкіх местаў часьцей за ўсё паходзяць ад імя тутэйшай ракі. Акурат так узьніклі: Вільня ад Вяльлі, Віцебск – Віцьбы, Полацак – Палаты, Слуцак – Случы, Смаленск – Смольні. Таму першапачатковае крывіцкае селішча на рацэ Сьвінец, што цячэ каля Гнёздава, дало ў старабеларускай мове форму Сьвінецак. У сваю чаргу гэты назоў у старашвэдзкай мове даў адпаведнік Syrnes – Сьвіны мыс, бо селішча Гнёздава сапраўды месьціцца на беразе (мысе) ракі Сьвінец (Dzakson 1986:73–83).

Гнёздаўскі нэкропаль – найбуйнейшая ў Эўропе група з 3 826 скандынаўскіх курганоў, якая знаходзіцца на этнічных абшарах беларусаў (сёньня ў Расеі) і складаецца з шэрагу археалягічных помнікаў: Заазер’е, Навасёлкі, Кушляншчына, Беразьнікі, Каўшарава.

На сёньня з усіх 3 826 курганоў раскапана каля 500. Падчас Другой сусьветнай вайны праз гнёздаўскі нэкропаль прайшла лінія фронту, таму частка курганоў была зьніштожана. Альшанскую групу курганоў разбурыла ў 70-я гг. XX ст. савецкая ўлада, праклаўшы празь яе аўтатрасу.

Да 20-х гг. XX ст. лічылася, што Гнёздава – гэта толькі нэкропаль, які ня мае селішча. Беларускія экспэдыцыі 1924–1936 гг. пад кіраўніцтвам А.Ляўданскага давялі, што селішча існуе. Памерамі 16 га, яно месьціцца на левым і правым берагах ракі Сьвінец [Pushkina 1974:87]. Аэраздымкі селішча, якія зрабіў К.Шышкін, пацьвердзілі, што плян Гнёздава меў тыповую для калёніяў вікінгаў забудову ў форме кола [Avdusin&Pushkina 1989:80].

Нават першыя археалягічныя раскопкі канца XIX – пачатку XX ст. пераканалі навукоўцаў, што на месцы Гнёздава існавала найбуйнейшая скандынаўская калёнія ўва Ўсходняй Эўропе [Spitcyn 1905:7]. Але за савецкіх часоў з-за ціску афіцыйнай «антынарманскай» ідэалёгіі гісторыкі мусілі заплюшчыць вочы на факты ды цьвердзіць, што Гнёздава было галоўным чынам «славянскай сялібай», у якой купка скандынаваў хутка асымілявалася [Avdusin 1967]. Навукоўцы «амаладзілі» ўсе скандынаўскія памяткі з Гнёздава на 50–100 гадоў, каб, крый Божа, ня

трапіць у IX ст. – час пранікненьня варагаў на славянскія землі.

Між тым акурат з IX ст. прасочваецца наяўнасьць скандынаўскіх памятак у Гнёздаве. Агромністая колькасьць знаходак паходзіць зь сярэдзіны – другой паловы X ст. Гэта час росквіту Сьвінецку, які цалкам супадае з часамі росквіту швэдзкай Біркі й Готлянду ды таксама са зьвесткамі пра вялікую актыўнасьць вікінгаў на абшарах усходніх славянаў. Унікальнасьцю Гнёздава ёсьць адсутнасьць корпусу наратыўных тэкстаў пра селішча. Таму ўсе пабудовы грунтуюцца выключна на падставе археалягічных памятак. На маю думку, этнічная ідэнтыфікацыя ў гэтым выпадку магчымая. Нягледзячы на існаваньне шэрагу рэчаў міжнароднага гандлю (бізантыйскія пацеркі, частка зброі, грошы), якія належалі розным этнасам, існавалі ды існуюць да сёньня так званыя этнічныя маркеры. Гаворка йдзе пра элементы матэрыяльнай культуры, якія заўсёды адпавядаюць этнічным межам. Вядома, што культурная разнастайнасьць здольная захоўвацца нават ва ўмовах міжэтнічных кантактаў [Jones 1997].

Вызначыць скандынаўскія памяткі ў пахаваньнях сёньня не складана. Да іх адносяцца каралінгскія мячы, шчыты з мэталёвым умбонам, леваручныя кінжалы-скарамаксы, лянцэтападобныя дзіды й стрэлы, баявыя сякіры, амулеты зь сякіркамі Тура, рунічныя надпісы на косьці. Але нашы апанэнты лічаць, што ўсе гэтыя рэчы неабавязкова належалі скандынавам. Маўляў, варагі былі сацыяльнай групай вяскоўцаў і гандляроў, а гэта розныя этнасы, у тым ліку славяне [Bulkin 1975:144]. У такім выпадку на дапамогу прыходзіць этналёгія. Існуе шэраг прадметаў, носьбітам якіх мог быць толькі скандынаў/ка. Па-першае, гэта жаночыя чарапахападобныя брошкі-фібулы, да якіх пасуе толькі скандынаўскі (неславянскі!) убор. Парныя фібулы трымалі шлейкі на тыпова старашвэдзкім жаночым уборы, таму не маглі стаць прадметам міжнароднага гандлю на славянскіх абшарах [Jansson 1987:777–778]. Да таго ж арнамэнт гнёздаўскіх фібулаў адлюстроўвае матывы скандынаўскай паганскай міталёгіі. Як вядома, крывічы мелі ўласных паганскіх бажкоў. Касьцяныя вырабы Гнёздава з магічным арнамэнтам выкананы цалкам у скандынаўскай традыцыі й маюць простыя аналёгіі ў Швэцыі [Arbman 1943:155-1, 155-2]. Яны мусяць быць толькі вытворчасьцю гнёздаўскіх рамесьнікаў-скандынаваў [Pushkina 1979:172–173]. У Гнёздаве знойдзена спэцыфічна скандынаўская зашчапка птушкападобнай формы, да якой пасуе толькі скандынаўскі абутак [Avdusin 1974:77]. Сярод пабытовых рэчаў увагу маюць касьцяныя грабяні ды скандынаўскія торбачкі





да іх з бронзавымі заклёпкамі й арнамэнтам.

Важны маркер – знойдзеныя ў Гнёздаве (як і ў Полацку) ледаходныя шыпы-«шпорцы». Гэтая дапаможная прылада да прагулянкі па лёдзе ўласьцівая выключна скандынаўскай традыцыі. У культурных стратах Упсолы «шпорцы» – частая знаходка, пачынаючы з VII ст.

Як слушна заўважыла Т.Пушкіна, калі мы будзем лічыць фібулы, мэталёвыя грыўні зь сякіркамі Тура ды іншыя рэчы звычайным імпартам, тады трэба прызнаць: тутэйшае славянскае насельніцтва карысталася рэчамі, што належалі іншай этнічнай традыцыі. Але для таго часу радыкальная зьмена этнічнага ўбору была немагчымая [Pushkina 1972:94].

Сярод вялікіх «каралеўскіх» курганоў Гнёздава на тле агромністай колькасьці вараскай зброі й рэчаў археолягі адшукалі сьляды тыпова скандынаўскіх абрадаў. Маем на ўвазе пахавальную цырымонію спаленьня вікінга ў ладзьдзі разам з жонкамі, канём і г.д. Довадам гэтага абраду ёсьць мноства мэталёвых карабельных заклёпак. У кургане №74 знойдзены чэрап і косьці казла ў ахвярным катле. На катле знайшлі скандынаўскі скармакс, ручку якога ўпрыгожвала срэбная маска бога Тура (Tor, швэдзкая літара «о» чытаецца як «у». – Аўт.). Перад намі паўстае досыць папулярны ў стараскандынаўскай міталёгіі рытуал «уваскрашэньня» ахвярных казлоў Тура [Bulkin 1975:134–145].

З усіх скандынаўскіх паганскіх амулетаў, знойдзеных на абшарах Усходняй Эўропы, 30% паходзяць акурат з Гнёздава [Novikov 1991:175–200]. Усе яны маюць простыя аналёгіі з старашвэдзкай традыцыяй і не сустракаюцца ў тыпова славянскіх пахаваньнях крывічоў. Сярод амулетаў мужчынскія жалезныя грыўні зь сякіркамі Тура ды жаночыя шчытападобныя й крэслападобныя пацеркі й мініятурныя ланцужкі. Гэтыя рэчы не былі прадметам міжнароднага гандлю й апынуліся ў Гнёздаве толькі разам з носьбітамі-скандынавамі альбо зробленыя імі на месцы. Распаўсюджанасьць жаночых амулетаў сьведчыць, што вікінгі жылі ў Гнёздаве разам з жонкамі й дзеткамі, таму вайсковае селішча мела й гандлёва-рамесьніцкую накіраванасьць. Сучасныя дасьледнікі рашуча адхіляюць тэзу пра тое, што гэтыя амулеты маглі належаць славянскім накладніцам вікінгаў [Novikov 1991:197].

З 371 лянцэтападобнай скандынаўскай стралы 152, ці 40%, знойдзены ў Гнёздаве [Kainov 1999:49]. Вялікая канцэнтрацыя гэтых стрэлаў суправаджаецца ў Гнёздаве зброяй скандынаўскага кшталту, рунічнымі надпісамі й г.д. Апошняе сьведчыць пра *«беспасярэдні й актыўны*

*ўдзел вікінгаў у жыцьці Гнёздава»* [Kainov 1999:62].

Наступнае важнае пытаньне – ці жылі ў Гнёздаве побач з скандынавамі крывічы, ці адбываліся ў гэтым выпадку нейкія асыміляцыйныя працэсы?

Археалягічны матэрыял з Гнёздава дае падставы казаць пра невялічкую прысутнасьць тут крывічоў [Pushkina 1974:89]. Ёсьць адзінкі рэчаў, якія магчыма інтэрпрэтаваць як балцкія памяткі [Shmidt 1970], дарма што згодна зь іншай тэзай крывічы наагул ёсьць зьбеларушчанымі балтамі [Pritsak 1981:26–27].

Савецкія археолягі цьвердзілі, што асыміляцыя скандынаваў Гнёздава была імклівай. Як довад прыводзілі той факт, што да сярэдзіны X ст. у Гнёздаве зьнікае абрад спаленьня ў ладзьдзі, а ў пач. XI ст. – скандынаўскія амулеты. Шмат гаварылася пра зьяўленьне рэчаў-гібрыдаў. Лічылася, што так званае «размываньне» скандынаўскіх абрадаў і рэчаў у Гнёздаве ёсьць яскравым доказам *«паступовай і няўхільнай асыміляцыі чужынцаў з Скандынавіі ды іх культуры»* [Bulkin 1975: 145].

Але, як слушна адзначыў Ю.Жарноў, усе гэтыя факты сьведчаць не пра вынікі асыміляцыі, але пра хрысьціянізацыю вараскай эліты, якая адбывалася ў другой палове X – пачатку XI ст. [Zharnov 1991:220]. Заўважым – апошнія часавыя межы цалкам суадносяцца з наратыўнымі крыніцамі пра час хросту Русі. Археалёгіі вядома, што акурат у скандынаўскіх, а не славянскіх пахаваньнях Старой Русі сустракаюцца першыя памяткі хрысьціянскага культу (крыжыкі, сьвечкі) [Zharnov 1991:220].

Што да памятак-гібрыдаў, іх колькасьць надта малая, хутчэй, іх можна лічыць выпадковасьцю. Пад гібрыдамі археолягі маюць на ўвазе скандынаўскія вырабы, выкананыя з парушэньнем традыцыі, як, напрыклад, меч з кургана Ц-2, ручка якога ўпрыгожана арнамэнтам, уласьцівым для жаночай брошкі-фібулы. З тэзаю пра славянскае паходжаньне гібрыдаў Гнёздава не пагаджаюцца сучасныя швэдзкія дасьледнікі, якія лічаць гэтыя рэчы вытворчасьцю другой генэрацыі швэдзкіх рамесьнікаў, якія згубілі сталую сувязь з Радзімай, бо нарадзілася ўжо ў Гнёздаве [Jansson 1987:780].

Як падкрэсьлівае У.Сядоў, пры канцы X ст. на адлегласьці ў 12 км ад Гнёздава засноўваецца іншае селішча – Смаленск/Milinskia. У адрозьненьне ад Гнёздава асноўнае жыхарства Смаленску складалі крывічы.





Нейкіх сьлядоў міграцыі па лініі Смаленск–Гнёздава археолягі не знайшлі. У XI – пачатку XIII ст. два протагарадзкія цэнтры (славянскі й скандынаўскі) суіснуюць побач [Sedov 1999:206–210].

Такім чынам, на працягу ўсяго ўласнага існаваньня Сьвінецак быў досыць замкнёным паселішчам. Вайсковы характар Гнёздава відавочны. Колькасьць зброі проста ўражвае. *«Мячы, дзіды, стрэлы знойдзеныя амаль што ў кожным пахаваньні»* [Arcichovskii 1938:60]. Як і ў полацкіх Маскавічах, наўгародзкіх Курэванiхах, кіеўскіх Шаставіцах нейкіх асыміляцыйных працэсаў у скандынаўскім асяродзьдзі Гнёздава не заўважана. Да прыкладу, у Курэваніхах, знаходзячыся цэлыя два з паловай стагодзьдзі (!) у славянскім асяродзьдзі, скандынавы здолелі захаваць уласны антрапалягічны тып [Sankina 2000].

На карысьць тэзы пра сталы скандынаўскі характар Гнёздава сьведчыць наступнае:

– Гнёздава захавала замкнёны характар вайскова-гандлёва-рамесьніцкай калёніі вікінгаў;

– пэрманэнтная сувязь Сьвінецку з мэтрапольнай Швэцыяй цьвердзіцца трывалым прытокам у Гнёздава швэдзкіх вырабаў;

– навідавоку сынхроннасьць тыпаў амулетаў, прыладаў і зброі Гнёздава з уласна швэдзкімі аналягамі Біркі й Готлянду.

Усё гэта дае падставы сьцьвярджаць, што тэза пра асыміляцыю скандынаваў Гнёздава – чарговы міт савецкай ідэалёгіі, рэпрэзэнтаванай антынавуковай школай «антынарманістыкі».

Іншае пытаньне ўяўляюць сабой міжэтнічныя дачыненьні. Яны, пэўна, былі. Згодна зь сьведчаньнем імпэратара Бізантыі Канстанціна Парфірароднага (905–959), тыя вікінгі, якія прыходзілі да Царграду з-пад Смаленску, карысталіся дапамогай *«іхных падатчыкаў – славянаў з плямёнаў Крывітэйны й Ленцаніні (ліцьвіны!?). Гэтыя славяне рабілі для вікінгаў узімку ладзьдзі ды дапамагалі сплаўляць іх падчас вялікай вады»* [Shahmatov&Krimskii 1924:135].

Важным сьведчаньнем міжэтнічных дачыненьняў ёсьць таксама найстаражытнейшы беларускі надпіс з гнёздаўскага кургану №13 першай чвэрці X ст. У гэтым тыпова скандынаўскім пахаваньні вікінга й дзьвюх жонак знойдзены ахвярны посуд, на якім кірыліцай напісана *«гороухша»*.

Расейскія дасьледнікі не далі колькі-небудзь імавернага тлумачэньня гэткаму слову, апроч – «горчица» (?!) [Avdusin&Tikhomirov 1950:74]. Між тым, надпіс прачытваецца зыходзячы зь беларускай мовы. На маю

думку, «гороухша» – старабеларускае «гору вша» альбо па-сучасна-му «ўгору ўзышла». Маецца на ўвазе душа чалавека, якая пайшла да Багоў на нябёсы. Улічваючы рытуальны характар збана, гэта цалкам верагодна. Менш вядома, што побач з кірылічным надпісам на той самай крыніцы захавалася скандынаўская руна *«N»*, якую можна тлумачыць як сымбаль-пажаданьне багацьця й заможнасьці.

Такім чынам, матэрыялы Гнёздава/Сьвінецку сьведчаць пра вялікую ролю швэдзкіх вікінгаў у жыцьці гэтага селішча. Заўважым, што ўзаемадзеяньне паміж крывічамі й скандынавамі абумовіла будучы росквіт пераемніка Гнёздава – Смаленску, які разам з Полацкам атрымаў кантроль над беларускаю часткай Вялікага Ўсходняга шляху. У 1229 годзе смаленскі князь Імсьціслаў Давыдавіч накіраваў «на Готляндзкі бераг» двух паслоў, якія ў месьце Вісьбю падпісалі гандлёвую дамову «з усім латыньскім народам»[Jansson 1996:61]. Існаваньне доўгі час у старажытным Смаленску каталіцкай «Вараскай бажніцы» ўскосна сьведчыць пра важную ролю швэдзкіх вікінгаў-купцоў у гандлёвым разьвіцьці гэтага места [Rappoport 1972:283–289].

## 1.3. Вараскія знаходкі на абшарах Беларусі

**Усходняя й Цэнтральная Беларусь.** Як адзначаюць дасьледнікі, асноўная колькасьць знаходак скарбаў вікінгаў на абшарах колішняй Русі (Беларусі, Расеі, Украіны) сканцэнтраваная перадусім на паўночным захадзе Расеі й Беларусі [Potin 1970:76].

Скандынаўскія знаходкі ў Беларусі (упрыгажэньні, зброя, манэты й рунічныя знакі на касьцёх жывёлаў) адшуканыя ў асноўным уздоўж Дзьвіны й Дняпра [Duchyts 1993-2:113].

З гэтага вынікаюць дзьве вельмі важныя высновы. Па-першае, шчыльнасьць знаходак супадае зь межамі старажытнага Полацкага княства [Semianchuk 1996:32–52].

Па-другое, зьвесткі археалёгіі адпавядаюць паведамленьням скандынаўскіх і «рускіх» (скандынаўска-славянскіх) крыніцаў аб палітычных ды эканамічных стасунках вікінгаў з насельніцтвам Беларусі.

З гледзішча геаграфіі сыстэма дзьвінскіх і дняпроўскіх волакаў Беларусі займала выключнае становішча на найкаротшым шляху з Балтыц-








*13. Бронзавыя фігуркі вікінгаў: 1 – з кургану ля вёскі Лудчыцы (Быхаўскі раён), 2 – з кургану ля вёскі Калодзецкая (Касьцюковіцкі раён).*

кага ў Чорнае мора. Грунтоўнае дасьледаваньне вараскіх знаходак на абшарах Беларусі выходзіць за межы нашай кнігі. Але адсутнасьць манаграфіі ў гэтай тэме вымушае спыніцца на асабліва цікавых знаходках.

Важным маркерам ёсьць усходнія дырхемы – галоўная манэта скандынаўскага міжнароднага гандлю да 1015 г. [Sawyer 1985:168]. Бальшыня знаходак, зразумела, паходзіць з абшараў сучаснай Швэцыі. Напрыклад, толькі на высьпе Готлянд знойдзены 372 буйныя скарбы дырхемаў з агульнай колькасьцю 43 000 манэтаў [Potin 1970:65]. У Беларусі знойдзеныя каля 40 буйных скарбаў з агульнай колькасьцю 16 000 манэтаў ды звыш 50 адзінкавых знаходак дырхемаў [Gurevich 1990:119]. Падкрэсьлю, што бальшыня буйных скарбаў зьмяшчала таксама тагачасныя заходнеэўрапейскія манэты.

У 1973 годзе ў вёсцы Казьянкі, што на ўскрайку Полацку, знойдзены вялізарны скарб з 7 650 усходніх дырхемаў VIII–X стст. На Віцебшчыне ў вёсцы Стражавічы (Чашніцкі раён) знойдзеныя два манэтна-рэчавыя скарбы. Скарб 1898 г. складаўся з 48 (16 цэлых, 32 фрагмэнтаваных) куфіцкіх дырхемаў Арабскага Халіфату 916–995 гг., 150 заходнеэўрапейскіх манэтаў (дынарыі ды іх падробкі) і 9 манэтападобных пласьцінак. Скарб 1903 г. уключаў рэчы скандынаўскага паходжаньня: фрагмэнты срэбнай шыйнай грыўні, 2 залатыя сыгнэты з круглага чатырохграннага дроту. Манэтная частка налічвала 46 куфіцкіх дырхемаў 915–1011 гг. і іх падробак ды 273 заходнеэўрапейскія манэты ды іх падробкі,




*14. Мячы вікінгаў:*
*1 – Горадня, 2 – Полацак.*

сярод якіх 10 дацкіх манэтаў 1035–1047 гг.

Буйны манэтны скарб знойдзены ў 1871 годзе ля вёскі Новы Двор Менскага павету. Сярод знаходак – 92 куфіцкія дырхеды і іх падробкі, 273 заходнеэўрапейскія дынарыі ды іх падробкі, адзінкавы бізантыйскі міліярысій.

У пачатку XX ст. у вёсцы Стары Дзедзін (Імсьціслаўскі павет), за 15 мэтраў ад старыцы ракі Астра, знойдзены манэтна-рэчавы скарб. Сярод 170 манэтаў 167 куфіцкіх дырхемаў IX–X стст. і 3 эўрапейскія манэты, бітыя ў Бізантыі (969–976 гг.) ды Нямеччыне (936–973 гг.). Скандынаўскае паходжаньне скарбу не выклікала ў навукоўцаў сумневу [Kharlampovich 1927 №51].

Падобны скарб з 130 аднолькавымі дырхемамі 913–914 гг. знойдзены ў вёсцы Вець Быхаўскага павету [Тамсама, №64].

Заўважым, што як усходнія, гэтак і заходнія манэты з скарбаў адлюстроўваюць абсягі міжнароднага скандынаўскага гандлю.

Апрача буйных знаходак, сустракаюцца й адзінкавыя. Напрыклад, у 1925 годзе селянін вёскі Вусьвіца (Полацкі павет*) Рыгор Сьляпнёў знайшоў на левым беразе Дзьвіны ў полі саманідзкі дырхем 907–908 гг. [Kharlampovich 1927 №144].

Важным паказьнікам старашвэдзкай прысутнасьці ёсьць брактэаты – манэты-мэдалі. Высокамастацкія ўнікальныя брактэаты выраблялі кавалі швэдзкай Біркі (Birka) і данскага Хедэбю (Hedeby). На сёньня на абшарах старажытнай Русі знойдзены ўсяго 24 брактэаты й паўбрактэаты

* Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу – Докшыцкі раён. – *Рэд.*





[Potin 1970:75]. Зь іх 5 манэтаў – у Беларусі. У XIX ст. унікальны брактэат адшуканы ў Менскай губэрні. Дыямэтар манэты складаў 15 мм. З аднаго боку была выява бога Тура з молатам у левай руцэ й стралою ў правай. Вакол Тура былі адбітыя каршуны – мітычныя падарожнікі скандынаўскіх герояў, якія зьядалі целы забітых ворагаў. З адваротнага боку была выява вершніка [Tatur 1892:106].

Два брактэаты знойдзеныя ў 1967 годзе на этнічных абшарах беларусаў у вёсцы Кіслае (Смаленшчына) у скарбе з 600 усходніх дырхемаў [Potin 1970: 75]. Паўбрактэат 1000 г. выяўлены ля вёскі Новы Двор за тры кілямэтры ад гарадзішча на рацэ Менцы. Апошні пяты брактэат знойдзены ў вышэйзгаданым Старажавіцкім скарбе (між Чашнікамі й Лукомлем).



*15. Вараскі меч, знойдзены беларускай археалягічнай экспэдыцыяй у 2000 г. ля ракі Бярэзіна.*

Сярод унікальных скандынаўскіх памятак у Беларусі бронзавыя літыя амулеты-фігуркі вікінгаў. Яны прызнаюцца спэцыялістамі безумоўнымі вырабамі скандынаўскага рамесьніка [Petrenko 1970:253–261]. Знаходку падобнага кшталту ў кургане ля вёскі Лудчыцы ля ракі Рдзіца (Быхаўскі павет) зрабіў у 1892 годзе археоляг С.Чалоўскі. Гэта бронзавая фігурка вікінга зь мечам на пасе й вітым колам у правай руцэ. У 1973 годзе ў кургане XI ст. бронзавую фігурку з выявай вікінга адшукаў падчас раскопкаў Я.Рыер. Знаходка трапілася сярод пахаваньняў радзімічаў ля вёскі Калодзецкая (Касьцюковіцкі раён).




*16. Лянцэтападобныя вараскія дзіды:*
*1 – Ваўкавыск,*
*2 – Менск.*

З зброі, якая, магчыма, належала вікінгам, перадусім адзначым мячы паўночна- й заходнеэўрапейскай вытворчасьці. Усяго на этнічных беларускіх абшарах з пачатку навуковых археалягічных пошукаў у XIX ст. знойдзены 10 мечаў падобнага кшталту: па адным у Горадні, Полацку, Франопалі (Берасьцейскі павет), вёсцы Сьцюдзёнка (Бярэзінскі павет), два ў в. Гарадзілава (Валожынскі павет) і чатыры ў в. Гуркавічы (Вялейскі павет).

Першую знаходку яшчэ ў XIX ст. зрабіў Адам Кіркор, які й адкапаў ля вёскі Гарадзілава 2 мячы другой паловы X ст. Лязо аднаго зь іх было колькі разоў пераламана згодна з пахавальна-забабонным рытуалам, характэрным скандынаўскай міталёгіі. Побач зь мечамі знойдзена скандынаўская колцападобная фібула з доўгаю (абламанаю) іглой.

Чатыры мячы XI–XIII стст. знойдзеныя ў XIX ст. у адным з усходнебалцкіх курганоў вёскі Гуркавічы Вялейскага павету. Іх собсьнікамі маглі таксама быць вікінгі.

Нарэшце, літаральна два гады таму экспэдыцыя Інстытуту гісторыі НАН Беларусі, шукаючы ля вёскі Сьцюдзёнка францускія скарбы 1812 г., выявіла крыжавіну скандынаўскага мяча X ст. Прыгадаем, што ў гэтым найбольш зручным месцы пераправы праз Бярэзіну ў пачатку XX ст. выпадкова знойдзены заходнеэўрапейскі срэбны дынары (канец X – пачатак XI ст.) [Kharlampovich 1927 №42].

Яскрава скандынаўскія тыпы зброі – лянцэтападобныя дзіды, упрыгожаныя срэбрам [Sawyer 1985:283]. Каля Лукомлю ў пачатку XX ст. і ў 1969 годзе знойдзеныя дзьве падобныя дзіды. Аналягічныя дзіды – частая знаходка на высьпе Готлянд і ў швэдзкіх калёніях Фінляндыі [Gurevich 1990:111; Sawyer 1985:282–283]. Яшчэ адна дзіда знойдзена ля Менску [Gurevich 1990:112], іншую знайшоў у пачатку XX ст. у Вяліскім павеце Віцебскай губэрні (сёньня Расея) Е.Раманаў [Romanov 1898:24]. Скандынаўскаі тып зброі – лянцэтападобныя стрэлы. З усіх блізка 400







*17. Скандынаўскія рэчы з археалягічных знаходак Яўстаха Тышкевіча. Сярэдзіна XIX ст., Менскі край.*

штук, знойдзеных на абшарах старажытнай Русі, ля 90% (!) паходзяць з этнічнай прасторы беларусаў. 40% сканцэнтравана ў Сьвінецку/Гнёздаве й 50% – на абшарах сучаснай Беларусі (Полацак, Маскавічы, Пруднікі, Усьвяты, Лукомль, Ваўкавыск і г.д.). Як сьведчаць дасьледнікі, высокая шчыльнасьць гэткіх памятак у спалучэньні зь іншай зброяй – першая адзнака скандынаўскай прысутнасьці [Kainov 1999:60].

Да пачатку XX ст. ля вёскі Пнеўшчына, што ля мястэчка Дрыбін, стаяў камень з рунічным надпісам. Камень *«зь літарамі, якіх ніхто прачытаць ня можа»,* стаяў ля вёскі Лыскава ў Панямоньні [Federowski 1902:31].

Знаходкі скандынаўскіх памятак у Менску і яго ваколіцах, а таксама

ля Лукомлю сьведчаць, што вікінгам быў знаёмы сухадарожны шлях зь Дзьвіны й Дняпра ў Нёман. Яшчэ ў 1865 годзе на гэта зьвярнуў увагу беларускі археоляг К.Тышкевіч [Tyszkiewicz, K. 1865:41–62]. У пахаваньнях Менскага павету ён знайшоў 21 рытуальны збан з попелам нябожчыка й рунічнымі надпісамі на гліне. У адным з курганоў выяўлены касьцяк вікінга з бронзаваю «сякіркай Тура» на шыі [Тамсама:41]. Ля вёскі Антоніенбург (Мядзельскі павет) знойдзены скарб куфіцкіх дырхемаў VIII–IX стст., які складаўся з 500 манэтаў [Gurevich 1990:119]. У Губскай пушчы ля Лагойску К.Тышкевіч выявіў мэталёвыя гіркі скандынаўскага тыпу [Tyszkiewicz, K. 1865:101]. Фібулы й сыгнэты скандынаўскага тыпу – знаходкі селішча Гарадзішча Менскага павету на рацэ Менцы – магчымым месцы першаснай забудовы старога Менску. Асаблівую цікавасьць выклікае адшуканы там ключ відавочна старашвэдзкай вытворчасьці [Arbman 1943:Abb 327, Grab: 950] і навершнік похвы мяча XI ст.

Адзначым таксама сацыяльны характар скандынаўскіх памятак. Усе яны знойдзены альбо ў буйных местах, альбо ў скандынаўскіх калёніях кшталту Маскавічаў, альбо ў адзінкавых багатых пахаваньнях. Падкрэсьлім і вялікую розьнасьць паміж імі й тагачаснымі сялянскімі ўсходнеславянскімі й балцкімі пахаваньнямі ў Беларусі. Паказальным у гэтым сэнсе ёсьць археалягічны матэрыял курганоў XI ст. ля вёскі Ізьбішча Лагойскага раёну. Калі звычайныя курганы даюць звычайна бедны ўсходнеславянскі інвэнтар, дык багатае пахаваньне (курган №26) рэпрэзэнтуе набор выразна скандынаўскіх рэчаў. Сярод іх сыгнэты, фібулы, маніста з падвескамі, бронзавы грэбень з футаралам ды іншае. Да прыкладу, у якасьці падвесак у згаданых маністах выкарыстаны куфіцкія дырхемы, бізантыйскія міліярысіі, заходнеэўрапейскія манэты. Сярод 9 срэбных падвесак адна – унікальны ўзор старашвэдзкага мастацтва стылю «Барэ» з выяваю мітычнага драпежніка [Shtykhau, Kazej 1993:281–282].

**Берасьцейшчына.** Найбяднейшым на колькасьць вараскіх знаходак у Беларусі застаецца гістарычная Берасьцейшчына. Археалягічны матэрыял Турава, Пінску, Берасьця моцна розьніцца ад матэрыялаў скандынаўскіх калёніяў Полацку, Пруднікаў, Маскавічаў, Сьвінецку/Гнёздава. Ускосныя зьвесткі сьведчаць, што зрэдку вікінгі ўсё ж выкарыстоўвалі шляхі праз гэты абшар.

З геаграфічнага пункту гледжаньня з Чорнага («Рускага») мора ў Балтыцкае («Вараскае») можна было трапіць таксама праз Дняпро–Прыпяць–Піну–Мухавец–Буг–Віслу. Таксама празь Берасьце, праўдападобна, ішоў сухаводны шлях праз Кракаў па Вісьле ў Прагу – адзін з найбуйнейшых цэнтраў міжнароднага гандлю Эўропы IX–XI стст. Згодна зь зьвесткамі Ібрахіма абн Якуба, *«русы й славяне* (! – Аўт.) *прыходзілі да гэтага места (Прагі) празь места Кракаўскае»* (LI 1989:29). Пра тое, што гэты шлях пачынаўся ў басэйне Дзьвіны й Дняпра й ішоў праз Прыпяць, сьведчаць скарбы арабскіх дырхемаў IX–X стст. Важкі маркер – шматлікія знаходкі ў Беларусі чэскіх «праскіх» дынарыяў [Perkhavko 1992:49]. Як заўважыў В.Янін, гэтыя скарбы ідуць уздоўж Прыпяці акурат у заходнім кірунку [Janin 1981: 102, 120]. Адзін дырхем (Самарканд, 952–953) знойдзены ў 1871 годзе пры аматарскіх раскопках знакамітага каралеўскага кургану – *«магілы Войшалка»* ў Пінску.







*18. Мастацтва вікінгаў. Срэбная фігурка з швэдзкай выспы Олянд (Öland) IX–X стст. Дзьве падобныя знаходкі зробленыя ў Беларусі. Нацыянальны гістарычны музэй Швэцыі (Statens Historiska Museum).*

У вёсцы Рагачы Берасьцейскага раёну пры пабудове млына (пачатак XX ст.) знойдзены шкілет варага . Сярод знаходак быў срэбны пфэніг XI ст. з Аўсбургу [Kharlampovich 1927 №167]. У часе беларускай палявой экспэдыцыі 1989–1991 гг. археолягі ля вёскі Франопаль (20 км ад Берасьця) натрапілі на крыжавіну скандынаўскага мяча канца X ст. Скандынаўскае паходжаньне, як лічаць дасьледнікі, маюць так званыя «каралеўскія» курганы Беларусі. Археолягам на сёньня вядомыя 5 такіх вялізных курганоў: два ў Пінску; адзін («Магіла месяца») на рацэ Буг у

вёсцы Гусыньня (цяпер у Польшчы); два – у басэйне ракі Дняпро ля вёскі Азёры Круглянскага павету й ля вёскі Гара Краснапольскага павету [Sedych 1997:31–32].

**Панямоньне.** Шэраг скандынаўскіх памятак знойдзены ўздоўж Нёмну. Гэта невыпадкова, бо Нёман быў натуральным шляхам вікінгаў, празь якія яны з Балтыкі рухаліся да Дняпра, а адтуль у Чорнае мора.

Багаты збор скандынаўскіх рэчаў паходзіць з Ваўкавыску. Найперш гэта каштоўная дзіда зь пяром прастакутнай формы, упрыгожаным срэбнай насечкай. Дзіда знойдзена на так званай Мышкавай гары. Сёньня яна захоўваецца ў Санкт-Пецярбурскім Эрмітажы [Zverugo 1975:101]. Аналягічныя дзіды скандынаўскага тыпу X–XI стст. – частая знаходка на швэдзкай высьпе Готлянд [Gurevich 1981:11], сустракаюцца яны амаль ува ўсіх селішчах швэдзкіх вікінгаў на абшарах Фінляндыі.

Шмат скандынаўскіх рэчаў паходзяць з ваўкавыскага гарадзішча Муравельнік, культурныя страты якога належаць да X–XI стст. Гэта колькі лянцэтападобных стрэлаў скандынаўскага тыпу, срэбны амулет-прывеска з малюнкам чатырохрукага бажка й тварам чалавека, жалезны ключ ад кубічнага замка – таксама скандынаўскага тыпу, шпоры з заклёпкамі. Гэтыя рэчы маюць простыя аналёгіі ў тагачасных культурных стратах швэдзкай Біркі й Готлянду [Gurevich 1990:120]. Побач з скандынаўскімі памяткамі адшуканы важны маркер скандынаўскага гандлю – куфіцкі дырхем 738–739 гг.

Шэраг тыпова скандынаўскіх памятак знойдзены ў раньніх стратах Навагрsucc. Гэта скандынаўскія грабяні з арнамэнтам ды накладкамі, прымацаванымі цьвічкамі. Важны паказьнік скандынаўскай вытворчасьці – касьцяны футарал на грэбень. Знойдзена таксама колькі лянцэтападобных стрэлаў. Дадам, што якраз у Панямоньні знойдзены вялікі скарб гэткіх навершаў дзідаў і стрэлаў (гарадзішча Кульбачына). Як вядома, дадзеная зброя была распаўсюджана ў Скандынавіі ў часе вікінгаў [Pivavarchyk 1999: 244]. З Наваградку паходзяць дзьве пацеркі з блакітнага й зялёнага шкла (XII ст.). Найбліжэйшыя аналёгіі гэтым пацеркам сустракаюцца ў стратах Біркі. Асобныя знаходкі з Наваградку можна разглядаць як падробку скандынаўскіх рэчаў. Гэта жалезная спражка з увагнутымі бакамі (X ст.). Падобныя сустракаюцца таксама ў Бірцы, але «швэдзкія» інкруставаныя срэбрам. Аналягам рэчаў швэдзкай Біркі ёсьць таксама наваградзкая крыжападобная прывеска й бронзавая







*19. Вараскі гельм з знаходак у Слоніме.*

шпілька з галоўкай у выглядзе птушкі [Gurevich 1981:100–105].

У Горадні ў 1975 годзе недалёка ад цэнтру места знойдзены абламаны вараскі меч X ст. зь седлападобным перакрыжаваньнем. Лязо абламанае, але ў пачатку ляза з абодвух бакоў захавалася падковападобнае таўро на ўзор скандынаўскага [Nikolaev 1983: 81–82].

Цікавая знаходка зробленая ў Слоніме. У старажытных стратах места адшукалі круглы гельм вэндэльскай эпохі. Аналёгіі гэтага вараскага гельму сустракаюцца ў Швэцыі (Готлянд) і Кіеве. Ён добра захаваўся, з кавалкамі скуры знутры [Gurevich 1990: 114]. Зь іншых скандынаўскіх рэчаў, знойдзеных у Панямоньні, адзначу падвеску з Гальшанаў [Pivavarchyk 1999:244] ды вялікі скарб куфіцкіх дырхемаў з в. Ракаўцы Смургонскага раёну, які налічвае 827 манэтаў 952–953 гг. [Gurevich 1990: 120]. На думку Ф.Гурэвіч, акурат гандлёвыя цэнтры Швэцыі зьяўляліся дастаўнікамі медзі ў старажытны Наваградак [Gurevich 1981:100–105]. Вараскае пахаваньне выяўленае ў адным з капцоў верхняга Панямоньня [НВ 2000-1:214].



*20. Скандынаўская срэбная бляшка-падвеска з Ваўкавыску.*

Дасьледнікі заўважылі, што *«ўнікальнасьць Панямоньня [...] палягае ў тым, што, нягледзячы на невялікую колькасьць гарадоў, у XII–XIII стст. рэгіён дасягнуў высокага эканамічнага й культурнага разьвіцьця»* [Pivavarchyk 1999:244]. Адной з прычынаў эканамічнага росквіту была роля гарадоў краю ў міжнародным гандлі Балтыцкага арэалу.

Зьвязваць гэты факт зь дзейнасьцю вікінгаў наагул слушна [Pivavarchyk 1996:19–21]. Сапраўды, знаходкі аднатыповых і храналягічна сынхронных рэчаў у беларускім Панямоньні й Швэцыі (Скандынавіі) зусім не выпадковыя. Да таго ж культурныя страты знаходак скандынаўскіх рэчаў цалкам супадаюць з часам скандынаўскай актыўнасьці на ўсходзе Балтыкі згодна з наратыўнымі крыніцамі. Складзеная Ф. Гурэвіч мапа знаходак скандынаўскіх памятак добра адлюстроўвае мэтадычны характар паступовага прасоўваньня вікінгаў уздоўж Нёмну. З аднаго боку, знаходкі скандынаўскіх памятак у Беларускім Панямоньні кантрастуюць зь іх адсутнасьцю ў басэйне Бугу й Прыпяці. Зь іншага боку, багатыя скандынаўскія скарбы знойдзеныя таксама ўздоўж летувіскай часткі Нёмну. Такім чынам, тэза пра актыўную дзейнасьць вікінгаў у Панямоньні мае сур'ёзны археалягічны грунт. Напэўна, наперадзе новыя знаходкі.

Такім чынам, археалягічны матэрыял пацьвярджае паведамленьні наратыўных крыніцаў пра актыўную дзейнасьць швэдзкіх вікінгаў на абшарах Беларусі. Агульная колькасьць такіх знаходак, будучы меншай, чымся ў Швэцыі, Фінляндыі й поўначы Расеі, удвая пераўзыходзіць адпаведную колькасьць знаходак у Нармандыі. Між тым наратыўныя крыніцы з Нармандыі даводзяць вялікую ролю скандынаваў у гісторыі гэтага французскага рэгіёну.





# 1.4. Полацак і Полацкае княства ў скандынаўскіх сагах

Як вядома, абшары Полацкай і Кіеўскай Русі вікінгі ўважалі за «Вялікую» альбо «Халодную» Швэцыю [Machinski, 1997]. У адрозьненьне ад часткі сучасных швэдзкіх дасьледнікаў, якія часам ня ўзгадваюць Полацкага княства ў сваіх працах, не пазначаючы яго на мапах Вялікага Ўсходняга шляху [Mats, Rune 1994:15; Ingelman-Sundberg 2000:2–3; Bente 2000: 9], вікінгі добра ведалі першую сталіцу Беларусі.

У сагах Полацак вядомы як Palteskia/Палтеськ'я. Адразу падкрэсьлю, што назоў гэты ёсьць трансьлітарацыяй мясцовай (старабеларускай) назвы. Дарэчы, тычыцца гэта й іншых гарадоў крывічоў. Але славянскія назовы ў старашвэдзкай мове захоўвалі сваю фанэтыку. Да прыкладу, Смаленск/Smale[n]skia [Dzakson 1986:95]. Апрача таго, нямецкі дасьледнік Г.Шрам давёў, што тапонім Полацак перайшоў у стараскандынаўскія мовы ды замацаваўся ў іх не пазьней за сярэдзіну IX ст. Гэта значыць, да канчатковага фармаваньня беларускага поўнагалосься (ал>ола). Бо пазьнейшае за сярэдзіну IX ст. запазычаньне дало б у старашвэдзкай мове форму Polateskia, але ніколі не Palteskia [Schramm 1982: 283–284]. Высновы мовазнаўцы вельмі важныя, бо супадаюць зь зьвесткамі наратыўных ды археалягічных крыніцаў, якія датуюць прыход вікінгаў у Полацак акурат 862 годам.

Пад назваю Palteskia наша колішняе «сталечнае» места ўзгадваецца ў шэрагу сагаў ды іншых стараскандынаўскіх твораў. Найстаршы сьпіс, дзе ўзгадваецца Полацак, які захаваўся да сёньня – «Нарыс зямлі I» (апошняя чвэрць XII ст.). Полацак прысутнічае таксама ў сазе «Гісторыя датчанаў» Саксона Граматыка, каралеўскай сазе «Пра дзеі аб Эймундзе», «Сазе пра Хрост» ды яшчэ ў пяцёх сагах. Ува ўсіх творах назва места застаецца нязьменнай: Pal[l]teskia. Толькі «Сага пра Одда Стралу» дае трохі іншы варыянт, а менавіта Pallteskiuborg (ад borg – мур, замак). Верагодна, аўтара сагі альбо ягонага інфарматара моцна ўразіла багацьце Полацку ды моцныя абарончыя збудаваньні з дрэва. Месты

вікінгаў, як правіла, абарончых сьценаў ня мелі [Dzakson 2000:285].

Найдоўжшае апавяданьне пра Полацак захавалася ў сазе «Пра дзеі аб Эймундзе». Гэтая сага, як высьветлілі дасьледнікі, апісвае падзеі 1020–1041 гг. [Zaiats 1992:23–24]. Важна тое, што гэтыя зьвесткі супадаюць з хронікай, занатаванай ува «ўнутранай» крыніцы «Аповесьць мінулых гадоў». Розьняцца творы тым, што ўсе галоўныя героі швэдзкай сагі ўважаюцца за вікінгаў, маюць скандынаўскія варыянты імёнаў, дзеюць згодна з вараскай традыцыяй. Паводле «Аповесьці мінулых гадоў» усе яны ўважаюцца за тутэйшых гаспадароў і маюць славянізаваныя варыянты імёнаў.

Зь зьвестак «Пра дзеі аб Эймундзе» вядома, што князь Эймунд/Eumund з дружынай ваяроў-скандынаваў перайшоў на службу да Брачыслава (які ў сазе названы Вартылавым). Падчас сутычкі паміж Брачыславам і наўгародзкім князем Яраславам (у сазе ён Jarizleifr) Эймунд нібыта спрыяў укладаньню мірнай дамовы паміж князямі, згодна зь якой Яраслаў-Ярызлейфр (пазьней празваны Мудрым) застаўся князем у Ноўгарадзе, Эймунд атрымаў ува ўладаньне Полацак, а Брачыслаў – Кіеў [НВ I:153].

Адзначу, што выключную ролю скандынаваў у гісторыі Полацкага княства, як падае сага, немагчыма аспрэчыць на падставе іншых крыніцаў!

Наагул колькасьць сюжэтаў скандынаўскіх сагаў, якія датычацца Полацку, не саступае іншым вялікім цэнтрам вараскай каланізацыі: Старой Ладазе, Ноўгараду Вялікаму, Кіеву. Інфармацыя скандынаўскіх сагаў пра Полацак сынхронна адпавядае старажытным славянскім крыніцам [Dziarnovich 1998:92].

Часам скандынаўскія сагі цьвердзяць пра выключную ролю вікінгаў у хросьце ўсходніх славянаў. Дзіўнага ў гэтым нічога няма. Акурат вікінг Уладзімер ахрысьціў Кіеўскую й Ноўгарадзкую землі. Скандынаўка Рагнеда/Ragnhild заснавала першы на абшарах Беларусі манастыр у Заслаўі. Згодна з тураўскімі паданьнямі вікінг Тур/Tor хрысьціў тутэйшы люд. Як заўважылі археолягі, якраз у скандынаўскіх пахаваньнях Беларусі сустракаюцца першыя прадметы хрысьціянскага культу [Zharnov 1991:220].

Вікінгі нашай часткі Эўропы былі носьбітамі ўсходняй вэрсіі хрысьціянства. У Канстантынопалі амаль што ўся гвардыя часоў Позьняй імпэрыі IX–XII стст. складалася з варагаў, вядомых у бізантыйскіх крыніцах





як «варагі-русь» [Stender-Petersen 1953:252]. Гэтыя скандынавы (як, напрыклад, полацкія Рагвалодавічы) узначальвалі бізантыйскія палкі.

Хрост Русі ў 980–1036 гг. адбыўся сынхронна з хростам іншых скандынаўскіх уладаньняў. У 912 годзе хрост прайшла Нармандыя, у 943 г. скандынаўскае княства Ёрвік у Ангельшчыне, у 965–986 гг. – Данія, у 995–1000 гг. – Нарвэгія, ля 1000 году – Ісьляндыя, у 1008 годзе – Готлянд, нарэшце паміж 1050–1100 гг. – мэтрапольная Швэцыя.

Няма дзіва, што «Сага пра Хрост» пасьля хрысьціянізацыі Ісьляндыі паведамляе пра хрост скандынавамі Полацкага княства пры канцы X ст.:

*«У тое лета, калі было прынята хрысьціянства ў Ісьляндыі, ад нараджэньня Госпада нашага Ісуса Хрыста прайшла 1000 гадоў [...] Торвальд, сын Кадрана, і Стэўнір, сын Таргіля, сустрэліся пасьля (сьмерці) конунга Алава. Яны падарожжавалі ўдвух па ўсім сьвеце і да самага Ёрсалахейма (Ерусаліму), адтуль – да Міклагарда (Канстантынопалю) і далей да Кёнугарда (Кіева), яшчэ далей (на ўсход) па Непры (Дняпры). Торвальд памёр у Русі недалёка ад Палтэск'і (Полацку). Там ён пахаваны ў адной гары ў царкве Яна Хрысьціцеля, і называюць палачане яго сьвятым. Так гаворыць Бранд Вандроўнік: „Я прыйшоў туды, дзе Торвальду, сыну Кадрана, Хрыстос даў супакой; там ён пахаваны ў высокай гары ўверх па цячэньні Дроўны (Дрёвны) у царкве Яна. Стэўнір накіраваўся тады на поўнач у Данію“ [...] так паведаміў Ары Стары»* [НВ-I 2000:280].

Пад гідронімам «Дрёвна» ў «Сазе пра Хрост» згадваецца не Дзьвіна, але невялічкая рэчка Друя. Рэч у тым, што маленькая Друя выконвала выключную ролю ў Дзьвінска-Друйскім вузьле Вялікага Ўсходняга шляху [Pritsak 1981:297]. Ананімная сага (канец XII ст.) пералічвае рэкі Ўсходняй Эўропы, якія мелі выключную вагу ўва ўсходнім гандлі вікінгаў. Дык вось, з шасьцёх рэчак тры – беларускія! Гэта Дзьвіна (Duna), Дняпро (Nepr) і невялікая Друя (Drofn) [Pritsak 1981:297]. Дадам, што найкаротшы водны шлях вікінгаў з Балтыкі ў Чорнае «Вараскае» мора ішоў якраз празь Дзьвіну. Таму Дзьвіна (Duna, Tuna, Dyna) успамінаецца ў надпісах рунічных камянёў Уплянду. Напрыклад: *«Сумір загінуў на ўсходзе ля вусьця ракі Дзьвіна»* [Pritsak 1981:363–364].

Усе гэтыя факты сьведчаць пра асаблівае эканамічнае й палітычнае

становішча скандынаўскага гандлю для Полацкага княства – аднаго з трох цэнтраў Русі.

## 1.5. Вікінгі ў беларускім фальклёры

Няма выдумкі бяз праўды.
НАРОДНАЯ ПРЫКАЗКА

Пад мурамі фантастычных
легендаў народу заўсёды
хаваюцца кавалкі праўды.
ЧЭСЛАЎ МІЛАШ

Уяўленьні беларускага народу пра ўласную гісторыю, старажытных суседзяў ёсьць складаным, неадназначным сацыякультурным фэномэнам, вывучэньне якога яшчэ наперадзе. Але няма сумневу, што побач з народнай міталягізацыяй гісторыі існуе міжпакаленная повязь ведаў у яе вуснай фальклёрнай форме [Mylnikov 1996:7–16, 322].

Ігнаруючы гісторыю факту (што, дзе й калі адбывалася), народная памяць захоўвае тым ня менш цікавыя «ўяўленьні» пра розныя падзеі мінуўшчыны. Напрыклад, даволі вялікая колькасьць беларускіх легендаў пра вікінгаў Рагнвальда, Тура, князёўну Рагнеду сьведчыць пра інтэнсіўнасьць кантактаў нашых народаў з паўночнымі гасьцьмі. Да таго ж, пабудова легендарных сюжэтаў пра вікінгаў мае шмат супольнага з скандынаўскай міталёгіяй. Пагатоў вобраз полацкага князя Ўсяслава Чарадзея з дынастыі Рагнвальда мае шмат супольнага з старашвэдзкай мітаэпічнай традыцыяй. У хроніках гаворыцца пра тое, што матка Ўсяслава нарадзіла яго ў выніку нейкага чараўніцтва і *«бысть ему язвено на главе его»* (НВ 1:153). Добра ведамая галоўная рыса вобразу Ўсяслава Чарадзея – ягоная здольнасьць абяртацца ў ваўкалака: *«Ад іх скочыў зьверам дзікім. Апоўначы зь Белгарада ахутаўся сіняй імглой... скочыў ваўком да Нямігі з Дудутак»* («Слова аб паходзе Ігаравым», пераклад Янкі Купалы). Вобраз Усяслава-ваўкалака быў нагэтулькі пашыраны, што захаваўся ў былінах як княжа-ваўкалак – «Волх Всеславович».

Заўважу, што ў беларускім фальклёры вобраз ваўкалака хутчэй адмоўны, часам жаласны, і ніколі гераічны. Між тым у скандынаўскай міталёгіі здольнасьць вікінга перакінуцца ў ваўка лічылася галоўнай здольнасьцю вікінга-ваяра, якога пры яе наяўнасьці звалі бярсэркам. На Русі гэты талент меў яшчэ адзін скандынаў, адзін зь бярсэркаў конунга Эйрыка / Eirikr – Грым Эгір. Згодна з «Сагай аб Грольву-Пешаходу», акурат Грым Эгір захапіў Старую Ладагу, цэнтар вараскай актыўнасьці на поўначы Русі, бо *«ён быў здольны набываць аблічча ваўка й розных іншых зьвяроў так хутка, што гэта ніхто не заўважаў»* [Pankratova 1997:7–12].

Добра вядомы сюжэт у беларускім фальклёры – легенда пра «волатаў» – мітычных асілкаў, якія жылі на зямлі Беларусі ў векапомныя часы. Шмат курганоў наш люд заве «валатоўкамі». Лічыцца, што ў іх пахаваныя «вялікія, доўгія людзі». Цікава, што тэма волатаў ёсьць надзвычай папулярнай таксама ў скандынаўскай міталёгіі. Абшарамі, заселенымі волатамі, скандынавы лічылі найхутчэй нашу частку Эўропы – «Вялікую» альбо «Халодную» Швэцыю. Волаты займалі важнае месца ў эпасе вікінгаў і як захавальнікі глыбіннай мудрасьці [Machinskii 1997:158].

Між іншым у «Сазе Тыдрэкса» паведамляецца імя галоўнага героя асілка-каваля. Невядомы аўтар кажа, што асілка звалі па-нямецку «Велент» (Velent), а па-вараску Вола[н]т (Volont) [Stender-Petersen 1953:261]!

Зьвернем увагу на відавочную сувязь паміж беларускімі легендамі пра Тура зь існым у паганскай скандынаўскай культуры богам Турам/Tor.

У тураўскай легендзе «Прарочы сон князя» важную роль выконвае «воз» заснавальніка места вікінга Тура [Pamiats 1994:94]. Між тым вядома, што «воз» – адзін з найгалаўнейшых атрыбутаў бога Тура. Таксама можна гаварыць пра падкрэсьлены ў легендзе матыў рыбы й рыбалкі. Як вядома, рыбалка – улюбёны занятак бога Тура. Таму гаварыць, быццам вараскі князь Тур – выдумка й міт, значыць, супярэчыць адзінай наратыўнай крыніцы пра заснаваньне Турава. На зьмену гэтай крыніцы можа прыйсьці толькі фантазія аўтараў. Сьцьверджаньне, што зь іншых старажытных беларускіх местаў ніводнае не названа «вараскім імем» [НВ–1:171] супярэчыць зьвесткам тапанімікі, згодна зь якой мястэчка Рагнедзіна колішняга Полацкага княства паходзіць ад імя князёўны-скандынаўкі Рагнеды/Ragnhild.

У беларускіх легендах пра Тура («Турава гара») сустракаецца вядомая скандынаўскай міталегіі апазыцыя бог Тур / зьмеі. Падкрэсьлю, бадай галоўным сымбалем культу бога Тура ёсьць «кола» – салярны дыск. Выява салярнага дыску часта сустракаецца на срэбных амулетах старажытнабеларускіх местаў часу вікінгаў. Ведама, гэтыя амулеты належалі эліце грамадзтва. Цікава, што толькі ў Тураве існаваў унікальны для Беларусі звычай упрыгожваць шчыты хатаў зробленым з дрэва салярным знакам з крыжам угары (сымбалем перамогі хрысьціянства). Дарэчы, у гонар бога Тура скандынавы дагэтуль называюць сваіх дзетак. Прыгадаем хіба знакамітага нарвэскага падарожніка Тура Хеердала/Thor Heyerdahl.

Цікавымі ёсьць таксама полацкія легенды пра курган Рагвалода й Рагнеды, што месьціцца ў Расонскім раёне [LIP: 279, 280]. Па-першае, легенда дакладна перадае зьвесткі пра забойства полацкага князя. Дарэчы, у фальклёры бытуе акурат скандынаўская форма князевага імя – Рогвальд [LIP:279]. Забойства Рагвалода адбылося «каменным молатам» – рытуальнай мітычнай зброяй скандынаўскага эпасу. Пра папулярнасьць вобразу Рагнеды ў беларускім фальклёры ды пра тое, што частка інфармацыі можа адпавядаць праўдзе, добра напісаў Юрка Віцьбіч: *«У Падзьвіньні між маляўнічымі азёрамі, якіх паблізу амінае рака Дрыса, прытока Дзьвіны, знаходзіцца парослая векавымі дубамі Гара Рагнеды. Паводле народнага паданьня, чэлядзь кіеўскага князя Ўладзімера забіла тут каменным молатам полацкага князя Рагвалода з сынамі, а потым тут жа суродзічы пахавалі ягоную дачку Рагнеду-Гарыславу, выконваючы гэтым ейную перадсьмяротную просьбу. Магчыма, гэтае паданьне і адпавядае праўдзе, бо калі ў 1866 г. навукоўцы дасьледавалі магілу Рагнеды ў Заслаўі, дык у знойдзенай і багата звонку аздобленай труне адсутнічаў касьцяк. Затое наступнае паданьне ёсьць усяго толькі прыгожы домысел, у якім, аднак, адбіліся адвечныя мары народу: скрозь і на Полаччыне, і на Віцебшчыне кажуць, што напярэдадні вайны зьяжджае з Гары Рагнеды на белым кані магутны, увесь закуты ў панцыр коньнік. На Дзьвіне ж, паміж Дрысай і Дзьвінскам, знаходзіцца старажытнае й прыгожае мястэчка Краслаўка (Kraslava). Калісьці гэта быў адзін з заходніх полацкіх прыгарадаў, які менаваўся Гарыслаўка, у гонар другога імя Рагнеды-Гарыславы, што цалкам адпавядала ейнаму жыцьцю. Паводле паданьня, Гарыслава неаднойчы наведвала сваю Гарыслаўку, і ў гэтым няма падставаў сумлявацца, бо да прыгранічнага заходняга полацкага прыгараду – гістарычнай Герцыке – адсюль 70 кілямэтраў, а яшчэ далей, паблізу сучаснага Ашэрадэна (Aizkraukle), амывала Дзьвіна найбольш заходні з усіх Барысавых камянёў.*

*На Раслаўшчыне Ізяслаў і Рагнеда знайшлі адбітак у трох геаграфічных назовах – сяло Саслаўль, мястэчка Рагнедзіна і ўрочышча Ляпёхі. Цяперашняе сяло Саслаўль адзначана на мапах XII ст. як вялікі горад Ізяслаўль. Паблізу ад Саслаўля ў прыгожай мясцовасьці на трох рэчках, зь якіх адна Чарняўка сваім назовам нагадвае рэчку Чарніцу ў Заслаўі, разьлеглося мястэчка Рагнедзіна. У двох кілямэтрах ад мястэчка знаходзіцца ўрочышча Ляпёхі, і адразу ж прыгадваецца Ляпёха – адзін з найбольш прыбліжаных слугаў Рагнеды»* [Vitsbich 1956:8].

Народная памяць упарта лічыць першых прадстаўнікоў варaскай дынастыі ў Беларусі ініцыятарамі хросту тутэйшага насельніцтва. Рагнеда згодна з паданьнем была першай хрысьціянкай Беларусі, узяла імя Анастасься ды заснавала ў Заслаўі першы манастыр [ОСМЕ 1878-1:80]. Тураўскі люд дагэтуль верыць, што места было ахрышчана зь ініцыятывы князя Тура [Pamiats 1994:94]. Нагадаем, што час жыцьця Рагнеды й Тура (канец IX – пачатак X ст.) супадае з пачаткам хросту Русі.

Сярод беларускіх легендаў захавалася адна, у якой дзеюць швэдзкія вікінгі пад сваім імем – «сьвеі». Акурат гэты этнонім (suiar) сустракаецца ў рунічных надпісах магільных камянёў Уплянду [Pritsak 1981:348]. Побач з «варагамі» назоў «сьвеі» ўжывалі й старабеларускія летапісы [Letapis Avraamki 2000:188]. Дык вось, «сьвеі»-швэды, якія жылі ў Падзьвіньні, – галоўныя героі беларускай легенды пра паходжаньне назову возера «Сьвеўлівы», што каля Себежу. Нягледзячы на фантастычны сюжэт, легенда адлюстроўвае памяць народу пра колішнія эпахальныя падзеі краіны. Па-першае, гэта барацьба нямецкай Рыгі й Полацкага княства, у ваярскай дружыне якога служылі скандынавы. У легендзе *«добрым сьвеям»* супрацьстаіць злавесны *«нямецкі рыцар Ліхадзей»* [LIP 101:86]. Па-другое, побач зь сьвеямі жыве згодна зь легендай іншы неславянскі народ – «лівы», які ўрэшце *«пакінуў сваё гарадзішча ды пайшоў к сіняму мору»* [Тамсама:89]. Гаворка ідзе пра старажытнае насельніцтва сучаснай Латгаліі – фіна-вугорскі народ «лівы» альбо «лібь» старабеларускіх летапісаў. Міграцыя ліваў да Балтыкі сапраўды пацьвярджаецца археалягічнымі крыніцамі. Цяпер

у селішчах каля Рыгі (Livōd Rānda) жывуць і маюць культурную аўтаномію апошнія прадстаўнікі гэтага народу (каля 1 700 чалавек), збольшага асыміляванага латышамі.

## 1.6. Скандынаўская тапаніміка беларускай зямлі

Разам з наратыўнымі й археалягічнымі зьвесткамі важным паказьнікам скандынаўскай прысутнасьці ў старавечнай Беларусі ёсьць тапаніміка. Ведама, паводле агульнай колькасьці скандынаўская тапаніміка нашай зямлі значна саступае, напрыклад, Вялікай Брытаніі, толькі на паўночным узьбярэжжы якой налічваецца каля 1 000 айконімаў скандынаўскага паходжаньня [Simpson 1967:33]. Але супольная рыса ёсьць. Як у Ангельшчыне, так і ў Беларусі ўсе скандынаўскія айконімы гуртуюцца ў межах колішняе гістарычнае дзейнасьці вікінгаў. У Ангельшчыне гэта паўночнае й паўночна-заходняе ўзьбярэжжа. У Беларусі гэта Падзьвіньне й Падняпроўе – абшары колішняга Полацкага княства. Ёсьць паралелі ў характары тапанімікі. Найчасьцей гэта вытворныя ад мянушак скандынаўскіх конунгаў, гандлёвыя паняткі, розныя этнонімы паўночных «гасьцей». Да прыкладу, вядомы скандынаўскі айконім старажытнага Ноўгараду «Парамонім двор» – славянізаваная назва старашвэдзкага слова «Farmannagarpr», што ад «farman» – купец [Stender-Petersen 1953:257].

На беларускіх землях найбольш значны адбітак пакінула так званая этнатапаніміка, гэта значыць, айконімы, сугучныя старашвэдзкаму этноніму «сьвеі».

Паходжаньне гэтай назвы сувязана з гістарычным айконімам цэнтральнага абшару сучаснай Швэцыі – «Сьвеяляанду». У перакладзе з швэдзкай мовы «Сьвеялянд» значыць «зямля сьвеяў». Акурат «сьвеі», а ня «готы» далі назву сучаснай швэдзкай дзяржаве. На зямлі сьвеяў існавалі месты (Бірка, Сігтуна, Упсола), якія мелі гандаль на Вялікім Усходнім шляху. Этнонім «сьвеі» добра вядомы скандынаўскай сагаэпічнай традыцыі, рунічным каменьням Уплянду ў форме «suiar» [Pritsak 1981: 348]. Беларусы ведалі швэдзкіх вікінгаў пад рознымі назовамі[2]: «русь», «варагі», «калбягі», «сьвеі». Назва «сьвеі» сустракаецца

[2] Гэта залежала ад шэрагу прычынаў, якія патрабуюць спэцыяльнага дасьледаваньня.





ў старабеларускіх летапісах [Letapis Avraamki 2000:188], вядомая яна й беларускаму фальклёру [LIP:84–90].

Сярод тапонімаў гэтага шэрагу м.Асьвея каля Дрысы і рака Сьведзь – прыток Бярэзіны ў басэйне Дняпра [Zhuchkevich 1968:165]. Якраз тут пралягаў шлях вікінгаў у Польшчу (Кракаў), адтуль у Нямеччыну й Прагу. Таксама гэта рэчка Сьвень – прыток Дзясны, адной зь нітак Вялікага Ўсходняга шляху. Прыгадаем яшчэ азёры Падняпроўя: Сьвядзёра й Сьведзкае. У Падзьвіньні ёсьць легендарнае возера Сьвеўлівы, існавалае нібыта на мяжы двух народаў: сьвеяў іліваў. Каля Прапойску–Слаўгараду месьціцца вёска Сьвенск [Zhuchkevich 1974:335]. На сучаснай беларуска-расейскай этнічнай мяжы з 1211 г. дзейнічае праваслаўны Сьвенскі манастыр (мястэчка Сьвень, Бранская вобласьць, Расея). Манастыр заснаваны як філія Кіева-Пячорскай лаўры. Сярод манахаў лаўры былі вікінгі-скандынавы, між іншым, славутыя сьвятыя праваслаўныя Сымон й Афрыкан [Braun 1902:365]. Заснаваньне манастыра было выклікана вострай патрэбай хрысьціянізацыі радзімічаў, якія забілі першага казаньніка на імя Кукша. Адзначым, што ўсе назовы з асновай «сьвеі», відавочна, неславянскія.

Два вядомыя сёньня скандынаўскія тапонімы паходзяць з Турава. Гэта назоў места, які адказвае на пытаньне: каму належыць горад? Тое, што назоў паходзіць ад імя вікінга Тура /Tor, цьвердзяць як наратыўныя, так і фальклёрныя крыніцы. У прадмесьце Турава, Пагосьце (сёньня гэта асобная вёска), цячэ невялічкі раўчук Тур. Цікава, што акурат «Пагост» быў месцам збору падаткаў, так званага палюдзьдзя. Таму прысутнасьць тут князя-конунга цалкам верагодная.

Шэраг тапонімаў зьвязаны з полацкай князёўнай Рагнедай/Ragnhild. Па-першае, гэта возера Рагнедзь на поўначы Заслаўя, гораду, пабудаванага Ўладзімерам Вялікім (Valdemar) для Рагнеды.

У XIX ст. возера высахла, але назоў захаваўся [ОСМЕ 1878-1:80]. Па-другое, гэтае места Рагнедзіна (сёньня расейскае мястэчка «Рогнедино», сучасная Бранская вобласьць), заснаванае згодна з паданьнем Рагнедай [Vitsbich 1956]. Каля возера Дрыса на паўвысьпе Перавоз паміж рэчкамі Дрыса й Вуша стаіць славутая гара «Рогвальда й (Р)Ягнеды».

З старашвэдзкае (а не старанямецкае!) мовы беларусы запазычылі назоў «Інфлянты», які ў старабеларускай мове выкарыстоўваўся для пазначэньня сучасных латыскіх земляў. Гэты назоў латыскага Падзьвінь-

ня («Inflanti») значыцца на адным з рунічных каменяў Уплянду [Pritsak 1981:363]. Зрэшты, назоў нашае краіны «Беларусь» утрымлівае скандынаўскі карэнь «русь» (Roslagen).

Наяўнасьць скандынаўскай тапанімікі ў Беларусі сьведчыць пра інтэнсіўнасьць кантактаў паміж продкамі нашых народаў за часам росквіту Полацкага княства. Маючы шчыльную повязь з гістарычнымі фактамі, тапаніміка дапамагае зразумець характар міжэтнічных дачыненьняў, тлумачыць некаторыя цьмяныя падзеі даўнейшых часоў.

## 1.7. Скандынаўскі ўплыў на старажытнабеларускую культуру

**Перадгісторыя.** Прыкладна ў V ст. верагодныя продкі швэдаў готы, сярод якіх было племя tervingi (людзі дрэва – драўляне), прайшлі цераз абшары сучаснай Берасьцейшчыны ды Беласточчыны [Labuda 1960:120–121]. Колькі гадоў жыцьця готаў пакінулі на абшарах Беларусі селішчы вяльбарскай культуры. Ці не адсюль паходзіць літоўскі экзаэтнонім беларусаў «гуды» ды таксама палескі мікраэтнонім «гідуны». З мовы готаў у беларускую трапіла колькі словаў: мыта (mota), меч (mēkeis), пенязі (pinnings), князь (kuniggs) [Vasmer 1964–1973].

**Час вікінгаў.** Тагачасныя культурныя дачыненьні паміж Беларусьсю й Швэцыяй мелі ўзаемную скіраванасьць. У XI ст. праваслаўная (усходняя) місія, якой кіраваў уладыка Асмунд (Osmund), дзеяла ў швэдзкай Сігтуне. Перад тым уладыка Асмунд быў япіскапам альбо ў Полацку, альбо Кіеве: «A quodam Polaniae archiepiscopo» [Sjöberg 1985: 69–78]. Пра гэта ўскосна сьведчыць і праваслаўная формула напісаньня імя Маці Божай на рунічных каменьнях Уплянду, дзе яна названа згодна з праваслаўнай традыцыяй Божая Маці (Theotokos), але ня Панна Марыя [Sjöberg 1985:76]. Падмурак дзьвюх праваслаўных цэркваў XII–XIII стст. швэдзкія археолягі знайшлі ў горадзе Вісьбю (Visby) на Готляндзе. Велікодныя гліняныя яйкі, як мяркуюць дасьледнікі з Палесься, знойдзеныя ў стратах XI ст. у Сігтуне (Sigtuna), на Готляндзе й ува Ўпляндзе. У 1967 г. у Бургe/Burge (выспа Готлянд) знойдзены скарб







*21. Велікодныя гліняныя яйкі XII ст., знойдзеныя ў Швэцыі, паходзяць з абшараў украінска-беларускага Палесься.*

другой паловы XII ст., у склад якога ўваходзілі 44 грыўні, зь іх 15 з кірылічнымі надпісамі, сярод якіх імёны «Бынята, Селята, Илия», ды малюнкамі крыжоў [Jansson 1996:68–69]. Шмат у Скандынавіі знойдзена каштоўных праваслаўных крыжоў-энкапілёнаў бізантыйскай вытворчасьці.

Заўважу, што сярод першых хрысьціянаў-асьветнікаў на абшарах старажытнай Беларусі было шмат скандынаваў, якія бралі хрост па ўсходнім абрадзе ў Бізантыі. Прыгадаем імёны вялікай княгіні Вольгі/Helga й полацкай князёўны Рагнеды/Ragnhild. Адным з заснавальнікаў цэнтру ўсходнеславянскага («рускага») праваслаўя Кіева-Пячорскай лаўры быў швэдзкі вікінг Сымон/Simon, які ў 1073 годзе пастрыгся ў манахі й прыняў імя Антоні [Pritsak 1981:419]. Вядомыя яшчэ два вікінгі – найпадобныя ўсходнеславянскай («рускай») праваслаўнай царквы, Афрыкан і Фрыянд [Braun 1902]. Скандынаўскія сьвятыя Магнус і Кнут узгадваюцца ў адным з твораў Кірылы Тураўскага XII ст. [Kotliarchuk 1999:188]. Службы «Памяці Афрыкана» й «Памяці Пр. Магнуса» чыталіся ў беларускай праваслаўнай царкве яшчэ ў XVI ст. [Opisanie №1318, 1322].



*22. Грыўня з выспы Готлянд (ля Бурге) з кірылічным надпісам «Бынята». Другая палова XII ст.*

Шмат якія дзеяньні старажытнабеларускіх князёў можна растлумачыць толькі зыходзячы з скандынаўскай традыцыі. Напрыклад, чаму пасьля спробы забойства свайго мужа вялікага князя кіеўскага Ўладзімера/Valdemar полацкая князёўна Рагнеда/Ragnhild замест пакараньня атрымала сваю полацкую спадчыну? Рэч у тым, што згодна з старашвэдзкім звычаёвым правам па вясельлі жонка павінна атрымаць так званы «ранішні дар» [Svanidze 1999:170]. Памер і склад «ранішняга дару» вызначаўся яшчэ да вясельля пры дамове аб шлюбе *(«заручынах»)*. У выпадку княскай дынастыі гэта было места з ладным абшарам зямлі. Акурат з Рагнедай Полацкай, хрысьціянкай і багабойнай скандынаўкай, афіцыйна ажаніўся пры хросьце ў 988 годзе вялікі князь кіеўскі Ўладзімер/Valdemar Вялікі. Зроблена гэта было, відаць, з палітычных прычынаў, а таксама, каб унікнуць скандынаўскага звычаю кроўнай помсты з боку Рагнвальдавічаў. Умоваю шлюбу з скандынаўкаю, відаць, стала атрыманьне «ранішняга дару» – места Ізяслаў/Заслаўе. Цікава, што кароль Даніі Вальдэмар Вялікі (Valdemar I den Store, 1131–1182) пабраўся шлюбам з дачкою князя Менскага Валадара Глебавіча Зоф'яй Менскай (1141–1198).







*23. Сьв. Брыгіта. Малюнак XV ст. Музэй места Лінчопінг (Linköpings museum).*

Трохі пазьней, у 1019 годзе, падобны «ранішні дар» (места Ладага) атрымала ад сына Рагнеды Яраслава/Jartsilejf швэдзкая князёўна Інгегерд-Ірына, дачка першага швэдзкага караля-хрысьціяніна Улафа Шотконунга й славянкі-хрысьціянкі Эстрэд з племені абадрытаў. Зазначу, што Рагнеда/Ragnhild шанавалася як першая сьвятая сярод беларускіх крывічоў. Ірына/Ingegerd з Ладагі сталася першаю расейскаю сьвятой. Скандынаўскага паходжаньня традыцыяй трэба лічыць высылку ў 1129 годзе ўсіх полацкіх князёў (Давыда, Расьціслава й Сьвятаслава) у Бізантыю. У той час у Бізантыі служылі тысячы вікінгаў, зь якіх былі сфармаваныя гвардзейскія палкі «варагаў».

У бізантыйскіх крыніцах X–XII стст. гэтая вараская гвардыя з Скандынавіі звалася «варангі» альбо «варангі-Русь» ці «Русь-варангі» [Stender-Petersen 1953:252]. Акурат такую формулу мы сустракаем у «Аповесьці мінулых гадоў» каля 944 г., дзе гаворка йдзе пра злучэньне пад уладаю вялікага князя Ігара/Ingvar: «Вои многи: варяги-Русь и поляны (и) словяни» [Тамсама]. Падарожжа ў далёкую Бізантыю было звычайнаю зьявай у жыцьці скандынава. Нават старажытнашвэдзкае права мела норму, *«што ніхто ня можа атрымаць спадчыну, пакуль застаецца*

*ў Грэцыі*» (Бізантыі. – Аўт.) [LI 1990:285].

Апрача Бізантыі, русы-скандынавы служылі ў гвардыі вугорскіх каралёў Іштвана (970/75–1038) і Імрэ (1007–1031). Назоў «рускі» (örosz) у сярэднявечнай Вугоршчыне азначаў каралеўскіх драбантаў [LI 1989: 115]. Пахаваньне швэдзкага вікінга ў заможным вугорскім убраньні й зброі археолягі адшукалі каля Стакгольму.

Багата паралеляў паміж першымі асьветніцамі й нябеснымі заступніцамі Беларусі й Швэцыі: Сьвятымі Эўфрасіньняй і Біргітай. Як вядома, Эўфрасіньня Полацкая (ля 1110 – ля 1173) з скандынаўскага роду Рагнвальда/Рагвалодавіча заснавала Спасаўскі жаночы манастыр, пабудавала царкву Спаса – вяршыню полацкай архітэктурнай школы. Была кіраўнічкай першага скрыпторыя – майстэрні па перапісваньні кніжак. Магчыма, аўтарам уласных твораў *(«нача книгы писати своими руками»)*. На яе замову ў 1161 годзе майстар Лазар Богша змайстраваў крыж, які ў XX ст. атрымаў славу нацыянальнай сьвятыні Беларусі. Памерла Эўфрасіньня ў цэнтры ўсходняга хрысьціянства – Ерусаліме. У сваю чаргу, Сьвятая Біргіта (Heliga Birgitta ) (1303–1373) да Рэфармацыі лічылася неафіцыйнай патронкай Швэцыі. У 1343 годзе яна заснавала першы ў Швэцыі зьмешаны (мужчынска-жаночы) кляштар у Вадстэне (Vadstena), які стаў духоўным цэнтрам краіны і паклаў пачатак ордэну біргітак. Біргіта пісала ўласныя творы, занатоўвала сны. Яе кніга «Скарбы нябесных таемніцаў» была вельмі папулярная ў сярэднявечнай Эўропе. Памерла Біргіта ў цэнтры заходняга хрысьціянства – Рыме. У Вялікім Княстве Літоўскім існавалі тры кляштары Сьв. Брыгіты *(«брыгітак»)* – у Вільні (з 1650), Горадні (1624–1830) і Берасьці (1650–1830).

Постаці Рагнеды Полацкай, Эўфрасіньні Полацкай і Сьвятой Біргіты сваёй прагай да ведаў і добрай адукацыяй тыповыя для сярэднявечнай швэдзкай арыстакратыі. У старашвэдзкім грамадзтве жанчына карысталася вялізнаю павагай. Швэдзкая князёўна мусіла валодаць ня толькі пісьменнасьцяй, але наагул быць лепшым кнігазнаўцам пры двары. Дарэчы, нярэдка швэдзкія кабеты валодалі рукапісамі сагаў, розных рэлігійных твораў, перадавалі гэтыя кніжкі ў спадчыну [Svanidze 1999: 170, 175; Sawyer, B 2000].

Як вядома, скандынаўскага паходжаньня быў збор законаў «Руская праўда», якімі кіраваліся Полацкае й Тураўскае княствы [Karskii 1930]. Гэтыя праўныя нормы наклалі свой адбітак і на заканадаўства беларуска-летувіскай дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае [Bardach 1988:112]. Як заўважыў адзін з найлепшых знаўцаў права Вялікага Княства Літоўскага І.Якаўкін (И.Яковкин), без грунтоўных ведаў старажытнашвэдзкага (скандынаўскага) права немагчыма дакладна зразумець праўнай сыстэмы ВКЛ.





Ад скандынаваў продкі беларусаў запазычылі сыстэму вагі, асновай якой стаў «бирковискъ» («берковец») – мера вагі старашвэдзкага места Бірка (Birka). Першая згадка пра беркавец у полацкіх крыніцах датуецца 1135 годам (грамата полацкага князя Ўсяслава Чарадзея з дынастыі Рагнвальда/Рагвалода [Skurat 1974]. І пасьля гэтая сыстэма працягвала шырока выкарыстоўвацца пры гандлёвых адносінах Полацку, Віцебску й Смаленску з Рыгаю й швэдзкім Готляндам. Потым беркавец перайшоў у «вялікалітоўскую» сыстэму вагі. Трэці літоўскі статут 1588 г. замацаваў гэта: *«...бирковиск [...] яко звыклый а постоновленный обычай есть у великом князстве Литовском...»* [HSBM 1982-1:281–282].

Як пераканаўча даказала Г.Карзухіна [Korzukhina 1963], акурат вікінгі прынесьлі на землі старажытнай Русі шахматы. Прыгадаем, што шахматныя фігуркі – частая знаходка ў культурных стратах беларускіх местаў часоў вікінгаў. Уменьне гуляць у шахматы было важкай часткаю выхаваньня будучага швэдзкага вікінга [Schulz 1889:535].

Першыя скандынаўскія конунгі на абшарах старажытнай Русі прымалі разам з скандынаўскімі славянізаваныя варыянты імёнаў. Апошняе сьведчыць пра ўзаемную інтэграцыю скандынаўскай эліты і ўсходнеславянскіх этнасаў. У той час з старашвэдзкай мовы ў старабеларускія дыялекты трапілі імёны, якія дагэтуль ёсьць пашыранымі як у Швэцыі, гэтак і Беларусі. Маем на ўвазе: Рагвалод/Ragnvald, Рагнеда/Ragnhild, Уладзімер/Valdemar, Алег/Helgar, Вольга/Helga, Ігар/Ingvar, Ірына/Ingegerd. У сваю чаргу, вікінгі запазычылі ад славянаў імя Сьвятаполк, якое ў форме Svante дагэтуль папулярнае ў Швэцыі.

**Швэдзка-беларускія лексычныя паралелі.** Агульнавядома, што ў нашай мове шмат германізмаў (глядзі, напрыклад, дасьледаваньне В.Выхоты «Нямецка-беларускія моўныя паралелі» (Менск, 1999). Між тым з гістарычнага гледзішча актыўная дзейнасьць варагаў на абшарах старажытнай Беларусі павінна была пакінуць адбітак у нашай мове. Але да Новага часу існавалі тры хвалі кантактаў: 1) протаславянска-германскія; 2) кантакты за часам вікінгаў; 3) запазычаньні зь нямецкай мовы

праз польскую ці непасрэдна ў XIII–XVI стст. Таму вызначыць розьніцу паміж старажытнымі запазычаньнямі з заходнегерманскіх і паўночнагерманскіх (скандынаўскіх) дыялектаў амаль немагчыма.

Але трэба адзначыць, што рыскія й ганзейскія немцы, якія апанавалі з XIII ст. гандаль на Дзьвіне, запазычылі гандлёвую й геаграфічную лексыку ад сваіх папярэднікаў, швэдзкіх варагаў [Stender-Petersen 1953:258]. Такім чынам, верагодна, шмат якія «германізмы» таго часу з гандлёва-гаспадарскай і дзяржаўнай лексыкі ў беларускай мове насамрэч прыйшлі з стараскандынаўскіх дыялектаў.

Тэма беларуска-швэдзкіх моўных паралеляў яшчэ ня стала спакмянём філялягічнага аналізу. Бракуе беларуска-швэдзкага (швэдзка-беларускага) слоўніка. Пытаньнем расейска-швэдзкіх моўных стасункаў займаліся швэдзкія славісты Клара Торнквіст [Thörnquist 1948] і Юліюш Форшман [Forssman 1967] ды іншыя. Важна, што абодва ўзгаданыя навукоўцы ў сваіх аналізах карысталіся слоўнікам беларускай мовы Івана Насовіча [Nosovich 1870]. Не кранаючы складанай праблемы філялягічнага аналізу, разгледзім гэтае пытаньне з гістарычнага й этнакультурнага пункту погляду.

Вялізная колькасьць беларуска-швэдзкіх (старабеларуска-скандынаўскіх) лексычных паралеляў належыць да гандлёва-рэчавай сфэры:

• **акула** – стараскандынаўскае *hakall* [3],

• **бязьмен** – *besman*,

• **багор** – стараскандынаўскае *båtgarr* (літаральна «чаўновая дзіда»). Сучаснае швэдзкае *båtshake*,

• **бірка** – дошчачка, на якой нарэзамі вёўся ўлік чаго-небудзь. Запазычана з стараскандынаўскай *birkja*. Параўнайце фінскае *pirkka*, латыскае *birka*. У беларускай культуры «бірка» захоўвалася ажно да пачатку XX ст. Непісьменны беларускі гаспадар, як трэба, меў колькі біркаў, з дапамогай якіх ён лічыў («карбаваў») копы ў полі, жыта ў гумне, чаркі ў карчме. Заможныя гаспадары лічылі працоўныя дні чаляднікаў. Парабкі лічылі, колькі яны адпрацавалі. Да скасаваньня прыгону біркай лічылі дні паншчыны. Гаспадыня лічыла на бірцы яйкі, сонечныя ці марозныя дні й г.д. Асаблівае значэньне мела бірка з клёну. На ёй

[3] «Акула» – пэн-імя вядомага беларускага пісьменьніка з Канады Кастуся Акулы (Аляксандра Качана).





занатоўвалі выключна *«шчасьлівыя дзянькі»*. Захаваліся прыказкі: *«Шчасьлівы дзянёк, хоць на кляновай бірачцы закарбуй»* альбо *«Няма нічога на сьвеце лепшага за бірку – закарбуй, і ніхто не сатрэ»* [Pietkie-wicz 1938:6–9, 40],



*24. Беларускі бязьмен з суцэльнага кавалку дрэва.*

• **буда** – невялікая гаспадарская пабудова – швэдзкае *bod*,

• **буса** (старабеларускае *«нямецкая буса»*) [HSBM 1981-2:255] – замежны гандлёвы карабель з шырокай кармой, – стараскандынаўскае *bussa* – вялікі й шырокі гандлёвы карабель. У пачатку XIII ст. гэтае слова ад швэдзкіх купцоў запазычылі рыскія немцы. Ад гэтага слова паходзіць састарэлае беларускае *бусак* (назва багра ў Падзьвіньні). Параўнайце ў Якуба Коласа: *«Плытнік, стоячы ў галаве плыта, заганяў у калоду бусак»*,

• **вандраваць** – швэдзкае *vandra*. Сучасны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» [1977-1:460–461] ня бачыць розьніцы сэнсу паміж дзеясловамі «вандраваць» і «падарожнічаць». Між тым у старабеларускай мове «вендровати» азначала падарожнічаць далёка, у іншыя краіны [HSBM 1983-3:101]. Гэтае значэньне фіксуе выдадзены ў другой палове XIX ст. слоўнік Івана Насовіча [Nosovich 1870:43],

• **ворвань** (старабеларускае *ворволь*) – тлушч, здабыты з марскіх жывёлаў альбо рыбаў, – старашвэдзкае *narhval*, швэдзкае *narval*. Запазычана беларусамі з старашвэдзкай мовы [Thörnqvist 1948:225],

• **гандаль** (старабеларускае *гандэл, гандэль*) – швэдзкае *handel*. Калісьці гандаль у беларускай мове азначаў *«мену тавараў альбо рэчаў»*, гэта значыць, архаічную пачатковую форму тавараабмену. Параўнайце: *«На гандаль не хачу, а купі так»* [Nosovich 1870:109],

• **госьць** – гоцкае *gasts*, швэдзкае *gäst*. Адзначу, што ў старабеларускай мове слова *гость* мела два значэньні: 1. Купец; 2. Чу-

жаземец [HSBM 1987-7:112]. Гэтае слова дало ў тадышні час цэлае гняздо лексычных адзінак: гасьціны люд (чужаземцы), гасьціная справа (справа ў замежжы), гасьціны тавар (замежны тавар), гасьцінец (гандлёвы шлях; памяшканьне для прыежджых, гатэль; падарунак). Як бачым, першапачатковы сэнс слова адсылаў да чужаземных купцоў, першымі зь якіх у Беларусі былі вікінгі,

• **дрот** – швэдзкае *tråd*, мэталёвы выраб у выглядзе гнуткай ніці альбо ценкага прута. Лічыцца, што гэтае запазычаньне ў старабеларускай мове зь нямецкай праз польскае *drut*. Між тым акурат Швэцыя была асноўным пастаўнікам мэталёвых вырабаў у старажытныя Полацак і Наваградак, а потым ўва ўсё Вялікае Княства Літоўскае. Слова «дрот» сустракаецца ў найранейшых помніках старабеларускай мовы, да часоў актыўных культурных кантактаў [HSBM 9:79],

• **крагі** (састарэлае беларускае *«халявы на чобатах»* – састарэлае швэдзкае *kragstövlar*, сучаснае *benläder*). Сучаснае беларускае «крагі» – раструбы на пальчатках – відавочны русізм,

• **крук** – стараскандынаўскае *krykr*, швэдзкае *krok* (чытаецца «крук»),

• **мармур** – швэдзкае *marmor* (чытаецца «мармур»). Нагадаем, што ў XV–XVIII стст. Швэцыя была асноўным пастаўнікам мармуру ў Беларусь. Гэтае слова дало яшчэ адну лексычную адзінку ў беларускай мове – «мармурок» – папера, афарбаваная пад мармур [Nosovich 1870:280],

• **скрыня** – швэдзкае *skrina*,

• **торг** – швэдзкае *torg*. Агульнапрызнанае запазычаньне ў швэдзкай мове ад усходніх славянаў,

• **якар** (старабеларускае – котва, котвіца) – стараскандынаўскае *ankari*.

Да моўных паралеляў у дзяржаўна-вайсковай лексыцы належаць:

• **бармы** (старабеларускае – частка сьвяточнага ўбору полацкіх князёў у выглядзе наплечнікаў з залатым шытвом) [HSBM 1980-1:197–198] – *barm* (швэдзкае паэтычнае «грудзі»),

• **бірчы** (старабеларускае) – дзяржаўная пасада ў ВКЛ: зьбіральнік падаткаў; старабеларускае *бирчество* – збор падаткаў. Першы раз гэтае слова ўзгадваецца ў Смаленскай грамаце 1229 г. Запазычана з старашвэдзкай празь «бірка» (палачка, на якой нарэзамі вёўся ўлік чаго-небудзь) – швэдзкае *björk*,

• **гельм** – *hjälm*,

• **грыдзь** (старабеларускае – княскі ваяр) – *hird* (састарэлае швэдзкае з тым самым значэньнем),

• **драбант** (старабеларускае – целаахоўнік): *«Дзьве роты былі прэбраных жаўнераў, якабы драбантаў а старажоў цела кралеўскага»* – *drabant*. Запазычаньне з старашвэдзкай мовы [Thörnqvist 1948:283],

• **кгрот, грот** (старабеларускае – вастрыё, наканечнік). Гэтага слова няма ў сучаснай мове, але яно сустракаецца ў Ф.Скарыны: *«І ў няго грот на канцы кап'я жалезны, важыў есьць трыста лотаў»* [HSBM 1996-15:63]. Стараскандынаўскае (ісьляндзкае) – *darrpt*, швэдзкае *grad* – кант тэхнічны,

• **кляймо, кляйно, кляйнот** (старабеларускае): *«маеце лі вы клейна тыі сваі, іж бы есьце зь века былі баярэ»* (1495); *«шляхта кляйноты сваі мае»* (1495) [HSBM 15-1996:110–111] – *kleima* (стараскандынаўскае),

• **кофта** (старабеларускае – копта) – верхняе кароткае жаночае адзеньне. Адзнака шляхоцкага стану: *«Прыбралася ў копту дык і вялікая паня стала!»* [Nosovich 1870:245]. Згодна з М.Фасмэрам [Vasmer 1967-2:355], запазычана з старашвэдзкай мовы *kofta*. Гэтага слова няма ў нямецкай мове,

• **маршалак** (кіраўнік павятовай шляхты, вайсковая годнасьць, дзяржаўная пасада ў ВКЛ, дружка на вясельлі) – *«marskalk»* (старашвэдзкае, кіраўнік аддзелу вікінгаў, потым афіцыйная дзяржаўная пасада ў Швэдзкім каралеўстве да 1676 г.),

• **стод** (паганскі балван) – *stod* (швэдзкае сучаснае «балван», «балванка»),

• **сьцяг** – *«stang»*. Запазычаньне з старашвэдзкай мовы [Thörnqvist 1948:83],

• **цівун** (старабеларускае – тиоун) – *thjönn*, *thiunn* (старашвэдзкае), *tung* – састарэлае швэдзкае *«сялянскі сход»*. Як адзначыў Я.Карскі [Karskii 1930:91], гэтае слова беларускія славяне запазычылі ад скандынаваў. Першым разам яно ўзгадваецца ў зборы законаў XI ст. «Руская праўда». У часы вікінгаў «цівун» азнача-

ла хутчэй за ўсё княскага ўрадніка, які кантраляваў валокі на Вялікім Усходнім шляху. Потым гэтае паняцьце ўвайшло ў дзяржаўны сьпіс пасадаў Вялікага Княства Літоўскага. Па ўпадку ВКЛ «цівуном» да канца прыгону беларускія сяляне называлі панскага старасту. Захавалася прыказка: *«Баяцца не цівуна, але яго бізуна»* [Nosovich 1870:689].

Лексычны матэрыял пераконвае, што найбольш моцныя сувязі паміж тагачаснымі беларусамі й швэдзкімі вікінгамі адбываліся перадусім у дзяржаўнай і гаспадарска-гандлёвай сфэрах. Гэта пацьвярджаецца зьвесткамі наратыўных крыніцаў і археалягічных дасьледаваньняў.

**Скандынаўскі ўплыў на традыцыі кавальскага й ювэлірнага мастацтва старажытнай Беларусі.** Вікінгі (рамесьнікі й купцы) паспрыялі станаўленьню мастацтва Полацкага ды Смаленскага княстваў. На карысьць гэтай тэзы сьведчыць наступнае. Па-першае, скандынаўскія купцы былі пастаўнікамі жалеза й медзі, а таксама шматлікіх вырабаў з гэтых мэталяў у нашу частку Эўропы. Па-другое, вікінгі кантралявалі таксама патокі ўсходняга золата й срэбра. Па-трэцяе, майстэрні скандынаўскіх рамесьнікаў існавалі ў Гнёздаве й Полацку. Дарма што працавалі паводле родных узораў, яны мелі сталы кантакт з Мэтраполіяй. Што да ўласна швэдзкіх народных традыцыяў кавальства й ювэлірнага мастацтва, яны дагэтуль застаюцца найбагатшымі ў Эўропе.

Навуковыя факты ў пацьверджаньне нашае тэзы падае дасьледаваньне гісторыка кавальскага мастацтва Беларусі М. Гурына [Gurin 1997:93–98]. На падставе грунтоўнага аналізу археалягічнага матэрыялу дасьледнік вызначае ў гісторыі беларускага кавальскага мастацтва VII–XVIII стст. тры этапы:

1. VII–IX стст. – прымітыў.
2. X–XII стст. – росквіт.
3. XIII–XVIII стст. – заняпад.

Высновы дасьледніка вельмі характэрныя. Да прыкладу, найвышэйшы тэхналягічны ўзровень назіраецца ня ў часе Вялікага Княства Літоўскага, але ў больш раньні пэрыяд Полацкага княства. Больш за тое, якраз XIII ст. азначылася найглыбейшым заняпадам [Gurin 1997:93]. Прыгадаем, што акурат тады канчаецца прысутнасьць вікінгаў у Беларусі. З гэ-





тага можна зрабіць цалкам імаверную выснову: якраз у часе прысутнасьці вікінгаў у нашым краі адбыўся хуткі пераход ад прымітыву да выдатных тэхналёгіяў кавальскага мастацтва.

Узровень тэхналёгіі кавальскіх майстэрняў старажытнага Полацку, Друцку, Слуцку нашмат пераўзыходзіць адпаведны ўзровень XVIII ст.

Сярод невядомых раней новых тэхналёгіяў кавальства ў Беларусь у X–XII стст. прыйшлі:

– трохпалосная сыстэма зваркі,
– загартоўка, празь якую праходзіла да 90 адсоткаў (!) адказнай вытворчасьці,
– гарнавая пайка з выкарыстаньнем цьвёрдых прыпояў зь медзі,
– інкрустацыя,
– пакрыцьцё прыладаў з жалеза каляровымі й каштоўнымі мэталямі, выкарыстаньне складаных нікелевых флюсаў,
– мастацкая коўка [Gurin 1997].

У галіне ювэлірнага мастацтва трэба адзначыць новыя для таго часу тэхналёгіі, якія пазьней атрымалі назовы «зерньʼ», «чэрнь», «кручэньне», відавочна скандынаўскага паходжаньня. Вырабы гэтага кшталту зь Беларусі маюць простыя аналёгіі з скандынаўскім цэнтрам Усходняй Эўропы (Даўгмаля, Старая Ладага, Ноўгарад) і Швэцыі (Упсола, Сігтуна, Бірка, Готлянд).

Зазначу, што кавальскія й ювэлірныя вырабы зь местаў Полацкага княства моцна розьняцца ад знаходак, напрыклад, старажытнага Берасьця, дзе вараскіх сялібаў блізу не было.

З XIII ст. у Беларусі пачаўся моцны заняпад кавальства, які ня быў пераадолены нават да XVIII ст. (!).

Факты сьведчаць, што, напрыклад, у XVIII ст. толькі 15% кавальскіх вырабаў Беларусі праходзілі высокатэхналягічную хіміятэрмічную загартоўку, тымчасам у X–XII стст. гэты адсотак сягаў да 90 [Gurin 1997]. Пацьверджаньне нашае думкі можна знайсьці ў беларускім фальклёры. Згодна зь легендай «Заклятае возера», замежныя госьці, якія прыплылі на сваіх караблёх па Дняпры (!), навучылі тутэйшы люд здабываць руду й займацца кавальствам [Batskau dar 1985:217–219].

Што да ювэлірнага мастацтва, дык ягоны заняпад, які пачынаецца ў XIII ст., спыняецца толькі ў XVI ст. Выпадкова гэткія зьявы ў гісторыі не адбываюцца. Верагодна, менавіта з адыходам скандынаваў з абшараў Беларусі ў пачатку XIII ст. адбываецца натуральны заняпад кавальства

й ювэлірнага мастацтва. Імітацыя скандынаўскіх вырабаў славянскімі майстрамі, бязь веданьня таямніцаў рамяства, вынікаў, відаць, не дала. У савецкай гістарыяграфіі гэты заняпад тлумачыўся татара-мангольскай навалай XIII ст. Але Беларусь яе не зазнала! Адсутнасьць вараскага сьледу тлумачыцца ціскам савецкае, вялікадзяржаўнае ідэалёгіі на навуку, так званым «страхам» перад «нарманскай канцэпцыяй» гісторыі Старажытнай Русі, панаваньнем замшэлых вульгарна-марксісцкіх догмаў, калі дасьледнік быў запраграмаваны на пошук нейкіх «аб’ектыўных», разумей – унутраных, – прычынаў разьвіцьця. Між тым культура кожнага народу ніколі ня ёсьць замкнёнай сыстэмаю й жыве «на ўздыху».

Такім чынам, скандынаўскі (старашвэдзкі) этнакультурны ўплыў быў моцны на землях старажытнай Беларусі. Пра гэта сьведчаць зьвесткі наратыўных крыніцаў, археалёгіі, этналёгіі, тапанімікі, лінгвістыкі, анамастыкі. Аналягічны ўплыў мелі вікінгі на старажытную Ангельшчыну. Данскія вікінгі прынесьлі туды сваю мову, элемэнты культуры, собскі праўны лад (згадаем пра збор законаў канца X ст. з Дэйнло (Danelaw – абсяг данскага права). Тут з 866 г. існавала скандынаўскае каралеўства з сталіцаю ў сучасным ангельскім месьце Ёрк (York), скандынаўская назва якога гучыць як Ёрвік (Jorvick). Сёньня ў Ёрвіку месьціцца найбуйнейшы музэй і цэнтар вывучэньня вікінгаў у Заходняй Эўропе – Jorvick Viking Center. Чарга за Полацкам.



# 2. Раньні Новы час

## 2.1. Швэдзкае каралеўства й Вялікае Княства Літоўскае ў канцы XVI – пачатку XVIII ст.

У Новы час Швэцыя сягнула як маладая незалежная дзяржава паўночнай Эўропы. У выніку нацыянальнага паўстаньня супраць Даніі (1521–1523) на чале з простым шляхціцам Густавам Васам Швэцыя канчаткова аслабанілася ад данскага прыгнёту. У 1523 годзе Густаў Эрыксан Васа (Gustav Eriksson Vasa) быў абраны каралём Швэцыі. За часы ягонага ўрадаваньня (1523–1560) Швэцыя перажыла й прыняла Рэфармацыю, вырашыла шэраг эканамічных ды палітычных праблемаў.

Спадкаемцы Густава Васы на швэдзкім стальцы пры падтрымцы эліты грамадзтва паставілі амбіцыйную мэту: кантраляваць увесь балтыцкі міжнародны гандаль, зрабіць балтыцкае мора ўнутраным «швэдзкім возерам» (mare clausum) ды пераўтварыць Швэцыю ў дзяржаву нумар адзін на поўначы Эўропы. Перашкодаю швэдзкай палітыкі дамінаваньня ў Балтыцы (Dominium maris Baltici) былі дзяржавы-канкурэнты: перадусім Данія, ды таксама Рэч Паспалітая й Расея.

Яшчэ ў 1561 годзе пры каралю Эрыку XIV Васу (Erik XIV Vasa) Швэцыя падбівае Эстонію (Estland). Падчас кіраваньня Густава II Адольфа Васы (Gustav II Adolf Vasa) у 1611–1632 гг. Швэцыя робіць рашучы крок да панаваньня ў Балтыцы. У 1617 годзе па Сталбоўскай дамове да Швэцыі ад Маскоўшчыны адыходзіць Інгерманляндыя (Ingermanland) і Карэлія (Keksholm län). Паводле дамовы, укладзенай у 1629 годзе ў Альтмарку, да Швэцыі ад Рэчы Паспалітай адыходзіць большая частка Лівоніі (Livland). Згодна з Вэстфальскай дамовай 1648 г. Швэцыя атрымала Памэранію (Pommeran) і арцыбіскупства Брэмэн (Bremen). Паводле Кейданскай уніі 1655 г. да Швэцыі часова адыходзіць Вялікае Княства Літоўскае (Беларусь і Летува). Паводле дамовы з Даніяй 1658 г. Швэцыя атрымала шэраг скандынаўскіх правінцыяў: Сконе (Skåne), Блякінге




*25. Швэдзкая дзяржава 1660 г.*








*26. Стакгольм часоў магутнай Швэдзкай імпэрыі. Гравюра 1669 г.*

(Blekinge), Галянд (Halland), Богуслэн (Bohuslän) і Трондгейм (Trondheim). Такім чынам, у сярэдзіне XVII ст. Швэцыя зьдзейсьніла свае палітычныя амбіцыі, зрабіўшыся наймагутнейшай дзяржавай на поўначы Эўропы. Балтыцкае мора ператварылася ўва ўнутранае швэдзкае возера [Weibull 1998:42–50].

«Stormaktstiden», «пара магутнага гаспадарства» – такі назоў атрымаў у швэдзкай гісторыі пэрыяд 1611–1718 гг. Дарэчы, гэтая ўнікальная зьява ў гісторыі Эўропы Новага часу, калі невялікая па колькасьці насельніцтва дзяржава здолела падбіць шэраг краінаў Эўропы. Каб утрымаць сытуацыю пад кантролем, Швэцыі ўвесь час былі патрэбны агромністыя вайсковыя й эканамічныя рэсурсы. Ужо за часоў Густава II Адольфа швэдзкае войска, бальшыню якога складалі свабодныя сяляне, лічылася найлепшым у Эўропе. Рудні Далярны (Dalarna) забясьпечвалі краіну срэбрам і медзяй. Кантроль над балтыцкімі партамі спрыяў росквіту швэдзкага гандлю.

У адрозьненьне ад суседзяў для Швэцыі сярэдзіны XVII – пачатку XVIII ст. была характэрная моцная каралеўская ўлада, якая кантралявала магнатаў. Каб спыніць анархію арыстакратыі, Швэцыя правяла так зва-




27. *Заходняя Беларусь на мапе Олаўса Магнуса 1539 г. Вэнэцыя. З арыгіналу ўнівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсолы (Carolina Rediviva).*

ную «рэдукцыю земляў», згодна зь якой усе маёнткі, раздадзеныя каралём перад тым фэадалам, вярталіся ўва ўласнасьць дзяржавы.

Швэдзкае каралеўства XVII – пачатку XVIII ст. было шматэтнічнаю і шматканфэсійнаю дзяржавай. Жыхары Швэцыі гаварылі на швэдзкай, нямецкай, данскай, фінскай, карэльскай, эстонскай, латыскай, расейскай мовах, належалі да лютэранскай і праваслаўнай царквы (карэлы й расейцы). Палову тагачаснага швэдзкага войска складалі няшвэды. Але з гледзішча рэлігіі Швэцыя, у адмену ад Рэчы Паспалітай, уяўляла амаль суцэльны (да 98% насельніцтва) лютэранскі абшар. У тагачаснай Эўропе Швэцыю называлі «лютэранскай Гішпаніяй». Найбуйнейшым местам тагачаснай Швэцыі была Рыга, якая акумулявала ўвесь гандаль усходніх правінцыяў Швэцыі ды таксама ВКЛ. У месьце існавала сталая калёнія беларускіх купцоў праваслаўнага паходжаньня. Менавіта таму лютэранская Рыга сталася пунктам паломніцтва праваслаўных манахаў. Напрыклад, у грамаце япіскапа магілёўскага Серапіёна Палхоўскага (1699) чытаем: *«...яко двух монастырей Полацкого Богоявленского и Витебского Марковского братия з послушаньем винны суть ради розширенья хвалы Божией и нравоучения и утверждения в вере православной знайдуючихся церкве сынов до града славного Рыги, в королевстве Шведском обретающегося каждого року ездити и тамо православных наставляти и учити вере...»*







28. *Віленскі збор – катэдра беларуска-летувіскіх пратэстантаў. Малюнак менскага шляхціца Яна Цадроўскага. 1682. Певень на вежы – сымбаль лютэранскай і кальвінісцкай цэркваў.*

Параза швэдаў пад Палтаваю (28 чэрвеня 1709 г.) ды пагібель Карла XII (30 лістапада 1718 г.) ля нарвэскай фартэцыі Фрэдрыкшальд (Fredrikshald) паклала канец панаваньню швэдаў на поўначы Эўропы. Згодна з швэдзкімі гісторыкамі Карл XII, хутчэй за ўсё, загінуў ад здрадніцкай швэдзкай кулі ў выніку змовы швэдзкай арыстакратыі, ачоленай сястрой караля Ўльрыкай Элеанорай (Ulrika Eleonora) [Johansson 2001: 125].

Паводле замірэньня з Расеяй, укладзенага ў месьце Нюстад (Nystad, сёньня Uusikaupunki, Фінляндыя) у 1721 годзе, Швэцыя страціла ўсе ўсходнебалтыцкія правінцыі й паўночна-ўсходнюю частку Фінляндыі. Краіна на доўгі час адмовілася ад актыўнай усходняй палітыкі й зноўператварылася ў невялікую дзяржаву.

У адрозьненьне ад Швэцыі Вялікае Княства Літоўскае пры канцы XVI ст. канчальна страціла незалежнасьць і, ня могучы весьці собскую вонкавую палітыку, зазнала ў XVII – пачатку XVIII ст. шэраг страшэнных паразаў. Росквіт Княства прыпадае на пачатак – сярэдзіну XVI ст. – так званы *«залаты век»*. Нагадаю, што ў той самы час Швэцыя, пазбаўленая незалежнасьці, была пад данскім палітычным й эканамічным уплывам.

Палітычная (беларуска-летувіская) эліта Княства XVI ст., каб перадолець уплывы каталіцкай Польшчы і праваслаўнай Маскоўшчыны, для ўмацаваньня адметнай палітычнай сьведамасьці жыхароў сваёй краіны зрабіла стаўку на Рэфармацыю. У 1523–1546 гг. лекцыі Марці-

на Лютэра ўва ўнівэрсытэце Вітэнбэргу (Wittenberg) праслухалі 20 студэнтаў-арыстакратаў з ВКЛ. Потым ролю інтэлектуальнага асяродку для прапаганды пратэстанцкага веравучэньня беларускім студэнтам выконваў унівэрсытэт Караляўца/Königsberg [Mallek 1990:179]. У 1553 годзе ў Берасьці Мікалай Радзівіл Чорны (1515–1565) засноўвае першы пратэстанцкі збор. У 1562 годзе Сымон Будны ды памочнікі выдаюць у Нясьвіжы па-беларуску лютэранскі катэхізыс і тэалягічны трактат «Апраўданьне грэшнага чалавека перад Богам», першыя надрукаваныя на абшарах сучаснай Беларусі беларускамоўная кнігі. У прадмове да катэхізысу Сымон Будны заклікае фундатараў Мікалая Радзівіла Чорнага й Мікалая Радзівіла Рудога, як і ўсіх іншых магнатаў Княства, вывучаючы чужыя мовы, падтрымаць старабеларускую мову, дзяржаўную мову ВКЛ: *«..абы ся вашы княжацкія міласьці ня толька ў чужаземскіх языцах кахалі, але бы ся [...] і таго здаўна слаўнага языка славенскага разьмілаваці і оным ся бавіці рачылі. Слушная бо рэч ест, абы вашы княжацкія міласьці таго народу язык мілаваці рачылі, у каторам даўныя прэдкі і іх княжацкія міласьці панове атцы вашых княжацкіх міласьцей слаўне прэднейшыя прэлажэньства нясуць»* [Pradmovy 1991:25].

У 1563 годзе ў Берасьці выдаецца поўны пераклад пратэстанцкай вэрсіі Бібліі. У фондах Расейскай Нацыянальнай бібліятэкі Пецярбургу (фонд Яворскага № 22) захавалася прыгожая рукапісная кніжка ліцьвінскіх кальвіністаў, напісаная ў XVI ст. на беларускай мове. У 1580 годзе ў збудаванай на ўласныя сродкі друкарні полацкі пратэстант Васіль Цяпінскі ўпершыню выдае па-беларуску Новы Запавет, дадаўшы таксама да выданьня прадмову, каб *«у сваём языку [...] школы залажыці і навуку слова божага [...] выдзьвігнуці [...] яко то [...] у нам недалёкіх влохаў, немцаў, палякаў, французаў, ганглікаў, гішпанаў, а коратка мовечы, над усіх на сьвеце хрысьціянскіх народаў [...] і па ўсех цэрквах сэрбскіх, маскоўскіх, валоскіх, булгарскіх, харвацкіх і іных чтут, уважалі»* [Pradmovy 1991:35–36].

За дзесяць гадоў (1553–1563) у ВКЛ узьнікае каля 200 пратэстанцкіх парафіяў [Pachkaeu http://www.cus.cam.ac.uk/~np214/reform.htm; Klaczowski 1994:153–164]!

Апроч шляхты, парафіянамі пратэстанцкіх збораў робяцца заможныя беларускія купцы Вільні, Полацку, Віцебску, Магілёву. Віленская парафія нават вяла ліставаньне з Жанам Кальвінам. Напярэдадні Люблінскай уніі з Польшчай (1569) Княства з гледзішча палітычнай эліты зрабілася пратэстанцкаю краінай. З 28 паноў-рады сойму ВКЛ 17 былі пратэстанты, 9 праваслаўных і толькі 2 каталікі [Ivanova 1997:54–72].

Пратэстанты займалі амаль усе ўплывовыя пасады ВКЛ: вялікіх гетманаў, канцлера, ваяводаў Вільні, Трокаў, Наваградку, Менску, Віцебску, Імсьціславу. Да пратэстанцкай веры належалі радзіны Радзівілаў, - Сапегаў, Друцкіх-Сакалінскіх, Глябовічаў, Валовічаў, Кішкаў-Цеханавецкіх ды іншых. Нават каталіцкі біскуп кіеўскі Мікалай Пац перакінуўся ў эвангелікі.

Для гэтага пэрыяду характэрны хаўрус паміж пратэстантамі й праваслаўнымі элітамі Княства. Гэты хаўрус быў ня толькі натуральным, але й неабходным. Мэтай яго была абарона незалежнасьці ВКЛ й яго традыцыяў рэлігійнай талеранцыі. Да таго ж паміж пратэстантамі й праваслаўнымі ўсталяваліся моцныя сваяцкія дачыненьні [Padokshyn 2000: 62–64]. Напрыклад, ваявода менскі кальвініст Ян Абрамовіч быў жанаты з праваслаўнай Ганнай Валовіч. Праваслаўна-пратэстанцкімі былі радзіны Хадкевічаў, Нарушэвічаў, Мірскіх ды іншыя.

Пад ціскам пратэстанцка-праваслаўнага стану ВКЛ кароль Жыгімонт Аўгуст, прызнаючы, што паміж Польшчаю й Літвою «рознасьць паўстала», вымушаны быў надаць шляхце ВКЛ прывілей. Згодна з гэтым пісаным па-беларуску прывілеем некаталіцкая шляхта канчаткова ўроўнівалася ўва ўсіх правох з каталікамі [Monumenta Reformationis 1911:14–16]. За год да гэтага ВКЛ зьдзейсьніла апошні буйны пасьпяховы прарыў у самастойнай вонкавай палітыцы. У 1562–1566 гг. да ВКЛ згодна з Вэндэнскай уніяй далучана Лівонія [Charopka 1994: 67–73].

Палітычнае панаваньне пратэстантаў у ВКЛ не азначала прыгнёту каталікоў. Пра гэта хораша напісаў старабеларускі пісьменьнік, кальвініст, сын праваслаўнага турава-пінскага ўладыкі (!) Хведар Еўлашоўскі (1564–1604). Назваўшы стагодзьдзе талеранцыі «залатым векам», ён прыгадаў у сваім дзёньніку як доказ наступны выпадак з гісторыі дачыненьняў паміж канфэсіямі ВКЛ: *«...на он час рознасьць веры не чыніла наймнейшай рознасьці прыяцелскай, для чаго самага тамтат век залатым мі се выдаў од нынейшага веку, гдзе юж і межы адной веры людзьмі аблуда ўсе аступіла, а пагатовю межы рознымі веры ані се пытай а міласьць, шчырасьць і праўдзіве добрэ захаване, а навенцэй межы сьвецкімі станы. Помню бовем і нядаўно прэшлых часоў, кагды дзісейшы папеж Клемэнс яшчэ кардыналам быў у караля яго міласьці Стэфана ў Вільні, сядзілем у столу*




*29. Вялікая дзяржаўная пячатка Швэдзкага каралеўства часоў Жыгімонта III Васы з выявай Пагоні. Дзяржаўны архіў Швэцыі (Riksarkivet). Фота К.Эрыксана (K.Eriksson).*

*кнезя Балтрамея Недзьвіцкага, каноніка віленскага, з прэднейшымі слугамі (влохамі) яго, тые жэ се гды давядзелі, жэм эвангелік, дзівавались барзо, яко ме сьмеў кнезь канонік на абед свой узываці, а гды ім он прэлажэыў, жэ ў нас з таго жадна нянавісьць ня быва і мілуемосе яко з добрымі прыятылы, хвалілі то влохі, мовечы, жэ ту Бог жыве; а ганілі свої дамовы права...»* [Nadson 1968:284–285]. Сытуацыя, калі каталіцкі сьвятар на нараду з паслямі Ватыкану запрашае «герэтыка»-кальвініста, была ўнікальная ў тагачаснай Эўропе. Невыпадкова італьянцы сьцьвердзілі пра Вялікую Літву: «жэ ту Бог жыве». Як заўважыў Х.Еўлашоўскі, сытуацыя хутка пагоршылася пры канцы XVI – пачатку XVII ст., г.зн. адразу (!) пасьля Люблінскай уніі з Польшчай 1569 г.

Самабытны шлях разьвіцьця Княства спыніла Полацкая вайна. У 1563 годзе войскі Івана Жахлівага захапілі другое па значнасьці места Вялікага Княства – Полацак. Ня маючы моцы весьці вайну з Маскоўшчынай адзінцом, ВКЛ зьвярнулася па дапамогу да Польшчы. Акурат у 1563 годзе пачаліся перамовы аб злучэньні ВКЛ і Польшчы ў адну дзяржаву. Нягледзячы на прынцыповыя супярэчнасьці, у 1569 годзе была падпісаная Люблінская унія. Вялікае Княства Літоўскае пазбаўлялася незалежнасьці (захоўваючы аўтаномію), самастойнай вонкавай палітыкі, губляла вялізныя тэрыторыі: этнічна мяшанае, беларуска-ўкраінскае Падляшша, украінскую Валынь, Брацлаўскае й Кіеўскае ваяводзтвы. Але найгоршым вынікам уніі сталася палітычнае дамінаваньне ў ВКЛ Польшчы. Пасьля уніі польскія палітычныя эліты ўсяляк стараліся зрабіць з шляхты Вялікай Літвы «палітычных палякаў», упаасобку прышчапіць пратэстанцка-праваслаўным элітам ВКЛ традыцыі польскага палітычнага мысьленьня. Асноўнаю мэтай польскай эліты было стварэньне адзінага палітычнага (шляхоцкага) народу ў межах шматэтнічнай Рэчы Паспалітай. Але гэтая палітыка сутыкнулася з супрацівам шэрагу рэгіянальных некаталіцкіх элітаў (ВКЛ, Украіна, Прусія, Інфлянты), вынікам якога сталіся разбуральныя ўнутраныя канфлікты й войны XVII ст. [Gaunt 2001:265,277]. Контрарэфармацыя, Берасьцейская унія 1596 г., сеціва езуіцкіх навучальных установаў, распальваньне рэлігійнай варожнечы паміж каталікамі й некаталікамі – усе гэтыя падзеі зь літоўскай гісторыі XVII–XVIII стст. прадыктаваныя палянізацыйнай палітыкай Варшавы. Адчуваючы небясьпеку, літоўская шляхта дамаглася ў 1573 годзе ўхвалы Варшаўскай канфэдэрацыі, якая гарантавала свабоду сумленьня жыхарам Рэчы Паспалітай. Гэтая норма пасьля была пацьверджаная ў Літоўскім Статуце 1588 г.

Адразу па Люблінскай уніі дзеля дасягненьня пасьпяховай кар'еры робяцца каталікамі шэраг уплывовых дзеячоў ВКЛ: Леў Сапега, ваявода віцебскі Стэфан Збараскі, староста жмудзкі Ян Хадкевіч [Monumenta Reformationis 1911]. У XVII–XVIII стст. гэты працэс выкліча незваротныя наступствы. З кальвіністаў паходзілі два галоўныя творцы ўніяцкае царквы – біскупы Іпаці Пацей і Язэп Руцкі.

Па Берасьцейскай уніі 1596 г. праваслаўная царква ў ВКЛ засталася па-за законам. Толькі высілкі праваслаўнай шляхты й купецтва ў хаўрусе з пратэстантамі здолелі часткова вярнуць ёй у 1632 годзе легальны статус. Згодна з палітыкай Варшавы, пратэстанты й праваслаўныя абвяшчаліся герэтыкамі, «дызунітамі» й «схізматыкамі». У 1574 годзе каталікі нападаюць на Віленскі збор, у 1611 годзе ён будзе спалены групай

студэнтаў Віленскай акадэміі [Monumenta Reformationis 1911: 83]. У 1638 годзе чыніцца напад на Полацкі кальвініцкі збор [Tazbir 1957:249]. У 1638 годзе натоўп каталікоў разбурае кальвініцкі збор і праваслаўную царкву ў Наваградку [Arkhiu uniyatskikh mitrapalitau 1999:47]. Па ўсёй краіне да 1632 г. стаяць зачыненыя праваслаўныя цэрквы. У адрозьненьне ад каталіцкай і ўніяцкай шляхты праваслаўнай і пратэстанцкай шляхце максымальна ўскладняецца дзяржаўная кар'ера. Пры канцы ўрадаваньня каталіка-шведа караля Жыгімонта Васы сярод сэнатараў Вялікага Княства Літоўскага не застаецца ніводнага (!) пратэстанта альбо праваслаўнага [Lulewicz 1977].

У гэтых умовах частка палітычнай эліты ВКЛ (збольшага пратэстанцкага й праваслаўнага паходжаньня) хінецца да супрацоўніцтва з «трэцяй сілай» – Швэдзкім каралеўствам, якое ў канцы XVI ст. пачынае межаваць зь Вялікай Літвой.

## 2.2. ВКЛ і Швэцыя ў 1600–1629 гг.: бітва за Інфлянты

Року 1601. Вялікая вайна была ў Віфляντах з кролем швэдзкім за Жыкгімонта Трэцяга.
БАРКУЛАБАЎСКАЯ ХРОНІКА

Унія 1562–1566 гг. зь Лівоніяй, укладзеная ў месьце Вэндэн (сёньня Cēsis, Латвія), была апошнім буйным палітычным посьпехам Вялікага Княства Літоўскага. Уваходжаньне Лівоніі ў склад ВКЛ цягнула за сабой шэраг выгадных наступстваў. Зноў, як і за часоў магутнага Полацкага княства, беларуска-летувіская дзяржава цалкам кантралявала водны шлях на Дзьвіне ад Рыгі да Віцебску. У мурох Кукейносу й Дзьвінску (Dünaburg, сёньня Daugavpils) атабарылася беларуска-летувіскае войска. Беларуская шляхта, перадусім Полацкага, Віцебскага й Імсьціслаўскага ваяводзтваў, месьцічы Полацку, Віцебску, Магілёву атрымалі просты канал для пранікненьня на рынкі Заходняй Эўропы. Нарэшце, ВКЛ займела ўласны порт на Балтыцы. Далучэньне Лівоніі да ВКЛ ліцьвіны разглядалі





як цалкам справядлівы, гістарычна абгрунтаваны крок, як перамогу літоўскай шляхты ў гістарычнай барацьбе зь нямецкім рыцарствам [Wiuk-Koialowicz 1669-2]. Зрэшты, упершыню ВКЛ і Швэцыя займелі супольную дзяржаўную мяжу, якая праходзіла на абшарах паўночнай Эстоніі, з 1561 г. швэдзкай правінцыі Эстлянд (Estland).



*30. Бітва войска ВКЛ на чале з гетманам Янам Каралём Хадкевічам і швэдзкага войска на чале з Карлам IX Васам пад Кіргольмам 27 верасьня 1605 г. Малюнак з францускага замку Сасэнаж (Sassenage).*

Аднак па Люблінскай уніі 1569 г. пасьля доўгіх спрэчак у асяродзьдзі ўладных элітаў Лівонія перайшла ў сумеснае валоданьне Літвы й Польшчы (1589), быў створаны так званы «кандамініюм». Прыбыткі зь Лівоніі павінны былі па чарзе надыходзіць да польскага й літоўскага скарбаў – адзін год у першы, у наступны – у другі. Пасьля страты Падляшша гэта была яшчэ адна саступка Вялікае Літвы перад Польшчаю.

Зацікаўленасьць суседняй Швэцыяй у справах ВКЛ узрасла пасьля 1587 г., калі швэдзкі прынц Жыгімонт Васа стаў вялікім князем літоўскім і каралём польскім. Па сьмерці бацькі Ёхана III/Johan III (1593) Жыгімонт атрымлівае й швэдзкую карону. Але палітыка каталіцкага караля з Варшавы выклікала незадавальненьне пратэстанцкай эліты Швэцыі. У 1595 годзе лідар апазыцыі, суродзіч Жыгімонта Васы Карл герцаг Сюдэрманлянду захоплівае ўладу ў Швэцыі і ў 1604 годзе абвяшчаецца швэдзкім каралём Карлам IX. Акурат гэтыя падзеі паклалі пачатак доўгатэрміноваму вайсковаму канфлікту паміж Рэчай Паспалітай і Швэцыяй, які атрымаў назоў «Бітва за Інфлянты» (Лівонію), альбо Першая Паўночная вайна.

Вайна была ініцыяваная Жыгімонтам Васам, які разглядаў правінцыю Эстлянд як сваю спадчыну, а Карла IX – як узурпатара швэдзкага стальца. Увосень 1600 г. нечаканым наступам швэдзкага войска на Лівонію пачалася вайна, якая трывала 30 гадоў (да 1629 г.) з трыма перапынкамі: 1611–1617, 1618–1621, 1622–1625. Вайна выявіла сур'ёзныя разыходжаньні між ВКЛ і Польшчай і прывяла ў 1627 годзе да першай сэпаратнай дамовы ВКЛ і Швэдзкага каралеўства.

У вайсковым пляне першы этап вайны 1600–1611 гг. быў пасьпяховы для ліцьвінаў. У 1601 годзе гетман польны кальвініст Крыштап Радзівіл Пярун атрымаў перамогу пад Кукейносам. 27(17) верасьня 1605 г. вялікі гетман Ян Кароль Хадкевіч бліскуча перамог Карла IX пад Рыгаю каля мястэчка Кіргольм (сёньня Salaspils, Латвія). Перамога беларускага магната з Быхава здабыла вялікі розгалас у Рэчы Паспалітай [4]. Адразу ж пасьля перамогі Ян Кароль Хадкевіч піша ліст да караля, які захаваўся ў архівах [Körner, Tumulynas 1994 №24]. У 1605–1606 гг. друкарня Віленскай акадэміі выдае шэраг кніг пра «шчасьлівае зваяваньне Карла Сюдэрмана», «славу шчасьлівага лёсу ў Інфлянтах дзеля мужнай дзейнасьці Вяльможнага Пана Яна Караля Хадкевіча, гетмана ВКЛ… на ўвесь сьвет вядомую». Сярод панэгірыстаў вылучым Крыштапа Завішу, Сымона Сласкага, Эразма Ржэтоўскага, Хрызастома Гасьнеўскага, Пятра Скаргу [Ivanovič 1998:199, 200, 569, 570, 623, 629]. Найбольш вядомы «антышвэдзкі» твор, прысьвечаны перамозе Яна Хадкевіча, напісаў швэд-каталік Лаўрэн Бойе (Laurencyus Boye/Laurentijus Boye), які стала жыў у Княстве. Лацінская паэма «Карламахія» (Carolomachia) была выдадзеная ў Вільні ў 1606 годзе [Index Librorum Latinorum Lituaniae 1998:106].

У 1610 годзе ў Вільні ў друкарні Яна Корцана выдаецца першая гісторыя гэтай вайны «De bello Livinico per decennium gesto». Невядомы аўтар хронікі, удзельнік Хадкевічавага паходу, які схаваўся пад псэўданімам «літоўскі рыцар» (Equitis Litvani), на 79 старонках падрабязна апавядае пра вайну з Швэцыяй.

Як кагадзе зазначана, першы этап вайны высьветліў сур'ёзныя разыходжаньні паміж ліцьвінамі й палякамі што да швэдзкага пытаньня [Tyla 1979]. Карона Польская імкнулася перакласьці ўвесь цяжар вайсковых выдаткаў на ВКЛ. У выніку ў Літве былі ўстаноўленыя надзвычай высокія падаткі, ад якіх цярпелі ўсе станы насельніцтва. За 1600–1611 гг. дзяржаўны скарб ВКЛ атрымаў 1 843,4 тыс. залатых, але на мэты вайны кіраўніцтва краіны вымушана было выдаткаваць 1 888,5 тыс. залатых [Tyla 1987:26]. З 1617 г. грашовае забесьпячэньне вайны з Швэцыяй, насуперак інтарэсам беларуска-летувіскай шляхты, стала выключным абавязкам ВКЛ. Шляхта, месьцічы, нават сяляне Літвы, асабліва яе ўсходніх ваяводзтваў, былі зацікаўлены ў гандлі з Швэцыяй, а не ў вайне зь ёй. Праз Рыгу

[4] Зь беларускім паходжаньнем Яна Караля Хадкевіча згаджаюцца нават сучасныя летувіскія гісторыкі, гл. упаасобку працы Генутэ Кіркіене.





йшлі пастаўкі ў Эўропу жыта, канопляў і лёну з шляхоцкіх фальваркаў Літвы. Вельмі важную ролю выконваў рыскі транзыт для гандлю купцоў з Полацку, Віцебску, Магілёва. Праз Рыгу яны збывалі жыта, лес, воск і атрымлівалі амаль увесь заходні імпарт. У Рызе існавала сталая грамада беларускіх купцоў пры царкве Сьв. Мікалая. У сваю чаргу, рыскія нямецкія купцы заснавалі спэцыяльную карпарацыю для гандлю зь Вялікім Княствам Літоўскім «Littawische Händler» [Doroshenko 1985].

Посьпехі швэдзкага войска ў бітве за Інфлянты абумовілі зьмены стаўленьня беларуска-летувіскай шляхты да вайны з Швэцыяй. Новы швэдзкі кароль (з 1611) Густаў II Адольф Вялікі (Gustav Magnus) тройчы (у 1617, 1621, 1625) перамог літоўскае войска ў Лівоніі. У 1621 годзе Густаў Адольф авалодаў Рыгаю й вусьцем Дзьвіны.

10 жніўня 1622 г. Крыштап II Радзівіл (з 1617 г. ён кіраваў войскам ВКЛ) і Якуб Понтус Дэ ла Гарды (Jacob De la Gardie, 1583–1652) падпісалі дамову ў Мітаве (сёньня Jelgava, Латвія), згодна зь якой Рыга заставалася за Швэцыяй (яе лацінскі тэкст захаваўся) [Körner, Tamulynas, 1994 №29]. 18 сьнежня 1621 г. ВКЛ і Швэцыя ў Рызе абмяняліся палоннымі. Пасьля 20-гадовага палону на радзіму з Швэцыі вярталіся дзясяткі беларускіх шляхціцаў. Захаваўся сьпіс палонных, складзены на нямецкай мове [Körner, Tamulynas, 1994 №26].

Посьпехі швэдзкага войска сталі магчымыя дзякуючы вайсковай рэформе Густава Вялікага. За яго часоў швэдзкае войска й флёт зрабіліся найдужшымі ў Эўропе. Швэдзкае войска ўвесь гэты час колькасьцю ўдвая-ўтрая пераўзыходзіла войска ВКЛ і Польшчы. Швэдзкі флёт рабіў рэйды па Дзьвіне ажно да Дзьвінску й кантраляваў гэты водны шлях. Само ж Вялікае Княства Літоўскае ўласнага флёту ня мела. Насельніцтва краіны ўсё больш цярпела ад непасільных падаткаў. Дзеля забароны ўвесь гандаль усходніх паветаў ВКЛ з Рыгаю быў паралізаваны. На канвакацыі (сойме) 1624 г. літоўская шляхта заявіла, што спыненьне гандлю з швэдзкай Рыгай – катастрофа для краіны. Усходнія ваяводзтвы «задыхнуліся бяз рыскага гандлю», «у местах і вёсках зьніклі соль, селядзец, іншыя неабходныя рэчы» [5]. Было пастаноўлена, што Літве патрэбны мір з швэдамі ды свабодны гандаль праз Рыгу, але не вайна [Tyla 1987:32; Dounar-Zapolski 1994:218–219].

[5] Рыга была асноўным пастаўнікам солі ў Беларусь. Захавалася народная прыказка: «Еду ў Рыгу па соль, па скрыгу».

Шляхта Полацкага й Віцебскага ваяводстваў сьцьвердзіла, што валей разарваць Люблінскую унію з Польшчай, чымся пагадзіцца на забарону гандлю з Эўропай праз Рыгу. Тады ж Крыштап II Радзівіл (лідар незалежніцкай пратэстанцка-праваслаўнай партыі Літвы) адкрыта заявіў Жыгімонту Васу пра неабходнасьць адмовіцца ад мары пра швэдзкі сталец [Augustyniak 2001:17].

Рэакцыя Польшчы была чаканай. Жыгімонт Васа зьняў Крыштапа Радзівіла з пасады кіраўніка войскаў ВКЛ. На вальным сойме Рэчы Паспалітай у Торуні палякі патрабавалі ад ліцьвінаў спыніць гандаль з Балтыкай (ня толькі праз Рыгу, але праз Кёнігсбэрг, Мэмэль–Клайпэду), пакуль ня скончыцца вайна з Швэцыяй. Літоўская шляхта адкінула гэтую прапанову як непрымальную. Жыгімонт Васа зрабіў заяву, што будзе выконваць пастановы вальнага сойму 1613 г. ды змагацца за швэдзкую карону да канца.

Між тым у 1625 годзе швэды распачалі новы наступ. 24 ліпеня 1624 г. падстараста Севярын Танскі здаў швэдам Кукейнос (швэдзкая назва Kockenhusen) – стратэгічную цьвердзь на Дзьвіне. 5 верасьня 1625 г. швэдзкія войскі ўпершыню атакавалі ўласна летувіскія землі й здабылі Біржы – горад, які абараняў поўнач ВКЛ. У гэтых умовах палітычная эліта Вялікага Княства пачынае рыхтаваць сэпаратны мір з Швэцыяй. У Біржах адбываецца таемная сустрэча гетмана ВКЛ, лідара літоўскіх пратэстантаў Крыштапа II Радзівіла й караля швэдзкага Густава II Адольфа Моцнага. Палітычная эліта Вялікага Княства падтрымлівае сэпаратнае пагадненьне з Швэцыяй. Зь вясны 1625 г. ваявода імсьціслаўскі Ян Скумін Тышкевіч падтрымліваў сталае ліставаньне з радаю Швэдзкага каралеўства. У Нацыянальным архіве Швэцыі захоўваецца ліставаньне Яна Сапегі да Густава Горна (Gustaf Horn, 1592–1657), падваяводы смаленскага Самойлы Друцкага-Сакалінскага да Германа Ўрангеля (Herman Wrangel, 1567–1643).

На таемнай нарадзе (сойміку рэляцыйным) 31 сьнежня 1626 г. сэнатары ВКЛ (канцлер і вялікі гетман (былы пратэстант) Леў Сапега, лідар кальвіністкай шляхты Крыштап II Радзівіл, лідар уніятаў Ян Скумін Тышкевіч, арыянін Мікалай Кішка, падскарбі літоўскі Крыштап Нарушэвіч, біскуп віленскі Яўстах Валовіч ды іншыя) прымаюць пастанову пайсьці на антыпольскі хаўрус з Швэцыяй...

У памежнае зь Лівоніяй мястэчка Балдэнмойжа (Baldenmuiže) была дасланая дэлегацыя, узначальвалі якую пратэстанты: вэндэнскі палкоўнік немец Мікалай Корф, стараста наваградзкі немец Вальтэр Плетэмбэрг, падкаморы дорпацкі беларус Гедэон Раецкі ды харужы смаленскі беларус Марцін Карлінскі.

Швэдзкі бок узначальвалі рыксмаршал, губэрнатар Эстлянду Якуб Дэ ла Гарды (Jakob De la Gardie) і камандуючы швэдзкім войскам у Лівоніі генэрал Густаў Горн (Gustaf Horn). Вынікам перамоваў было Балдэнмойжскае сакрэтнае пагадненьне ад 19 студзеня 1627 г. Згодна з дамовай вайсковыя дзеяньні паміж ВКЛ і Швэцыяй спыняліся. Швэды мусілі пакінуць Біржы. Гарантаваўся вольны гандаль праз Рыгу й абмен палоннымі. Абодва бакі выказалі гатоўнасьць паўплываць на польскага ды швэдзкага манархаў, каб схінуць іх да замірэньня [Wisner 2001: 266–277]. Швэдзкія перамоўнікі, Якуб Дэ ла Гарды й Густаў Горн, адстойвалі таксама інтарэсы рыскага купецтва і лівонскай шляхты, якія былі зацікаўленыя ў спыненьні вайны.

Мір паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Швэцыяй пазбаўляў юрыдычнай сілы Люблінскую унію ВКЛ з Польшчай 1569 г., бо згодна зь ёй Рэч Паспалітая мелася праводзіць адзіную вонкавую палітыку. Літоўска-швэдзкае замірэньне парушала таксама міжнародныя абавязкі Жыгімонта Васы – у прыватнасьці, абяцаньне, дадзенае ім габсбурскай Гішпаніі, ня весьці жадных перамоваў з Швэцыяй, тым больш падпісваць замірэньне [Tyla 1987:34]. Польская шляхта была абураная замірэньнем ВКЛ з Швэцыяй і аднаўленьнем вольнага гандлю праз Рыгу. Да прыкладу, польскія дэпутаты неўзабаве на вальным сойме пыталіся ў Лява Сапегі, «хто яму даў уладу, належную толькі Рэчы Паспалітай» [Wisner 2001:273:274]. Кашталян кракаўскі Ежы Збараскі ў лісьце да беларуска-летувіскіх паноў адзначыў, што *«пахне гэта парушэньнем уніі, якая злучыла абодва гаспадарствы»*.

Між тым сэпаратны мір з Швэцыяй ухваліла беларуска-летувіская шляхта [Тамсама]. Крыштап II Радзівіл наагул зрабіў сьмелую заяву пра тое, што дачыненьні Вялікага Княства Літоўскага з Швэцыяй – гэта выключна кампэтэнцыя ВКЛ, бо Карона Польская таксама не пытаецца Княства, укладаць ці не ўкладаць дамовы з суседнімі дзяржавамі наконт сваіх заходніх і паўночных межаў [Wisner 2001:274].

Балдэнмойжскую дамову можна разглядаць як генэральную рэпэтыцыю Кейданскай уніі ВКЛ з Швэцыяй – апошняй спробы аднаўленьня незалежнасьці дзяржавы, якую ў 1655 годзе зьдзейсьніла беларуска-летувіская шляхта на чале з сынам Крыштапа II Радзівіла – Янушам Радзівілам.

Неўзабаве пад націскам палітычнай эліты ВКЛ Жыгімонт Васа быў вымушаны спыніць вайсковыя дзеяньні ды пайсьці на пагадненьне з Швэцыяй. 26 верасьня 1629 г. Рэч Паспалітая й Швэцыя падпісалі мірную дамову ў прускім мястэчку Альтмарк (Altmark). Згодна з дамовай Лівонія (Livland) падзялялася на дзьве часткі: швэдзкія й польска-літоўскія Інфлянты. Дзяржаўная мяжа паміж Швэцыяй і ВКЛ да 1721 г. прайшла на поўдні сучаснай Латвіі, пакідаючы ў складзе ВКЛ каталіцкую Латгалію, дзе жыло беларускае насельніцтва [Apine 1995]. Нягледзячы на пратэсты ліцьвінаў, порт места Мэмэль (сёньня Клайпэда) пераходзіў да Швэцыі. Швэдзкая Рыга кантралявала ўвесь гандаль паміж усходнімі паветамі ВКЛ і балтыцкімі краінамі. Пачаўся кароткі (да 1654–1655 гг.) мірны пэрыяд дачыненьняў паміж ВКЛ і Швэцыяй.

Такім чынам, Першая Паўночная вайна выявіла прынцыповыя разыходжаньні інтарэсаў Польшчы і ВКЛ, а таксама выпуклілa прашвэдзкую арыентацыю часткі эліты ВКЛ. З працяглага ваеннага канфлікту беларуска-летувіская дзяржава выйшла паважна аслабелай, не гатовай да маскоўскай навалы 1654 г.

## 2.3. Кейданская унія 1655 г. паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Швэцыяй

Галоўныя ініцыятары уніі з Швэцыяй 1655 г. вялікі гетман Януш Радзівіл (1612–1655) і ягоны стрый, князь слуцкі, канюшы ВКЛ Багуслаў Радзівіл (1620–1669) былі ліцьвінамі, людзьмі, выхаванымі абедзьвюма мясцовымі традыцыямі: беларускай і летувіскай, патронамі якіх яны, дарэчы, і зьяўляліся.

Януш Радзівіл ведаў летувіскую мову, бо нарадзіўся ў Кейданах/Kėdainiai на Жамойці, фундаваў летувіскі друк, між іншым, першы кальвініцкі катэхізіс, выдадзены па-летувіску ў 1653 годзе ў Кейданах. Дзеля рэгіянальнага значэньня летувіскай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім Януш Радзівіл часам карыстаўся ёю як сакрэтнай. Да прыкладу, калі ў 1651 годзе Януш апынуўся ўва Ўкраіне, літоўская шляхта дасылала вялікаму гетману лісты, пісаныя па-летувіску, каб не перахапілі ды не прачыталі казакі [Wisner 2000:236]. Але лучнасьць Януша Радзівіла зь беларускай культурай, якая тады вызначала культурную адметнасьць Вялікага Княства Літоўскага, была прынамсі ня меншай. Змалку Януш бавіў час у беларускіх Далятычах (ля Навагрудку) і Орлі. Хатнім настаўнікам Януша быў славуты Салямон Рысінскі, пісьменьнік і вучоны зь віцебскіх Кабыльнікаў, які першым падпісваў свае творы «Беларус» (Leukorusus). У Вільні адным зь ягоных настаўнікаў быў швэд Лаўрэн Горн (Laurentius Horn). У 1624–1628 гг. Я.Радзівіл вучыўся ў Слуцкай пратэстанцкай гімназіі, дзе настаўнікамі яго былі Андрэй Дабранскі, Паўла Дземятровіч ды Ян Стэткевіч. Слуцак Янушу спадабаўся, і ён нават падпісваў лісты з Слуцку «Sluck, ex custris Musarum» (Слуцак – сядзіба Музаў). Я.Радзівіл выдатна ведаў беларускую мову, дзяржаўную мову ВКЛ, мову трыбуналу (шляхоцкага суду), мову насельніцтва большай часткі гістарычнай Літвы. Вядома, што Я.Радзівіл быў чытачом бібліятэкі Супрасьльскага праваслаўнага манастыра. Паплечнікамі Я.Радзівіла былі беларускія шляхціцы-дысыдэнты (кальвіністы й праваслаўныя) Гедэон Раецкі, Мікалай Абрамовіч, Рыгор Мірскі ды іншыя. Якраз для праваслаўнай беларускай шляхты Радзівіл збудаваў у 1652 годзе ў жамойцкіх Кейданах царквуПератварэньня Гасподняга.

Можна сьмела казаць, што кальвіністы Януш ды Багуслаў Радзівілы былі найбуйнейшымі фундатарамі праваслаўнай царквы й беларускай культуры першай паловы – сярэдзіны XVII ст. У 1654 годзе яны заснавалі пратэстанцкую сэмінарыю ў Заблудаве, на якую Януш Радзівіл адпісаў 10 000 злотых, а Багуслаў – 6 000 злотых. Таксама былі пляны адчыніць там жа школу для *«дзетак веры праваслаўнай грэцкай з мовамі рускай і лацінскай»*. У 1655 годзе ў Заблудаве Янушам Радзівілам быў уфундаваны праваслаўны манастыр. Шлюб у 1643 годзе з Марыяй Лупу, дачкою праваслаўнага малдаўскага гаспадара Васіля Лупу (Vasil Lupu), зрабіў Януша Радзівіла ў вачох праваслаўных жыхароў Літвы галоўным абаронькам свае веры. Вянчаньне адправіў 5 лютага 1643 г. у кіеўскім катэдральным саборы мітрапаліт Пётра Магіла. Казаньне пад назваю *«Мова духоўная з нагоды шлюбу Януша Радзівіла»* выйшла з друку па-беларуску ў 1645 годзе. Маршалкамі на вясельле былі запрошаныя праваслаўны беларус Рыгор Мірскі й арыянін летувіс Ян Мяржынскі. У 1653 годзе, нягледзячы на ціск каталікоў, Януш Радзівіл дамогся перадачы праваслаўнаму брацтву Вільні трох цэркваў. Віленскія беларускія купцы шчыра аддзячылі гетману. Найперш яны дапамаглі Радзівілам

праз сваіх партнэраў з Рыгі ўстанавіць кантакты з Швэцыяй. Па-другое, падчас перамоваў з Швэцыяй пазычылі Янушу Радзівілу 14 000 злотых [Wisner 2000:197]. У 1653 годзе Януш Радзівіл стаў галоўным патронам Полацкага кальвінісцкага збору. У беларускай Любчы была «Кунсткамэра» – музэй Радзівілаў з каштоўнай калекцыяй. У 1647 годзе Януш Радзівіл выдаў статут Любчы «Puncta miastu Lubeckiemu». Постаць Януша Радзівіла ўвайшла ў беларускі фальклёр як гераічная [Wisner 2000:145].

Зь іншых важных рысаў падкрэсьлім выразны антыпольскі кірунак палітыкі Януша Радзівіла. Яму належаць гістарычныя словы, прамоўленыя ў 1636 годзе: *«Прыйдзе час, і мы палякаў праз вокны выкідваць будзем»*[6]. Прычынай гэтай рэплікі быў санкцыянаваны дзяржавай гвалт над пратэстантамі й праваслаўнымі Рэчы Паспалітай, умяшаньне Кароны Польскай у справы Вялікага Княства Літоўскага, акаталічваньне шляхоцкай нацыі ВКЛ.

Палітыку збліжэньня Вялікага Княства Літоўскага з Швэцыяй распачаў яшчэ Крыштап II Радзівіл, бацька Януша ды дзядзька Багуслава Радзівіла. Ён патайно сустракаўся з каралём Швэцыі Густавам Адольфам II (Gustav II Adolf, 1594–1632) у 1626 годзе ў Біржах. Працягам гэтых перамоваў была сэпаратная дамова ВКЛ з Швэцыяй у мястэчку Балдэнмойжа на пачатку 1627 г. Невыпадкова пасьля гэтай дамовы стараста жамойцкі каталік Юры Валовіч публічна зьвінаваў літоўскіх пратэстантаў у намеры далучыць сваю краіну да Швэцыі [Kriegseisen 1996:171].

У адрозьненьне ад Януша Багуслаў Радзівіл, князь слуцкі, тыповы эўрапейскі арыстакрат. Нарадзіўся ён у Данцыгу, дзе быў ахрышчаны ў лютэранскім зборы. Багуслаў меў нямецкія, беларускія ды летувіскія карані. Ягонай маткай была Элізабэт Гогенцолерн (Elizabeth Sofia Hohenzollern). Швэдзкі кароль Карл X Густаў (Carl X Gustaf, 1622–1660), вялікі электар Брандэнбургу й Прусіі Фрыдрык Вільгельм (Friedrich Wilhelm), францускі кароль Луі XIII (Louis XIII) былі ягонымі суродзічамі. Нягледзячы на гэта, Багуслаў Радзівіл ніколі не атрымаў пасаду сэнатара ВКЛ, бо быў зацятым пратэстантам, тымчасам як кароль Ян Казімер (былы езуіцкі біскуп) прызначаў на такія пасады перадусім каталікоў. Багуслаў Радзівіл быў галоўным фундатарам праваслаўнай і пратэстанцкай цэркваў у Беларусі. У часе, калі праваслаўная царква ў Беларусі

[6] Януш Радзівіл, відаць, прыгадаў, як у 1618 годзе чэхі-пратэстанты павыкідалі нямецкіх намесьнікаў-каталікоў з вокнаў Праскага граду.





апынулася па-за законам (1596–1632) і ў краіне трыюмфавала каталіцтва (у заходнім ды ўсходнім абрадах), Слуцкае княства, якое належала Багуславу, захавала ўсю праваслаўную герархію й цэрквы. У Слуцку не было ніводнай грэка-каталіцкай бажніцы, але мірна суіснавалі 14 праваслаўных, 2 кальвінісцкія, 1 лютэранскі храмы й 5 сынагогаў. Багуслаў Радзівіл быў галоўным фундатарам Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, праваслаўнай школы, брацтва, дзьвюх бальніцаў [Digiel 2000].

Ужо ў 1650 годзе Януш Радзівіл адкрыта выказваўся за паляпшэньне стасункаў з Швэцыяй, што праз авантурызм караля Яна Казімера, які марыў стаць швэдзкім каралём, былі ў найгоршым стане. Цікава, што ў 1650-х гадох для «Кунсткамэры» ў Любчы Януш Радзівіл замовіў партрэты швэдзкіх манархаў – каралевы Крысьціны (Kristina, 1626–1689) і Карла X Густава.

Януш Радзівіл пасьлядоўны прыхільнік рэлігійнай талеранцыі. Яго вабіла таксама ідэя стварэньня адзінай пратэстанцкай царквы ВКЛ, якая б улучыла кальвіністаў, лютэранаў, арыянаў. Гэтай тэме была прысьвечаная сёньня забытая кніга Януша Радзівіла «Ad epistolam Synodi Warsawiensis… ad eosdem dissidentes eodem in negotio diploma Ordinum evangelicorum responsio», выдадзеная ў Лёндане ў 1645 годзе. Гэтую кнігу меў ува ўласным кнігазборы Карл X Густаў, які быў таксама прыхільнікам паяднаньня ўсіх пратэстантаў.

Імя Януша Радзівіла было добра вядомае ў Эўропе як галоўнага абаронніка пратэстантаў у Рэчы Паспалітай. Кальвініст Януш Радзівіл фундаваў лютэранскія парафіі ў Венграве, Біржах, Кейданах. У 1653 годзе ён заўважыў, *«што калі лютэранаў у Польшчы ня будзе, дык і свабоды ня будзе»*. Добрыя дачыненьні мелі ў Літве пратэстанты ды праваслаўныя. Ад пачатку Контрарэфармацыі ў Рэчы Паспалітай праваслаўныя й пратэстанты тварылі на шляхоцкіх сойміках супольны фронт. У 1599 годзе паўстала Віленская дэклярацыя – палітычны хаўрус паміж праваслаўнай і пратэстанцкай шляхтай. Калі ў XVI ст. пратэстанцкія тэолягі разглядалі праваслаўе як памылковую веру [Lastouski 1926: 390–391], стодапаклонства (Сымон Будны), дык ува ўмовах каталіцкай рэакцыі ў XVII ст. яны кардынальна зьмянілі гэты свой погляд, разглядаючы праваслаўную веру як роўную веру, якая мае ўласны, альтэрнатыўны шлях да Божага паратунку [Digiel 2000:19].

Ува ўмовах вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўшчынай Швэцыя пастанавіла заняць бок ВКЛ. Гэты крок аўтаматычна азначаў пачатак вай-




*31. Дзеяньні швэдзкіх аддзелаў падчас акупацыі войскам на чале зь Ёханам вон Уленброкам (Johan von Ulenbrock) Браслаўскага павету. Травень 1655 – чэрвень 1656 г.*

ны з Маскоўшчынай, таму прынятае Швэцыяй пасьля кансультацыяў з Радзівіламі рашэньне было досыць важным. 10 ліпеня 1655 г. швэдзкае войска на чале з генэралам Густавам Адольфам Левэнгаўптам (Gustav Adolf Lewenhaupt, 1619–1656) на вачох у расейскай аблогі ўвайшло ў найважнейшы стратэгічны пункт Падзьвіньня – Дзьвінск (швэдзкае Dünaburg, сёньня Daugavpils). Мясцовая шляхта з захапленьнем прыняла апеку Швэцыі.

Губэрнатар Лівоніі Магнус Дэ ла Гарды (Magnus Gabriel De la Gardie, 1622–1686) выдаў унівэрсал да шляхты ВКЛ, у якім было казана, што *«кароль польскі Ян Казімер давёў Вашу краіну да руінаў і ня можа абараніць Вас ад Масквы. Мы, швэды, абаронім»* [Kubala 1913:86]. Ідучы за прыкладам Швэдзкага каралеўства, швэды зьбіраліся даць волю ўсім сялянам ВКЛ, але натыкнуліся на шляхоцкі супраціў. За лета 1655 г. швэды авалодалі Жамойцю, часткай Троцкага й Віленскага ваяводзтваў. Агулам колькасьць швэдзкага войска ў ВКЛ складала 7 000 жаўнераў. Вайсковымі дзеяньнямі на абшарах сучаснай Беларусі (паўночная Віцебшчына) кіраваў капітан Ёхан вон Уленброк (Johan von Ulenbrock). З аддзелам рэйтараў (117 вершнікаў) пры падтрымцы пяхоты ён у ліпені 1655 г. заняў Браслаўскі павет. Праз памежнае мястэчка Плюсы швэды прайшлі ў Браслаў, адтуль у Друю, Дрысу, Дрысьвяты, Іказьнь і Пеліканы [Pufendorf 1696:§46:85]. Швэдзкі гарнізон атабарыўся ў Друі, на беразе Дзьвіны, у кляштары бэрнардынаў Сапежынскай слабады [Tkachou 1998:34]. 28 жніўня 1655 г. у Браславе акт падданства Швэцыі падпісала беларуская шляхта, сьвятарства й месьцічы. Сярод іх былі 116 шляхціцаў Браслаўскага павету, 38 полацкіх і ашмянскіх шляхціцаў (уцекачоў ад маскоўскай акупацыі), тры сьвятары й тры полацкія месьцічы, заможныя купцы [Wisner 2000:202]. Пра гэтую падзею Ёхан вон Уленброк даклаў у лісьце да губэрнатара Лівоніі Магнуса Дэ ла Гарды. Сёньня гэты ліст захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Швэцыі [Riksarkivet, Esplunda arkiv 1655/1].







*32. Ініцыятар уніі паміж Швэцыяй і ВКЛ Магнус Габрыэль Дэ ла Гарды. Мастак М. Мэрыян (M. Merian). Малюнак 1649 г. Замак Скуклостэр (Skoklosters slott).*

Такім чынам, адзін год (ліпень 1655 – ліпень 1656) жыхары Браслаўскага павету былі ў складзе Швэдзкага каралеўства. Пра тое, што мясцовае насельніцтва пачало лічыць швэдзкую ўладу легітымнай, сьведчыць прывілей, выдадзены Магнусам Дэ ла Гарды ў Рызе 19 сакавіка 1656 г. беларускаму шляхціцу Мікалаю Вайтовічу на ягоны маёнтак Зайнава. Сёньня лацінскі арыгінал гэтага прывілею захоўваецца ў архіве Летувы [Körner & Tamulynas 1994 №31].

У барацьбе паміж Польшчай, Расеяй і Швэцыяй праваслаўныя беларускія месьцічы Вільні, Полацку, Віцебску былі зацікаўленыя ў хаўрусе з Швэцыяй. Калі Польшча мела порт Данцыг (Гданьск), Жамойць –

прускі Кёнігсбэрг, дык для беларускага гандлю адзіным зручным выхадам у Балтыку была швэдзкая Рыга. Праз Рыгу ў Эўропу йшло зь Беларусі збожжа (з шляхоцкіх маёнткаў! – Аўт.), мёд, воск, шкуры, дрэва. Швэдзкая Рыга была галоўным пастаўнікам у Беларусь солі, жалеза, медзі, фаянсу, зброі, мармуру, хатніх рэчаў [Konopczynski 1935:21, 41]. Дзьвіна была адзіным выйсьцем Беларусі ў Балтыку, таму ўтрыманьне гэтага шляху – важная мэта ў вонкавай палітыцы ВКЛ другой паловы XVI–XVII ст., што, у сваю чаргу, абумовіла паляпшэньне дачыненьняў з Швэцыяй.

Пра падтрымку беларускімі месьцічамі швэдаў у вайне 1655–1660 гг. сьведчаць нешматлікія захаваныя факты. Напрыклад, заможны полацкі купец Васіль Гіра пазычаў напярэдадні вайны ў Рызе Карлу X вялікія грошы – 2 700 талераў *«на патрэбу караля швэдзкага»* [Hardzeieu 1999 №8]. Акурат віленскія беларускія купцы дапамагалі наладжваць кантакты паміж Янушам і Багуславам Радзівіламі й губэрнатарам Лівоніі Магнусам Дэ ла Гарды. Пра гэта проста кажа ліст Магнуса Дэ ла Гарды да швэдзкага караля Карла X ад 22 ліпеня 1655 г. з Нацыянальнага гістарычнага архіву Швэцыі. Гэта другі ліст, у якім ён паведамляе пра жаданьне літоўскай шляхты [Razowil, Sopiha från Litwania] атрымаць швэдзкі пратэктарат. Да таго ж асобна падкрэсьліваецца, што ўсталяваўся гэты кантакт дзякуючы беларускім купцам зь Вільні (vitryska köpman från Vilna. – Аўт.) [Livonica II Generalguv i Livland till K. MAJ:T 1655-56 A.2 адв.–A.3]. Вядома, што тагачасным бурмістрам Вільні быў Пракоп Дарафеевіч, брат якога Даніла Дарафеевіч быў намесьнікам Віленскага праваслаўнага манастыра Сьвятога Духу. Як было сказана, тры полацкія месьцічы падпісалі акт Швэдзкага падданства ў Браславе. Віленскія праваслаўныя купцы фундавалі свайго патрона Януша Радзівіла. У адказ швэдзкі кароль Карл X 20 сакавіка 1656 г. выдаў унівэрсал з гарантыяй усіх правоў праваслаўнаму насельніцтву ВКЛ.

Падзеі Кейданскай уніі ВКЛ з Швэцыяй 1655 г. (насамрэч былі тры пагадненьні 29.07.1655 – Вільня, 10.08.1655 – Рыга, 17.08.1655 – Кейданы) асьвятляліся ў беларускай [Sahanovich 1995], летувіскай [Šapoka 1990, Tyla 1978], польскай [Kubala 1913, Wisner 2000], швэдзкай гістарыяграфіі [Englund 2000]. Таму спынімся толькі на некаторых важных момантах.

Ініцыятарам хаўрусу з Швэцыяй была літоўская шляхта пераважна пратэстанцкага й праваслаўнага веравызнаньня. Акурат яна, выкарыстоўваючы факт пагрозы з боку Масквы, паўплывала на каталіцкі клір і жамойцкую шляхту. Калі практычныя пытаньні вырашаў Януш Радзівіл,







*33. Карл X – кароль Швэцыі (1654–1660), вялікі князь літоўскі (1655–1656). У траўні 1657 г. Карл X на чале швэдзкага войска прайшоў праз Падляшша й Заходнюю Берасьцейшчыну. Замак Грыпсгольм (Gripsholm). Мастак Абрагам Вухтэр (Abraham Wuchter).*

дыпляматычныя дачыненьні рэгуляваў Багуслаў Радзівіл. У Дзяржаўным архіве Швэцыі захаваліся 28 лістоў Багуслава Радзівіла да свайго стрыя швэдзкага караля Карла X за 1655–1656 гг. У выніку перамоваў ВКЛ уклала ня акт далучэньня, але роўную унію з Швэцыяй. Згодна з тэкстам, *«мы, сэнатары й усе станы ВКЛ, абяцаем і даем прысягу ад нашага ймя й імя нашчадкаў нашых захоўваць вернасьць яго Найвышшаму Майстату каралю швэдзкаму як вялікаму князю літоўскаму й пану нашаму ўва ўсіх справах»* [Konopczynski, Lepszy 1935]. Кароль швэдзкі абвяшчаўся спадчынным вялікім князем літоўскім. Збройныя сілы злучаліся й дзеялі разам супраць Расеі й Польшчы. Кароль швэдзкі абяцаў аслабаніць захопленыя Маскоўшчынай Віцебскае, Імсьціслаўскае й Смаленскае ваяводзтвы. Гарантавалася свабода сумленьня й веравызнаньня, вяршэнства права. Літоўская шляхта дала дазвол швэдзкаму войску ўвайсьці ў ВКЛ ды

заняць Жамойць, Біржы/Biržai, Вількамір/Ukmerge і Упіты/ Upytė [Tyla 1978]. Ад швэдзкага боку дэлегацыю ўзначальваў Бэнгт Шутэ (Bengt Skytte, 1614–1683), якога кароль прызначыў сваім намесьнікам у Вялікім Княстве ды генэрал Генрык Горн (Henrik Horn, 1618–1693). Згодна з дамовай для часовага кіраваньня ВКЛ была створана спэцыяльная рада, сябрамі якой было па 3 шляхціцы ад кожнага павету.

Кейданскую унію падпісалі 1163 беларускія й летувіскія шляхціцы. Для параўнаньня, элекцыю Ўладзіслава Васы ў 1632 г. у мірных умовах падпісалі 696 шляхціцаў ВКЛ. Падкрэсьлю, што важную ролю ў перамовах з швэдамі выконвалі шэраг беларускіх рыцараў. Натуральна, бальшыню дробнай шляхты складалі летувісы (асноўная частка Беларусі была захоплена расейскім войскам). Але сярод уплывовай «сярэдняй» шляхты, якая займала не абы-якія пасады й падтрымала швэдаў, вялікую частку складалі беларусы.

Сярод праваслаўных верны супрацоўнік Януша Радзівіла стражнік ВКЛ Рыгор Мірскі, маршалак браслаўскі, чалец атачэньня Багуслава Радзівіла Самуэль Пуцята; падстолі браслаўскі Ўладзіслаў Пуцята. Скарбнік браслаўскі Аляксандар Чапінскі падпісаў Кейданскую унію *«як пасол усіх абываталяў браслаўскіх»*. Сярод пратэстантаў зь беларускай шляхты былі староста ашмянскі Адам Мацей Саковіч, маршалак лідзкі Тахвіль Дунін-Раецкі, палкоўнік войска ВКЛ Гедэон Дунін-Раецкі, ваяводзіч менскі Юры Дунін-Раецкі, староста старадубскі Самуэль Абрамовіч, харужы чарнігаўскі Габрыэль Гулевіч, харужы віцебскі, галоўны патрон Віцебскага кальвіністкага збору Ян Храпавіцкі. Сярод уплывовых хаўрусьнікаў Швэцыі й падпісантаў уніі таксама былі: стольнік троцкі Ян Быхавец, староста гомельскі й прапойскі Адам Слушка, харужы надворны ВКЛ Жыгімонт Слушка, пісар вялікі ВКЛ Ян Станкевіч, стольнік наваградзкі Война Дэмбавецкі, падчашы ашмянскі Стэфан Белікові, маршалак ашмянскі Ян Дэспат-Зяновіч, стольнік імсьціслаўскі Ян Ядкоўскі, староста мазырскі Ўладзіслаў Палецкі, судзьдзя віленскі, староста індурскі Павал Данілевіч, Андрэй Сакалінскі, Даніэль Шчука, Стэфан Сарока, Станіслаў Мацкевіч ды шмат іншых. Адзіны прадстаўнік полацкай шляхты харужы полацкі Казімер Корсак, які належаў да славутага арыстакратычнага роду полацкіх баяраў, на палёх тэксту Кейданскай уніі ля подпісу дадаў проста ад сябе, што пераходзіць у падданства швэдзкае, *«маючы сваю маёмасьць у ваяводзтве Полацкім у кіпцюрах маскоўскіх, а на гэты час тут будучы як выгнанец»* [Konopczynski, Lepszy 1935:199–220].








*34. Шлях швэдзкага войска на чале з Карлам X да Берасьця. Травень 1657 г.*

У Кейданах прысутнічаў таксама *«беларускі палкоўнік»* Кастусь Паклонскі з уласным палком. Гэта выклікла пратэст жамойцкай шляхты, якая празь біскупа П.Парчэўскага патрабавала асобных перамоваў, бо авантурыст Паклонскі разам зь беларускімі казакамі разрабаваў мястэчка Сапежышкі (Zapyškis) [Wisner 2000:210].

Такім чынам, роля ў Кейданскім пагадненьні беларускай (у культурным сэнсе) шляхты была важкай.

Пасьля ўрачыстай цырымоніі абвешчаньня акту ў Кейданах адбыўся баль, на які прыбыў губэрнатар Лівоніі Магнус Дэ ла Гарды. Ён урачыста ўручыў Янушу Радзівілу найвышшы каралеўскі ордэн «Імя Ісуса». Да 1914 г. гэтая ўзнагарода знаходзілася ў Нясьвіскім замку Радзівілаў. Сёньня гэты ўнікальны залаты ордэн з 16 дыямэнтамі захоўваецца ў стакгольмскім музэі «Каралеўскі цэйхгаўз» (Livrustkammaren). У кальвіністкім, лютэранскім і праваслаўным храмах мястэчка прайшлі сьвяточныя набажэнствы. На загад Магнуса Дэ ла Гарды з нагоды да-

лучэньня ВКЛ да Швэдзкага каралеўства ў Рызе ды ўва ўсіх зборах Лівоніі адбыліся ўрачыстыя службы [Kubala 1913:90–91].

Адначасова патранат над ВКЛ прапанавала Маскоўшчына. На запрашэньне цара Аляксея Міхайлавіча Януш Радзівіл адказаў, што ўжо выбраў Швэцыю, *«бо ў няволі ніколі не бываў... а ў нявольніках быці ня хоча»* [Zaborovskii 1994:28–30].

Кейданская унія падзяліла літоўскую шляхту на дзьве партыі. Частка не падтрымала хаўрусу з Швэцыяй ды ўзяла бок Польшчы. Узначалілі гэтую партыю падканцлер ВКЛ Крыштап Пац, гетман польны Вінцэнт Гансеўскі й ваявода віцебскі Павал Сапега. У Беларусі пачалася грамадзянская вайна. Парушаючы Літоўскі статут 1588 г., кароль Ян Казімер выдаў загад канфіскаваць усе маёнткі Януша Радзівіла на карысьць сваіх літоўскіх хаўрусьнікаў. Жаўнеры пачалі рабаваць маёнткі. 31 сьнежня 1655 г. у Тыкоціне памёр (верагодна, быў атручаны) Януш Радзівіл. У красавіку 1656 г. супраць Швэцыі падняла бунт жамойцкая каталіцкая шляхта, якая зьнішчыла частку швэдзкіх аддзелаў. Швэдзкі ўрад пастанавіў вывесьці ўсе войскі з ВКЛ. Кейданская унія сышла на нішто. На баку швэдаў застаўся толькі Багуслаў Радзівіл з двума палкамі, якія налічвалі 2 000 вершнікаў, ды Слуцак – адзінае места ВКЛ, якое ня здолела ўзяць расейскае войска. Дзякуючы палітыцы Багуслава Радзівіла Слуцак увесь час лічыўся пад швэдзкім пратэктаратам. Бурмістар места беларус Самуэль Стэфановіч, губэрнатар шкот Вільям Патэрсан (William Paterson) ды кашталян немец Ян Грос (Jan Gross) знаходзіліся ў сталым кантакце з фэльдмаршалам швэдзкага войска Багуславам Радзівілам. Узначаленая імі абарона Слуцку ад расейскіх жаўнераў і ўкраінскіх казакоў была надзвычай пасьпяховая.

З восені 1656 г. дзеяньні швэдзкага войска перакінуліся на беларускае Падляшша, якое згодна з Кейданскай уніяй вярталася ў склад ВКЛ. Кіраваў швэдзкім войскам фэльдмаршал Багуслаў Радзівіл, у падпарадкаваньні якога былі два швэдзкія генэралы Ізраэль Рыдэргельм (Israel Ridderhielm) і Робэрт Дуглас (Robert Douglas). 8 кастрычніка 1656 г. войска Багуслава Радзівіла, прускага генэрала Георга фон Вальдэка (Georg Waldeck) і швэда Ізраэля Рыдэргельма атрымала цяжкую паразу ля польскага мястэчка Простки ад войска свайго былога паплечніка Вінцэнта Гансеўскага ды татараў Будзяцкай Арды, ачоленых ханам Суфан Газы (Suphan Gazi). Цяжка паранены ў галаву Багуслаў Радзівіл трапіў у татарскі палон. Але за 11 дзён, у часе вольнага маршу войска Вінцэнта Гансеўскага ў Жамойць, швэдзкае войска на чале з генэралам Густавам Стэнбокам (Gustav Otto Stenbock, 1614–1685) ушчэнт разьбіла гэтае войска ля мястэчка Філіпаў Троцкага ваяводзтва, нечакана аслабаніўшы Багуслава Радзівіла, які ў часе палону, каб пазбавіцца татарскай апекі, даў прысягу больш ніколі не служыць у швэдзкім войску й слова сваё выканаў. Як паведаміла ў кастрычніку 1656 г. парыская газэта «Gazette de France», *«пасьля сутычкі генэрал Стэнбок знайшоў у лесе на адным з вазоў зьвязанага князя Радзівіла»* [Wasilewski 1973:71].

6 сьнежня 1656 г. у замку Раднот (Трансыльванія) некаталіцкія хаўрусьнікі Швэцыі – Трансыльванія, Усходняя Прусія і Ўкраіна – уклалі з Карлам X дамову пра падзел каталіцкай Польшчы. Гэта першы ў гісторыі плян падзелу Рэчы Паспалітай. На нарадзе ўдзельнічалі паслы Багуслава Радзівіла Самуэль Прышпкоўскі й Ян Мяржынскі. Інтарэсы Багуслава прадстаўляў таксама лідар украінскіх пратэстантаў Юры Нямірыч. Згодна з дамовай да Швэцыі адыходзіла частка заходняй Беларусі (Віленскае й Троцкае ваяводзтвы), Усходняя Беларусь адыходзіла да Ўкраіны. З Слуцкага княства й Навагрудзкага ваяводзтва ствараласяспадчыннае княства Багуслава Радзівіла. Падляшша й Берасьцейскае ваяводзтва адыходзілі да Трансыльваніі [Bely 2001].

Выконваючы свае абавязаньні, зацьверджаныя дамовай, увесну 1657 г. хаўрусьнікі пачалі наступ на Польшчу, а ў траўні 1657 г. абклалі Берасьце. Апэрацыяй па аблозе Берасьця кіраваў асабіста швэдзкі кароль Карл X ды швэдзкі генэрал Якуб Казімер Дэ ла Гарды (Jakob Kasimir De la Gardie, 1629–1658). Апроч швэдзкіх зьвязаў Берасьцейскую фартэцыю браліся здабыць вугорскія аддзелы Д'ёрдзя II Ракочага (Gyorgy II Rakoczy, 1621–1660), украінскія аддзелы палкоўніка Антона Ждановіча й *«генэрала швэдзкай службы»* Юр'я Нямірыча.

Багуслаў Радзівіл ня браў удзелу ў кампаніі, але даслаў адзін з сваіх палкоў на чале зь інфлянцкім шляхціцам, *«палкоўнікам швэдзкай службы»* Эбэрхардам Путкамэрам. 1 красавіка 1656 г. Багуслаў Радзівіл выслаў лісты да шляхты Берасьцейскага ваяводзтва з просьбаю пакласьці зброю ды здаць Берасьце пад пратэкцыю швэдаў [Radziwiłł 1979:222–223]. Шляхта адказала адмоваю [Тамсама 224–226].

8 траўня 1657 г. праз Мінск-Мазавецкі, Венграў, Гродзіск, Астражаны, Сямятычы, Высока-Літоўск швэдзкае войска на чале з Карлам X выйшла да Берасьця. Моцным берасьцейскім гарнізонам кіраваў кашталян, доктар тэалёгіі каталік Мэльхіёр Станіслаў Савіцкі [Lulewicz 1977:

439]. З аблогі Берасьця пачалася бліскучая кар'ера мастака-баталіста й найвыдатнейшага дзяржаўнага дзеяча Швэцыі XVII ст. Эрыка Дальбэрга (Erik Dahlberg,1625–1703). Будучы генэрал-губэрнатар Лівоніі Эрык Дальбэрг – аўтар найцікаўшага дзёньніка паходу Карла X у Беларусь [Dahlberg 1962:61–92; Bely 1999]. Акурат Эрык Дальбэрг, апынуўшыся ў Берасьці як закладнік, правёў агітацыю сярод нямецкіх жаўнераў-наймітаў, зрабіў плян Берасьцейскага замку ды паспрыяў добраахвотнай здачы места Берасьцейскага швэдам 16 траўня 1657 г. У сваім дзёньніку Эрык Дальбэрг занатаваў, што Берасьцейскія муры належаць да найлепшых абарончых замкаў Эўропы. Найвыдатнейшы мастак-баталіст Эрык Дальбэрг пакінуў гравюру *«Аблога Берасьця»*, копія якой упрыгожвае сёньня экспазыцыю Нацыянальнага музэю гісторыі й культуры Беларусі. Унікальнасьць гравюры палягае ў тым, што гэта адзіная дэталёвая выява старога места, ушчэнт разбуранага расейцамі ў XIX ст. падчас пабудовы новай фартэцыі.

У 1660 годзе дамоваю ў польскім мястэчку Аліва ля Гданьску скончылася другая, альбо Малая, Паўночная вайна. Вынікі яе супярэчлівыя для Беларусі. З аднаго боку, дзеля Кейданскай уніі Вялікая Літва, у адрозьненьне ад Польшчы, унікла швэдзкіх рабункаў бібліятэкаў і замкаў, бо швэды разглядалі нашу краіну як хаўрусьніцу. Дзякуючы швэдзкаму пратэктарату Слуцак аказаўся адзіным местам Беларусі, якое не пашкодзіла вайна, што абумовіла першынство Слуцку ў беларускай культуры другой паловы XVII–XVIII ст.

У выніку войнаў сярэдзіны XVII ст. Беларусь загубіла больш за палову свайго насельніцтва. Што праўда, у адрозьненьне ад расейцаў, швэды не практыкавалі масавага вывазу рамесьнікаў і сялянаў. Але ад наступстваў вайсковых дзеяньняў паміж Швэцыяй і Расеяй толькі насельніцтва Браслаўскага павету скарацілася на 56,8% [Sahanovich 2001:402]. За супрацоўніцтва з швэдамі Варшава беларускіх пратэстантаў абвесьціла здраднікамі. У 1660 годзе згодна з пастановай вальнага сойму 1658 году ўсе арыяне (найбольш радыкальная частка пратэстантаў) мусілі пакінуць краіну. Асяродкам пратэстанцкай эміграцыі стаўся Кёнігсбэрг. Багуслаў Радзівіл зрабіўся губэрнатарам Усходняй Прусіі. Пратэстантам забаранялася ўдзельнічаць у паседжаньнях вальнага сойму, займаць сэнатарскія пасады. Паміж 1660–1664 гг. паміраюць апошнія сэнатары Рэчы Паспалітай ад ВКЛ некаталікі – кашталян полацкі Ян Сасноўскі й кашталян віцебскі Тамаш Касакоўскі. На 1668 год усе сэнатары ВКЛ былі







*35. Аблога Берасьця швэдзкім войскам на чале з каралём Карлам X. Травень 1657 г. Гравюра Эрыка Дальбэрга (Erik Dahlberg) з кнігі Самуэля Пуфэндорфа (Samuelis de Pufendorf) «Рэбус Карла X...». 1696 г.*

выключна каталікі [Lulewicz 1977:427]. Застаўшыся без уплывовых патронаў, кальвінісцкая царква ВКЛ лучыла пад прэсінг каталікоў. У 1670-х гадох былі зруйнаваныя й зачыненыя каля паловы збораў *«Беларускага дыстрыкту»* (Менск, Полацак, Віцебск, Шацак, Галоўчын, Сакольня, Сэрвач) [Kriegseisen 1996:109]. Кульмінацыяй каталіцкай рэакцыі стала чарговае зруйнаваньне пратэстанцкай катэдры ў Вільні ў 1682 годзе [Zwolski 1937]. Калі пры канцы XVI ст. у ВКЛ было ля 140 пратэстанцкіх парафіяў, у 1655 г. – 110, дык у 1696 г. – толькі 46 збораў [Sahanovich 2002:94; Kriegseisen 1996:100–101].

Рэпрэсіі нанесьлі моцны ўдар па старабеларускай культуры, бо амаль пры кожнай парафіі існавалі школа й бібліятэка. Шмат беларускіх інтэлектуалаў-пратэстантаў падаліся на эміграцыю. У Кёнігсбэргу апынуўся найлепшы картограф, матэматык і гісторык Язэп Нарановіч-Наронскі, у Лёндане – гісторык царквы Ян Краінскі, у Амстэрдаме – друкар і перакладнік Гальляш Капіевіч, у Маскве – філёзаф Ян Мануіл Белабоцкі. Засталася без уплывовых патронаў і праваслаўная царква, якая ў 1667 годзе страціла апошняга патрона-магната Аляксандра Агінскага. Ад 1678 г. больш за 10 гадоў катэдра магілёўскага ўладыкі заставалася бяз пастыра. Акурат у другой палове XVII ст. адбыліся зьмены ў сьведамасьці беларускай шляхты, якая стала суцэльна каталіцкай, ад усьведамленьня сваёй палітычнай самабытнасьці да польскай рэгіянальнай ідэнтычнасьці – *«паходжаньнем ліцьвін (русін), але па нацыянальнасьці паляк»: gente Lithuanus (Ruthenus) natione Polonus.*

## 2.4. Паміж молатам і кавадлам: Беларусь у Вялікай Паўночнай вайне. Паход Карла XII па Беларусі (1702–1708)

Пры канцы XVII ст. Расея, Польшча й Данія ўтварылі антышвэдзкую кааліцыю, мэтаю якой было пазбавіць Швэдзкае каралеўства панаваньня на абшарах Балтыкі.

Ужо 31 ліпеня 1698 г., вяртаючыся зь «вялікага пасольства» ў Эўропу, Пётар I (1672–1725) у м. Рава-Руская (Украіна) сустрэўся з каралём польскім і вялікім князем літоўскім Аўгустам II (1670–1733), немцам-






MANIFEST
Des
Hochgebohrnen Herrn Graffen auf Zaslaw/
Bychow und Dombrowna
CASIMIR JOHANN
SAPIEHA
Palatini von der Wilda und Groß-Feld-Herrn
des Groß-Fürstenthums Litthauen
Welches
In seinem sowohl als des gantzen Sapiehischen Hauses/
wie auch der Litthauschen Herren Senatoren, Dignitarien &c. und der gantzen Noht-leydenden Litthauschen
Republic, wie auch derselbigen Armee von der alten
Werbung/wieder den Lublinischen Reichs-Tag und
dessen Constitution eingerichtet/ und denen
Königl: Posnanskischen Burg-Gerichts
Büchern ingrossiret worden.
In welchem auch die Ursachen mit verfasset
warumb die Herren Sapiehen
Ihro K. Maj. von Schweden
Schutz und Protection angenommen/ und noch keine
Friedens-Tractaten vor sich gehen können/
publiciret den 3. Novembr. Anno 1703.

*36. Маніфэст Казімера Сапегі з абвешчаньнем швэдзкага пратэктарату над усімі беларускімі маёнткамі. Друк. 1703 г.*

лютэранінам, які, каб атрымаць польскую карону, перайшоў у каталіцтва. Два маладыя манархі (Пятру было 26 гадоў, Аўгусту – 28) дамовіліся пра тайны хаўрус супраць Швэцыі ды ейнага караля-падлетка Карла XII (1682–1718). Як занатаваў перакладнік той сустрэчы, украінскі магнат Ян Ябланіўскі, *«каралі падпісалі паміж сабою дамову бяз Рэчы Паспалітай, без магнатаў і шляхты»,* бо Аўгуст II парушыў векавы праўны ўклад Рэчы Паспалітай, калі прыняў лёсавызначальнае рашэньне бяз згоды на гэта шляхты [Istoria vneshnej politiki 2000:29]. Акурат таму Аўгуст II пачаў Вялікую Паўночную вайну (1700–1721) з дапамогай уласнага саксонскага войска й без дазволу вальнага сойму. У лютым 1700 г. ён напаў на Швэцыю ды аблажыў 10-тысячным саксонскім войскам Рыгу. У сакавіку 1700 г. данскі кароль Фрыдрык IV на чале 15-тысячнага войска напаў на хаўрусьніка Швэцыі герцагства Гальштайн. Расея пачала рыхтаваць напад на швэдзкую правінцыю Эстлянд.

Аднак 18 траўня 1700 г. Карл XII імкліва напаў на Данію, якая хутка выйшла з вайны, потым цалкам зьнішчыў расейскае войска пад швэдзкаю Нарвай (19 лістапада 1700 г.) і нарэшце разьбіў Аўгуста II, зьняўшы

аблогу з Рыгі (20 ліпеня 1701 г.). У сакавіку 1702 г. Карл XII вырашае распачаць свой першы літоўскі паход. З курляндзкага места Лібава (Libau, сучаснае латыскае Liepaja) швэдзкае войска ўваходзіць у Вялікае Княства Літоўскае. Пачынаецца сямігадовы пэрыяд «кружляньня» Карла XII і швэдаў па Рэчы Паспалітай.

У швэдзкай гістарыяграфіі існуюць два пункты погляду што да мэтаў тагачаснай палітыкі Карла XII у Рэчы Паспалітай. Згодна зь першым вайсковыя дзеяньні швэдаў былі прадыктаваныя асабістым авантурызмам Карла XII, яго намерам ажыцьцявіць мару «Dominum maris Baltici»: ператварэньня Балтыцкага мора ўва ўнутранае возера Швэдзкага каралеўства. Пакуль швэдзкае войска ваюе ў Беларусі, расейскае войска захоплівае значны кавалак Эстоніі й Інгерманляндыі. 1 траўня 1703 г. расейцы захапілі места Нюэн (Nyen/Nyenstad) з замкам Нюэшанц (Nyenskans) – цэнтар правінцыі Інгерманляндыі, другі па значнасьці пасьля Або (Åbo) горад Фінляндыі, ды заснавалі ў Нюэшанц сваю новую сталіцу Санкт-Пецярбург [Kepsu 2000]. У 1704 годзе Расея захоплівае Дорпат (Dorpat, Tartu), места, дзе месьціўся другі паводле велічыні швэдзкі ўнівэрсытэт. Швэдзкае, фінскае ды эстонскае насельніцтва ў паніцы пакідае абжытыя землі. Тутэйшая шляхта літаральна закідвае швэдзкі ўрад лістамі аб дапамозе. У адказ Карл XII забараняе дасылаць новыя швэдзкія аддзелы ў Эстонію й Інгерманляндыю [Englund 1995:34–35].

Тым ня менш частка швэдзкіх гісторыкаў лічыць крокі Карла XII досыць рацыянальнымі. Вайна распачалася на грошы буйных швэдзкіх капіталістаў, якія перадусім былі зацікаўленыя аднавіць старажытны шлях вікінгаў з Швэцыі празь Дзьвіну й Дняпро ў Міжземнае мора. Злучыць наўпрост швэдзкую Рыгу з турэцкім Істанбулам і бязьмежнымі рынкамі Ўсходу – гэтакая была амбітная мэта Карла XII у Рэчы Паспалітай [Hildenbrand 1964:40–64]. Калі прыняць гэтую тэзу, зробяцца зразумелымі крокі Карла XII у Рэчы Паспалітай. Пасланец Турэччыны ў 1703–1708 гг. двойчы сустракаўся з Карлам XII. Турэччына наагул была хаўрусьніцай Швэцыі ў той вайне. Швэды мелі шэраг сымпатыкаў у ВКЛ, на базе якіх паўстала моцная прашвэдзкая партыя Сапегаў. На перамовах Карла XII з украінскім гетманам Іванам Мазэпам Швэцыя і Ўкраіна дамовіліся пра стварэньне свабоднага гандлёвага шляху праз Дняпро ў Чорнае мора [Englund 1995:45].

Ці мелі швэды нейкую палітычную падтрымку ў тагачасным беларускім грамадзтве? Звычайна лічыцца, што не, бо большыня шляхты





падтрымала тады Расею [Sahanovich 2001:308]. Сапраўды, на баку Расеі ў той вайне былі Рыгор Антоні Агінскі, староста жамойцкі; Марцыян Агінскі, кашталян віцебскі; Міхал Вішнявецкі, гетман літоўскі; Людвік Пацей, падскарбі літоўскі; Ян Пацей, маршалак надворны літоўскі; Міхал Коцел, ваявода троцкі; Кароль Станіслаў Радзівіл, канцлер вялікі літоўскі; Міхал Халецкі, староста мазырскі; Жыгімонт Храноўскі, чашнік берасьцейскі, ды іншыя. Але апошняе зусім не азначае, што Швэцыя ня мела свайго ўплыву й падтрымкі сярод палітычнай эліты беларускага грамадзтва.

Асноўным хаўрусьнікам Швэцыі ў Беларусі й Летуве былі Сапегі. Гэты магутны беларускі магнацкі род прайграў так званую «хатнюю вайну» 1700 г. супраць Агінскіх і шляхты. 18 лістапада 1700 г. сапегаўскае войска пацярпела паразу ў бітве ля мястэчка Волкінікі, пры гэтым Міхал Сапега (1670–1700) быў забіты, а Казімер і Банадысь Сапегі здолелі ўцячы. Сапегаў абвесьцілі ворагамі Рэчы Паспалітай, пазбавілі пасадаў, канфіскавалі шэраг маёнткаў. Лідарамі роду былі Бэнэдыкт (Банадысь) Паўла Сапега (1643–1707) і ягоны брат Казімер Ян Паўла Сапега (1642–1720). Важную ролю адыгрывалі іхныя сыны: Георгі Сапега (1668–1732), сын Казімера, і сын Бэнэдыкта Міхал Язэп Сапега (1670–1738). Да радзіны Сапегаў належалі таксама магнаты Дамінік Міхал Слушка (1655–1713), ваявода полацкі (Тэрэза Слушка была жонкаю Казімера Яна Паўла Сапегі), і староста менскі Крыштап Завіша. Ужо ў верасьні 1701 г. Швэцыя паабяцала абарону ўсім маёнткам Сапегаў, забраных уладаю Рэчы Паспалітай. «Feltherren Saphias gods i Littauen och Samojten» [Konung Karl XII:s: 237, 249]. У сакавіку 1702 г. у вёсцы Бецігола ля мястэчка Расіёны (Raseiniai) у Жамойці адбываецца першая сустрэча Казімера Сапегі з Карлам XII, падчас якой яны дамаўляюцца аб вайсковым хаўрусе [Wisocki-Hochmuth 138]. У кастрычніку 1703 г. *«Казімер Ян Паўла Сапега, ваявода віленскі, граф Заслаўя, Быхава й Дуброўны»* (Palatin Wilnensis, Graffen auf Zaslaw, Bychow und Dombrowna) выдае маніфэст згодна якому перадае ўсе свае маёнткі ў Беларусі й Летуве пад швэдзкі пратэктарат, а сам прымае швэдзкае падданства. Тэкст маніфэсту 3 лістапада быў надрукаваны ў Стакгольме, яго асобнік сёньня захоўваецца ўва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы Ўпсолы. У адказ на вальным сойме 1703 г. Сапегаў канчаткова пазбавілі ўсіх пасадаў.

Патэнцыйным хаўрусьнікам Швэцыі была літоўская пратэстанцкая шляхта, якую ў другой палове XVII ст. каталіцкая эліта Рэчы Паспалітай

ізалявала, пазбавіла часткі палітычных правоў ды абвесьціла патэнцыйнымі здраднікамі. Сярод пратэстантаў былі ўплывовыя прадстаўнікі сярэдняй шляхты: мечнік літоўскі Крыштап Казімер Сеніцкі, ягоны брат падстолі Людвік Сеніцкі, палкоўнік Аляксандар Корф, мечнік менскі Яраслаў Мацкевіч, ягоны брат Аляксандар Мацкевіч, харужы ваўкавыскі Юры Аледзкі, ягоны брат пісар гродзкі ваўкавыскі Гедэон Аледзкі, скарбнік літоўскі, лівонскі немец Ян Шрэтэр, лоўчы наваградзкі Ян Воўк-Ланеўскі, харужы старадубскі Міхал Воўк-Ланеўскі, войскі ашмянскі Крыштап Камінскі, чашнік ашмянскі Тамаш Волан ды іншыя. Усе яны, досыць уплывовыя чальцы палітычнай нацыі Беларусі й Летувы, выбіраліся шмат разоў паслямі на вальны сойм, абаранялі кальвіністаў й лютэранаў Беларусі ад сваволі каталікоў і ўніятаў. У вайне паміж Масквою й Стакгольмам іхныя сымпатыі былі, безумоўна, на баку швэдаў.

Разумеючы гэта, Казімер Ян Павал Сапега яшчэ ў 1696 г. пачаў шукаць хаўрусу з пратэстантамі ВКЛ. Кальвінісцкія пастары зрабіліся частымі наведнікамі ў палацах Ружанаў, Горадні й Вільні, што выклікала варожасьць да Сапегаў каталіцкага касьцёлу. Ужо ў 1700 г. генэральны сынод літоўскіх пратэстантаў уважаў Казімера Сапегу за свайго галоўнага патрона [Kriegseisen 1996:251]. У 1703 годзе паралельна Сапегам літоўскія пратэстанты ўсталявалі кантакт з Карлам XII. Амбасадар Прусіі пры Карлу XII перадаў пасланьне з просьбай аб дапамозе аднавіць старыя гарантыі правоў і вольнасьцяў «Notitia circa Liberum Religionis Evangelicae exercitium in Regno Poloniae et Magno Ducatu Lithauniae iisque annexis provinciis» [Kriegseisen 1996:228]. Такім чынам, Карл XII добра ведаў пра становішча братоў па веры ў Беларусі. На жаль, дачыненьні беларуска-летувіскіх пратэстантаў з Швэцыяй вывучаны досыць слаба. Напрыклад, амаль невядомыя прычыны абароны Быхава 1707 г., калі браты-кальвіністы Казімер і Людвік Сеніцкія паднялі паўстаньне супраць Расеі й накіравалі ліст швэдзкаму каралю Карлу XII і Казімеру Сапегу з просьбай аб дапамозе. Яе адсутнасьць прымусіла быхаўскі гарнізон капітуляваць. Браты Сеніцкія былі сасланыя ў Сібір, места й замак разбураныя расейскім войскам. Нагадаем, што Сеніцкія належалі да патронаў кальвінісцкага збору ВКЛ і кіравалі Быхавам, які да 1703 г. быў уладаньнем Казімера Сапегі. Адзін зь верных хаўрусьнікаў швэдаў іншы пратэстант, курхмістар літоўскі Якуб Гружэўскі, забіты каталіцкай шляхтай у 1709 годзе, верагодна, за супрацоўніцтва з Швэцыяй [Kriegseisen 1996:109].





Нягледзячы на дзяржаўны ціск, кальвіністы й лютэране ВКЛ здолелі ў другой палове XVII – пачатку XVIII ст. захаваць уласную арганізацыйную структуру. На 1696 год у ВКЛ было 46 кальвінісцкіх збораў, зь іх палова – на беларускіх этнічных землях ВКЛ [Kriegseisen 1996:100–101]. «Ядноту літоўскую» (назоў кальвінісцкага збору ў ВКЛ) складалі 6 дыстрыктаў: Віленскі, Навагрудзкі, Беларускі, Жмудзкі, Падляскі, Завялейскі. На беларускіх землях цалкам месьціліся зборы Беларускага, Навагрудзкага й Падляскага дыстрыктаў. Навагрудзкі дыстрыкт складаўся з Слуцку (катэдральны збор), Беліцы, Капыля, Асташына, Любчы, Дакудава, Зарою (ля Любчы), Арлова, Беларускі – з Койданава (катэдральны збор), Копыся, Сяменавічаў, Айнаровічаў, Падляскі дыстрыкт улучаў зборы ў Заблудаве, Венграве, Ямне, Нурцы, Непакойчыцах, Сідры.

Беларускія парафіі існавалі таксама і ў Віленскім дыстрыкце: Лебедзева (ля Маладэчна), Жупраны, безумоўна, катэдральны збор усяго Вялікага Княства Літоўскага ў Вільні.

Моцныя лютэранскія грамады існавалі ў Вільні, Слуцку, Гайцюнішках, Венграве. З-за сталага ціску каталікоў толькі ў другой палове XVII ст. зачыніўся шэраг збораў у Беларускім дыстрыкце: у Менску, Полацку, Віцебску, Шацку, Сакольні, Галоўчыне, Сэрвачы.

У адрозьненьне ад Кароны, дзе пратэстантызм быў пашыраны збольшага ў нямецкіх местах на захадзе краіны ды ў асяродзьдзі дробнай шляхты, у ВКЛ пачатку XVIII ст. пратэстанты захоўвалі ўплывовыя пазыцыі сярод палітычнай эліты. Да «Ядноты літоўскай» у другой палове XVII – пачатку XVIII ст. належала 156 радзінаў шляхты ВКЛ і Падляшша [Kriegseisen 1996:121]. У вайне паміж Швэцыяй, Польшчай і Расеяй яны патэнцыйна былі хаўрусьнікамі Карла XII, імкнуліся завязваць з швэдамі кантакты. Пра тое, што дачыненьні былі, сьведчаць перадусім швэдзкія крыніцы, бо па вайне беларуская пратэстанцкая шляхта зьніштажала дакумэнты, за якія можна было атрымаць абвінавачаньне ў здрадзе.

Да прыкладу, у лютым 1708 г. пастары з войска Карла XII сустракаліся зь лютэранамі Вільні. Для аховы лютэранскага збору Вільні Карл Магнус Пасэ (Carl Magnus Posse) выслаў з Лоску аддзел на чале з капітанам Карлам Горнам (Carl Johen Horn) [Posse 1901:302]. Швэдзкі пастар Свэн Агрэль (Sven Agrell) занатаваў у дзёньніку, што ў сакавіку 1708 г. ён сустракаўся з кальвіністамі мястэчка Беліца на Нёмне (Лідзкі павет) і нават чытаў казань жаўнерам у кальвінісцкім зборы: «Under dhenna tijden prädijkade jag en gång för några compagnier uti en Calvinsk

kyrkia i Bilitzi wijd Miemen strömmen» [Agrell 1909:10]. Адзін швэдзкі афіцэр пакінуў нарыс лютэранскага збору ВКЛ, які налічваў тады 9 парафіяў: катэдра ў Вільні, зборы ў Слуцку, Гайцюнішках, Венграве (Беларусь); Біржах, Коўне, Кейданах, Жэймах/Žeimai, Таўрогах/Tauragė (Летува). Згодна з швэдзкай інфармацыяй пачатку XVIII ст., *«лютэранскі збор трымаецца ў ВКЛ, але гэтыя гаротныя лютэране жывуць пад моцнаю пагрозай і ціскам з боку каталікоў. Яны жаліліся нам зь сьлязьмі на вачох аб вялікіх крыўдах і гвалтах. Выглядалі бедна, у кепскай вопратцы, таму што расейскі праціўнік забраў усю іх маёмасьць. Напрыклад, пакуль мы (швэды) былі ў Вільні на кватэрах, гэтыя людзі нашай веры моцна радаваліся й выказвалі пажаданьне, каб мы ніколі больш адсюль не зыходзілі»* [Lyth:50–51].

У 1706 годзе ў Слуцку (калі там быў Карл XII) і ў 1708 годзе ў Кейданах (зноў пад швэдзкім кантролем) адбыліся генэральныя сыноды пратэстантаў ВКЛ, на якіх яны з надзеяй на лепшую будучыню пастанавілі адбудаваць шэраг занядбаных храмаў. Невыпадкова па вайне й сыходзе швэдаў зь Беларусі духоўны лідар беларускіх кальвіністаў койданаўскі пастар Багуслаў Капіевіч у сваёй праграме рэформы пратэстанцкай царквы ВКЛ раіў абапірацца на ўласныя сілы, будаваць школы, прабіваць стыпэндыі студэнтам на заходніх унівэрсытэтах, падтрымліваць пратэстанцкіх рамесьнікаў, купцоў, бо *«Швэцыя больш ня будзе біцца за нас лоб у лоб з Польшчай»* [7] [Kriegseisen 1996:234].

Як мы ўжо гаварылі, патэнцыйнымі хаўрусьнікамі Швэцыі былі месьцічы-купцы беларускага Падзьвіньня й Падняпроўя. Калі Польшча мела ўласны выхад у Балтыку (Данцыг–Гданьск), беларускія месты яго ня мелі, і з гэтай мэтай выкарыстоўвалі швэдзкую Рыгу. З прыходам швэдаў гэтая падтрымка ўвасобілася ў шэрагу гучных акцыяў, якія, аднак, па вайне старанна замоўчваліся, бо перамагла Расея й яе марыянэтка Аўгуст II Сас. Да прыкладу, месьцічы Воршы ў 1706 г. (калі швэды былі ў Беларусі) узьнялі паўстаньне супраць расейскага гарнізону, зьнішчылі жаўнераў ды абвесьцілі пра пераход места пад швэдзкі пратэктарат [Feldman 1925:180]. У ліпені 1708 г. месьцічы Магілёва ўрачыста сустракалі Карла XII і падаравалі швэдзкаму каралю, як патрону, *«на чырвоным ручніку ключы ад места»*. Вялізарнае швэдзкае войска абслугоўвалі зь някепскім для сябе прыбыткам купцы. Сярод іх былі беларускія купцы зь Вільні, летувіскія купцы з Коўны, жыдоўскія купцы, рыскія купцы (як немцы, гэтак і латышы *«undeutschen»*), літоўскія татары, нямецкія купцы з швэдзкага Шчэціна (Stettin, сёньня Польшча) [Krman 1969:629–634].

[7] Постаць беларускага сьвятара Багуслава Капіевіча, сваяка славутага Гальляша Капіевіча, вартая напісаньня асобнай кнігі. Падарожнік па краінах Эўропы (Шатляндыя, Ангельшчына, Нямеччына), ён назьбіраў шмат грошай на патрэбы беларускіх адзінаверцаў, уладкаваў шэраг студэнтаў-пратэстантаў ува ўнівэрсытэты Заходняй Эўропы.





Антышвэдзкая кааліцыя ВКЛ *(«рэспубліканты»)* на чале з Рыгорам Агінскім пачала амаль сынхронна з Сапегамі кансультацыі з галоўным ворагам Швэцыі Расеяй. Узначальваў перамовы зь літоўскага боку буйны каталіцкі герарх канонік віленскі Крыштап Белазор. Гэты факт падкрэсьлівае адвечную антышвэдзкую пазыцыю каталіцкага касьцёлу ВКЛ абодвух абрадаў што да пэрспэктывы пратэктарату пратэстанцкай Швэцыі над Беларусяй. Ужо 3 красавіка 1702 г. у Маскве было падпісана першае пагадненьне паміж ВКЛ і Расеяй, згодна зь якім у Беларусь уваходзілі 36 000 жаўнераў Пятра I ды на патрэбы *«войска літоўскага»* царскі ўрад ахвяраваў шалёныя грошы – 40 000 рублёў ды яшчэ 15 000 рублёў канкрэтна канфэдэрацыі рэспубліканцаў. Агінскія (як і кароль Аўгуст II) атрымлівалі сталую грашовую падтрымку з Расеі. Напрыклад, у ліпені 1708 г. у Горках *«на войска літоўскае з новым гетманом дано 12 000 рублёў»* [PIBPV 1951-8-2:513]. Дамова рэспубліканцаў з Расеяй фактычна падцінала сувэрэнітэт Рэчы Паспалітай. Згодна зь яе сакрэтным пунктам ВКЛ перадавала ў карыстаньне Расеі Друю. Гэтая беларуская цьвердзь (якая належала Сапегам!) мела выключнае стратэгічнае значэньне, бо кантралявала ўвесь рух па Дзьвіне ў Швэцыю. Як адзначыў у 1925 годзе польскі гісторык Юзаф Фэльдман, упершыню ў гісторыі ВКЛ добраахвотна адарвала адвечнаму супраціўніку ўласны кавалак зямлі, што стварыла вельмі небясьпечны прэцэдэнт на будучыню [Feldman 1925:11]. Таксама Агінскія абяцалі, што ВКЛ будзе трымаць вечны хаўрус з Расеяй, нават калі Польшча выйдзе зь яго. Невыпадкова ў інструкцыі Пятра I расейскаму амбасадару ў Рэчы Паспалітай Паўлу Патоўцаву (Павел Потовцев) быў пункт: *«Дамагацца поўнай інкарпарацыі Літвы пад высокую ўладу цара»* [Feldman 1925:13].

19 чэрвеня 1702 г. Пётар I пастанавіў зьвярнуцца да беларускіх месьцічаў. У грамаце да *«литовских бургомистров, райцев, лавников, мещан и всего посполства»* цар абяцаў клопат і палёгкі ды спадзяваўся, што ўваход вялізарнай расейскай арматы не парушыць пакою бела-

SACRÆ REG. MAJEST.
SVECIÆ
UNIVERSALES
ad Inclitos Ordines
Magni Ducat. Lithuaniæ.

Ihrer Königl. Majest.
von Schweden
UNIVERSALES
an die Hoch- und Wohlgebohrne Stände des
Groß-Fürstenthums Litthauen.

*37. Унівэрсал Карла XII беларуска-летувіскай шляхце. Стакгольм. Друк. 1706 г.*

рускіх местаў [PIBPV 1889-2 №545]. 9 ліпеня 1702 г. ВКЛ і Расея падпісалі новую дамову, згодна зь якой *«Рэч Паспалітая Літоўская»* (вяртаньне тэрміну XVI ст. – Аўт.) пагаджалася быць *«под опекой и помощью великого царя»*. Маскоўскі ўрад зноў даваў 30 000 рублёў. Рэспубліканты ў адказ на гэта заявілі, што, нават калі Карона будзе захоўваць нэўтралітэт, Літва будзе змагацца за цара супраць швэдаў [Feldman 1925:15]. Нарэшце, 13 сьнежня 1703 г. была падпісана трэцяя дамова, згодна зь якой Агінскія атрымалі 60 000 рублёў ды згадзіліся *«лічыць Сапегаў ворагамі Айчыны нароўні швэдаў»*. Апошняе азначала пачатак грамадзянскай вайны ў Беларусі й руйнаваньне Агінскімі ды Масквой усіх сапегаўскіх местаў і маёнткаў у Літве. Да таго ж Пётар I абяцаў па вайне *«ўшанаваць інтарэсы ВКЛ»* [Feldman 1925:45].

У адказ Швэцыя зрабіла захады, перш-наперш скіраваныя на ўмацаваньне хаўрусу з Сапегамі ды пратэстантамі ВКЛ. У канцы 1703 г. швэдзкі ўрад пастанавіў па вайне ўлучыць ВКЛ (Інфлянты, Летуву, Беларусь) у склад Швэдзкага каралеўства [Feldman 1925:75].

Такім чынам, пачалася вялікая палітычная й вайсковая гульня Расеі й Швэцыі, у цэнтры якой воляю лёсу апынулася Беларусь. Становішча нашмат ускладняла грамадзянская вайна паміж антышвэдзка і прашвэдзка настроенай шляхтай. Ужо ўлетку 1703 г. аддзел Рыгора Агінскага (500 вершнікаў) заатакаваў людзей Казімера Сапегі ля Баранавічаў, але з да-








*38. Першы паход Карла XII празь Вялікае Княства Літоўскае. Сакавік – красавік 1702 г.*

памогаю швэдзкага рэгімэнту апошні здолеў адбіцца. У 1704 годзе стараста менскі Крыштап Завіша ўшчэнт разьбівае аддзелы Рыгора Агінскага пад Друяй [Feldman 1925:142]. Пасьля гэтай паразы Агінскі просіць Пятра як мага хутчэй прыйсьці ў Беларусь.

У сваю чаргу, забойства на загад Пятра I уніяцкіх манахаў у Полацку ў 1705 годзе адштурхоўвае ўніяцкую шляхту ад супрацоўніцтва з Расеяй [Deruga 1936]. Хадзіла пагалоска, што ўніятаў забілі нібыта за сувязь з Сапегам ды швэдамі. Шмат найвышшых уніяцкіх герархаў, напрыклад,

* Месца бітвы 15 лютага 1703 г. паміж швэдзкім войскам на чале з Адамам Людвікам Левэнгаўптам і прарасейскімі зьвязамі беларуска-летувіскай шляхты на чале з Рыгорам Антоніем Агінскім.

пратамандрыт полацкі Лявон Кішка, уцяклі на Валынь [Feldman 1925:151–152]. Патроху прарасейскія настроі шляхты сталі саступаць на карысьць сымпатыі да Швэцыі. У 1705 годзе Рыгор Агінскі піша ліст канцлеру Швэцыі Карлу Піпэру (Karl Piper, 1646–1716), што згодны на перамовы з Казімерам Сапегам [Feldman 1925:162]. У 1706 годзе на бок швэдаў пераходзіць гетман вялікі літоўскі й кашталян менскі Міхал Вішнявецкі, які зазначыў, *«што калі Маскаль выб'е Швэда, то будзе гэта горшы пратэктар, які адразу Русь (Беларусь. –* Аўт.*) возьме да сябе»* [Feldman 1925:224].

Агулам сытуацыя ў Вялікім Княстве часоў вайны была досыць складаная й заблытаная. У палітычным сэнсе спачатку легітымнымі былі хаўрусьнікі Расеі, бо за імі стаяў праўдзівы кароль Аўгуст II Сас. Ад 1704 г. па выбарах каралём швэдзкага пратэжэ Станіслава Ляшчынскага паўстала альтэрнатыўная, *«швэдзкая»* сыстэма ўлады ВКЛ. *«Швэдзкім»* вялікім гетманам літоўскім быў Казімер Сапега, *«расейскім»* – Рыгор Антоні Агінскі. На сойміках паміж беларускай шляхтай тачыліся спрэчкі. У 1706 годзе па дамове ў месьце Альт-Ранштат (Alt-ranstädt) Аўгуст II вымушаны быў канчаткова адмовіцца ад кароны. У выніку прарасейская сыстэма ўлады ВКЛ страціла легітымнасьць. Перавага засталася за прашвэдзкай партыяй беларускай шляхты, якая да Палтавы цалкам кантралявала становішча ў ВКЛ. Параза швэдаў пад Палтавай (1709) зноў кардынальна зьмяніла ўвесь расклад беларуска-летувіскай палітычнай эліты.

Паўночная вайна 1702–1708 гг. у Беларусі яшчэ чакае свайго дасьледніка. Таму спынімся толькі на асобных момантах побыту швэдзкага войска ў Беларусі. Як ужо гаварылася, у красавіку 1702 г. швэдзкае войска на чале з Карлам XII упершыню ўваходзіць у межы ВКЛ. Ад Расіёнаў яно рухаецца разам з аддзелам Казімера Яна Паўла Сапегі. Швэдзка-беларуска-летувіскае войска ўваходзіць у Коўна. Адтуль Карл XII праз Мерач/Merkine, Лейпуны/Leipalingis, Сапоцкін, Саколку й Васількаў кіруецца ў Польшчу. Тымчасам 5 красавіка 1702 г. адзін швэдзкі аддзел уваходзіць у Вільню. Як падае храніст Віленскага каталіцкага біскупства, *«5 красавіка а 4-й гадзіне раніцы дзьве тысячы швэдаў увайшлі ў места. Вельмі палохалася іх прыходу нашае сьвятарства зь вядомых прычынаў (ціску пратэстантаў. –* Аўт.*). Але ўсё абышлося кантрыбуцыяй»* [Protokoły aktów kapituły Wileńskiej 1895-1:117]. 16 красавіка 1702 г. у захопленую бяз бою швэдамі Вільню з трыюмфам уваходзіць Казімер Сапега [Mörner 1912:7]. 9 траўня 1702 г. нейкі швэдзкі аддзел абрабаваў Ашмянскі земскі архіў [Jankowski 1896-1:11–12].





Ужо 3 сакавіка 1702 г. генэрал Магнус Стэнбок (Magnus Stenbock, 1664–1717) дакладаў каралю, што меская рада (купцы. – Аўт.) Вільні хоча перайсьці пад пратэктарат Швэцыі. Таксама схіляецца да хаўрусу з Швэцыяй *«шмат шляхты з Русі»* (Беларусі. – Аўт.) [Adlerfeld 1740-1:197]. 15 лютага 1703 г. швэдзкія аддзелы на чале з генэралам Адамам Людвікам Левэнгаўптам (Adam Ludvig Lewenhaupt, 1659–1719) ушчэнт разьбіваюць прарасейскую групоўку літоўскай шляхты на чале з Рыгорам Антоніем Агінскім каля мястэчка Салаты (Saladen у швэдзкіх крыніцах), што на Гарадзеншчыне[8]. У ліпені 1704 г. Варшаўская канфэдэрацыя, арганізаваная Карлам XII, выбірае на пасаду караля польскага й вялікага князя літоўскага ваяводу познаньскага Станіслава Ляшчынскага, а таксама прымае Варшаўскі трактат. Познань была адным з цэнтраў польскіх пратэстантаў. Артыкул 17 Варшаўскага трактату вяртаў Сапегам усе пасады й маёнткі. Артыкул 18 даваў права пратэстантам і праваслаўным гадаваць дзяцей у веры продкаў. Артыкулы 19–26 вызначалі швэдзкую Рыгу адзіным марскім портам для ВКЛ, Украіны, Прусіі й Курляндыі. Безумоўна, усе гэтыя палажэньні спрыялі Сапегам, пратэстанцкай шляхце, беларускім купцам, а таксама мацавалі пазыцыі Швэцыі ў Беларусі й Летуве.

У сьнежні 1705 г. Карл XII зноў рушыць у кірунку Беларусі. Ягоная мэта – прымусіць прарасейскую частку беларуска-летувіскай шляхты перайсьці на бок швэдаў і Станіслава Ляшчынскага. Першым беларускім мястэчкам на шляху была Сухаволя. Спыніўшыся ў мястэчку Каменка Карл выдае ўнівэрсал да беларуска-летувіскай шляхты (*Littauen Noblessen*). Пазьней тэкст унівэрсалу ў перакладзе на швэдзкую мову надрукаваў храніст Карла XII Ёран Нордбэрг (Jöran Nordberg, 1677–1744) [Nordberg 1740:675–678]. Унікальны арыгінал напісанага на лаціне й на нямецкай мове ўнівэрсалу мне пашанцавала на собскія вочы пабачыць ува ўнівэрсытэцкай бібліятэцы Ўпсолы [Carolina Rediviva, Acta Sveco-Polonica. Palmsk. 96:513–524]. Маніфэст мае назву *«Ad Inclitos Ordines Magni Ducat Lithuaniae» («Слаўнай эліце Вялікага Княства Літоўскага»)*. Упершыню ў афіцыйным назове майстату Карла XII зьяўляецца новы радок: *«Generosis Ordinibus in Magno Ducitu Lithvaniae»* (*«Генэральны распарадчык Вялікага Княства Літоўскага»*). У сваім прывілеі Карл XII абяцаў захаваць усе правы й свабоды шляхты, даць усім канфэсіям надзейную ахову, абараніць ад *«маскоўскага барбарызму»* (Moscorum barbararum) ды адваяваць ад Масковіі і далучыць абратна да ВКЛ Смаленскае ваяводзтва.

[8] У швэдзкай гістарыяграфіі гэтае сутыкненьне памылкова лякалізуецца ў Прусах.




*39. Другі паход Карла XII праз Вялікае Княства Літоўскае. Студзень – травень 1706 г.*

11 студзеня 1706 г. Карл XII нечакана для расейцаў бярэ ў аблогу Горадню. 15-тысячнае расейскае войска цудам пакідае места, затапіўшы ў Нёмне ўсе гарматы. Пры канцы лютага 1706 г. швэды выходзяць да мястэчка Жалудок на Горадзеншчыне. Тут 3 сакавіка 1706 г. пастаноўлена зрабіць галоўную стаўку Карла XII: *«Littauiska staden Scheludok under nära två månader Carl XII:s högkvarter»* [Gederhielm 209]. Выбар Жалудка не выпадковы – мястэчка належала Сапегам. Карл XII на 2 месяцы спыніўся ў Жалудку ў кляштары францішканаў. Станіслаў Ляшчынскі – у Васілішках [Adlerfeld 2-1740:205]. З Жалудка швэдзкія аддзелы расьцярушыліся па ўсёй Заходняй Беларусі з мэтаю зьнішчыць прарасейскія дружыны Агінскіх і Радзівілаў ды назьбіраць кантрыбуцыі. Каля мястэчка Волкінікі (Летува) палкоўнік Карл Дзюкер (Carl Gustaf Düker, 1663–1732) разьбівае кааліцыю войскаў Рыгора Агінскага й Станіслава Заранка, узмоцненую расейцамі. Карл Густаў Крэйц (Carl Gustaf Creutz, 1660–1728) бярэ вялізную кантрыбуцыю з Горадні. 25 лютага 1706 г. Карл Дзюкер разам зь вернымі Станіславу Ляшчынскаму жаўнерамі ўваходзіць у Вільню. Толькі на віленскіх езуітаў накладаецца кантрыбуцыя для швэд-







*40. Швэдзкі кароль Карл XII. У 1702–1708 гг. ён тройчы прайшоў па Беларусі. Мастак Я. Вэдэкінд (J. Wedekind). Малюнак 1719 г. Замак Грыпсгольм (Gripsholms slott).*

зкага войска ў памеры 2 000 талераў. Кожны месьціч мог адкупіцца ад рабункаў жаўнераў пэўнай сумай грошай. Згодна з швэдзкімі крыніцамі гэта выглядала так: *«Палкоўнік Дзюкер 25 лютага ўступіў у Вільню. Расейцы ўцяклі. Швэды адпачылі ў месьце колькі дзён ды наклалі на горад кантрыбуцыю»* [Adlerfeld 1740-1:211].

Перамога швэдзкага войска на чале з генэралам Карлам Рэншкёльдам (Karl Gustaf Rehnsköld, 1651–1722) над расейска-саксонскай арміяй Аўгуста II пад местам Фраўштат (Fraustadt) зьмяніла да лепшага становішча швэдаў у Беларусі. Як занатаваў Густаў Адлерфэльд: *«Вестка пра перамогу пад местам Фраўштат нарэшце дайшла да ліцьвінаў. Таму паўстанцы, верныя Аўгусту II, адракліся ад яго і прысягнулі Станіславу Ляшчынскаму, які своечасова абвесьціў амністыю. Штодзень у Васілішкі прыбывалі дэпутацыі шляхты й магнаты, якія давалі прысягу каралю Станіславу. Толькі Радзівіл, заклятый вораг Сапегаў, таксама як і Агінскі, не прыехаў, таму намі было вырашана зьнішчыць усе ягоныя* (Радзівілавы. – Аўт.) *уладаньні, якіх было шмат у гэтай краіне, якія й спустошылі польскія ды швэдзкія*

*жаўнеры»* [Adlerfeld 1740-2: 211]. Гаворка ідзе пра канцлера вялікага Караля Станіслава Радзівіла (1665–1715). Прарасейска настроены Кароль Радзівіл сустракаўся ў 1705 годзе ў Карэлічах зь Пятром І. У 1704 годзе ён атрымаў ад Аўгуста ІІ Слонім і Слонімскую эканомію, адабраныя ў Бэнэдыкта Сапегі.

У выніку мэтанакіраваных карных апэрацыяў швэдзка-польскіх аддзелаў былі панішчаныя Радзівілавы месты Беларусі: Нясьвіж, Мір, Сьвянцяны, Навагрудак, Карэлічы, Слонім. Палітычны вынік гэтых апэрацыяў быў дасягнуты. У чэрвені 1706 г. Кароль Радзівіл перайшоў на бок швэдаў ды ў ліпені сустрэўся з Карлам XII. Пакуль той рабіў конныя прагулянкі вакол Жалудка (падчас адной зь якіх праваліўся ў ваду з-за благога мосту ды ледзьве не загінуў) і прымаў дэлегацыю віленскіх месьцічаў, швэдзкія аддзелы на чале з Карлам Крэйцам захапілі Нясьвіж – сталіцу Радзівілаў. Места баранілі ўкраінскія казакі на чале з старадубскім палкоўнікам Міхайлам Міклашэўскім. Згодна з швэдзкімі крыніцамі казакі парабілі барыкады на гандлёвай плошчы места, але швэды пры сутыкненьні забілі 300 зь іх, засталых пабралі ў палон [Adlerfeld 1740-2:214]. Паводле ўкраінскай Чарнігаўскай хронікі швэды, якія *«пред тым у мнишок лядских в кляшторе ховались 3 дни»* (?!), па-здрадніцку пабілі казакоў у часе ранішняй царкоўнай службы: *«В Несвиже на консистенции под час утрени, здрадецко шведы напавши полковника Миклашевского, да зятя его Гамелея и инших козакив забили»*.

Ад таго, якому шляхоцкаму роду належала тое ці іншае места Беларусі, часта залежаў ягоны лёс – расейцы палявалі на прашвэдзкую партыю палітычнай эліты Вялікай Літвы, швэды, наадварот, на прарасейскую. Да прыкладу, Пінск, насупраць цьверджаньням «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі», ня мог быць *«спалены»* швэдамі [1999-5:444], бо местам кіраваў *«стараста пінскі Бабравіцкі, які належаў да партыі Сапегаў»* [Adlerfeld 1740-2:220].

У пачатку красавіка 1706 г. войска Карла XII выйшла з Жалудка й праз Дзярэчын і Азарніцу 14 красавіка ўвайшло ў мястэчка Ружаны (Ражаны), адну з рэзыдэнцыяў Сапегаў, але *«Рыгор Агінскі й расейцы зьнішчылі мястэчка, якое належала Сапегам, і палац, які ляжаў у руінах. Апроч жыдоў, якія трымалі тут ешыбот, мы не сустрэлі тутніводнага жыхара»* [Adlerfeld 1740-2:219]. Наступным местам прыпынку караля была вёска Альба, *«найзамажнейшая цудоўная сядзіба Сапегаў, дзе мы як мае быць адпачылі»* [Тамсама, 220]. 18 красавіка 1706 г.





Карл XII з войскам дзень адпачываў у Бярозе Картускай. Кароль наведаў кляштар картузаў, *«які шчодра фундавалі Сапегі»* [Тамсама].

Неўзабаве праз Хомск, Дружылевічы й Ставок Карл XII 24 красавіка 1706 г. рушыў на Пінск. Тут Карл XII падняўся на вежу кляштара езуітаў (Jesuiternas Closter) (калегіюму? – Аўт.), якая была найвышэйшай у месьце (som det högsta i staden), і дзьве гадзіны размаўляў на лаціне зь сьвятаром, рэктарам езуіцкага калегіюму (talade han Latin under två fulla timmar) [Nordberg:690; Konung Karl XII:s №189:276–278]. На жаль, падрабязнасьці гэтай гутаркі невядомыя, бо ў вежы бракавала месца для іншага ўдзельніка. Але вядома, што, пазіраючы на бязьмежнае «Палескае мора», уражаны бязьмежнымі прасторамі вады навокал, швэдзкі кароль напісаў на мурох вежы: «Non plus ultra» («На тым баку анічога няма»). Надпіс гэты добра ілюструе эрудыцыю Карла XII, бо дэвіз «Non plus ultra» доўгі час упрыгожваў дзяржаўны герб Гішпаніі, якая лічылася апошняй краінай тагачаснага сьвету. Але калі Хрыстафор Калюмб адкрыў Амэрыку, дэвіз «Non plus ultra» зьмянілі на «Plus ultra» («Ёсьць яшчэ зямля») [Abrahamson 2000:117]. Пакуль Карл XII каля месяца жыў у Пінску, швэдзкія войскі здабылі перамогу над расейцамі пад Клецкам, пасьля аблогі захапілі Ляхавічы. 12 траўня 1706 г. Карл XII наведаў пратэстанцкую «сталіцу» Беларусі Слуцак – места, дзе адбываўся генэральны сынод кальвіністкага сьвятарства й шляхты. Места належала прынцу Карлу Нэйбургу (Karl Philip Neuburg, 1661–1742), мужу апошняй пратэстанткі з роду Радзівілаў Людвікі Шарлёты Радзівіл (1667–1695), дачкі паплечніка Карла X Багуслава Радзівіла. Згодна з Адлерфэльдам, *«Карл XII не спыніўся на ноч у гэтым месьце, адным з найбольшых у гэтай краіне, ды вярнуўся з эскортам у Пінск»* [Adlerfeld 1740-2:232].

23 траўня 1706 г. войска Карла XII, дачакаўшы добрага надвор'я ды сходу вады, рушыла праз Дубаі й Любашоў у кірунку Ўкраіны па сьлядох расейцаў. Каб кантраляваць сытуацыю ў Беларусі, Карл XII пакінуў у Берасьці швэдзкі гарнізон на чале з генэралам Ёханам Мэерфэльтам (Johan August Meijerfelt, 1664–1749). Згодна з швэдзкімі крыніцамі, *«пакуль Мэерфэльт стаяў у Берасьці, астатняя частка шляхты й магнатаў гэтай краіны прысягнула каралю Станіславу, каб пазьбегчы лёсу Радзівілаў»* [Adlerfeld 1740-2:233–234]. Швэдзкі паход 1706 г. скончыўся ўсталяваньнем кантролю Швэцыі над Заходняй і Цэнтральнай Беларусяй.




*41. Апошні «вялікі» паход Карла XII (студзень – кастрычнік 1708 г.) і шлях швэдзкага войска на чале з генэралам Адамам Людвікам Левэнгаўптам (жнівень – кастрычнік 1708 г.) празь Вялікае Княства Літоўскае.*

У студзені 1708 г. пачаўся апошні вялікі паход. Швэдзкае войска на чале з Карлам XII па трох маршрутах рушыла на Беларусь. Першым мястэчкам на шляху каралеўскай групоўкі ў ВКЛ быў Новы Двор. Канчатковаю мэтай паходу Карла XII былі Масква й дэтранізацыя Пятра I. У пачатку лютага Карл XII авалодаў Горадняй і праз Кульбакі, Ліду, Ліпнішкі, Суботнікі, Гальшаны, Сьвідляны прыйшоў 8 лютага 1708 г. у Смургоні, *«невялікае места ў Літве»*. Тут было вырашана зрабіць галоўную стаўку швэдзкага караля. Войскі спыніліся побач у мястэчках Лебедзева, Маркава, Кальчуны, Студзень, Суботнікі, Маладэчна. У Смургонях Карл XII правёў 4 тыдні й 6 дзён [Nordberg 1740:848].

Швэды цалкам кантралявалі Заходнюю й Цэнтральную Беларусь. Агулам швэдзкае войска ў Рэчы Паспалітай налічвала 33–34 тысячы жаўнераў [Stille 1918: 291]. Расейская групоўка лікам 57 тысячаў жаўнераў на чале з Барысом Шарамецьевым (Борис Шереметьев) адышла ўва Ўсходнюю Беларусь ды заняла пазыцыі па лініі Чашнікі–Бешанкавічы–Галоўчын. У складзе вялікага швэдзкага войска ў Беларусі былі





таксама польскія аддзелы караля Станіслава Ляшчынскага. У Польшчы засталося 8 000 швэдзкіх жаўнераў на чале з генэралам Эрнэстам Красавам (Ernst von Krassow), каб падтрымліваць уладу Станіслава Ляшчынскага [Stille 1918:289].

Асноўны хаўрусьнік Карла XII беларускі магнат Казімер Сапега й ягоны пляменьнік Ян Сапега меў досыць буйное войска, якое налічвала 16 000 жаўнераў [Nordberg 1740:849]. Варта адзначыць, што Сапегі мелі ўплыў на швэдзкую палітыку. Асабліва трэба вылучаць фігуру дарадцы Карла XII Бэнэдыкта Сапегі. Крыніцы сьведчаць, што акурат князь Бэнэдыкт падказаў Карлу ідэю дэтранізацыі Аўгуста II [Feldman 1925:276]. Згодна з швэдзкімі крыніцамі, часам уплыў Бэнэдыкта Сапегі († 12.08.1707) на Карла XII перавышаў уплыў швэдзкага канцлера Карла Піпэра: *«Hans råd ofta förmådde lika mycket eller mer än den försiktige Pipers»* («Ягоныя парады былі больш моцныя, нават мацнейшыя за асьцярожныя Піпэра») [Konung Karl XII:s 1893 №189]. Пасьля сьмерці Бэнэдыкта Сапегі ягонае месца ля Карла XII заняў Казімер Сапега, які ні на крок не адыходзіў ад швэдзкага караля ў часе беларускага паходу. Кароль Станіслаў Ляшчынскі абураўся, што падпісваў афіцыйныя паперы апошнім, калі там ужо стаялі вырашальныя подпісы Карла XII (Carolus Rex) і Казімера Сапегі (Sapieha Dux) [Feldman 1925:278–279].

З 18 сакавіка па 6 чэрвеня 1708 г. галоўны табар Карла XII стаяў у Радашкавічах. Тут Карл XII праводзіў вялікія вучэньні для жаўнераў. 11 сакавіка з Радашкавічаў у Вільню выехаў Станіслаў Ляшчынскі. Віленскі магістрат ува ўрачыстай атмасфэры ўручыў ключы ад места. 31 сакавіка 1708 г. у Радашкавічы для ўдзелу ў паседжаньні швэдзкай вайсковай рады прыбыў генэрал Адам Людвік Левэнгаўпт [Adlerfeld 1740-3:9–17]. 7 траўня 1708 г. у мястэчку адбыўся экзамен зь лёгікі й філязофіі (logicis och philosophia) для новых лютэранскіх пастараў, якія прынялі сан і былі накіраваныя на службу ў паўднёва-сконскі* аддзел рэйтараў (Södra Skånska rytteriet) [Westerman: 283]. Акурат у Радашкавічах швэды адчулі харчовую праблему: *«Мы былі зноў у гэтай краіне, але зямля ня родзіць столькі, колькі трэба нашаму войску. Нават калі б мы пазьбіралі ўсю еміну гэтай краіны, яе ня стала б...»* [Adlerfeld 1740:3–12]. У гэткіх неспрыяльных умовах швэдзкія войскі перайшлі да практыкі та-

* Сконэ – частка Швэцыі, забраная ад Даніі.

тальнай канфіскацыі хлеба й іншых прадуктаў харчаваньня ў вёсках і шляхоцкіх маёнтках, чым адштурхнулі ад сябе беларускае насельніцтва. Тады ж сярод простага люду ўзьніклі легенды пра чарадзейства швэдаў, бо, ведаючы законы тэрмадынамікі, швэды лёгка знаходзілі схаваны ў ямы хлеб.

У траўні 1708 г. у Радашкавічах памёр швэдзкі генэрал Арвід Аксэль Мардэфэльт (Arvid Axel Mardefelt, 1660–1708) [Jeffryes 1953: 47]. Неўзабаве ў Радашкавічах быў выбраны новы вялікі гетман – староста бабруйскі Ян Сапега (?–1730). Апошні крок выклікаў розгалосьсі сярод літоўскай шляхты, бо прыхільнікі Міхала Вішнявецкага хацелі бачыць апошняга на пасадзе гетмана. Замест таго, каб мацаваць пазыцыі, Ян Сапега пастанавіў адпомсьціць сваім ворагам, рабуючы маёнткі Людвіка Пацея, Рыгора Агінскага ды іншых, чым таксама выклікаў незадавальненьне сярэдняй і дробнай шляхты.

У Радашкавічах у швэдзкім табары 15 красавіка 1708 г. польскія магнаты Яраслаў Любамірскі й Януш Вішнявецкі ды таксама шэраг іхнай кліентуры-шляхты прынялі ў палітычных мэтах лютэранства. Магнаты й шляхта нават падпісалі дакумэнт «Wyznanie wiary prawdziwej chrześcijańskiej Ewangielicznej…» [Chodzka 1870:125]. Апошні крок стварыў вельмі небясьпечную сытуацыю для каталіцкага касьцёлу, бо ў выпадку перамогі швэдаў палітычная ўлада ў Рэчы Паспалітай перайшла б да пратэстантаў. Таму каталіцкі клір узмацніў антышвэдзкую прапаганду ў рыма- й грэка-каталіцкіх касьцёлах. Шмат яе сюжэтаў перайшло ў беларускі фальклёр.

6 чэрвеня 1708 г. швэдзкае войска выйшла з Радашкавічаў і праз Гарадок рушыла на Менск. Станіслаў Ляшчынскі вярнуўся да Польшчы. 8 чэрвеня 1708 г. швэды на чале з Карлам XII увайшлі ў Менск. Далейшы шлях швэдаў ува Ўсходнюю Беларусь закрывала 57-тысячная расейская групоўка. Але нечаканым манэўрам праз Сьмілавічы, Ігумен, Бярозу Сапескую (Бярэзіну) войска Карла XII выйшла скрозь балоты й лясы на рэдуты левага расейскага фронту ля мястэчка Галоўчын. Тут адбылася апошняя вялікая бітва, у якой швэды атрымалі бліскучую перамогу. Расейскае войска страціла каля 6 000 жаўнераў, усе гарматы, амуніцыю й абоз. Быў забіты расейскі генэрал Вільгельм Швэдэн (Wilhelm von Schweden) і шэраг вышэйшых афіцэраў [Jeffryes 1953:52]. Расейскі генэрал Анікей Рапнін (Аникей Репнин) быў разжалаваны ў жаўнеры, генэрал Іван Чамбэрс асуджаны на высылку. Карл XII, жаўнеры








*42. Бітва ля Галоўчына. Швэдзкі плян (04.07.1708).*

якога з дапамогай пантонаў і пабудаваных грэбляў выйшлі праз непраходныя балоты да пазыцыяў непрыяцеля, атрымаў бліскучую тактычную перамогу. Рэляцыі пра бітву ля беларускага мястэчка Галоўчын

(Holowczyn), *«што месьціцца пасярод лясоў на беразе рэчкі Бабеч, якая цячэ праз гэтую частку Літвы і ўпадае ў рэчку Друч»*, ёсьць амаль ува ўсіх дзёньніках швэдзкіх вайскоўцаў. У гонар Галоўчынскай вікторыі 3–4 ліпеня 1708 г. у Швэцыі былі выбітыя 2 мэдалі з дэвізам: *«Пераможаны лясы, балаты й непрыяцель»* [Nordberg 1740:856–859]. У Стакгольме й Рызе пра гэтую перамогу былі надрукаваныя тры ўлёткі, якія сёньня захоўваюцца ўва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы Ўпсолы «Berättelse från Fält-Lägret vid Holowczyn» (Stokholm, 1708); «Berätellse om staget vid Holowczyn» (Stokholm, 1708); «Tidning från Riga om slaget vid Mohilow» (Riga, 1708).

Нягледзячы на відавочны факт вялікай перамогі, пазьнейшая расейская гістарыяграфія зводзіла бітву пад Галоўчынам да невялікай сутычкі, якая ня мела жаднага ўплыву на хаду вайны. Пачатак гэткай традыцыі паклаў Пётар I, які ў лісьце да кароннага (польскага. – Аўт.) гетмана Адама Сяняўскага цьвердзіў, што насамрэч пад Галоўчынам перамогу атрымалі расейцы, якія захапілі ў палон *«100 одних высших офицеров [...] что и сам король шведский едва в трех или четырех особах до пехоты своей ушел и в великом опасении был»* [PIBPV 1948-8-1 №2499]. Пасьля паразы пад Галоўчынам расейскае войска ў паніцы пакінула абшары Ўсходняй Беларусі, перайшоўшы Дняпро, не спыняючыся нават у Магілёве. Пра характар гэтага адступленьня, якое расейскі гісторык Я.Тарле назваў *«планомерным»* [Tarle 1958:167], сьведчыць тое, што ўсе расейскія жаўнеры, якія мелі раны на сьпіне, згодна з загадам Пятра I былі асуджаныя на кару сьмерцяй. Незалежны назіральнік славацкі лютэранскі пастар Даніэль Крман, які адразу пасьля бітвы ехаў праз Галоўчын да Магілёва, занатаваў у дзёньніку: *«Мы пабачылі па дарозе шмат паламаных вазоў расейцаў ды безьліч зьмерлых коняў, смурод ад якіх ішоў на мілі, усё гэта цягнулася ажно да самага Магілёва»* [Krman 1969:598]. Сёньня швэдзкае грамадзтва добра ведае пра перамогу пад Нарваю (у цэнтры Стакгольму ёсьць нават вуліца Нарвы), але забылася пра Галоўчын.





# 2.5. Швэдзкі лягер у Магілёве

...золотые дни настоят.
ПЁТАР I

Пасьля перамогі над расейскім войскам каля мястэчка Галоўчын 3–4 ліпеня 1708 г. швэдзкае войска праз 3 дні бяз бою заняло Магілёў. Месячны побыт швэдаў у месьце зь 7 ліпеня па 5 жніўня 1708 г.[9] дагэтуль застаецца адной з найцьмянейшых старонак Вялікай Паўночнай вайны ў Беларусі. Дарма што гэтыя падзеі добра адлюстраваныя ў тагачасных беларускіх крыніцах. У пазьнейшай расейскай савецкай ды беларускай савецкай гістарыяграфіі запанавалі іх фальшывыя трактаваньні. Таму на падставе беларускіх і швэдзкіх крыніцаў паспрабую рэканструяваць тыя драматычныя здарэньні.

## НАПЯРЭДАДНІ

Падчас вайны другое па заможнасьці места Літвы апынулася ў вельмі складаных варунках. Геаграфічнае становішча Магілёва як «усходняе брамы» ВКЛ на шляху да Расеі вызначыла асаблівае значэньне места ў швэдзкіх ды расейскіх вайсковых плянах. Доўгую маскоўскую акупацыю зьмяніла швэдзкая, пасьля якой расейскае войска проста зьніштожыла места.

Як ужо гаварылася, шляхта ВКЛ падзялілася на прамаскоўскую ды прашвэдзкую. У Рэчы Паспалітай былі два каралі. Адзінага войска ВКЛ не існавала, нават каб яно існавала, не дало б рады вялізным армадам

[9] 28.06. – 26.07. паводле старога швэдзкага календара. Даты ўсіх падзеяў падаюцца паводле сучаснага календара. Швэдзкі юліянскі каляндар на адзін дзень забягаў за праваслаўны (*«рускі»*) юліянскі каляндар. Напрыклад, 28 чэрвеня 1708 г. паводле швэдзкага календара было 27 чэрвеня 1708 г. паводле праваслаўнага календара. Таму розьніца для XVIII ст. паміж старым швэдзкім і сучасным календаром складала плюс 10 дзён (паміж старым праваслаўным і сучасным календаром розьніца ў XVIII ст. складала 11 дзён). Беларусь (Вялікая Літва) з канца XVI ст. перайшла на сучасны грыгарыянскі каляндар за выняткам праваслаўнай царквы. Расея як праваслаўная краіна ўжывала выключна юліянскі каляндар да 1917 году. Пратэстанцкая Швэцыя карысталася сваім варыянтам юліянскага часазьлічэньня да 1753 г. – Аўт.

Пятра I або Карла XII. Бараніць Айчыну з зброяй у руках месьцічы ня мелі аніякай магчымасьці.

Таму, каб захаваць места ад зьнішчэньня, магілёўцам нічога не заставалася як з пакораю трываць войскі абедзьвюх імпэрыяў. Да прыходу швэдаў местам звыш трох месяцаў валодалі расейцы на чале з генэралам Аляксеем Меншыкавым (Алексей Меньшиков). Як падае магілёўскі храніст Арэст, *«князь Меншыкаў на места Магілёўскае быў моцна злы, таму месьцічы адразу надавалі яму рознага хабару. Між іншым, збан хрусталёвы Гданьскі, у срэбра апраўлены, коштам 1000 злотых»* [Arest: LIII].

Прычынай кепскага стаўленьня расейцаў да места была нядаўняя гісторыя, а менавіта магілёўскае паўстаньне супраць расейскага гарнізону ў 1661 годзе, падчас крывавай вайны Вялікага Княства Маскоўскага зь Вялікім Княствам Літоўскім. Мэтаю гэтай вайны з боку Расейскай дзяржавы было канчатковае вырашэньне «літоўскага пытаньня»: зруйнаваньне адвечнага канкурэнта. Вайна вялася брутальнымі мэтадамі. Амаль што палова насельніцтва беларускіх паветаў ВКЛ была выгубленая. Расейскія жаўнеры не шкадавалі нават жонак і дзетак. На перамовах 1655 г. літоўская шляхта закідала расейцам: *«...людзей пачалі пасякаць, мужыкоў і жонак і младзенцаў пабівалі і дамы папалілі... Вінен кароль, вінна панства, а нашы дамы і белагаловы бабы і рабята малыя за што сеч і дамы паліць, нідзе такога разарэньня нет, сякуць усякага старога і малога і дамы паляць без астатку»* [Zaborovskii 1994:27–28]. Больш за ўсіх пацярпелі «адзіныя з расейцамі па веры» ўсходнія Імсьціслаўскае й Віцебскае ваяводзтвы ВКЛ. Зло нараджала помсту. Праваслаўныя жыхары Магілёва выразалі 2 000 маскоўскіх (праваслаўных) жаўнераў. Вернасьць краіне была высока адзначана ўрадам ВКЛ. Згодна з пастановай сойму ўсім сябрам магістрату была нададзеная шляхоцкая годнасьць, купцы й рамесьнікі атрымалі правы й свабоды, роўныя сталечнай Вільні. Герб места ўпрыгожыў дзяржаўны герб ВКЛ – Пагоня. Няма дзіва, што, захапіўшы места праз сорак гадоў, расейскія афіцэры марылі пра адплату. Упершыню гэтую думку ў часе балю, зладжанага магістратам у гонар расейцаў, выказаў Меншыкаў. Але яе аспрэчыў уплывовы генэрал Барыс Шарамецьеў (Борис Шереметьев):

*«Александр Данилович! Полно говорить [...] была война, можно разуметь, полна-ста и наши были виноваты... Посмотри, ныньче город Могилёв нас самих и солдат драгун и офицеров царских хлебом-солью кормит, а беды нам не творит, а от них благодарны. Нехай себе здравствуют»* [Arest: LIV].





Але магілёўцы ўвесь час чакалі горшага. Згодна з народным паданьнем толькі заступніцтва цудатворнае іконы Маці Божае ўратавала места ад помсты. Як падае ігумен Арэст, *«Меншыкаў меў звычай хадзіць на набажэнства да Брацкае царквы. Дык вось аднаго разу, калі ён абмяркоўваў плян зруйнаваньня Магілёва, абраз Маці Божай упаў далоўкі. Меншыкаў моцна спужаўся ды пачаў ад таго часу хадзіць да царквы Спаса»*.

З расейскай вайсковай традыцыі места мелася цалкам задарма ўтрымліваць войска, даючы штодня вялізную колькасьць харчоў і сена. Да таго ж, уцякаючы зь места, расейцы забралі *«гару правіянту й 200 бочак солі, каб нічога не пакінуць швэдам»*. Як сьведчыць хроніка, *«дзіўна, як наагул места Магілёўскае вытрывала ўсю гэтую маскоўскую навалу. Што да гэнага заклятага чарвя* (Меншыкава. – Аўт.) *з кагалам сваім, дык ён літаральна стачыў места»* [Тамсама].

Па выхадзе расейцаў месьцічы чакалі швэдаў з надзеяй, пагатоў у сваіх унівэрсалах Карл XII заяўляў, што збавіць Літву ад маскоўскай тыраніі і падтрымае новага караля Станіслава Ляшчынскага.

## СУСТРЭЧА

Нягледзячы на перамогу пад Галоўчынам, шлях швэдзкага войска з Радашкавічаў да места Магілёўскага быў цяжкі. Улетку 1708 г. з-за расейскай тактыкі «оголожения» мясцовасьці ўсходнія паветы ВКЛ зрабіліся татальнаю пустэчай, вёскі былі спаленыя («выжжены»), ацалелае насельніцтва хавалася ў лесе [PIBPV 1948-8-1 № 2507, 2533, 2539, 2599, 2606, 2611, PIBPV 1951-8-2 № 2599, 2604]. Пасьля пажараў пайшлі моцныя дажджы.

Зь лістоў швэдзкіх жаўнераў можна даведацца аб сапраўднай катастрофе Магілёўшчыны. Напрыклад, Карл Магнус Пасэ пісаў: *«Наш шлях да места быў вельмі цяжкі. Дождж ішоў звыш 6 тыдняў, дарогі ўлетку былі горшыя за лістапад. Адзін Бог ведае, колькі мы намучыліся. Па дарозе мы не сустрэлі аніводнага чалавека. Я сьведчу, што ніхто з нас ня змог купіць ані хлеба, ані піва»* [Posse 314–315]. І яшчэ адно сьведчаньне: *«Дарога на Магілёў была жахліваю. Войска здэмаралізавалася, усе хацелі есьці, плюс дождж ліў безь перастан-*



43. Сьцяг Ётляндзкага палка (Götalands regemente) войска Карла.

*ку на працягу 6 тыдняў. Кароль пастанавіў надоўга затрымацца ў Магілёве, каб даць войску адпачыць»* [Adlerfeld 1740-3:31].

У прыватным лісьце з Магілёва да сястры Ульрыкі Элеаноры Карл XII пісаў: *«Усё гэтае лета было вельмі цяжкае дзеля благога надвор'я й жудасных дарог. Праціўніка мы амаль ня бачылі й ня бачым, толькі зрэдку мільгаюць ля рэчак ягоныя маленькія аддзелы... Калі наша войска ўвайшло ў Магілёў, непрыяцель пакінуў у горадзе невялікую варту, якая неўзабаве зьбегла. Але яна пасьпела разбурыць мост праз Дняпро й зруйнаваць кладкі... Мы спыніліся табарам каля Магілёва, частка ў месьце, частка ў акалічных вёсках»* [Konung Karl XII:s. Egenhändiga bref 1893:91–93].

Першым у места 7 ліпеня ўвайшоў аддзел малдаўскіх вершнікаў, «валахаў» Карла XII, пад кіраўніцтвам Колкі Сандула. Кожны зь іх паводле швэдзкага вайсковага звычаю меў жмуток саломы на шапцы, каб пазнаць адзін аднаго. Пасьля спусташальнага побыту расейскага войска месьцічы сустракалі швэдзкае войска з надзеяй. Да прыкладу, адна зь мяшчанак, калі вершнікі праяжджалі праз рынак, закрычэла «швэдам»: «*Мосьце панове, баранеце нас ад тых Маскалёў, бо юж яны нам да жывога даелі».* Валахі шукалі расейцаў, але тыя пасьпелі разбурыць масты ды схавацца на іншым беразе Дняпра. Адтуль расейскія гарматы абстралялі места, але забілі толькі аднаго магілёўскага месьціча, які неабачліва прахаджаўся ўздоўж ракі [Arest: LVI].

8 ліпеня празь Віленскую браму на кані ўрачыста ўехаў Карл XII. 9 ліпеня магістрат зладзіў на чэсьць Карла баль. Зьвесткі пра гэта захаваліся толькі ў швэдзкіх крыніцах, тымчасам як хроніка Магілёва маўчыць, бо пасьля Вялікай Паўночнай вайны каралём Рэчы Паспалітай стаўся прарасейскі Аўгуст II, вораг Карла XII. Згодна з успамінамі швэдзкага вайскоўца Андрэаса Вэстэрмана (Andreas Westerman) *«9 ліпеня бургамістар і сябры магістрату сустракалі яго Каралеўскую Вялікасьць. Паводле свайго звычаю яны паднесьлі хлеб і соль. Потым каралю (як гаспадару места) уручылі на чырвоным ручніку ключы ад места»* [Westerman 284]. Швэды *«сталі табарам з правага боку ад места, пакінуўшы ў самім месьце варту, колькі аддзелаў і генэралаў»* [Posse: 315]. Местам швэдзкага лягеру сталася Буйніцкае поле, вядомае з XVIII ст. як Карлава даліна.

Як паведамляў храніст швэдзкага войска, *«нічога цікавага ў Магілёве ня дзеялася, апрача хіба вылазак калмыкаў, якія пераплывалі раку ды кралі нашыя коні. Спыніўшыся ў Магілёве, мы нарэшце атрымалі час і магчымасьць адпісаць лісты нашым сваякам. Кароль пісаў канцлеру ў Стакгольм»* [Adlerfeld 1740-3:32].

Але з магілёўскіх крыніцаў, шматлікіх лістоў швэдзкіх жаўнераў, данясеньняў расейскае выведкі мы ведаем, што ў месьце адбылося шмат падзеяў. Па-першае, калмыкі ня проста кралі швэдзкія коні. Насамрэч, як паведамляе ў сваім дзёньніку Я. Норсбэрг, *«калмыкі пераплывалі раку ды забівалі нашых жаўнераў»* [Norsberg: 197]. Беларуская хроніка ўдакладняе: *«Гэтыя калмыкі галяком з шаблямі пераплывалі раку ды забівалі швэдаў»* [KM: 273]. Ведама, будуючы сваімі гісторыямі «вечны помнік» каралю, храніст Густаў Адлерфэльд проста змоўчаў гэты нязручны факт.

Места Магілёўскае згодна з швэдзкай вайсковай практыкай мусіла заплаціць так званы «brandskatten» (падатак, нявыплата якога каралася падпалам места). Карл XII гэтак сьцьвердзіў сябрам магістрату неабходнасьць кантрыбуцыі: *«Паневаж маскалём давалі, трэба абысьце й мне далі»* [KM:272]. Кароль падзяліў места на 16 кватэраў, выдаў з гэтай нагоды *«ардынант»*, за якім кожная кватэра штодзённа мусіла выдаваць швэдзкаму войску 12 500 фунтаў хлеба й 960 гарнцаў піва [KM: 272]. Нягледзячы на стому, у швэдзкім войску сьпярша панаваў бадзёры настрой. Швэдам мроілася блізкая мэта паходу – Расея, Масква. Пра гэта можна даведацца зь ліста афіцэра Ёхана Сэдэргельма (Johann Cederhielm) брату Гэрмунду: *«Пішу табе з Магілёва, спадзяюся, наступны ліст будзе ўжо з Масквы»* [Cederhielm: 105].

Адрозна ад расейцаў швэды плацілі за ежу: *«Нягледзячы на дарагоўлю як у месьце, гэтак і ў лягеры, за рэчы страўныя бяз спрэчак плацілі»* [Arest: LVIII]. Але хутка з харчамі ўзьнікла праблема. Места ня мела магчымасьці доўгі час карміць вялізнае войска (звыш 15 тысячаў жаўнераў). У сваім дзёньніку адзін швэдзкі афіцэр заўважыў: *«Колькі аддзелаў спынілася ў месьце, бальшыня стала табарам каля места.*

*Нестае фуражу. Вораг зьеў усё. Мы павінны шукаць ежу для жаўнераў. Адчыняць хлебныя яміны, касіць атаву, зьбіраць і малаціць новы хлеб. Гэта было вельмі цяжка. Да таго ж заўсёдны дождж папсаваў нашыя ранейшыя запасы»* [Gyllenstiern: 55]. «Хлебныя» аддзелы швэдаў у пошуках збожжа даходзілі ажно да Шклова [Lyth: 56]. Шмат швэдаў *«пасьля нэндзы, якую дазналі ў паходзе, памерлі адразу, прыйшоўшы ў Магілёў»* [Arest: LVII].

У войску пачаліся эпідэміі. Хроніка Магілёва сьцісла паведамляе, што *«ў швэдаў памерла шмат коняў, бо паілі іх у Дняпры, пасьля чаго яны здыхалі»* [KM: 272]. Палоненыя пад Магілёвам швэды апавядалі расейцам, што ў месьце *«ад крывавых ляксаў»* памірае шмат жаўнераў, *«таму што п'юць ваду з ракі, а піва ня маюць»* [TIRVIO №19, 171]. Загад Карла XII браць ваду з Дуброўны спазьніўся [KM: 272]. Каб спыніць наступства эпідэміі, ён загадаў *«зрабіць у магілёўскім замку шпіталь для хворых»* [Cederhielm 1912:91]. Адзін з хворых, Ёнас Стольгамар (Jon Stelhammar), які памёр у Магілёве, пісаў да жонкі Сафіі: *«Цяперака я вельмі хацеў бы апынуцца далёка адсюль. Але гэта немагчыма. Мы цяпер настолькі далёка ад Радзімы, што адзінае выйсьце – імкнуцца выжыць, таму што схавацца няма куды. Божа, памажы мне!»* [Liljegren 2000:158].

Зь зьвестак расейскай выведкі (ад 19 жніўня 1708 г.), *«во время бытия шведского в Могилеве погибло их шведов с голоду и от мыту с четыре тысяч»* [TIRVIO №170:148–149].

Адзін з расейскіх шпегаў распаўсюдзіў у месьце пісаныя па-нямецку и *«прелестные листы»*: *«В Могилеве в шведском войске по улицам разметал, а иные у ворот прибил»* [TIRVIO №79]. У цяжкіх умовах на гэтую расейскую прапаганду купіліся нямецкія наймiты ў швэдзкім войску (Tysk nation), якія пажадалі перайсьці да расейцаў. Каб супакоіць немцаў, Карл XII загадаў надрукаваць улёткі, якія расклеілі ў месьце і ў швэдзкім лягеры. У іх, між іншым, гаварылася: *«Ідзеце й далей за намі. Мы наймалі вас за вашы здольнасьці й таму дамо вам добрыя грошы за працяг маршу на нашым баку. Памятайце жа, што расейцы шмат вашых суродзічаў-немцаў перабілі як здраднікаў»* [Cederhielm 1912:104].

У пошуках сродкаў, у тым ліку для выплаты заробкаў нямецкім наймітам, Карл XII перайшоў да жорсткай палітыкі. Згодна з каралеўскім «ардынантам» (загадам) усе магілёўскія цэрквы павінны былі выдаць срэбра. Каб атрымаць патрабаванае, швэды мучылі *«месьцічаў знатных»*, бо акурат яны былі старастамі парафіяў і распарадчыкамі царкоўных каштоўнасьцяў. З канфіскаванага срэбра (падрабязны пералік якога склаў магістрат) швэды ў лягеры білі манэту [KM: 273–274]. Тымчасам, каб працягнуць паход, *«швэдзкія й фінскія майстры пабудавалі два масты праз Дняпро (Nieperen) па дарозе на Смаленск»* [Posse №18; Arest: LVIII]. Каб забясьпечыць сябе дрэвам, швэды разьбіралі пустыя будынкі *«знатных магілёўскіх месьцічаў уздоўж берагоў Дуброўны. Масты пабудавалі ў раёне Папінка, насупраць дому Гараніна й царквы Сьв. Ільлі»* [Arest: LVIII].

Зрабіўшы масты, швэды пакінулі вартаваць кожны зь іх па 5 гарматаў, якія схавалі пад купамі з лому. *«14 жніўня паводле старога календара кароль швэдзкі перайшоў на другі бок Дняпра па новым мосьце ды начаваў разам з абозам пад гарою на валоках меских, якія й цяпер завуць „Зьмена швэдзкая“»*, – паведаміў магілёўскі храніст [KM: 274]. Разам з каралём за два-тры дні места пакінула ўсё войска, разам 10 366 жаўнераў [Norsberg: 197]. Дзеля параўнаньня: расейская групоўка ў Беларусі на той час налічвала агулам да 40 тысячаў жаўнераў.

З швэдамі пайшлі ваяваць колькі месьцічаў, якія добраахвотнікамі запісаліся ў швэдзкае войска. Сярод іх нейкі Андрэй Іваноўскі (TIRVIO №226:259). Напрыклад, у расейскі палон лучылі два магілёўскія шляхціцы, якія служылі ў швэдаў, – Аляксандар Загурскі ды Рыгор Жыркевіч [PIBPV 1946-7-2:902; 1948-8-1:2655].

Выходзячы зь места, швэды набралі ў дарогу шмат правіянту ды забралі чальцоў Магілёўскага магістрату. Праз колькі дзён шляхетных паноў-радцаў *«за 100 чырвоных залатых і 100 талераў бітых адкупіў камісар швэдзкі ягамосьць пан Станіслаў Панятоўскі»* [Arest: LX]. Згодна з завышанымі падлікамі магілёўскага храніста, чальца магістрату Трафіма Сурты, побыт швэдаў абышоўся месту ў 100 тысячаў талераў. Сурта за прычыненьне гэткіх выдаткаў назваў Карла XII Люцыпарам [KM: 274].

Але горшае чакала наперадзе. Як занатаваў храніст Арэст, *«хаця места Магілёўскае было абрабаванае швэдзкім войскам, дамы, крамы, цэрквы й касьцёлы – усё засталося ў цэласьці й захаванасьці»* [Arest: LXI]. Зруйнавалі «праваслаўнаю сталіцу» Рэчы Паспалітай, роўную заможнасьцяй Маскве й Вільні, «браты па веры» – расейцы. Пра гэта паведамляе Хроніка Магілёва: *«Году 1708 месяца верасьня 8-га*

*дня, на сьвятога мучаніка Сазонта, напярэдадні Нараджэньня Найсьвяцейшай Панны, Пан Бог, які доўга длякаў караць места за нашы цяжкія грахі, дапусьціўся да таго, што Магілёў, дарма што быў абрабаваны швэдамі, але захаваў непашкоджанымі дамы, крамы, на Божыя сьвяты абярнуўся за адзін дзень ад агню ў попел і парахню, бо на загад цара Пятра Аляксеевіча масква, калмыкі і татары ў вышэйпамянёны дзень, роўна з усходам сонца, абкружылі места з усіх бакоў. [Месьцічы] пазачынялі брамы, па трывозе ўдарылі ў званы, раптам заўважылі, што замак ужо гарыць. Адчынілі брамы, прасілі літасьці, але дарэмна, толькі дадзена гадзіна вольнага часу і прыстаўлена варта, каб зьнесьці з ратушы ў склеп гарадзкія кнігі. Тут калмыкі крамы разьбіваюць, рабуюць, з другога канца паляць, заўважым між іншым, людзей з адзеньня абіраюць, грошы мацаюць, цэрквы адчыняюць, рабуюць, і калі ўжо, адным словам кажучы, заняўся замак, кінуліся на прадмесьці і найперш абрабавалі багатыя дамы. А калі агонь заняўся з усіх бакоў, зрабаваўшы места да асновы, ад'ехалі вон.*

*У гэты ж час, калі ўжо Божы гнеў, гарачнасьць Божая за грахі людзкія расплыліся агнём па ўсім месьце, муж пра жонку, а жонка пра мужа нічога ня ведаючы, хапалі толькі малыя дзеці, куды маглі прэч зь места ўцякалі, да лясоў, да яроў, да Буйнічаў, да Котуша, хаваліся хто дзе мог. А калі места занялося, то некаторыя галасілі: „Гэта ўжо Масква высякае места!“ Не ў аднаго тады з такога вялікага страху вырываліся з сэрца апакаліпсічныя словы: „Горы-горы, прытуліце нас, бо хто ж сьцерпіць дзень гневу Божага...“. У гэты час набожны і скамянелы люд выплакаў апошнія сьлёзы, бачачы, як багата аздобленыя Божыя сьвятыні, арнамэнтаваныя крыжы, Божыя цэрквы патроху, заняўшыся агнём, валяцца на зямлю, царкоўныя купалы, адрамантаваныя зь немалым выдаткам, гарэць, а бляхі ад агнянага шалу лятаюць па паветры, як птушкі, званы самі звоняць, гаспадарскія дамы безь ніякага паратунку ў агні ў пыл абарочваюцца, страх гэты цяжка выпісаць, ласкавы чытачу. Дай, Міласэрны Пане, каб да апошняга дня такое няшчасьце мы не дазналі на сабе»* [КМ: 274–275].

Адзіная цытадэль праваслаўя ў Рэчы Паспалітай была зруйнаваная на загад *«праваслаўнага белага цара»* [Arest: LXI–LXII]. У выніку Магілёў назаўсёды страціў значэньне найбуйнейшага гандлёвага цэнтру Ўсходняй Эўропы, канкурэнта Данцыгу, Рыгі, Вільні й Масквы. Апавядаючы пра тыя падзеі, магілёўскі храніст падсумаваў, што не ад *«лява»*,





але ад *«магілы»* пайшоў насамрэч назоў места. У пошуках нармальнага жыцьця пасьля пажару з Магілёва да іншых местаў сышлі амаль што ўсе купцы [КМ: 274]. Ужо ў 1709 годзе найзаможнейшыя магілёўскія купцы, сябры магістрату паны Казімер й Сымон Маслокі, стала жылі ў северскім Старадубе. З тых часоў месьцічы Магілёва атрымалі сярод беларусаў мянушку *«магілёўцы – камінары альбо трубалёты»,* бо ўсё іх багацьце з-за катастрофы *«вылецела ў комін».*

На жаль, дагэтуль у грамадзкай думцы Беларусі пануе стэрэатып, што Магілёў зьнішчылі швэды, дарма што асноўныя беларускія крыніцы ў гэтым пытаньні былі надрукаваныя за расейскім ды савецкім часамі.

Расейскія крыніцы аб загадзе зьнішчыць Магілёў былі надрукаваныя ў 1948 ды 1951 «сталінскіх» гадох. Публікацыі паспрыяла, напэўна, іх эзопава мова. Быццам баючыся суду гісторыі, Пётар I завуаляваў загад пра зруйнаваньне места. 5 верасьня 1708 г. Пётар I піша ліст да генэрала Радзівона Боўра (Родион Христофорович Боур): *«Господин генерал-порутчик. Письмо Ваше (без числа писаное) я получил, на которое ответствую. Первое, чтобы все (как уже и прежде указ дан вам) пред неприятелем жечь, не щадя отнюдь ничево, а именно знатных мест (Магілёў. –* Аўт.*) ... и Витебский уезд, сим куды обращение ваше будет разорять без остатку (хотя Польское или свое). Впрочем, накажаю словесно сему доносителю, почему не испуская времени, поступайте, понеже золотые дни настоят. Piter»* [PIBPV 1948-8-1:118 №2604;1951-8-2:648]. Такім чынам, загад пра зьнішчэньне Магілёва Пётар I пастанавіў передаць вусна праз свайго *«доносителя»* ад'ютанта Хведара Барценева (Федор Бартенев), якому даручыў *«говорить наказ и смотреть за его выполнением».* 6 верасьня генэрал Боўр адказаў Пятру: *«В Могилев сего числа отправил в партию майора Видмана, с ним драгун 300, казаков 500 и по указу вашего величества приказал управить повеленное, а со оным майором поехал вашего царского величества господин адьютант Бартенев»* [PIBPV 1951-8-2:648].

Пасьля выкананьня загаду 10 верасьня 1708 г. генэрал Боўр дакладаў цару: «*Адьютант Бартенев вчерашнего 9 дня сентября из Могилева приехал в добром здоровье, и по указу вашему исполнено*» (PIBPV 1948-8-1 №2619). 10 верасьня сваю справаздачу цару напісаў таксама Барценеў: *«А местечка (?!) Могилев в замке и предместье все выпалили... а от Могилева по дороге деревни и местечка Дрыбин и Горы все попалили»* [PIBPV 1951-8-2:650]. Як бачым, вялізнае мураванае места, ве-

лічны выгляд якога ўразіў у 1699 годзе расейскага амбасадара, масквіча Пятра Талстоя [Tolstoi 1888:175], Барценеў сьвядома назваў *«мястэчкам»*. Нарэшце 12 верасьня Пётар І, адпісаўшы ўдзячны ліст *«К Федору Осиповичу Бартеневу»,* паставіў кропку ў гісторыі старога Магілёва: *«Письмо твое и венгерское* (віно. – Аўт.) *до нас дошло, за который подарок и за бытье ваше в партии благодарен»* [PIBPV 1948-8-1:128 №2621].

Празь нейкі час па катастрофе, ужо на Ўкраіне, Пётар І абвінаваціў Карла ХІІ, нібыта швэды разбурылі й зрабавалі Магілёў. Пра гэта ідзе гаворка ўва *«Указе всему малороссийскому народу»* Пятра І ад 6 лістапада 1708 г.:

*«Король шведский... Великом Княжестве Литовском церкви православные грабить и осквернять допущал, а именно: в Минске, в Борисове, особливе в Могилеве, как оттуда в войско наше могилевское благочестивые монахи и священники заподлинно со слезами писали последующие мерзости запустения, которые шведы тамо чинили, то изо всех церквей потиры и оклады св. икон серебрянные обдирали и пограбили [...] в церкви соборной могилевской святейший сакрамент тела Христова на землю выброся и оный потир похитя, вино из оного пили. Того ж и народ [...] литовский* (беларусаў. – Аўт.) *таким де прельщением обманув и назвався им оборонителем вольностей»* [PIBPV 1948 8:1–№2816:281]. Зьвернем увагу на некаторыя моманты гэтай прапаганды да праваслаўных украінцаў Гетманату. Па-першае, тэкст пісаны пасьля таго, як на загад Пятра І места Магілёўскае разам з усімі праваслаўнымі цэрквамі было разбурана дашчэнту. Па-другое, расейская прапаганда выкарыстоўвае відавочна «фальклёрныя», «знакавыя» антызаходнія сюжэты. Па-трэцяе, расейская ўлада, ведаючы, што афіцыйнаю мовай Украінскага гетманату ёсьць украінская, сьвядома зьвяртаецца да ягоных жыхароў на расейскай актавай мове.

16 сьнежня 1708 г. на абвінавачаньне ў разбурэньні Магілёва расейцам адказалі швэды. Ува ўнівэрсале, пісаным да ўкраінцаў, але не маларосаў *(«Да ўкраінскага народу»),* пісаным украінскаю мовай, Карл ХІІ на закіды Пятра І зазначыў: *«А что оголошаеть о озлоблении от нас в Ингрии альбо где инде греческой веры людей, мерзостнейший так же есть вымысл, ровное зухвальство, иж церквей превращеніе нам задаеть, гды святынь Божиих всякое насилие всегда возбронялисмо, установивше каранье, если бы хто оные насильствовати дерзнул. О церквах могилевских ничего нам неведомо, леч то паки явственнейшое есть ли оные по выходе нашом, безбожными московскими руками ограблены и в пепел обращены»* [Bantysh-Kamenski 1859-II:209].





Такім чынам, зьвесткі аб зруйнаваньні расейцамі Магілёва дайшлі да швэдзкага войска. Верагодна, на Ўкраіне швэды даведаліся пра гэта ад шматлікіх магілёўскіх уцекачоў. Паказальна, што ў адказе на швэдзкі зварот Пётар І цалкам здымае «магілёўскае пытаньне».

3 лютага 1709 г. расейцы друкуюць адказ на *«бесстыдной универсал на малороссийском языке [...] выданный за подписью и печатью короля шведского 16 декабря месяца, прошлого 1708 году»*, у якім ёсьць толькі кароткая й цьмяная згадка пра беларускія падзеі: *«Для прикрытия показанного грабежу и ругательства шведского церквей благочестивых и святынь в Литве [...] о чем пространение прежде сего объявлено...»* [Bantysh-Kamenski 1859-II:221].

Палітыку замоўчваньня магілёўскай катастрофы 8 верасьня 1708 г., распачатую прапагандай Пятра І, пераняла расейская ды савецкая гістарыяграфія. Пра магілёўскія падзеі Вялікай Паўночнай вайны альбо не гаварылі зусім, як, напрыклад, у фундамэнтальнай манаграфіі Е.Тарле [Tarle 1958], альбо сьмела вінавацілі ў трагедыі швэдаў. Да прыкладу, апошняе савецкае выданьне «История Северной войны» 1987 г., нягледзячы на існаваньне друкаваных крыніцаў, сьцьвярджала, што: *«Заняв Могилев, шведы подвергли город ограблению и разрушению, но продовольствия не добыли»* [1987:78].

На грунце гэтай хлусьні ды хвалях антызаходняй рыторыкі беларускія савецкія гісторыкі стваралі міты пра *«оборону Могилева»* ды *«заботу Петра I о горожанах Могилева»* [Ignatenko 1957:46–48]. Да стварэньня антышвэдзкай справы далучыліся й «работники культуры». Пасьля Другой сусьветнай вайны створаны музей вёскі Лясная, дзе наведнікі маглі ўбачыць карціны, прысьвечаныя мітам Паўночнай вайны кшталту *«Белорусский Сусанин»* (аўтар М.Бельскі), *«Народная война»* (А.Казанцаў), *«Запись добровольцев на российскую гарнизонную службу в Могилеве»* (Ю.Тулін), на якой магілёўскія месьцічы былі намаляваныя чамусьці ў расейскіх нацыянальных строях [Kopyskii 1958][10]. За

[10] Сёньня музэй зачынены з прычыны моцнага радыеактыўнага забруджаньня вёскі Лясная.

аналягічным прынцыпам збудаваная існуючая дагэтуль экспазыцыя Магілёўскага абласнога гістарычнага музэю.

Фрыдрых Ніцшэ казаў, што часам гісторыкам ня трэба *«варушыць праўды»* пра былыя канфлікты, войны й несправядлівасьці паміж народамі. Але час казаць праўду, відаць, надышоў. Толькі праўда дапаможа нам рэканструяваць беларуска-швэдзка-расейскае гістарычнае мінулае.

## 2.6. Швэдзкая катастрофа пад Лясной

У другой палове жніўня–першай палове верасьня 1708 г. войска Карла XII вымушана затрымалася на абшарах беларускага Падняпроўя. Па-першае, швэдзкі кароль не губляў надзеі пайсьці на Маскву. Па-другое, акурат у Вялікай Літве Карл XII меўся сустрэцца з корпусам Адама Людвіка Левэнгаўпта (Adam Ludvig Lewenhaupt). Без абозу Левэнгаўпта працягваць паход на Маскву ня мела сэнсу. Да таго ж галоўнае швэдзкае войска прыкрывала аддзелы Левэнгаўпта, якія не маглі ўчыніць паважны супраціў 40-тысячнаму расейскаму войску.

11 верасьня 1708 г. войска Карла XII спынілася каля Старышаў – памежнага мястэчка Вялікай Літвы на смаленскім гасьцінцы. Ісьці далей было немагчыма. «Непрыяцель», як называлі швэды расейцаў, зьнішчыў (*«выпаліў»)* усе ўсходнія паветы ВКЛ. Насельніцтва Смаленшчыны было этапавана ў глыб краіны, вёскі таксама спаленыя [PIBPV 1948-8-1 №2599, 2606]. Навокал ляжала пустэча. Швэдзкая вайсковая апэрацыя ў ВКЛ паступова ператваралася для саміх швэдаў у барацьбу за выжываньне. У гэткіх умовах Карл XII пастанавіў рушыць да свайго новага стратэгічнага хаўрусьніка гетмана Ўкраіны Івана Мазэпы.

Тымчасам праз Летуву й Беларусь другі месяц рухаўся корпус Левэнгаўпта. У складзе корпусу было 11 450 жаўнераў, якіх набралі ў войска з швэдзкай Лівоніі. Паводле словаў каралеўскага пісара Густава Адлерфэльда, *«гэты генэрал рухаўся вельмі марудна»* [Adlerfeld 1740-3:33]. Паход пачаўся 1 жніўня 1708 г., калі дзьве групоўкі швэдзкіх войскаў, якія рухаліся зь Янішкаў (сучаснае Joniškis) і Загораў (Žagarė), злучыліся ў Анікштах (Anykščiai) Віленскага ваяводзтва. Прайшоўшы скрозь летувіскія мястэчкі Аланту (Alanta), Маляты (Molėtai), Лабанары (Labanoras), войска Левэнгаўпта ўвайшло ў беларускія паветы ВКЛ. Швэдзкі генэрал не сьпяшаўся, бо на сустрэчы з Карлам XII у Радашкавічах (красавік 1708 г.) абяцаў прывезьці вялізны абоз з грашыма, амуніцыяй і харчаваньнем. На загад Карла XII ад 14 ліпеня 1708 г., які Левэнгаўпт атрымаў пры канцы ліпеня з Магілёва, ён павінен быў выйсьці ў раён Магілёва, каб злучыцца з Карлам XII каля мястэчка Чавусы [Hallendorff 1902:93]. Нічога так не перашкаджала швэдзкаму генэралу выканаць загад, як прага назьбіраць найбольш кантрыбуцыяў з ВКЛ.

Расейская выведка доўга ня ведала, дзе дакладна знаходзіцца корпус Левэнгаўпта. Напрыклад, 4 жніўня 1708 г. Пётар I пісаў, што *«Левенгопт конечно приехал к королю»* [PIBPV 1951-8-2:513]. Але швэдзкі генэрал рухаўся вельмі марудна. Праз Сьвянцяны, Лынтупы, Кабыльнікі й Мядзел 15 жніўня 1708 г. Левэнгаўпт прыйшоў у Даўгінаў, дзе спыніўся ажно на два тыдні (!), да 2 верасьня, бо чакаў збору кантрыбуцыяў зь Менскага ваяводзтва ды віленскіх і прускіх купцоў з таварам [Bring 1918: 294]. Збор кантрыбуцыі быў звычайнаю зьявай у вайсковай практыцы швэдзкага войска на абшарах Эўропы. Але каб атрымаць кантрыбуцыю з ваяводзкіх местаў ВКЛ (Вільні, Менску, Полацку, Віцебску), Левэнгаўпту трэба было заходзіць у іхныя межы й чакаць, калі вернуцца вершнікі. Таму далейшы шлях ішоў праз Бярозу Сапескую, Пышну, Лепель, Лукомль, Чарэю, нарэшце Талачын (17 верасьня 1708 г.). У кожным мястэчку Левэнгаўпт спыняўся на 1–2 дні. Да прыкладу, два дні ён бавіў час у дамініканскім кляштары Бярозы Сапескай, мястэчку, якое знаходзілася пад швэдзкім пратэктаратам, бо належала Сапегам. З 10 верасьня 1708 г. швэды прабылі колькі дзён *(«negra dagar»)* у Чарэі, зьбіраючы навокал кантрыбуцыю [Petre: 153].

Згодна зь Віцебскай хронікай, швэдзкае войска Левэнгаўпта забрала *«6 000 талераў кантрыбуцыі, захапіла ў ратушы бурмістра ды 12 іншых важных асобаў, якіх усіх завезьлі да Астроўны (мястэчка ля Віцебску), адкуль места іх выкупіла за 1 000 бітых талераў».* Увесь шлях Анікшты–Талачын (каля 400 км) войска Левэнгаўпта прайшло за паўтара месяца (01.08–16.09.1708), прасоўваючыся ў сярэднім у дзень на 8 км. Да прыкладу, Карл XII з Кароны Польскай да Смургоняў (каля 600 км) узімку прайшоў за 41 дзень (з 30.12.1707 – па 8.02.1708), прасоўваючыся ў сярэднім на 14,3 км у дзень [Hallendorff 1902:96–98].

З Талачына 18 верасьня 1708 г. вершнікі Левэнгаўпта завіталі ў Магілёў. Месьцічы прасілі прабачэньня, што *«ня маюць магчымасьці падзяліцца правіянтам, бо самі церпяць вялікую нястачу дзеля падпалу места маскалямі»* [Arest: LXIV].

23 верасьня 1708 г. Левэнгаўпт падышоў да Шклова. Гэтае адзінае буйное места Ўсходняй Беларусі яшчэ ня зьнішчылі расейцы (TIRVIO №200). Яно належала адданаму хаўрусьніку Карла XII вялікаму гетману літоўскаму, старасту берасьцейскаму, графу заслаўскаму, быхаўскаму й дубровенскаму Казімеру Яну Сапегу (1642–1720). Гетман добра дбаў пра ўмацаваньні Шклова, якія, хай сабе і драўляныя, лічыліся найлепшымі на ўсходзе ВКЛ. Расейцы авалодаць Шкловам ня здолелі. Хроніка Магілёва паведамляе, што *«ў Шклове Левэнгаўпт узяў вялікі правіянт і кантрыбуцыю грашыма»* [КМ: 276]. Апошняе супярэчыць швэдзкім крыніцам. Места Шклоўскае было на той час адзінай антырасейскай цытадэльлю на ўсходзе ВКЛ, якою ня здолелі авалодаць войскі Пятра І. Праваслаўны ігумен магілёўскі Арэст наагул напісаў, што *«швэды зруйнавалі Стары Шклоў, які пасьля нібыта паўстаў на новым месьце»* [Arest: LXIV]. Насамрэч Стары Шклоў быў зруйнаваны яшчэ ў 1580 годзе расейцамі. Акурат у Новым Шклове Левэнгаўпт бясьпечна пераправіўся праз Дняпро. Швэдзкі афіцэр Робэрт Пэтрэй (Robert Petre) занатаваў 23 верасьня ў сваім дзёньніку: *«23 верасьня нарэшце дайшлі да места Шклоў (Schlowa), збудаванага цалкам з дрэва й разьмешчанае на рацэ Днязпро (Nieper). Места належыць дабрачэсьліваму гетману Сапегу. 24 верасьня мы перайшлі адсюль праз Дняпро па пантонным мосьце»* [Petre:153].

27 верасьня ўвесь корпус Левэнгаўпта *(«hela armaden»)* выйшаў да вёскі Лясная (Jesna) [Bring 1918:302]. Даведаўшыся, што Чавусы захапіла расейскае войска, Левэнгаўпт пастанавіў рухацца далей на Прапойск, але на час пярэдыху загадаў зрабіць зь вёскі Лясная варэнбург (warenburg) – умацаваны лягер. Загад быў своечасовы, бо на наступны дзень, у нядзелю, на поле каля Лясной выйшлі галоўныя сілы Пятра І на чале з царом. Пасьля палудня пачалася бітва, якую пазьней Пётар І назаве *«маткай Палтаўскай перамогі»,* бо наступная перамога ля Палтавы адбылася за 9 месяцаў.

На сёньня мы маем два супрацьлеглыя трактаваньні бітвы пад Лясной. Згодна з швэдзкай гістарыяграфіяй бітва працягвалася да позьняй начы. Мэтай расейцаў было захапіць зроблены з вазоў абозу швэдзкі ва-








*44. Бітва ля вёскі Лясная паміж швэдзкім і расейскім войскамі. Расклад стану на 11-ю гадзіну раніцы 28.09.1708. Швэдзкі плян. Унівэрсытэцкая бібліятэка Ўпсолы (Carolina Rediviva).*

рэнбург. Жорсткі рукапашны бой скончыўся нічыёй. Расейцы адышлі ў лес, швэды, падхапіўшы параненых, павярталіся ў свой варэнбург. Калі страляніна скончылася, блакітныя мундуры яшчэ трымалі вёску за сабою [Englund 1995]. Войска Левэнгаўпта налічвала крыху болей за 11 000 жаўнераў, зь якіх на полі ля Лясной засталося ляжаць каля 4 000. Колькасьць расейскага войска швэды ацэньвалі ў 40 000 жаўнераў. Уночы, каб выратаваць войска, Левэнгаўпт пастанавіў не працягваць ранкам новага бою і сысьці. Але ўсюды навокал былі расейцы. Швэды пусьціліся ў хітрыкі. Яны ціха сышлі ўночы, пакінуўшы цэлы варэнбург з 2 000 вазоў, палову гарматаў і, галоўнае, запаленыя паходні. Калі ўранку расейцы на чале зь Пятром І памкнуліся з аголенымі сьцягамі на швэдаў, яны неўспадзеўкі пабачылі пусты табар [Adlerfeld 1740-3:47–48; Petre 1901: 159–160]. Дамо слова аднаму з удзельнікаў падзеяў, швэдзкаму

жаўнеру Ф.Вее: *«Мы б выйгралі бітву, калі ў нас бы было зручнейшае становішча... Левэнгаўпт аддаў загад ісьці ціха лесам да Прапойску, каб там стварыць умацаваны лягер ды даць адпор ворагу. Па дарозе гарматы нашыя загрузьлі ў балоце. Два дні мы спрабавалі выцягнуць іх. Шмат жаўнераў адстала. Да таго ж мы пакінулі ўсе вазы з маркітанкамі і жыдамі, пры якіх было шмат віна і піва, тытуню й гарэлкі. Кожны з нас узяў ежу ў хатуль, якой хапіла на тыдзень. 30 верасьня, калі мы падышлі да Прапойску, места аказалася зьнішчаным расейцамі»* [Vee 1931:218–219]. Якраз тут ля Прапойску, дакладней, каля вёскі Рудня, расейскі корпус А.Меншыкава нанёс другую цяжкую паразу жаўнерам Левэнгаўпта [PIBPV 1948-8-1 №2687]. Але Левэнгаўпт здолеў усё ж уцячы ад пагоні расейцаў, перайсьці Сож і праз Валасовічы, Немкі й Верашчакі выйсьці на злучэньне з Карлам XII у вёсцы Рухава (Старадубшчына). 11 лістапада 1708 г. Карл XII замест вялізнага войска з абозам і гарматамі ўбачыў 6 000 змучаных швэдзкіх жаўнераў.

Расейская вэрсія падзеяў бярэ пачатак зь лістоў Пятра I пра перамогу пад Лясной ды таксама адозвы *(«объявления»)*, якая была надрукавана хутка па бітве па-царкоўнаславянску, па-расейску й па-галяндзку ды распаўсюджана ў местах Расеі й Эўропы [PIBPV 8-1 №2840]. Гэтыя дакумэнты маюць відавочную тэндэнцыю перабольшваць агульную колькасьць швэдзкага войска й колькасьць забітых швэдаў у паўтара-два разы ды зьмяншаць колькасьць уласных ахвяраў. Калі на наступны дзень па сутычцы (29 верасьня 1708 г.) Пётар I піша пра 16-тысячнае войска Левэнгаўпта й 8 тысячаў забітых швэдаў [PIBPV 1948-8-1 №2681], дык потым (6 лістапада) зьяўляецца ўжо лічба ў 20 тысячаў швэдзкіх жаўнераў [PIBPV 1948-8-1 №2704], зь якіх засталося ў жывых толькі 3 [PIBPV 1948-8-1 №2816]. Таксама Пётар I цьвердзіў, што ўпершыню былі пабітыя *«природные шведы»* [PIBPV 1948-8-1 №2684], якіх на *«6 тысяч больше было нас»* [PIBPV 1948-8-1 №2704]!

Насамрэч большасьць корпусу Левэнгаўпта складалі швэдзкія грамадзяне няшвэдзкага паходжаньня: этнічныя латышы, эстонцы ды немцы. Каля 12 000 швэдзкім жаўнерам супрацьстаяла магутная расейская групоўка з войскаў Пятра I, А.Меншыкава й Р.Боўра, якая нават паводле расейскіх крыніцаў налічвала больш за 20 тысячаў жаўнераў. Згодна з расейскім гісторыкам Я.Тарле [Tarle 1958:211] яны ля Лясной мелі ўсяго 10 000 жаўнераў, зь якіх загінула 1 110 й паранена было 2 856. Насамрэч больш, бо расейцы атакавалі! Швэдаў, піша Тарле, было 16 000





жаўнераў (насамрэч 11 375), зь якіх загінула 6 000 і ўзята ў палон 3 376[11]. Насамрэч, згодна з расейскімі крыніцамі, у палоне апынулася па бітве ўсяго 385 швэдаў [PIBPV 1951-8-2:743].

Гэта, бесьпярэчна, была першая буйная расейская перамога над швэдамі ў Вялікай Паўночнай вайне пасьля цяжкіх паразаў пад Нарваю й Галоўчынам.



*45. Эстонская харугва ў войску Карла XII.*

Іншая рэч, трэба здаваць сабе справу з таго, што тагачасныя расейскія рэляцыі мелі, безумоўна, прапагандысцкі характар. Працягвалася вайна, якая мела статус эўрапейскай. Была праблема Ўкраіны. Але ўсё гэта не перашкодзіла гэтым тэндэнцыйным матэрыялам трапіць у падмурак расейскай ды савецкай гістарыяграфіі, адкуль яны прыйшлі ў беларускую гістарычную навуку. Акурат Пётар I паклаў пачатак міту пра *«партызанскую барацьбу»* беларускага народу супраць швэдзкіх захопнікаў. У лісьце ад 6 лістапада Пётар I выказаў прагноз: *«Едва 1 000 человек от сих двадцать (20) тысяч к королю и в Ригу войдут, понеже и по лесам мужики зело бьют их»* [PIBPV 1948-8-1 №2704]. Менавіта з гэтага кароткага сказу нарадзіўся міт савецкай гістарыяграфіі пра *«партызанскую барацьбу»* беларускага народу [Tarle 1958:212] і *«белорусских мужиков»*, якія *«короткими и внезапными ударами добивали противника»* [Ignatenko 1957:55].

Насамрэч пасьля Лясной ува ўмовах вялікай галечы, як адзначала Хроніка Магілёва, узьнікла шмат рабаўніцкіх хеўраў з магілёўскай шляхты й сялянаў [KM: 274]. Часьцей за ўсё яны рабавалі швэдзкіх жаўнераў. Да прыкладу, генэрал А.Рапнін дакладаў Пятру I, што *«здешние* (магілёўскія. – Аўт.) *мужики пеших шведов грабят и ружье и платье отбирают [...] поймали наши фуражиры 7 человек* (швэдаў. – Аўт.)*, а ружья, сказывают, отняли мужики»* [PIBPV 1951-8-2:722].

[11] Лічба 10 000 расейцаў у расейскай гістарыяграфіі азначала згоду зь першымі падлікамі Пятра I, паводле якіх швэдаў мелася быць 16 000.

Для пошуку швэдзкіх жаўнераў, якія адсталі ад войска Левэнгаўпта, на Магілёўшчыне Пётар І стварыў спэцыяльныя аддзелы з калмыкаў, казакоў ды *«смаленскай шляхты»* [PIBPV 1948-8-1 №2687]. Акурат казакоў меў на ўвазе Х.Барценеў (Ф.Бартенев), калі рапартаваў Пятру І, што *«черкасы шведов по лесам зело много бьют»* [PIBPV 1951-8-2:781]. Знойдзеных жаўнераў калмыкі й казакі ў выпадку супраціву забівалі, а калі швэды добраахвотна здаваліся ў палон, бралі іх на расейскую службу. Гэтак былыя жаўнеры швэдзкага войска Франц Дупонд (Franz Duponte) ды Ёхан Опэрдэн (Jochen Operden) былі запісаныя ў Казанскі полк прапаршчыкамі. Расейскія калмыкі рабавалі й абразалі насы й вушы віленскім купцам, якія везьлі тавары да Карла XII [TIRVIO №199]. Такім чынам, галоўнымі антышвэдзкімі партызанамі былі расейскія войскі, украінскія казакі новага прарасейскага гетмана Івана Скарападзкага ды беларускія крымінальнікі, якія, дарэчы, ахвотна рабавалі й адсталых ад войска расейскіх жаўнераў [PIBPV 1948-8-1 №2739].

У кастрычніку–лістападзе 1708 г. Магілёўшчына й Імсьціслаўшчына ўяўлялі сабой выпаленую зямлю. Усе месты апроч Шклова былі зруйнаваныя, вёскі спаленыя. Расейцы палілі лясы, каб пазбавіць швэдаў дрэва, зь якога тыя будавалі пераправы (Adlerfeld 1740-3:56). З паказаньняў швэдзкіх палонных, захопленых ля вёскі Добрая, вядома, што Карл XII *«ради великого маршу и голоду многих больных и мертвых оставил (у Беларусі. –* Аўт.*) [...] большая часть оных не погребена осталась, и болезнь де и кровавый понос таковым образом умножились, что при некоторых ротах едва по 60 и по 50 человек осталось, которые служить могли. Люди же от голоду и болезни тако опухли, что едва маршировать могут»* [PIBPV 1951-8-2:633].

Шмат швэдаў загінула альбо адстала на шляху Карла XII у другой палове верасьня 1708 г. з Старышаў праз Малятычы, Крычаў, Лобжу, Касьцюковічы, Канічы на Ўкраіну, першым мястэчкам якой былі Касьценічы (ля Імгліну). Расейская выведка дакладала, што *«которым трактом шел швед и тем трактом везде пометано больных живых многое число, такожде и мертвых пометано многое число»*.

Перад пераправай праз Сож ля Крычава Карл XII адпусьціў усіх жонак швэдзкіх афіцэраў разам з рыскімі купцамі дахаты. Усе яны былі забітыя *«ў крычаўскім лесе»* невядомымі [PIBPV 1951-8-2:632–633].

Тыя швэды, якія адсталі ад корпусу Левэнгаўпта ля Прапойску, здолелі згуртавацца і, ачоленыя вайсковым судзьдзём Ёханам Бэнэке (Johann Be-







*46. Выбар швэдзкіх рэкрутаў у войска Карла XII. Мастак Г.Сэдэрстром (G.Cederström). Малюнак XIX ст.*

neke), прабіліся напачатку ў хаўрусны Шклоў, а потым швэдзкую Лівонію, куды ўсяго вярнулася каля 1 000 жаўнераў [Vee 1931:219]. Гэты ўчынак можна сьмела назваць геройскім. Бо жаўнеры прайшлі па выпаленай зямлі, без харчовых запасаў, церпячы перасьлед з боку ворага, сотні кілямэтраў Усходняй Беларусі. Пагатоў, мала хто зь іх ведаў мясьціны, таму яны пыталіся ў тутэйшых людцоў дарогу на Шклоў [Vee 1931:219]. Расейская выведка рапартавала 4 кастрычніка 1708 г., што *«пеших шведов в лесах множество до самой нашей границы [...] чинят немалую шкоду и все спрашивают дорогу на Шклов»* [PIBPV 1948-8-1 №2701]. Хутка харчы ў швэдаў высіліліся. Згодна зь беларускімі паданьнямі, яны *«йшлі харчуючыся толькі зьмерзлымі журавінамі»*. Замест эўрапейскага войска Левэнгаўпта месьцічы Магілёва пабачылі сотні галодных, блага апранутых жаўнераў. Але рухаліся яны не натоўпам, а шыхтамі, і кожны трымаў стрэльбу [КМ: 276].

Пасьля сыходу швэдзкага й расейскага войскаў Усходняя Беларусь уяўляла сабой выпаленую зямлю з тысячамі непахаваных жаўнераў. У такіх умовах хутка пачаліся пошасьці, перадусім чума, ад якой у Беларусі памерла каля 34 000 чалавек [Rudnev 1899:110]. Людзі ад голаду елі сабакі. У 1709 годзе за людажэрства ў ВКЛ было пакарана сьмерцяй 8 асобаў [Тамсама].

Гэтыя змрочныя падзеі арыгінальна адлюстравала Хроніка Магілёва [КМ: 276]:

*«Дня 18 верасьня 1708 году генэрал Левэнгаўпт пайшоў на Шклоў.*

*У Шклове ён узяў вялікі правіянт і кантрыбуцыю грашыма ды павярнуў на Лясную, маёнтак ягамосьцяў паноў Серафіновічаў, шукаючы караля. На той час войска Маскоўскае вялізнае каля Лясной на тым беразе Дняпра ўстала, і сам цар ягамосьць Пётар Аляксеевіч быў на той баталіі. Адбылося гэта на першыя прымаразкі. Абкружыла Масква паўсюль таго Левэнгаўпта з абодвух бакоў вершнікамі. Сам цар ягамосьць, кружляючы паміж палкамі, крычэў: „Радейте, братцы, Богу и Государю“. ...Шмат швэдаў па пушчах ды лясох паўцякала... Тутэйшай шляхце й сялянам засталося скарбаў шмат, коняў, сукна, вазоў з розным швэдзкім майном. Гэтае войска швэдзкае нават масты скураныя за сабою вазіла, для пераправы праз рэкі, але ж, бач, усё роўна загінула пад Лясною. За колькі тыдняў ля поля той бітвы немагчыма было праехаць, бо наўсуцэль ляжалі трупы, жаўнеры швэдзкія, целы якіх сабакі й дзярлівыя зьвяры грызьлі. Толькі вялікім грудам з стрэльбамі людзі езьдзілі. Тымчасам шмат швэдаў „недабойкаў“, якія ў лясы паўцякалі, да Магілёва дабраліся. Ішлі праз места зьніякавелыя, зрэдку хто ў барве* (уніформе. – Аўт.), *часьцей у рагожку апранутыя. Але строй трымалі, не натоўпам, але аддзелам па 10–15 па вуліцах маршавалі. Дужа мала хто зь іх дайшоў да Радзімы, бо шмат шляхты й сяляне па вёсках забілі з прычыны таго, што, калі швэды йшлі на Ўкраіну, люд тутэйшы мучылі з-за правіянту».*

У бітве 1708 г. пад Лясной загінула каля 4 000 швэдзкіх ваякаў і колькі тысячаў расейцаў. Думаецца, што сёньня побач з помнікам палеглым расейскім жаўнерам варта паставіць манумэнт і ў гонар загінулых швэдаў.

## 2.7. Швэды на землях Беларусі. Грэгэр Лаўрэн Барастус

Адным з наступстваў актыўнай палітыкі Швэцыі ў Рэчы Паспалітай (1588–1709) быў прыход у тагачасную Літву этнічных швэдаў. За часоў панаваньня караля (вялікага князя) Жыгімонта III (IV) Васы (1588–1632) швэдзкая каталіцкая эміграцыя ў Рэчы Паспалітай складала 383 асобы, сярод якіх было 18 дзяржаўных сакратароў і 13 пісараў [Wieselgren 1882: 150].







*47. Адзін з малюнкаў Конрада Гётке, мастака швэдзкага паходжаньня, які ў XVII ст. працаваў у Беларусі.*

Шмат швэдзкіх эмігрантаў асела ў ВКЛ. Напрыклад, у сэмінарыі пантыфіка Рыгора XIII , якая ўваходзіла ў склад езуіцкай акадэміі, навучаліся 35 швэдаў. Каля 1602 г. швэды складалі 17,5 % ад колькасьці ўсіх студэнтаў [Litwin 1993:61–65; Grickevičius 1997:79–82]. Сярод іх найлепшы паэта-лацініст Беларусі й Летувы канца XVI – першай паловы XVII ст. Грэгэр Лаўрэн Барастус (Greger Larsson, псэўданім Gregorius Laurentii Borastus) і вядомы мастак Конрад Гётке (Konrad Götke), які ілюстраваў выданьні Віленскай акадэміі й маляваў партрэты магнатаў, між іншым, Хадкевічаў, паэта Лаўрэн Бойе (Laurentius Boije/Laurentius Boye). Разам зь імі ў Вільні вучыліся іншыя землякі Олаўс Лаўрэнцый (Olaus Laurentii), Андрэас Олаі (Andreas Olaii), Магнус Аяндэр (Magnus Agander), Пэтрус Монтанус (Petrus Montanus). Знаходжаньне на стальцы Рэчы Паспалітай каталіка-швэда стварала для эмігрантаў з Швэцыі цудоўныя магчымасьці кар’еры. Шмат зь іх назаўсёды засталося на землях Летувы й Беларусі.

Сябрамі швэдаў па навучаньні ў Акадэміі былі беларусы-ўніяты, будучыя лідары новай царквы. Сярод іх Павал Аўлучынскі (Paulus Ovluczynski), Афанасі Форс (Athanasius Fors), Банадысь Глінскі (Benedictus Glinski), Язэп Градзіцкі (Joseph Grodzicki), Міхал Пашкоўскі (Michael Paszkowski – будучы біскуп смаленскі), Рыгор Бянькоўскі (Gregorius Bienkowski – будучы генэральны прадстаўнік уніяцкай царквы ў Рыме) ды шмат іншых. Напрыклад, у часе сьвяткаваньняў кананізацыі Сьв. Казімера (1604) сярод 84 беларускіх і летувіскіх студэнтаў, якія рабілі арацыі, былі 4 швэды, 4 датчаніны і 1 нарвэжац [Lipnicki 1858:296-297]. У той час існавалі таксама шчыльныя сувязі паміж пратэстантамі ВКЛ і Швэцыі. Каля 25 студэнтаў-швэдаў пры канцы XVI – пачатку XVII ст. вучыліся ў Галоўнай пратэстанцкай школе Вільні, сярод іх будучы настаўнік Януша Радзівіла швэд Лаўрэн Горн (Laurentius Horn) [Kosman 1973].

Наступная хваля вымушанай швэдзкай іміграцыі прыпадае на часы Вялікай Паўночнай вайны. Воляю лёсу колькі швэдзкіх жаўнераў заста-

юцца на землях ВКЛ. Дарма што расейская выведка ў верасьні 1708 г. пахапала ў Магілёве ўсіх параненых швэдзкіх жаўнераў (каля 30 чалавек), аднаму зь іх паталаніла схавацца. Ягоны сын Яраш Швэд узгадваецца ў паперах першай паловы XVIII ст. у сувязі з крымінальнай справай што да бакаляраў Магілёўскага езуіцкага калегіюму, якія, *«у жыдоўскім квартале гвалт чынячы, адрывалі стаўні дамоў»* [IUM 1888-18:401–402]. Другі швэдзкі жаўнер застаўся ў Віцебску. Ягоны сын Казімер Швэд зрабіў бліскучую кар'еру, стаў сябрам магістрату і атрымаў шляхоцкую годнасьць. Ён нават прадстаўляў інтарэсы Віцебску на вальным сойме Рэчы Паспалітай у 1766 годзе [IUM 1888-17:81, 162]. Верагодна, нашчадкі гэтага роду грэка-каталікі Стэфан Швэд, Ісак Швэд ды Павал Швэд жылі ў Віцебску падчас перапісу насельніцтва, зробленага ў 1812 годзе на загад Напалеона Банапарта [Vitsebski sshytak 1993-3:122–136, 184].

Вымушаная эміграцыя швэдзкіх жаўнераў па Вялікай Паўночнай вайне знайшла адбіцьцё ў беларускім фальклёры. Жыхары вёсак Швэды (Слуцкі павет), Іванічы (Ігуменшчына), Селішча (Стара-Юркавіцкая воласьць Магілёўшчыны, сёньня Заходняя Браншчына) уважалі, што іхныя селішчы заснаваныя швэдзкімі жаўнерамі за часоў вайны [LIP: 545]. Этноляг М.Касьпяровіч у 1929 годзе па выніках экспэдыцыі на Ігуменшчыну адзначаў, што жыхары помняць пра тое, што *«швэдзкія войскі праходзілі цераз сучасную Чэрвеншчыну, ёсьць нават паданьне, што вёску Іванічы насяляюць нашчадкі швэдаў, што засталіся тады тут»* [Kaspiarovich 1929:43].

У беларускай вёсцы Вярхоўе, што ля мястэчка Шумячычы (колішняе Імсьціслаўскае ваяводзтва ВКЛ, сёньня Смаленшчына, Расея), было занатавана паданьне пра параненага швэдзкага жаўнера, якога прытуліла адна сялянская сям'я. Жаўнер ажаніўся і па вайне пастанавіў не вяртацца дахаты. Нібыта ад гэтага швэда й пайшла мясцовая радзіна Швэдавых [Putilov 2000:225]. Дадам, што сапраўды ваколіцы Шумячычаў у верасьні 1708 г. былі месцам цяжкіх баёў паміж войскамі Карла XII і Пятра I.

Падзеяў Вялікай Паўночнай вайны ў Беларусі тычыцца тастамэнт швэда, капітана каралеўскіх драбантаў Сьцяпана Батуры Юр'я Караля Шэлпаха вон Штэтэнбэрга (Georg Schelbach von Stetenberg) (Горадня, датаваны 9 верасьня 1586 г.) да свайго сына Томаша (Tomas Schelbach von Stetenberg) і ўнука Марціна (Martin Schelbach von Stetenberg): *«...и тому ж Тумашу, сыну моему, записую маетность свою вечистую в*





*Швецкой земле в повете Упсальском, шесть мил от места Упсальска лежачею...»* [Arkhivaryus 2001:71–72]. На думку гісторыкаў Г.Люлевіча й А.Радамана, пісаны па-беларуску швэдзкі тастамэнт, які захоўваецца сёньня ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, ня мае аніякіх адносінаў да часоў караля Сьцяпана Батуры. Гэты фальсыфікат пачатку XVIII ст., згодна зь якім нашчадкі швэда прэтэндавалі на ладны кавалак зямлі ля Ўпсолы, падроблены ў 1706 годзе ў Горадні швэдзкім афіцэрам войска Карла XII Шэлпахам вон Штэтэнбэргам, зразумела, з дапамогай мясцовага пісара. Гэты дакумэнт выразна сьведчыць пра адзінства эканамічна-праўнай прасторы тагачаснай Эўропы, часткай якой была Беларусь.

На працягу свайго існаваньня беларуска-летувіская дзяржава была часткаю заходнеэўрапейскага сьвету. Згодна з Статутам ВКЛ 1588 г. (артыкул 16, разьдзел 3) усе свабодныя жыхары Княства мелі права выехаць за мяжу. У сваю чаргу, кожны замежнік, калі ён не прадстаўляў варожай краіны, меў права прыехаць на сталае жыхарства ў Літву. Акурат дзеля гэтага ў Беларусі й Летуве ў XVII–XVIII стст. паўсталі нямецкая (Вільня, Горадня, Слуцак), галяндзкая (Нэйдорф, Берасьцейскае ваяводзтва), шатляндзкая (Кейданы, Слуцак) грамады [Ericsonas 2000]. Зрэдку гэтым правам карысталіся й швэды. Да прыкладу, у 1777 годзе ў ВКЛ з Стакгольму пераяжджае «майстар канатных рамёстваў» Самуіл Вэбэр (Samuel Weber). Ён зьвярнуўся ў магістрат Вільні з просьбай увайсьці ў склад месьцічаў. Выбар Вільні быў невыпадковы. Па-першае, наша сталіца была буйным эканамічным цэнтрам Рэчы Паспалітай. Па-другое, у шматэтнічнай, шматканфэсійнай Вільні існавалі моцныя традыцыі талеранцыі. Па-трэцяе, у месьце існавала лютэранская парафія, якую й пачала адведваць швэдзкая сям'я. З матэрыялаў справы можна даведацца, што швэдзкі рамесьнік паходзіў з заходняй Швэцыі, места Крысьцінагамн (Kristinehamn) правінцыі Вэрмлянд (Värmland). Пра тое, што ён застаўся ў ВКЛ, сьведчыць захаваная грамата, пісаная на пэргамэне па-швэдзку. Гэта адзін з рэдкіх швэдамоўных дакумэнтаў што да гісторыі стасункаў паміж ВКЛ і Швэцыяй. Назаву яшчэ ліст Адама Людвіка Левэнгаўпта (ад 18.01.1705) ды кантрыбуцыйны квіток, які капітан швэдзкага войска Андэрс Робэртсан (Anders Robbertson) выдаў 25 траўня 1708 г. уладальніку маёнтка Барацын (Наваградзкі павет) С.Вайніловічу. Сёньня гэтыя дакумэнты захоўваюцца ў архівах Летувы [Körner, Tamulynas 1994:35, 39].

Маладасьледаваным пытаньнем застаецца гісторыя шляхоцкіх беларускіх родаў швэдзкага паходжаньня. Вядома, што бальшыня швэдзкіх шляхціцаў асела на землях ВКЛ у XVIII ст. Тады на службу ВКЛ паступіў швэд Густаў Нолькен (Gustav Nolcken). Ужо пры канцы стагодзьдзя гэты род разгалінаваўся ў Беларусі на два атожылкі: адзін у Наваградзкім, другі ў Імсьціслаўскім ваяводзтвах. Абедзьве галіны роду хутка зьбеларусіліся. У 1765 годзе кароль Станіслаў Аўгуст надаў праваслаўнаму Івану Нолькену пасаду «стражніка старадубскага». Сын Івана Нолькена, таксама Іван, купіў у 1817 г. маёнтак Баянічы. Другая наваградзкая галіна роду была ўніяцкай. Існуе крыніца 1802 г., якая ўзгадвае а. Аляксандра Нолькена ды ягоных братоў Івана, Тахвіля, Восіпа. Іншы беларуска-швэдзкі род Своlkenяў (Svolcken) валодаў у XIX ст. маёнткам Барані Астравецкага павету. Зусім нядаўна супрацоўнік беларускай міліцыі А.Мядзелец выпадкова знайшоў у лесе фамільную капліцу Сволкеняў. Напаўразбураная капліца патрабуе тэрміновай рэстаўрацыі, раскіданыя навокал косьці – перазахаваньня [Кантакты й дыялёгі 2001-6:54].

Але найвядомейшым беларуска-швэдзкім шляхоцкім родам у Беларусі была радзіна Ашторпаў. Заснавальнік роду пан Францішак Ашторп (Frans Asturp) быў сынам швэдзкага жаўнера, які па Вялікай Паўночнай вайне застаўся ў Беларусі. Ф.Ашторп робіць выдатную кар’еру ў войску ВКЛ. Узнагародай за службу стаўся маёнтак Дукоры ля Менску. Дзеля сваёй дбайнасьці ў другой палове XVIII ст. маёнтак робіцца найзаможнейшым на Меншчыне, а Ашторпы – уплывовай шляхоцкай фаміліяй. Але да поўнага шчасьця Ашторпам не хапала больш вытанчанага радаводу. Біяграфіі звычайнага швэдзкага жаўнера яўна бракавала. Ашторпы падрабілі свой радавод, згодна зь якім яны паходзілі з каралеўскай дынастыі швэдзкіх Васаў (!), а маёнтак Дукоры нібыта заснаваў калісьці рымскі легіянэр Дук (ад лаціны «dux» – князь), вой мітычнага Палямона, продка беларуска-летувіскай шляхты.

За Ашторпамі вёска Дукорыператварылася ў заможнае мястэчка. Пры канцы XVIII ст. Ашторпы пабудавалі ў Дукорах шыкоўны палац, уфундавалі вядомы на ўсю Літву цырк і аркестру. Нашчадак Ашторпаў Лявон Ашторп у сярэдзіне XIX ст. лічыўся найбольш жорсткім прыгоньнікам. Калі ў 1851 годзе Лявон Ашторп трагічна загінуў (карэта па дарозе зь Менску ў Дукоры зьехала з мосту празь Сьвіслач ля вёскі Пяскі ў ваду), народ успрыняў гэтую навіну як Божае пакараньне Ашторпам





за жорсткую паншчыну. Менскі паэта Ігнат Легатовіч стварыў з гэтай нагоды эпіграму:

Сьмерць Ашторпа у Дукорах
зробіць зьмену значну.
Паны піць кінуць,
мужыкі есьць пачнуць.
[VITSBICH 1956:37–38]

Этнічным швэдам быў сёньня забыты, але калісьці вядомы беларускі мастак Канстанцін Геда (1891-1977) (Konstantin Godée). Продкі К.Геды прыехалі ў пачатку XIX ст. з Швэцыі ў Беларусь, якая на той час была правінцыяй Расейскай імпэрыі. Гадаваўся К.Геда ў Магілёве, там жа скончыў рэальную вучэльню. З 1919 па 1944 г. жыў у Магілёве, выкладаў мастацтва, афармляў гістарычныя кампазыцыі Магілёўскага гістарычнага музэю. У 1944 г. эміграваў на захад. Далёкі суродзіч Канстанціна Геды – вядомы сучасны швэдзкі сьпявак Мікаэль Геда (Mikael Godée).

Выхадцы з Швэцыі пакінулі свой сьлед у гісторыі Беларусі. Кожны зь іх шырыў зьвесткі пра сваю краіну сярод беларускага грамадзтва. Згодна з апошнім перапісам жыхарства Беларусі (1999 год) сёньня грамадзянінам нашай краіны ёсьць адзін швэд, які да таго ж валодае беларускаю мовай.

Як мы кагадзе гаварылі, у раньні Новы час швэд Грэгэр Лаўрэн Барастус (Gregorius Laurentii Borastus) здолеў стаць выдатным дзеячом старабеларускай культуры. Імя гэтага выдатнага беларуска-швэдзкага паэта й гісторыка сёньня, на жаль, забытае на ягонай Бацькаўшчыне. Не вядомае яно й у Беларусі. Між тым Грэгэр Лаўрэн Барастус (яго сапраўднае швэдзкае прозьвішча Greger Larsson – Грэгэр Ларсэн) зрабіў важкі ўнёсак у старабеларускую лацінамоўную літаратуру. Нарадзіўся Грэгэр Ларсэн ля 1577 г. у месьце Нурчопінг (Norrköping) у каталіцкай сям’і. У гэты час у пратэстанцкай Швэцыі каталікоў моцна пераследавалі, яны, у прыватнасьці, не маглі займаць дзяржаўных пасадаў. Ля 1593 г. Грэгэр Ларсэн выяжджае ў сталіцу ВКЛ Вільню, дзе паступае ў Віленскую езуіцкую акадэмію [Wieselgren 1882:149]. Ларсэн выбраў Вільню таму, што ў той час вялікім князем літоўскім і каралём польскім быў швэд-каталік Жыгімонт Васа. Гэта заахвочвала эміграцыю швэдаў-каталікоў у Літву. У 1593 г. разам з каралём з

Швэцыі прыяжджае каля 400 швэдаў, пераважна каталікі. Сярод іх кароны «швэдзкі» пісар Пэтэр Браск (Peter Brask), гісторык Ёнас Вастэссон (Joannes Vastovius, лацінскі псэўданім), манах-падарожнік Эрык Фальк (Erik Falk). Апошні вельмі цікавіўся ўсходнім хрысьціянствам, адведаў ВКЛ, Турэччыну, Крымскае ханства, Эгіпт, Сырыю, Ерусалім [12].

Шчыльныя стасункі з Швэцыяй мелі віленскія езуіты. Першы рэктар Віленскага калегіюму Станіслаў Варшавіцкі (паляк паходжаньнем) на даручэньне Папы Рымскага зрабіў у 1574 годзе падарожжа ў Швэцыю, каб пераканаць швэдзкага караля Ёхана III (Johan III, 1537–1592) прыняць каталіцтва. З Швэцыі ў Вільню айцец Станіслаў прывёз адзін з найслаўтушых швэдзкіх сакрамэнтаў – рэліквар Сьвятога Вульфілы. Сьвяты Вульфіла (Wulfila) быў першым біскупам готаў – продкаў швэдаў, стваральнікам гоцкага альфабэту. У IV ст. Сьвяты Вульфіла зрабіў пераклад Бібліі з грэцкае на гоцкую мову. У Вільні рэліквар Сьвятога Вульфілы стаўся галоўным сакрамэнтам віленскай капліцы Цела Божага пры касьцёле Сьвятога Яна й найбольш шанаванай сьвятыняй брацтва Цела Божага, якое дзеяла ўва ўсіх местах ВКЛ [Makarii 202].

Віленскі пэрыяд жыцьця Грэгэра Ларсэна (1593–1611) вельмі цікавы ў гісторыі старабеларускай культуры. Акурат у гэты час у Вільні склаўся моцны гуманістычны асяродак з удзелам каталікоў паляка Пятра Скаргі й ліцьвіна-беларуса Валяр'яна Пратасевіча, беларускіх уніяцкіх дзеячоў Лява Крэўзы й Язэпа Руцкога, праваслаўных Мялета Сматрыцкага, Стэфана Зізанія, Лявона Карповіча, пратэстантаў паляка Андрэя Волана й беларуса Салямона Рысінскага. Усе яны выдатныя дзеячы старабеларускай культуры. Некаторыя зь іх вучыліся разам з маладым швэдам. Відаць, з усімі імі Грэгэр Ларсэн пазнаёміўся асабіста, пагатоў што ў тагачаснай Вільні панавала атмасфэра гуманістычных дыспутаў паміж прадстаўнікамі розных веравызнаньняў.

Малады швэд абірае сабе грэцкі псэўданім Грыгоры Лаўрэн Барастус, які адсылаў да далёкай Радзімы паэта – Швэцыі. *«Борэас»* па-грэцку азначае «поўнач» (швэдзкае «norr»), «*Асту*» азначае «места» (швэдзкае *«stad»*). Выходзіць «паўночнае места» – Norrköping, паэтава бацькаўшчына.

[12] Расеі няма ў гэтым пераліку таму, што гэтая дзяржава трымала свае межы зачыненымі для каталіцкага кліру.





Праз год побыту ў Вільні, у 1594 годзе, Барастус выдае першую кнігу «Panegyrica illustris: mo domino D. Nicolao Christophoro Radzivilo ... post auspicatissimo initium Vilnae Palatinatum...» (Vilna, 1594). Гэтая панэгірычная паэма, прысьвечаная Мікалаю Крыштапу Радзівілу Сіротку (1549–1616), колішняму пратэстанту, а потым каталіку. Мікалая Радзівіла ўважалі галоўным фундатарам Віленскай акадэміі. У 1585 годзе ён падараваў Акадэміі берасьцейскую друкарню свайго бацькі.

У 1602 годзе выходзіць другая кніга паэзіі Барастуса «Πανηγυρικοσ illustri magnifico domino D. Leoni Sapiehae M. D. Lithuaniae cancellario...» [Braunsberg, 1602]. Гэта панэгірык, або на старабеларускай мове «эпіграма», найслаўтушаму дзеячу нашай гісторыі канцлеру ВКЛЛяву Сапегу. Кніга выдадзеная коштам езуіцкага калегіюму, што месьціўся каля Каралява́ца ў месьце Браўнсбэрг (Braunsberg,Усходнія Прусы – сёньня Бранева / Braniewa, Польшча). У 1604 годзе ў Вільні пабачыў сьвет новы твор паэта ў зборніку «Theatridium poeticum sanctissimo et castissimo poëtae D. Casimiro...» (Vilna, 1604) [Ericsson 1924:452–455].

Шукаць сёньня зьвесткі пра гэтыя тры Барастусавы кнігі ў каталёгах старадрукаў дарэмна. Ня ведаюць пра іх у Летуве й Беларусі – такіх кніг няма ў кнігазборах гэтых краінаў.

Урэшце ў 1611годзе была апублікаваная адзіная вядомая сёньня беларускім і летувіскім навукоўцам кніжка-панэгірык каралю Жыгімонту Васу «Panegyricus Sigismundi III Poloniae et Sueciae regi invietissimodicatus» (Vilna, 1611). Гэта адзінае віленскае Барастусава выданьне, якое маюць кнігазборы Польшчы, Летувы, Расеі [Index Librorum Latinorum Lituaniae:109].

Выданьне ажно чатырох кнігаў лацінамоўнае паэзіі ставіць Рыгора Барастуса на віднае месца сярод паэтаў-лацінiстаў Летувы й Беларусі канца XVI – пачатку XVII ст.

Прага ведаў заносіць Барастуса ў Рым, дзе ён атрымлівае ступень доктара тэалёгіі. У Парыжы вучоны здабывае годнасьць доктара права. Пасьля студыяў паэта ўжо ня вернецца ў ВКЛ. Кароль Жыгімонт Васа прапаноўвае Барастусу высокую пасаду кароннага пісара, так званага «швэдзкага канцлера». На Радзіму Барастус не вярнуўся таксама, але, відаць, увесь час марыў спрычыніцца да добра Бацькаўшчыны. Пра гэта сьведчыць заснаваньне ім у Кракаве за ўласныя грошы школкі (Bursa Borastus) для швэдаў-каталікоў. У бурсе навучалася каталіцкая моладзь як з самой Швэцыі, так і з усходніх правінцыяў

Швэдзкага каралеўства: Эстоніі, Латвіі, Інгерманляндыі [Pilichowski 1957:455].

З успамінаў Альбрэхта Радзівіла акурат «сьвятар Барастус» чытаў у 1632 годзе па-швэдзку канфірмацыйны ліст з нагоды абраньня Ўладзіслава Васы каралём Рэчы Паспалітай [Wieselgren 1882:153]. Пры канцы жыцьця Барастус піша гісторыю Швэцыі «Historia Sueciae ab anno Christi 800 ad Ericum fere. Nam et Gustavum attigi rerum et religionii novatorem». Мэтай кнігі было пазнаёміць чытача Рэчы Паспалітай з гісторыяй Швэцыі, асабліва Рэфармацыі за часоў Густава Васы.

Памёр Барастус у 1654 годзе.

## 2.8. Беларусь і Летува ў швэдзкай навуковай думцы другой паловы XVI – пачатку XVIII ст.

Першым швэдзкім дасьледнікам, які зацікавіўся нашай краінай, быў швэдзкі гісторык Олаўс Магнус (Olaus Magnus, 1490–1557). Нарадзіўся Олаўс Магнус у месьце Лінчопінг (Linköping) у набожнай каталіцкай сям'і. Стаўшы каталіцкім ксяндзом, ён зьдзейсьніў шэраг вандровак па краінах Паўночнай Эўропы, падчас якіх назапашваў веды пра традыцыі, побыт і культуру мясцовых народаў.

З пачаткам швэдзкай Рэфармацыі каталік Олаўс Магнус быў вымушаны шукаць прытулку за мяжою. Ён выбірае Рэч Паспалітую, а менавіта Данцыг (Гданьск), дзе пад апекай караля й вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога працягвае навуковую й сьвятарскую дзейнасьць. Абвешчаньне лютэранства дзяржаўнаю рэлігіяй Швэдзкага каралеўства (1527), гвалт над нязгоднымі ксяндзамі (якія цяпер павінны былі браць жонак ды рабіцца пастарамі) пазбавілі Олаўса Магнуса магчымасьці вяртаньня на Бацькаўшчыну.

У гісторыю эўрапейскай навукі Олаўс Магнус увайшоў як аўтар двух славутых твораў. У 1539 годзе ў Вэнэцыі (Venice) ён апублікаваў «Carta Marina» – першую ў Новым часе дакладную мапу Паўночнай Эўропы. У 1555 годзе ў Рыме (Rome) ён выдаў на лаціне фундамэнтальную «Historia de gentibus septentrionalibus» («Гісторыю паўночных на-







*48. Хрост Ягайлам балтаў-паганцаў у 1386–1387 гг. Гравюра Олаўса Магнуса. 1555 г.*.*

родаў»). Бадай што ўпершыню эўрапейскі гісторык імкнуўся распавесьці не пра палітыку кіраўнічых дынастыяў, а пра культуру й звычаі народаў Балтыкі.

Верагодна, у Данцыгу Олаўс Магнус назьбіраў зьвесткі пра Літву й ліцьвінаў, якія выкарыстаў у сваіх працах [Broberg 1992–1994:136–141]. Места Данцыскае ў XVI ст. было важным гандлёвым партнэрам беларускіх купцоў зь Вільні й Полацку. Надрукаваная ў цэнтры тагачаснай цывілізацыі – Вэнэцыі – «Carta Marina» ўпершыню прадставіла эўрапейскаму чытачу краіны Поўначы, а перадусім Вялікае Княства Літоўскае. Выданьне гэтай мапы Олаўс Магнус разглядаў як уступ да «Гісторыі паўночных народаў».

Згодна з тагачаснай традыцыяй на абшарах Літвы Олаўс Магнус вылучыў дзьве тэрытарыяльныя адзінкі: перш-наперш Літву (Litvanie) зь Віленскім, Полацкім, Віцебскім і часткай Менскага краю ды Жамойць (Samogethia) – балцкія паветы ВКЛ. Рэгіён з назовам Беларусь (Russia Alba) разьмешчаны Магнусам на поўначы Расеі. Акурат там лякаліза-

* Падчас хросту балтаў была ахрышчаная й рэшта крывічоў-паганцаў з абшараў Панямоньня. Выява «Вужынага караля» на гравюры Магнуса сымбалізуе паганскую міталёгію летувісаў і беларусаў. Зьвязваць гэты вобраз выключна з балцкай традыцыяй памылкова, бо «Вужыны кароль» – цэнтральны пэрсанаж міталёгіі лужыцкіх сэрбаў.

вала Белую Русь значная бальшыня эўрапейскіх картографаў XVI–XVII стст. Дарма што Олаўс Магнус адлюстраваў толькі заходнюю й паўночна-ўсходнюю часткі ВКЛ, ягоная мапа мае вялікую інфармацыйную вартасьць. На мапе ВКЛ Олаўс Магнус зрабіў некалькі досыць цікавых малюнкаў. Гэта дзяржаўны герб Пагоня, малюнак вялікага князя й караля Жыгімонта Старога. Карціна «Ласаваньне медзьвядзёў» адлюстроўвала важны занятак ліцьвінаў-беларусаў – бортніцтва. Шматлікія караблі з Балтыкі, якія Олаўс Магнус намаляваў каля Вільні, у сымбалічнай форме падкрэсьлівалі значную ролю сталіцы ў паўночна-эўрапейскім гандлі. Сёньня ў сьвеце захаваліся толькі два асобнікі гэтай унікальнай мапы: адзін у Швэцыі (бібліятэка ўнівэрсытэту Ўпсолы), другі – у Нямеччыне (месцкая бібліятэка Мюнхэну).

Гістарычнай Літве прысьвечаныя тры разьдзелы кнігі «Гісторыя паўночных народаў». Першы мае назоў «Пра скамарохаў». Аўтар піша: *«Русіны і ліцьвіны харобрыя ваяўнічыя народы, найбліжэйшыя суседзі швэдаў і готаў на ўсходзе. Яны знаходзяць асаблівае задавальненьне, прыручаючы дзярлівых медзьвядзёў, пасьля чаго гэтыя зьвяры робяцца такімі паслухмянымі, што выконваюць іхны кожны загад. Гэтыя павадыры-скамарохі зь Літвы вандруюць па ўсіх заходніх краінах. Кажуць, што яны таксама выконваюць шпіёнскія абавязкі»*. Олаўс Магнус дадае да свайго апавяданьня два малюнкі беларускіх скамарохаў-мядзьведнікаў, напэўна, першы вядомы малюнак з выяваю беларускіх скамарохаў [Magnus 2000:846–847].

У частцы, прысьвечанай ВКЛ, Олаўс Магнус падрабязна распавядае пра дыпляматычныя сувязі Літвы з Маскоўшчынай. Цікава, што галоўным героем гэтага разьдзелу выступае шляхціц «Матэвуш Баўтрамеевіч Гедройц з знакамітага ў Літве места Вільня». Аўтар апавядае пра «экзатычнае» для эўрапейца падарожжа Гедройца ў далёкую Маскоўшчыну (1551).

Інфармацыя Олаўса Магнуса – адзіная грунтоўная крыніца пра гэтае дыпляматычнае падарожжа. Хутчэй за ўсё, падчас побыту ў Польшчы Олаўс Магнус быў асабіста знаёмы з Гедройцам альбо падтрымліваў зь ім сталае ліставаньне. Апавядаючы пра хрост Ягайлам балтаўпаганцаў, Олаўс Магнус згадвае вельмі цікавы прыклад паганскай веры: *«Ля дзяржаўнай мяжы паміж ліцьвінамі і маскавітамі ля шырокага гасьцінца стаіць стод, які на мясцовай мове завецца „Залатая баба“* (у арыгінале: Zlotababa. – Аўт.), *што ў перакладзе азначае „залатая старая“*[13]*, якой кожны падарожнік мусіць ахвяраваць нейкі малы падарунак»* [Magnus 2000:131]. Імя Олаўса Магнуса вельмі папулярнае ў сучаснай Швэцыі. Але спадчына швэдзкага гісторыка мае таксама вартасьць для пазнаньня праўдзівай гісторыі беларусаў.





Актыўная мілітарная ды палітычная дзейнасьць Швэцыі на ўсходзе Балтыкі ў XVII – пачатку XVIII ст. выклікала ўздым зацікаўленьня швэдаў да ўсходніх суседзяў. У 1620 годзе ў Стакгольме (Holmiae) выдаецца праца доктара тэалёгіі Ёхана Гота Батвіда (Johannes Gothos Bot(h)vidi, 1575–1635) «Ці можна лічыць маскоўцаў хрысьціянамі?» («Theses de qvaestione, utrum Muschovitae sint Christiani?»). Прысьвечаная пачынальніку «ўсходняй палітыкі» каралю Густаву II Адольфу Васу кніга разьвязвала важнае для швэдзкага кіраўніцтва пытаньне: «хрысьціянскае» альбо «нехрысьціянскае» Маскоўскае гаспадарства. Аўтар дасьледаваньня ўваходзіў у кола паплечнікаў караля. Як вайсковы пастар (будучы біскуп) Батвід суправаджаў швэдзкага караля падчас вайсковых дзеяньняў у Нямеччыне [Tigerström 1986]. Дадатны адказ на зададзенае пытаньне паўстаў у дыскусіі Батвіда з магістрам філязофіі Андрэасам Ёханам Прытцам (Andreas Johannis Prytz, 1590–1655), якога часам памылкова прызнаюць аўтарам твору. Апроч «расейскай праблематыкі» з Батвідавай кнігі швэдзкі чытач мог даведацца пра гісторыю Ўкраінска-Беларускай праваслаўнай царквы (Кіеўскай мітраполіі). Батвід, напрыклад, ведаў пра папулярнае сярод нашых кніжнікаў паданьне аб тым, што апосталам Русі быў Сьвяты Андрэй, хрышчоны першаапосталам Пятром. Асобныя бачыны кніжкі прысьвечаныя ролі Бізантыі й Канстантынопальскай патрыярхіі ў царкоўнай гісторыі ўсходнеславянскіх народаў, цяжкаму становішчу экуменічнага патрыярха ўва ўмовах Атаманскай імпэрыі. Паведамляе Батвід таксама пра асьветніцкую дзейнасьць сьвятых Кірылы й Мятода, распрацоўку апошнімі кніжнай царкоўнаславянскай мовы (Linguam Sclavicam).

Вельмі важным для нас фактам у Батвідавай кнізе ёсьць пералік народаў, якія гавораць на славянскіх мовах. Да шэрагу славянамоўных народаў Батвід залічаў гістарычных «ліцьвінаў»: *«Illyricam voco Linguam qua Sclavis, Croatis, Bohemis, Dalmatis, Polonis, **Lithvanis,** Russis, Muschovitis alias populi est communis»* – «Ілірыйскаю (славянскаю)

[13] Як вядома, летувіскія землі ніколі не межавалі з Расеяй. Такім чынам, гаворка тут пра Беларусь. – Аўт.




49. *Беларусь на швэдзкай мапе Паўночнай Эўропы 1626 г. «Orbis Arctoi Nova et Accurata Delineatio». Аўтар Андэрс Бурэ (Anders Bure). Арыгінал мапы ў унівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсалы (Carolina Rediviva).*

моваю гавораць склавы (сэрбы, славенцы? – Аўт.), харваты (Croatis), чэхі (Bohemis), далматы (Dalmatis)[14], ліцьвіны (Lithvanis), русіны (Russis), расейцы (Muschovitis), вядомыя таксама адметнасьцю свайго грамадзтва» [Botvidi 1620:a3].

Зь цягам часу Батвідаў твор набыў эўрапейскую вядомасьць. Пра гэта сьведчыць другое яго выданьне ў 1705 годзе ў Ляйпцыгу (на лаціне Lipsiae).

У 1626 годзе Андэрс Бурэ (Anders Bure 1571–1646, лацінскі псэўданім *Andrea Bureo Sueco*) выдаў мапу «Паўночныя землі» («Orbis Arctoi Nova et Accurata Delineatio»), частка якой прысьвечаная ВКЛ. Аўтар быў буйным палітычным дзеячом – камісарам Выбаргу (Viborg), кіраўніком групы па дэмаркацыі мяжы паміж Швэцыяй і Расеяй, амбасадарам Швэцыі ў Расеі. Назапашаныя веды ды шырокае кола памочнікаў дазволілі Бурэ зрабіць адну з найлепшых мапаў свайго часу, над якой ён працаваў 23 гады. Што да Вялікай Літвы, дык па дакладнасьці з гэтай мапай можа паспрачацца толькі славутая «Радзівілаўская мапа» работы Тамаша Макоўскага (1613). Усе назовы беларускіх і летувіскіх местаў ды мястэчак перададзены лацінкай згодна з тагачаснай беларускай правапіснай традыцыяй ды правіламі швэдзкага правапісу. Да прыкладу: Vilna, Slonim, Creva, Kaidonaw, Radoskoviki (чытаецца «Радошковічы»).

Сёньня адзіны арыгінал гэтай вялізнай мапы памерам 160 х 150 см захоўваецца ўва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы Ўпсолы [Carolina Rediviva: Kartos Scandinavien, 1619–1650]. З гэтага арыгіналу на працягу XVII–XVIII стст. быў зроблены шэраг копіяў. Акурат гэтай мапай карысталіся падчас побыту ў Беларусі Карл X ды Карл XII. Дарма што ў 1936 годзе ў Люндзе мапа выйшла друкам, яна амаль не вядомая беларускім і летувіскім дасьледнікам. Ня згадвае пра яе й апошняе фундамэнтальнае выданьне «Lithuania on the map» [Vilnius, 2001].

У 1632 годзе кароль Густаў II Адольф заснаваў другі ў Швэцыі ўнівэрсытэт у Дорпаце (Academia Dorpatensis). Дорпацкі ўнівэрсытэт (сёньня Тарту, Эстонія) павінен быў рыхтаваць кадры для «культурнай экспансіі» Швэцыі на ўсходнім узьбярэжжы Балтыкі. Пасьля сьмерці караля канцлер Швэцыі Аксэль Оксэншэрна (Axel Oxenstierna) заявіў, што ўнівэрсытэт *«месьціцца ня там, дзе мае быць, валей збудаваць у гэтым месьце замак»*. З аднаго боку, швэдзкі палітык меў рацыю – унівэрсытэт быў разбураны ў 1708 годзе расейскім войскам (адноўлены Расеяй толькі ў 1802 годзе). Зь іншага боку, за кароткі час першага пэрыяду свайго існаваньня Дорпацкая акадэмія зрабілася навучальнай установай, дзе навучалася моладзь з мэтрапольнай Швэцыі, земляў сучасных Латвіі, Эстоніі, Беларусі, Летувы, Расеі, дзе вяліся дасьледаваньні па розных кірунках усходне-балтыцкай праблематыкі.

[14] Сёньня жыхары гістарычнай Далматыі ёсьць часткаю харвацкай нацыі.





Акурат у Дорпаце (Tartu) у 1642 годзе пабачыла сьвет першая швэдзкая навуковая праца, прысьвечаная гісторыі Польшчы, Беларусі й Летувы. Гэта забытая сёньня доктарская праца швэдзкага гісторыка Ёханэса Пэтрэюса (Johannes Petrejus Junecopensis) «Гісторыя Польскага каралеўства» («Regnii Poloniae Historia»), шмат старонак якой адведзена ВКЛ. Нарадзіўся Ёханэс Пэтрэюс (ня блытаць зь іншым вядомым швэдзкім гісторыкам Пэтэрам Пэтрэюсам/Petrejus Peter, Persson Per) у месьце Ёнчопінг (Jönköping) правінцыі Смолянд (Småland). На жаль, Ё.Пэтрэюс не захацеў зрабіць навуковую кар'еру. Пасьля абароны дысэртацыі ён вярнуўся ў родны кут, дзе атрымаў высокую пасаду ў судзе Ёталянду (Göta hofrätt). Сярод дорпацкіх апанэнтаў Пэтрэюса былі знаўцы ўсходняй праблематыкі, між іншым, прафэсар грэцкай мовы Ёхан Георгі Гізэль (Johannes Georgis Gezelius). Ягоны суродзіч Інакенці Гізэль (1600–1683) быў рэктарам Кіеўскай калегіі й адным з найлепшых знаўцаў грэцкай мовы ўва Ўкраіне XVII ст.

Зразумела, што ў кнізе Пэтрэюса выкладаюцца вядомыя факты з нашай гісторыі. Найцікавейшымі фактамі з гісторыі ВКЛ з швэдзкага пункту гледжаньня былі наступныя: а) каранаваньне вялікага князя літоўскага, жамойцкага й рускага (Lithuanian, Semogitia, Roxolaniae) Уладзіслава Ягайлы (Vladislavs Jagello) на польскі сталец у 1386 годзе й наступны хрост Літвы ў 1387 годзе; б) разгром польска-летувіска-беларускімі харугвамі Тэўтонскага ордэну пад Грунвальдам у 1410 годзе; в) разгром 6 жніўня 1506 г. вялікім князем Аляксандрам татараў пад Клецкам, пасьля чаго вялікі князь памёр: *«Alexander Dux Lithuannaen 1506 Tartaros vincie post victoria cmoritur»*[15] [Petrejus 1642:a 9].

Асобная старонка твору прысьвечаная бітве пад Воршай 8 верасьня 1514 г., калі, паводле словаў швэдзкага гісторыка, *«ліцьвіны атрымалі бліскучую перамогу над царом маскоўскім»* [Petrejus 1642:a 9]. Пры гэ-

[15] Насамрэч сьмяротна хворы вялікі князь Аляксандар знаходзіўся тады ў Вільні, а войскам камандаваў беларускі магнат, маршалак Міхал Глінскі.

тым Ёханэс Пэтрэюс зусім не згадаў пра ключавую падзею ў гісторыі Рэчы Паспалітай – Люблінскую унію 1569 г. Магчыма, таму, што пытаньне незалежнасьці ВКЛ ад Польшчы тады яшчэ стаяла на парадку дня.

Адрозна ад Люблінскай уніі Пэтрэюс падрабязна спыняецца на Вэндэнскай уніі 1566 г. паміж ВКЛ і Лівоніяй, якая была падпісаная ў 1562 годзе ў Рызе й зацьверджаная ў 1566 годзе на сойме ў Берасьці. Скасаваньне Лівонскага ордэну й пратэктарат ВКЛ над Лівоніяй быў апошнім вялікім посьпехам у самастойнай вонкавай палітыцы ВКЛ [Charopka 1994:67–73]. Зь іншага боку, гэтая падзея істотна паўплывала на тагачасную гісторыю Латвіі. Як занатаваў Ё.Пэтрэюс, *«5 сакавіка 1562 г. у Рыскім замку лівонскія рыцары перадалі ваяводу віленскаму Мікалаю Радзівілу Чорнаму (Nicolao Radzivillo, Palatino Vilnensi) ключы ад Рыгі ды іншых местаў Лівоніі»* [Petrejus 1642:a 9 адв].

Аўтарам асабліва падкрэсьліваўся факт абраньня 6 жніўня 1587 г. швэда Жыгімонта Васы каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Апошнія старонкі працы Ё.Пэтрэюса прысьвечаныя падзеям Смаленскай вайны 1609–1611 ды 1632–1634 гг. Наступная праца швэдзкага гісторыка з гісторыі Беларусі пабачыла сьвет толькі ў 1997 годзе!

Апошнім буйным дасьледнікам беларускай культуры раньняга Новага часу ў Швэцыі быў Ёхан Спарвэнфэльд (Johann Sparwenfeld, 1655–1727). Гэты навуковец, дыплямат, падарожнік і паліглёт (ведаў 14 моваў) заклаў асновы швэдзкай славістыкі, славянскую катэдру Ўпсольскага ўнівэрсытэту, якая спраўна працуе з 1687 г. У 1684–1687 гг. Ёхан Спарвэнфэльд жыў у Маскве, сьпярша як супрацоўнік швэдзкай амбасады, пасьля як адмысловы каралеўскі стыпэндыянт для вывучэньня расейскай і царкоўнаславянскіх моваў. У часе побыту Спарвэнфэльд знаёміцца з вучнем Сімяона Полацкага Сыльвэстрам Мядзьведзевым, ад якога даведваецца пра існаваньне яшчэ адной літаратурнай усходне-славянскай мовы – старабеларускай (стараўкраінскай) [Birgegård 1975: 29–55]. Дзякуючы руплівасьці Спарвэнфэльда ў кнігазборы Ўпсолы захаваліся ўнікальныя беларускія кнігі й рукапісы, якія швэдзкі навуковец прывёз з Расеі. Між іншым, Статут ВКЛ 1588 г., рукапісны слоўнік Сымона Полацкага («Отца иеромонаха Симеона Полоцкого словник полоно-словенский») [Kotliarchuk 2001], «Лексикон славено-российский и имен толкование» Памвы Бярынды (Куцейна, 1653) ды іншыя ўнікальныя друкі. На падставе сабранай калекцыі выданьняў Спарвэнфэльд у 1688 годзе распачынае «працу жыцьця» – фундамэнтальны лаціна-царкоўнаславянска-расейска-старабеларускі слоўнік «Lexicon Slavonicum», скончыць які ён здолеў толькі ў 1705 годзе. На жаль, Вялікая Паўночная вайна, параза Карла XII пад Палтавай і зыход Швэцыі з Усходняй Балтыкі адмоўна паўплывалі на лёс найвыдатнейшага помніка. Толькі ў 1987–1990 гг. рукапіс гэтай працы знойдзены, узорна падрыхтаваны й выдадзены швэдзкай славісткай Уляй Біргегорд [Sparwenfeld: 1987–1990]. Сучаснай беларускай лексыкаграфіі гэтае выданьне дагэтуль не вядомае. Няма гэтага выданьня ў кнігазборах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.





Такім чынам, швэдзкая гуманітарная навука раньняга Новага часу мае вялікія здабыткі ў вывучэньні ВКЛ і старабеларускай культуры. Праўда, зыход швэдаў з Усходняй Балтыкі пасьля падзеяў 1709–1710 гг. і зьнікненьне ліцьвінаў-беларусаў з палітычнай ды культурнай мапы Эўропы гвалтоўна перапынілі ў XVIII–XX стст. працэс узаемадзеяньня. Цяпер нашыя народы пачынаюць наноў пазнаваць адзін аднаго. Але, як заўважыў старажытны рымскі гісторык Тытус Лівіюс (Titus Livius): *«Лепей позна, чымся ніколі»*.

## 2.9. Беларусь пачатку XVIII ст. вачыма швэдзкіх жаўнераў

У архівах і бібліятэках Швэцыі захоўваецца каля 20 дзёньнікаў швэдзкіх жаўнераў з часоў Вялікай Паўночнай вайны, а таксама шмат лістоў, пісаных швэдамі ў Смургонях, Пінску, Радашкавічах, Менску, Магілёве ды іншых местах і мястэчках Беларусі. Дзяржаўная пошта ВКЛ працавала выдатна. Напрыклад, толькі Ёнас Стольгамар у чэрвені 1708 г. адпісаў 6 лістоў зь Менску, якія праз Рыгу прыйшлі ў Швэцыю [Stelhammar:170–182]. Што да зьместу дзёньнікаў і лістоў, ён тыповы для вайсковага эпісталяру. Асноўныя зьвесткі тычацца пройдзеных мясьцінаў, баёў з расейцамі, побыту, асабістых справаў. Але часам трапляюцца ўнікальныя зьвесткі пра Беларусь. Унікальныя, бо XVIII ст. дагэтуль застаецца малавывучаным пэрыядам гісторыі Беларусі, дасьледаваньні якога толькі пачынаюцца. Каштоўнасьць такіх зьвестак яшчэ ў тым, што зь іх швэдзкі чытач упершыню даведваўся пра Беларусь.



*50. Афіцэры Карла XII. Швэдзкі малюнак 1696 г.*

## КРАІНА Й НАСЕЛЬНІЦТВА

Па-першае, швэды ў Беларусі пачатку XVIII ст. ня ведаюць слова «Беларусь». «Беларусь» ня згадваецца ў швэдзкіх крыніцах часоў Вялікай Паўночнай вайны. Наша краіна мела назоў Літва (Littowen, Littauen). Вылучна гэты назоў сустракаецца ў швэдзкіх дакумэнтах. Ня толькі Вільня, Жалудок, Горадня, Навагрэдак, Нясьвіж, Слуцак, Менск, Радашкавічы, Смургоні, але й Магілёў, Ворша, Імсьціслаў, Крычаў – месты *«літоўскія»*. Па-другое, у межах Літвы швэды вылучалі толькі два гістарычна-культурныя абшары, якія мелі, на іх думку, адрозны ад карэннай Літвы характар. Гэта Жамойць (Samogiten) з балцкім насельніцтвам, якая пачыналася *«за Вільняй»* [Petre 152], і Палесьсе – перадусім Берасьцейскае ваяводзтва, населенае палешукамі [Adlerfeld 1740-2:222, 233]. Што да тэрмінаў «Беларусь», «беларускі», дык гэты цьмяны геаграфічны панятак меў у той час вузкаканфэсійны сэнс. «Беларусцамі» называлі праваслаўных жыхароў Рэчы Паспалітай, прычым не абавязкова продкаў сучасных беларусаў. Праваслаўны з Валыні альбо Львова быў таксама «беларусцам» [Floria 1997:21–24]. Праваслаўная вера жыхароў дзяржавы вызначалася таксама як «беларуская». Да прыкладу, украінскія казакі «*запорожские де черкасы посылали на сойм к королю, чтоб их белорусские веры король не велел нарушать*» [Floria 1997:







*51. Вялікая Паўночная вайна ў Беларусі. Швэдзкі малюнак часоў вайны.*

22]. Акурат таму адзіная (!) у Рэчы Паспалітай XVIII ст. праваслаўная Магілёўская япархія атрымала ў 1634 г. назоў *«беларуская»*. У нашай старой літаратурной мове XIV–XVI стст. (у крыніцах *«рускай»,* бо на пісьме ўжывала кірылічныя *«рускія»* літары, альбо *«літоўскай»,* бо была гутарковаю мовай *«ліцьвінаў»*) паняцьці *«Беларусь», «беларускі»* тычыліся да сучаснай поўначы Расеі. Напрыклад: *«...у Пскове месьце беларускім»* [HSBM 1982-1:271]. У эўрапейскай гістарыяграфіі XVI–XVIII стст. Белая Русь атаесамляецца з Маскоўшчынай [Mylnikov 1999: 64–65]. Напрыклад, у працы швэдаў Нікалаюса Бэргіюса (Nikolaus Bergius) і Гудманда Крука (Gudmondo Krook) «Exercitatio historico-theologica de statu ecclesiae et religionis Moscoviticae» (1704) Белай Русяй называецца поўнач Маскоўшчыны, пры гэтым абодва швэдзкія навукоўцы добра ведалі этнапалітычную сытуацыю на мяжы швэдзкай Лівоніі з Рэчай Паспалітай і Расеяй [Mylnikov 1999:64–65].

Упершыню паняцьце *«япархіі беларускай»* у дачыненьні да Магілёўскай япархіі ўжываецца літаральна праз год па легалізацыі праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай, юрыдычна забароненай па уніі 1596 г. Паступова на працягу XVIII ст. назоў Беларусь замацоўваецца за пераважна праваслаўнымі абшарамі Імсьціслаўскага ды часткова Віцебскага ваяводстваў ВКЛ. Толькі пры канцы XIX ст. (!) гэтае паняцьце пачынаюць ужываць для пазначэньня ўсяго беларускага этнасу.

Такім чынам, на пачатку XVIII ст. швэдзкія жаўнеры яшчэ ня ведаюць «Беларусі» ў яе сучасным значэньні. Разам з тым швэды выразна адчувалі розьніцу паміж Польшчаю й Літвою. Паводле швэдзкіх крыніцаў, гістарычная Літва – гэта не рэгіён Польскай Кароны, але самастойнае гаспадарства, якое перабывае ў фэдэратыўнай лучнасьці з Польшчай. Пра гэта сьведчыць прысутны ўва ўспамінах эпізод пра пераход швэдамі заходняй дзяржаўнай мяжы ВКЛ. Напрыклад, мілітарны пастар Андрэас Вэстэрман занатаваў падчас маршу з Варшавы на Горадню: *«24 студзеня 1708 году мы ўвайшлі ў межы Літвы, першай вёскай якой была Новая Воля»* [Westerman: 282]. Швэды, якія рушылі ў Вялікае Княства Літоўскае з боку Аўгустава, прыгадалі, што *«мяжою паміж Польшчаю й Літвою ёсьць рака Бебра (Biebra)»* [Sperling:47]. Паказальна, што швэды падалі акурат беларускі варыянт гідроніму, бо па-польску гэтая рэчка сучаснай Беласточчыны завецца Бебжа.

У швэдзкіх успамінах акрэсьліваецца і ўсходняя мяжа ВКЛ. Швэдзкія жаўнеры выдатна разумелі, што падчас вайсковай кампаніі 1702–1709 гг. яны ў Расею так і ня лучылі. Адзін з удзельнікаў «смаленскага» паходу Карла XII увосень 1708 г. пісаў: *«10 верасьня, вёска Раёўка. Мы спыніліся за паўмілі ад Расеі (Rysslandh) ля так званай Смаленскай граніцы... якая атрымала гэты назоў таму, што разьмяжоўвае Смаленскае ваяводзтва Расеі й Літву»* [Norsberg:199]. Далей кароль, як вядома, пастанавіў рушыць у кірунку Украіны, гетман якой Іван Мазэпа разарваў хаўрус з Расеяй і ўстаў на бок Швэцыі. *«20 верасьня мы нарэшце выйшлі зь Літвы ў Казаччыну (Kossak land), а менавіта яе правінцыю Севершчыну, першаю вёскай якой была Буда»* [Norsberg: 201].

Швэды падчас кампаніі 1708–1709 гг. наагул не пабачылі Расеі. Сьпярша яны рухаліся праз Рэч Паспалітую, пасьля патрапілі ў аўтаномны ўкраінскі Гетманат, стасункі якога з Расеяй былі напружаныя, што скончылася пераходам казакоў на чале зь Іванам Мазэпам на бок Швэцыі. Таму пануючае ў сучаснай расейскай ды швэдзкай гістарыяграфіі вызначэньне гэтага этапу Вялікай Паўночнай вайны як *«швэдзкага паходу ў Расею»* ёсьць грубай мадэрнізацыяй. Адбываецца накладаньне палітычных рэаліяў канца XVIII–XX ст. (перабываньня Беларусі й Украіны ў складзе Расейскай імпэрыі, потым Радзкага Зьвязу) на пачатак XVIII ст., калі існавалі беларуска-летувіская (ВКЛ) і ўкраінская (Гетманшчына) дзяржавы. Навуковы прафэсіяналізм патрабуе сёньня рашучага перагляду існуючых стэрэатыпаў.





Якіх насельнікаў пабачылі швэды ў гістарычнай Літве? Па-першае, ліцьвінаў (Litauen nation) – палітычную нацыю, шляхту Вялікага Княства Літоўскага. Жыхары беларускіх местаў выступаюць як адзіная рэгіянальная група (віленчукі альбо магілёўцы), якая ў этнічна-канфэсійным пляне распадаецца на каталіцкую (заходняга і ўсходняга абрадаў) бальшыню й меншыню (апошнюю ўтвараюць «грэкі» (праваслаўныя), жыды й жменька пратэстантаў). Сялянаў-беларусаў швэды не вылучаюць наагул. Такі падыход уласьцівы эўрапейскай сьведамасьці XVIII ст. Эўрапейскія сяляне практычна ня маюць нацыянальнасьці да XIX ст. – часу нараджэньня нацыянальных рухаў і ўзьнікненьня канцэпцыі нацыянальнай дзяржавы. Толькі аднаго разу трапілася нататка швэдзкага афіцэра, якому падалося, што сяляне з-пад Барысава гаварылі зь ім «па-польску» [Cederhielm 1912:62]. Няма дзіва, бо мова беларуская для сучаснага швэда падасца вельмі блізкай да польскай. Цікава, але швэды нічога ня згадваюць пра такую каларытную групу насельніцтва ВКЛ, як літоўскія татары-мусульмане.



*52. Беларускі шляхціц часоў Вялікай Паўночнай вайны. Швэдзкі малюнак.*

Апрача тутэйшага насельніцтва, швэдам запомніліся палякі (Polakarna) з войска хаўрусьніка, «караля Літвы» Станіслава Ляшчынскага, сьпярша варожых, адлі хаўрусных украінскіх казакоў (Kosackerna) пад кіраўніцтвам генэрала Андрэя Апостала.

«Вораг» – акурат так, зь вялікай літары швэдзкія жаўнеры найчасьцей называлі войска Пятра I, якое таксама складалася зь некалькіх народаў. Апрача жаўнераў-расейцаў (Rysserna) у швэдзкіх мэмуарах ёсьць

згадкі пра калмыкаў (Kalmucker), татараў (Tatarer), данскіх казакоў (Don Kosacker).

Калі беларускія месты, як пабачым далей, мелі з гледзішча швэдаў выразна эўрапейскае аблічча, дык прырода й клімат краіны нямала зьдзівілі. У ліпені 1708 г., прайшоўшы скрозь беларускія лясы й балаты, Карл Магнус Пасэ пісаў брату з Магілёва: *«На мне багата куртак. Усю дарогу даводзілся пераходзіць рэкі праз глыбокія броды па грудзі ў вадзе. Халодны дождж ішоў дзень і ноч»* [Posse 1882:18]. У сваёй «Гісторыі» сьведка падзеяў швэд Густаў Адлерфэльд гэтак абмаляваў прыроду Беларусі: *«Наш чытач, пэўна, ведае, што Літва – гэта краіна, у якой наагул лясоў нашмат больш за палі. Лес, які мы прайшлі сёлета [1708], цягнецца на сотні кілямэтраў бяз жаднай прагаліны. Толькі зрэдку мы сустракалі невялічкія, занядбаныя вёскі, вакол якіх толькі лес [...] ніколі я ня бачыў такога багацьця дзікіх птушак, паляваньне на якіх – незабыўны занятак для паляўнічага»* [Adlerfeld 1740-3:12–13].

## МЕСТЫ ВКЛ

**Вільня.** *«У Вялікай Літве сталечным местам ёсьць Вільня (Wilna). Места Віленскае стаіць каля ракі Вяльля (Wilia), якая й дала месту імя. Збудавана места вельмі прыгожа, але ня мае добрых умацаваньняў. Купцы места маюць гандаль з Данцыгам, Караляўцом, Гамбургам, Масквою. У гэтым месьце безьліч кляштараў, якія належаць розным законам, ёсьць і лютэранскі збор»* [Luth: 50–51].

**Горадня.** *«Мы прыйшлі з Мэмэлю (*сёньня Клайпэда, Летува. – Аўт.*) у места Гарадзенскае. Места гэтае мае колькі прыгожых кляштараў. Найлепшы зь іх той, што належыць езуітам. З касьцёлаў найпрыгожшы той, які фундуюць Сапегі. Расейцы абрабавалі гэты касьцёл, а таксама палац Сапегаў, які стаіць побач. Наагул дзеля Сапегаў быў збудаваны кляштар і шмат прыгожых будынкаў у гэтым месьце, як і іншых местах Польшчы й Літвы»* [Westerman: 282].

**Нясьвіскі замак.** *«Гэты замак лічыцца найлепшым у Польскім каралеўстве, ён умацаваны чатырма каменнымі вежамі, якасна збудаванымі. Здаецца, кожная дэталь гэтага замку прызначаная для абароны... Грозна выглядалі 17 гарматаў жоўтай медзі й 4 жалезныя. Але*





*Яго Вялікасьць загадаў гарматы пераплавіць, а вежы ўзарваць, таму што места належала князю Радзівілу»* [16] [Adlerfeld 1740-2:230].

**Пінск.** *«Гэтае места стаіць у цэнтры краю вялізных балотаў, якія тут у пэўную пару году разьліваюцца як мора. Апошняе дае цудоўныя магчымасьці для навігацыі. Месьцічы баржамі зь вялікімі грузамі ходзяць уніз па цячэньні, у места Кіеў, праз раку Піна, якая, дарэчы, іншым шляхам злучаецца зь Нёманам. Пасярод балотаў высіцца шмат выспаў, якія дапамагаюць тутэйшаму жыхарству рабіць далёкія вандроўкі на звычайных чаўнох. Што да чужынцаў, дык гэтае багацьце стварае сапраўдны лябірынт. Але што да тутэйшых, дык яны заўсёды даплываюць туды, куды ім трэба, як падарожнікі па каналах Галяндыі.*

*У месьце існуе калегіюм езуітаў, якія трымаюць тут аптэку, установу, вельмі рэдкую ў гэтай краіне* [17]*. Насельніцтва места складаецца зь люду найразьнейшых рэлігіяў і звычак. Але пераважаюць грэкі* [18] *й жыды. Апошніх наагул тут вялікая колькасьць, і яны маюць сваю бажніцу.*

*Трэба дадаць, што жыхары гэтай правінцыі разумнейшыя й працаўлівейшыя за жыхароў засталых мясьцінаў краіны* [19]*. Месьцічы маюць нават сваю мануфактуру „рускай шкуры“ (беларускай. –* Аўт.*), вытворчасьць якой лічыцца лепшай у Каралеўстве.*

*Ніколі яшчэ замежнае войска не заходзіла гэтак далёка. Жыхары верылі, што прайсьці праз тутэйшыя балаты наагул немагчыма, таму былі вельмі зьдзіўленыя, пабачыўшы нас»* [20] [Adlerfeld 1740-2:224].

**Берасьце.** *«Гэта сталіца Палесься на рацэ Буг, якая, дарэчы, зьяўляецца натуральнаю дзяржаўнаю мяжой Літвы з Польшчай. Места гэ-*

[16] Усё ж такі адну зь нясьвіскіх гарматаў працы славутага нямецкага майстра Германа Мольцфэльта (Herman Moltzfelt) швэды забралі. Сёньня яна захоўваецца ў Вайсковым музэі Швэцыі (Armémuseum).

[17] Грамадзкія аптэкі, трыманыя езуітамі, існавалі таксама ў Вільні й Берасьці.

[18] Беларусы-праваслаўныя, якія называлі сябе ў той час «людзьмі грэцкае веры».

[19] Цікава, што насельніцтва гістарычнай Піншчыны (колішняга Пінскага павету Берасьцейскага ваяводзтва – сёньня гэта край ад Пінску да Турава) дагэтуль вылучаецца сваёй працавітасьцю й заможнасьцю.

[20] Заходняе войска, бо, напрыклад, крымчакі альбо расейцы былі ў Пінску. Таксама трэба зважаць на тое, што гэты паход адбыўся ўвесну, калі Палесьсе падчас паводак рабілася натуральнаю непрыступнаю цьвердзяй.

*тае слыне ў Эўропе найперш сваім жыдоўскім унівэрсытэтам. Штогод тут зьбіраецца мноства жыдоўскае моладзі зь Нямеччыны, Італіі, Маравіі, Сылезіі. Усе яны тут вучацца й атрымліваюць навуковыя ступені.*

*Ваяводзтва атрымала назоў ад імя гэтага места, але некаторыя ўсё роўна завуць яго Палесьсем»* [21] [Adlerfeld 2:222,233].

**Магілёў.** *«Рака Дняпро, альбо Барысфэн (Nieper eller Borysthenes), цячэ праз Магілёў, які разам з прадмесьцямі на абодвух берагох ракі складае даволі вялікае места. Места добра збудаванае й мае заможны, дыхтоўны выгляд. Мае земляны вал, які абкружае колам увесь Магілёў, нават прадмесьце на гэтым беразе ракі таксама абаронена валам»* [Cederhielm 90].

Як бачым, для швэдзкіх назіральнікаў беларускія месты мелі цалкам эўрапейскае аблічча. Гэта тычыцца ня толькі архітэктуры, але й сыстэмы адукацыі. Тыпова эўрапейскім было суіснаваньне розных канфэсіяў, наяўнасьць гандлёвых і культурных сувязяў з Заходняй Эўропай. Часам зьвесткі швэдзкіх крыніцаў сапраўды ўнікальныя, упаасобку пра пінскую мануфактуру (важны паказьнік разьвіцьця айчыннай прамысловасьці), берасьцейскі жыдоўскі ўнівэрсытэт, магілёўскія ўмацаваньні.

## АДМЕТНАСЬЦІ НАРОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

Сярод дакумэнтаў швэдзкіх жаўнераў, якія прайшлі праз Беларусь падчас Вялікай Паўночнай вайны, трапляюцца нататкі пра асаблівасьці народнай культуры ліцьвінаў-беларусаў.

**Бортніцтва.** *«У гэтай краіне мы ласаваліся надзвычайнай колькасьцю мёду, які мы называлі па-тутэйшаму „miod“. Ён быў вельмі смачны. Нідзе таксама мы ня бачылі такой колькасьці воску, які быў якасны і танны. Але самі бортнікі часам церпяць ад нападаў медзьвядзёў. Ім цяжка ахоўваць дуплы, якія робяць у дрэвах і ў якіх жывуць пчолы.*

*Добра вядома, што медзьвядзі ласыя на мёд. Менш вядома, што ў празе мёду гэты зьвер здольны забірацца, як альпініст, на*

[21] Берасьцейскае ваяводзтва альбо Палесьсе. Цікавасьць выклікае суіснаваньне адміністрацыйнага й гістарычна-геаграфічнага назову краю.





*самыя высокія верхавіны. Але тутэйшыя сяляне прыдумалі дзейсную абарону ад нападаў. Вакол дрэваў уніз і ўверх яны расстаўляюць вострыя калкі, якія фіксуюцца на грубых дошках-насьцілах. Гэтая засьцярога працуе выдатна, перашкаджаючы драпежніку дабірацца да борцяў, поўных смакаты»* [Adlerfeld 1740-3:13].

Бортніцтва – архаічны лясны промысел беларусаў, заснаваны на ўтрыманьні лясных пчолак-баровак у штучных дуплах-борцях, вывучаны вельмі добра [Gurkov, Terekhin 1980]. Але швэдзкія зьвесткі каштоўныя тым, што яны даюць дакладнае гістарычнае апісаньне сродкаў аховы борцяў. У іх ідзецца пра «подкур» – драўляны памост вакол борнага дрэва, і «воспы» – вострыя дубовыя крукі, якія забівалі ў зямлю і ў подкур. У швэдзкіх зьвестках нічога ня згадваецца пра іншую досыць папулярную ахоўную прыладу – «самабітку», падвешаную на вяроўцы ўздоўж камля цяжкую калоду. Калі яе мядзьведзь адштурхоўваў убок, яна вярталася назад і зьбівала ласуна з дрэва. Магчыма, самабітка зьявілася пазьней. Апрача гэтага, патрабуе перагляду высноўва некаторых дасьледнікаў пра заняпад беларускага бортніцтва з канца XVII ст. [ЕВ: 84]. Швэдзкія крыніцы пачатку XVIII ст. сьведчаць іншае.

## СМУРГОНСКАЯ АКАДЭМІЯ

*«Тут у Смургонях дрэсавалі медзьвядзёў для публічнага паказу. Кажуць, што ўсе скамарохі-павадыры медзьвядзёў, зь якімі яны вандруюць па сьвеце, маюць у Смургонях сваю Вышэйшую Школу (Högskola), таму гэтае мястэчка для іх „зямля запаветная“. Усе скамарохі, як і іншыя рамесьнікі, плацяць падаткі. Але сёньня нікога зь іх у школцы не відно, дарэчы, у мястэчку наагул мала мужчынаў»* [Cederhielm: 64, Nordberg 1:846].

Мядзьведжыя пацехі былі адвеку складовою часткай беларускай народнай культуры. З пракаветных часоў беларускія правадыры з «вучоным медзьвядзём» хадзілі па местах Польшчы, Нямеччыны, Італіі, Вугоршчыны, Расеі, Швэцыі [ЕВ: 330]. У 1516 годзе італьянскі паэта Людвік Арыёста ў паэме «Шалёны Раланд» прадстаўляе эўрапейскаму чытачу беларускага мядзьведніка. Раланд *«не палохаецца ворага, як мядзьведзь рускага ці літоўскага фокусьніка не пужаецца брэху сабача-*



*53. Беларускія скамарохі на гравюры Олаўса Магнуса. 1555 г.*

*га»* [22]. Пра беларускіх (літоўскіх) скамарохаў-мядзьведнікаў піша ў сваёй «Гісторыі паўночных народаў» (1555) швэд Олаўс Магнус, дадаючы нават дзьве гравюры зь іх выявай [Magnus 2000].

У XVII ст. Радзівілы ставяць скамарошную справу на прафэсійны грунт, заснаваўшы ўнікальную навучальную ўстанову – «Смургонскую акадэмію», якая рыхтавала скамарохаў і выхоўвала мядзьведзі. Школа існавала да падзелаў Рэчы Паспалітай, мела практычны характар і была арыентаваная на заходнеэўрапейскага спажыўца. Увесну скамарохі разыходзіліся па сьвеце. Узімку яны вярталіся ў Смургоні, плацілі падатак Радзівілам і заставаліся тут да вясны. Апрача скокаў, смургонскія медзьвядзі круцілі жорны, лавілі рыбу, сілялі ваду. Канец XVII – канец XVIII ст. – час росквіту «Смургонскай акадэміі».

У беларускай камэдыі «Вакханалія» (1725) чараўнік Дыяген робіць з пана смургонскага медзьвядзя (*«каб быў зь яго смургонскі мядзьведзь»*). Смургонскі настаўнік з «наравістым вучнем» былі ў XVIII–XIX стст. папулярным пэрсанажам народнага лялечнага тэатру «батлейка». Захавалася нават іранічная прыказка: *«Вучань Смургонскай акадэміі»*. З упадкам Вялікага Княства Літоўскага пры канцы XVIII ст. супадае заняпад і Смургонскай акадэміі. Яна заняпала, а сама прафэсія перайшла да цыганоў [Druts Gessler 1990:46]. Таму швэдзкія зьвесткі пра гэтую ўнікальную *«зямлю запаветную»* беларускіх скамарохаў маюць асаблівую каштоўнасьць.

[22] У XIV–XVIII стст. беларусы называлі сябе русінамі альбо ліцьвінамі. Прыклад Францішка Скарыны гэтаму сьведчаньне.





### МОВА Й ЛАЯНКА

Будучы ў 1708 годзе пад Барысавам, швэдзкі жаўнер Ёхан Сэдэргельм у лісьце да брата Гермунда занатаваў народны беларускі зварот: «Калі ты па-тутэйшаму хочаш папрасіць: „Дай есьці“, трэба сказаць: „Стаўляй на стол“ (det ster pe bordet). Гэтую цікавую акалічнасьць тутэйшай мовы растлумачыў мне адзін гэташні гаспадар» [Cederhielm:62].

Іншы ўдзельнік паходу, Ян Норсбэрг, напэўна, ніколі не зразумеў, што крычэлі з муроў Старадубу швэдам казакі (сяродякіх пераважалі беларусы з паходжаньня) [Kotliarchuk 2001-3:3–5], але, тым ня менш, дакладна запісаў лаянку ў дзёньніку: *«Haa, Haa! Sokurfwissine Schwede! Japtke Tuoije Mattre!»* [23] [Norsberg: 202].

Нататкі швэдзкіх жаўнераў пра Беларусь – унікальны погляд звонку на беларускую высокую й народную культуру пачатку XVIII ст., сьведчаньне неабыякавасьці швэдаў да культуры нашай краіны ў суровых варунках вайны.

## 2.10. Беларусіка ў зборах Швэцыі

Кнігазборы Швэцыі маюць адну з найлепшых у сьвеце калекцыю беларускіх старадрукаў і рукапісаў. Амаль усе яны датуюцца часамі швэдзкай актыўнасьці ў ВКЛ. Перадусім гэта творы на старабеларускай, царкоўнаславянскай, польскай, лацінскай, жыдоўскай, летувіскай, латыскай мовах, створаныя ў ВКЛ.

Даводзіцца часам чуць, што, маўляў, усе гэтыя дакумэнты швэды захапілі ў часе шматлікіх войнаў. Ля вытокаў гэтага стэрэатыпу, магчыма, стаіць гісторык Сямён Пташыцкі, які лічыў, што ў вайну 1655–1660 гг. *«швэды захапілі Літоўскую Мэтрыку [...] частка якой патанула ў Балтыцкім моры»* [Ptashytski 1887:11]. Да апошняга часу яго падтрым-

[23] «Гаа, Гаа! Сукіны сыны, швэды! Я… тваю матку!»

ліваў шэраг беларускіх гісторыкаў, між іншым, А.Калубовіч ды У.Сьвяжынскі [Sviazhynski 1998:50].

Памылковасьць гэтага стэрэатыпу яшчэ ў 1984 годзе давяла амэрыканская дасьледніца Патрыцыя Грымстэд (Grimsted 1984:12). Як вядома, у вайне 1655–1660 гг. палітычная эліта ВКЛ на чале зь Янушам Радзівілам была хаўрусьніцай Швэцыі. Таму швэды ўспрымалі Летуву й Беларусь як частку новапрыдбанай зямлі, таму й не практыкавалі вывазу культурных каштоўнасьцяў. Калі з Польшчы сапраўды была вывезеная Каронная Мэтрыка, абрабаваны шэраг кнігазбораў, дык Вялікае Княства Літоўскае гэткі лёс тады не напаткаў [Pilichowski 1957:451–479].

У сваю чаргу, у часе Вялікай Паўночнай вайны швэды лічылі ўладаньні прарасейскіх магнатаў (Агінскіх, Пацаў, Радзівілаў) варожымі і таму практыкавалі канфіскацыю й вываз пераважна юрыдычных дакумэнтаў. Да прыкладу, у 1702 годзе аддзелы Карла XII абрабавалі архіў Ашмянскага павету [Jankowski 1896:11–12]. Але ўвесь абозны архіў швэдзкага войска быў на загад Карла XII спалены па Палтаўскай паразе [Karlsson 2002: 35].

Швэдаў перш-наперш цікавілі юрыдычныя паперы. У асабістым кнігазборы губэрнатара Лівоніі (Livland) Магнуса Дэ ла Гарды (Magnus De la Gardie) захоўваліся 4 рукапісы, якія паходзілі з ВКЛ. Гэта інвэнтары каралеўскіх эканоміяў:

– *Inwentarz zamku, miasta, miasteczek… Oekonomiey Mohilowskiey (1649);*
– *Rewisia Oeconomiey Olitskiey (1649);*
– *Inwentarz Oekonomiey Grodzienskiey (1650);*
– *Rewizye Oekonomiey Szawelskiey księstwa Żmudzkiego (1649).*

Усе гэтыя дакумэнты мелі вялікае практычнае значэньне для швэдаў, бо Магілёў, Горадня, Аліта/Alitus і Шаўлі/Šiauliai былі каралеўскімі эканоміямі й па Кейданскай уніі перайшлі ўва ўласнасьць швэдзкага караля Карла X. Аніякіх іншых дакумэнтаў з ВКЛ у кнігазборы Магнуса Дэ ла Гарды не было [Annerstedt 1894:88–99].

Між тым зборы толькі ўнівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсолы (Carolina Rediviva) налічваюць сотні помнікаў кніжнай культуры ВКЛ. Паўстае пытаньне: адкуль паходзяць гэтыя кнігі? Па-першае, ужо ў XVII ст. бібліятэка ўнівэрсытэту Ўпсолы купляла кнігі беспасярэдне ў Рэчы Паспалітай, у тым ліку і ў ВКЛ.

Па-другое, бальшыня старадрукаў ды рукапісаў на беларускай ды царкоўнаславянскай мовах з ВКЛ паходзіць з калекцыяў двух выдатных





швэдзкіх славістаў канца XVII – пачатку XVIII ст. Перш-наперш гэта філёляг, паліглёт Ёхан Спарвэнфэльд (Johann Sparwenfeld, 1655–1727), які прывёз у Швэцыю з Масквы Статут ВКЛ 1588 г., слоўнік Сімяона Полацкага, куцейнскае выданьне слоўніка Памвы Бярынды [Birgegård 1975: 39]. Другім аматарам славянскага прыгожага пісьменства быў швэдзкі лютэранскі пастар з Нарвы, пазьней генэрал-супэрінтэндант біскуп Лівоніі (Livland) Нікалаюс Бэргіюс (Nicolaus Bergius, 1658–1706). Зь яго нага кнігазбору ў бібліятэку Ўпсолы трапілі ўнікальны рукапіс Стэфана Зізанія *«Казанье Кирилла, патриарха иерусалимского об антихристе» (Вільня, 1596), «Зерцало богословия»* Кірыла Транквіліёна *(Чарнігаў, 1646),* іншыя творы [Davidsson 1975:72–73].

На сёньня буйныя зборы беларусікі ў Швэцыі маюць тры бібліятэкі. Перадусім гэта бібліятэка ўнівэрсытэту Ўпсолы (Carolina Rediviva), каралеўская бібліятэка ў Стакгольме (Kungliga biblioteket) ды месцкая бібліятэка Вэстэрос (Västerås stadsbiblioteket). Матэрыялаў кожнай зь іх хопіць на зьместоўную навуковую манаграфію. Гаворка йдзе пра сотні кнігаў, шмат зь якіх няма ў Беларусі, а некаторыя наагул існуюць у адным асобніку. Толькі ў кнігазборы Carolina Rediviva старабеларускія выданьні рэпрэзэнтаваныя друкарнямі Вільні, Магілёва, Куцейна. Першае месца, зразумела, займае Вільня – цэнтар тагачаснай беларускай культуры. Сярод віленскіх выданьняў: *«Статут ВКЛ» (1588); «Псалтирь» (1630); «Буквар славенского языка» (1645); «Полуустав» (1695); «Молитвы повседневные» (1609); «Дневник всегдашних молитв» (1652); «Грамматика славянская»* Мялета Сматрыцкага *(1619).*

Асобна вылучу два асобнікі ўнікальнага каталіцкага Катэхізысу (Вільня, 1585; шыфр: Kyrkslav 1, Kyrkslav 157). Дагэтуль лічылася, што гэтая кніга, друкаваная па-беларуску ў Вільні, цалкам не захавалася. Былі добра вядомыя толькі 10 бачынак, якія належаць кнігазбору Расейскай Нацыянальнай бібліятэкі (РНБ, Санкт-Пецярбург). Гэтая кніга ўяўляе сабою вялізную нацыянальную каштоўнасьць, бо ёсьць першым друкаваным па-беларуску каталіцкім выданьнем. Аўтару гэтых радкоў пашанцавала пагартаць гэтае цікавае выданьне. Нягледзячы на назоў *«Китехизмъ или наоука всемъ* ***православнымъ*** *хр[е]стияном к повчению вельми полезно з латинского языка на рускій языкъ ново преложоно. Друкованъ оу Вильни ... з дозволеньемъ старшихъ»,* выданьне гэтае *каталіцкае.* Падрыхтавалі й выдалі яго віленскія езуіты, пра што сьведчыць клясычная езуіцкая формула *«з дозволеньемъ старшихъ».* Зроб-



*54. Унікальны каталіцкі катэхізыс, друкаваны беларускаю мовай у Вільні ў 1585 г. З збораў унівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсолы (Carolina Rediviva). У іншых кнігазборах сьвету не зафіксаваны.*

лена гэта было ў мэтах пашырэньня каталіцкіх уплываў сярод праваслаўных Віленшчыны. Тады ў Вільні адначасова выйшлі тры каталіцкія катэхізысы на беларускай, летувіскай і латыскай мовах.

Пра характар катэхізысу сьведчыць перадусім каталіцкі сымбаль веры, у якім згадваецца Папа («*намесьнік Пятра*»), адзіная «*повселенная*» сусьветная царква, выкладзена каталіцкая канцэпцыя паходжаньня Сьвятога Духу (ад Айца й Сына): «*Что осьмое: Верую в дух святога. Проповедуя нам во третей твари Тройцы святыя духа святога иже ото оца и сына походить единым праведным и вечным Богом есть [...] тому тая церква повселенная есть бо по всему миру разшырена [...]*». Падрабязна тлумачыцца сутнасьць каталіцкага касьцёлу: «*Святая царква повселенная: Первое же есть храм божий единый разумей во едином дусе Исусавым Хр[ысто]вым, во единой вере и сакраментах, во единой главе (!) владети церквой повселенную то ж есть в настоянію Исус Хрыстовым намесцу Петровом*». Асобная частка прысьвечана «*схізматыкам*» (праваслаўным): «*Которые суть от царквы удалены надто ж схысматицы которые сами (!) от едности и покою повселейнаго удаляются [...] еретиков и схисматиков, яко поветра злога страшного стеречися и отрицатися треба*».

Досыць цікавая мова твору. Каталіцкія перакладнікі атрымалі цяжкое заданьне. Ня маючы права ўжываць царкоўнаславянскую тэалягічную мову, яны пастанавілі карыстацца «*простаю рускаю мовай*» [24]. А для гэтага трэба было распрацаваць беларускую тэалягічную тэрміналёгію. На маю думку, невядомыя перакладнікі цудоўна справіліся з гэтым заданьнем. Для прыкладу працытуем колькі фрагмэнтаў: «*Которые добродетели грехом главным суть противны, тых седмъ: покорение, гоиность, чистота, ласкавость, зычливость, мерность и охота ку службе Божией. Которые же суть учинки телесныя Святый Павел так их вычитае: нечистота, скверность ... кажение идолохвальство, чары и спрыязни, свары, ненависть, гнев, свады, незгоды, распры, зайздрость, мужеубийство ... объядание и тым подобит. Колико есть учинков милосердных духовных, також седм: Грешного от греха отводити. Неразумнага наказати. Вопливаму добро порадити. За ближнего Господа Бога просити. Смутнаго потешити. Неправды претерпети. Досажение отпустити*».

Сярод магілёўскіх выданьняў *Carolina Rediviva*: «*Буквар славянского языка» (1649), «Псалтирь» (1693), «Молитвословец» (1695), «Часослов» (1697)* ды іншыя. Выданьні Куцейна (ля Воршы) прадстаўленыя кнігамі «*Псалтирь» (1642); «Диоптра или зерцало...» (1651); «Лексикон славено-россий*» Памвы Бярынды *(1653)* [Kjellberg 1951].

Да старабеларускіх друкаў можна залічыць таксама ўнікальны «Alfabetum Rutenorum», выдадзены ў Стакгольме ля 1638 г. Мэта гэтага выданьня была растлумачыць швэдзкаму чытачу асаблівасьці кірылічнага альфабэту. Як заўважыў Андэрс Шобэрг (Anders Sjöberg), выданьне мае простую сувязь з старабеларускай пісьмовай традыцыяй, бо ў аль-

[24] Старабеларускую мову часам называлі «простаю» не таму, што яна была мовай сялянаў (ёю гаварыла таксама шляхта, магнаты, судзьдзі), але таму, што яна ў параўнаньні з царкоўнаславянскай выкарыстоўвалася выключна па-за царквою, у сьвецкім жыцьці.

фабэце мы сустракаем тыпова старабеларускую літару *«э»*. Гэтая літара, добра вядомая зь беларускіх помнікаў XVI–XVII стст., трапіла ў расейскі альфабэт толькі ў 1735 годзе [Sjöberg 1975:20]. Магчыма, выданьне альфабэту, якое зьбіраліся выкарыстоўваць пастары Эстоніі й Інгерманляндыі, рыхтаваў у Швэцыі невядомы ліцьвін зь ліку палонных вайны 1605–1629 гг. Зь беларускіх рукапісаў Упсольскага кнігазбору адзначым перадусім польска-царкоўнаславянска-старабеларуска-расейскі слоўнік, які належаў Сімяону Полацкаму [Kotliarchuk 2001]. Таксама ўнікальны рукапіс *«Казаньне Сьв. Кірыла»*, пісаны ўласнаю рукой знакамітага віленскага праваслаўнага палеміста й казаньніка Стэфана Зізанія. Вялікую цікавасьць выклікаюць два асобнікі *«Ірмалягіёна»* – беларуска-ўкраінскага расьпеву XVII ст. [Glubokovskii 1918].

Кніжная калекцыя *Carolina Rediviva* мае таксама шматлікія выданьні ВКЛ на польскай, жыдоўскай, летувіскай, латыскай мовах. Сярод іх каля сотні дысэртацыяў («Assertiones»), абароненых у Віленскай езуіцкай акадэміі. Адзначым грунтоўную калекцыю пратэстанцкай літаратуры, выдадзенай у ВКЛ. Між іншым, гэткія рэдкія выданьні, як *«Katechizm zborów ewangielickich (Нясьвіж, 1563); «Katechizm albo krótkie […] zebranie wiary» (Вільня, 1594); «Pieśni pospolite przy obraniu Ministrów albo Seniorów»*. Шмат лацінамоўнай паэзіі, друкаванай у Вільні, сярод творцаў якой сустракаюцца выразна славянскія прозьвішчы. Прыгадаем таксама кнігу[25], – польскамоўнае праваслаўнае выданьне *«Modlitwy Doktorów według S. Wschodniey Cerkwie… W Wilnie, roku 1656»,* кніжку Міхала Вайніловіча пра імсьціслаўскага ваяводу Яна Агінскага *«Śnieg i ogień: Iasnie oświeceni Ierzy woiewodzic Trocki, Ian marszałek Brasławski z Kozielska Oginscy…» (Wilno, 1680),* каталіцкі катэхізыс, выдадзены Даніэлем Лянчыцкім у 1585 годзе ў Вільні.

Сярод беларускіх рукапісаў каралеўскай бібліятэкі Стакгольму – уніяцкае *«Жыцьцё й цуды Сьв. Базыля» («Vita & miracula S. Basilii nova»),* пісанае па-царкоўнаславянску зь відавочнымі беларусізмамі *(«паньство», «Тройца»)*. Гэты самы канвалют пад нумарам 793 зьмяшчае ўнікальную *«Повесть о Таксиоте воине»* на старабеларускай мове. Іншы цікавы рукапіс належаў найвыдатнейшаму беларуска-летувіска-польскаму навукоўцу другой паловы XVIII – пачатку XIX ст., матэматыку й астраному, прафэсару Віленскага ўнівэрсытэту Марціну

[25] Ivanovič, M. XVII a. Lietuvos lenkiškos knygos. Kontrolinis sąrašas. Vilnius. 1998.







*55. Малюнак з рукапіснай кнігі «Казаньне Сьв. Кірыла...», пісанай уласнаю рукой Стэфана Зізанія ў 1596 г. «въ Вильно мая 20...». Унікальны асобнік з унівэрсытэцкай бібліятэкі Ўпсолы (Carolina Rediviva).*

Пачобуту-Адляніцкаму (1728–1810) – *«Pamiątka złożona w Wilnie 1783 r.»*. Прыгадаем, што М. Пачобута-Адляніцкага, які нарадзіўся на Горадзеншчыне (в.Смалянцы), Францішак Багушэвіч уважаў за першага зьбіральніка беларускага фальклёру.

Сярод друкаванай беларусікі каралеўскай бібліятэкі Стакгольму: *«Poemate» Мікалая Сарбеўскага (Vilnae, 1757)*; першае выданьне гісторыі Беларусі й Летувы *«Historia Lithuanae pars prior» Войцеха Каяловіча (Danzig, 1650);* гісторыя беларуска-летувіскіх езуітаў *«Lithuanicarui Societatis Jesu historiarum provincialium partes prima et altera» Станіслава Растоўскага (Vilnae, 1768); «Historia Polonia at M.Ducat Lithuaniae»* ў чатырох тамах *(Warszawa, 1761)* і інш.

Сярод старадрукаў, якія захоўваюцца ў месцкай бібліятэцы Вэстэроз, вылучым наступныя кнігі: поўны збор пратэстанцкай Берасьцейскай Бібліі Мікалая Радзівіла Чорнага *«Biblia święta… w Brześciu Li-*

[26] Кнігазборы Беларусі ня маюць поўнага асобніка гэтай кнігі.

*tewskim, druk nakładem Mikołaja Radziwiłła» (Берасьце, 1563)* [26]; *«...Молитвослов альбо Требник» Пятра Магілы (Кіеў, 1646); «Latina grammatica»,* лацінскі правапіс пратэстанта з Слуцку Гальляша Капіевіча (Amsterdam, 1700); Нарыс Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага Андрэаса Цэларыюса (Andreas Cellarius) *«Regni Poloniae, Magnique Ducetus Lituaniae... novissima descripto...» (Amsterdam, 1659);* Нарыс Эўрапейскай Сарматыі *«Sarmatiae Europeae descripto, quae Regnum Poloniae, Lituaniam, Samogitiam, Russiam, Moschoviae»* Аляксандра Гваньіні (Alessandro Guagnini, 1538–1614) 1581 г. выданьня. Як вядома, італьянец Гваньіні пры канцы XVI ст. служыў у Віцебску. Таксама прыгадаем першую публікацыю аднаго з найцікавейшых твораў старабеларускай літаратуры *«Пэрэгрынацыя...»* Мікалая Крыштапа Радзівіла *«Hierosylymitana Peregrinato...» (Braunsberg, 1601);* малавядомыя *«Rituale sacramentorium» (Vilnae, 1648);* шэраг кніжак Сымона Полацкага: *«Обед душевный» (Москва, 1681), «Вечеря д[у]шевная» (Москва, 1681–1683), «Комидия притчи о блудном сыне» (Москва, 1685)* [Slavica Arosiensia 1957–1961:1–3].

Унікальныя дакумэнты зь беларускай гісторыі захоўваюцца ў архівах Швэцыі, перадусім Нацыянальным архіве Швэцыі (Riksarkivet). Гэта лісты літоўскіх магнатаў Лява Сапегі, Яна Караля Хадкевіча, Багуслава й Януша Радзівілаў, Казімера Сапегі да швэдзкіх каралёў і генэралаў і арыгінал дзёньніка Лява Сапегі за 1608–1611 гг.

Выдатны збор малюнкаў Марка Шагала захоўваецца ў Нацыянальным Мастацкім музэі Швэцыі (Nationalmuseum) і Музэі сучаснага мастацтва (Moderna Museet). Старабеларуская зброя, узнагароды, вопратка, харугвы ў музэях «Каралеўскі цэйхгаўз» (Livrustkammaren), «Вайсковы музэй» (Armйmuseum) і Скуклостэр (Skokloster).

Кнігазборы, музэі й архівы Швэцыі захоўваюць унікальныя для беларускай нацыянальнай культуры творы, якія абавязкова будуць выкарыстаныя пры наступных дасьледаваньнях.



# 3. Вобраз швэда ў беларускай культуры

## 3.1. Швэд-чараўнік

Мы любім даўнія паданьні,
Быліцы сівых песьняроў,
Няхітрыя іх апавяданьні
Аб справах мінулых часоў.
УЛАДЗІМЕР ЖЫЛКА

Створаны народнай культурай беларусаў вобраз «швэда» неадрыўны ад тэмы чараўніцтва. Згодна зь легендай, занатаванай у другой палове XIX ст. у Ваўкавыску, *«у паўночна-ўсходняй частцы места знаходзяцца батарэйныя акопы й насыпы... На думку месьцічаў, гэтыя насыпы зрабілі швэды ў часе вайны з расейцамі. Да таго ж патрэбную дзеля гэтай справы зямлю швэдзкія жаўнеры нанасілі ў шапках. Насыпаўшы гару, швэды наклалі закляцьце, згодна зь якім яе можна зруйнаваць толькі тады, калі ўсю зямлю занесьці жаўнерскімі шапкамі туды, адкуль яе прынесьлі»* [Shein, 1893: №268–446].

Згодна зь іншай тутэйшай легендай, *«пад гэтай гарою швэды пахавалі свайго генэрала, у гонар якога нанесьлі зямлю шапкамі»* [Federowski 1902 -2:№382–323]. «Швэдзкая гара» дагэтуль існуе ў Ваўкавыску. Гэта курган увышкі ад 28 да 32,5 м. Пляц гарадзішча амаль круглы, памерамі 55х56 м. Археалягічныя раскопкі ў 1925 годзе пад кіраўніцтвам Ю.Ядкоўскага давялі, што насамрэч гэта месца старога гарадзішча X–XIV стст., якое, безумоўна, ня мае ніякага дачыненьня да швэдаў.

Падставы для веры сялянаў у чарадзейную моц швэдаў былі наступныя. З пачаткам кожнай чарговай вайны, аж да Другой сусьветнай, беларускі люд хаваў жыта ў так званых хлебных ямах. Але швэды добра ведалі законы тэрмадынамікі. Выходзячы раніцай, яны шукалі мясьціны, дзе не было расы (жыта выдзяляла цяпло), потым капалі й заў-

сёды дакладна знаходзілі схаванае жыта [Adlerfeld III:43; Nordberg:846–848].

Натуральна, сяляне тлумачылі гэта выключна чараўніцтвам. Да таго ж па Вялікай Паўночнай вайне ў Беларусі быў вялікі недарод. Народныя забабоны зьвязвалі гэты факт з швэдзкім чараўніцтвам: *«Паўсюль, дзе швэд ішоў, была нужа, па вайне на палёх недарод вялікі колькі гадоў. Таму сяляне ральлі свойскія сьвяцілі, вадою сьвятою крапілі й малітвы набожныя чыталі. Ня хутка, але праз некаторы час паслаў Пан Бог наш ласкавы добрае збожжа»* [КМ:276].

Войска Карла XII было бадай што адзінае ў тагачаснай Эўропе, у складзе якога вялізная частка афіцэраў хадзіла ў паходы разам з жонкамі й дзецьмі. Былі ў войску й швэдзкія служэбкі-маркітанкі. Усяго швэдзкі табар у 1708 годзе налічваў каля 1 700 жонак, служэбак і дзетак. Вобраз швэдкі-чараўніцы, маркітанкі (служэбкі) у войску Карла XII выразна вымалёўваецца ў балядзе Яна Чачота «Наваградзкі замак» (1818–1819), у аснову якой пакладзеная папулярная на той час у Наваградку легенда:

Ужо тая хітрая швэдка, якую
Так князь пакахаў безгаловы,
З сваімі на тайнай нарадзе мяркуе,
Як выманіць князя са сховы.

Цікава, што Ян Чачот моцна перапрацаваў сюжэт легенды, захаваў вобраз швэдкі-вядзьмаркі:

Роў гэты быў высах у даўнія годы,
Праз швэдкі той чары ліхія.

Вобраз чужаніцы-чараўніцы (швэдкі, цыганкі, італьянкі) і схемы «загубленае дзіця–заклятае возера» наагул досыць папулярныя ў беларускім фальклёры [LIP: 1983].

Пры канцы XIX ст. фальклярыст М.Федароўскі запісаў ад народнага казачніка Яна Дзежкі з Сакольшчыны (сёньня ў Польшчы) легенду, згодна зь якой швэды, ня ведаючы беларускай мовы, хутка праз нейкія чары ёй авалодалі:

*«Як то было кедысь цяжка на сьвеці, неспакой, от шведзка вайна была, мноства рознага войска цяглося па сьвеці. От тады ішлі якіясьці Сасы, Тарантасы, ня зналі нашай мовы, а мы іх. Бог іх ведае,*





*як яны гаварылі, толькі ўвойдзе да хаты і крычыць: „Пекі курно!“, то ледва дамысьліліся, што ён кажа: „Палі печ!“ Забіралі людзям хлеб, авёс, на фурманкі гналі, а некаторыя як паехалі, то і прапалі зь імі заўсім. От, кажуць, з Дрыгі неякі Баран Мацей і Балдыка стары прапалі. А возьмуць дзяцей, пазасаджаюць шыямі за лаву, прыціснуць лаваю і падушаць. А старшыя паўцякалі да лесу, дзеўкі ўсе ў лесе сядзелі, бо ня можна было быць дома. Так, бывала, яны падыходзяць пад лес і крычаць:*

*– Крыся, Марыся, жані валэ дадому, жані!*

*А як катора выйдзе зь лесу, то ўжо яе ўхопяць і робяць, што хочуць зь ёю»* [Federowski 1935:12]. Цікава, што падобныя легенды беларусы-палешукі складалі й пра туркаў.

Трапілі швэды і ў беларускія легенды пра «мерцяў-ведзьмакоў». Згодна зь легендай, занатаванай П.Шэйнам у вёсцы Лыскава, што на Берасьцейшчыне: *«Каля вёскі ёсьць невялічкі лясок з курганамі, які сяляне завуць „акопы“. Кажуць, што ў часе вайны паміж расейцамі й швэдамі на акопах засталося шмат мерцьвякоў, якіх сяляне павінны былі пахаваць. Хаваючы аднаго забітага швэда, мужыкі ўбачылі каштоўны сыгнэт. Пачалі здымаць, ня выйшла, таму пастанавілі адцяць таго пальца. Такім чынам завалодалі гэтым сыгнэтам. Але пасьля таго доўга ў вёску прыходзіў уночы бяспалы мярцьвяк, асабліва ў тую хату, дзе знаходзіўся сыгнэт. Нічога ня зробіш, вымушаны былі сяляне той сыгнэт разам з пальцавай косткай пакласьці ў магілу»* [Shein 1893:446]. У вёсцы Скварцы, што на Койданаўшчыне, людзі гукалі, *«што ў швэдзкім кургане пахаваны швэд-жаўнер, які выразаў усю вёску. Калі яго забілі і пахавалі, забыліся пакласьці рукавіцу ў магілу. З таго часу швэд-мярцьвяк блукае ўночы па вёсцы ды шукае сваю рэч»* [Duchyts 1993:26]. Матыў прэтэнзіі мерцяў на забраную ад іх маёмасьць ёсьць вельмі папулярны ў фальклёры беларусаў, украінцаў ды іншых эўрапейскіх народаў. Створаны народнай культурай, гэты забабон утрымліваў важную маральную норму: бараніў могілкі ад праяваў барбарызму.

Свае легенды маюць шмат якія «швэдзкія» могілкі й курганы Беларусі. Трапіла тэма чараўніцтва швэдаў і ў царкоўныя легенды. Згодна з адной зь іх пасьля пальбы швэдзкіх жаўнераў па абразу Маці Божай у вёсцы Валокі Барысаўскага павету ніхто зь сялянаў ня мог узяць абраз зь зямлі ў рукі. Толькі тады, калі векавы старац прысьніў, што

*«толькі дзіця здолее гэта зрабіць [...] абраз паднялі зь зямлі»* [Shein 1893:420].

Зразумела, абвінавачаньне швэдаў у чараўніцтве цягнула для апошніх змрочныя наступствы. Магілёўскі храніст піша, што ў 1709 годзе магілёўскія сяляне спалілі цела швэда-ведзьмара на ростанях [KM:276].

Вобраз «швэда-чараўніка» цалкам адпавядаў народнай мэнтальнасьці. Для беларусаў «чужынец» заўсёды ўяўляў прыбыша зь іншага варожага сьвету. Вораг-чужынец заўсёды ў народнай культуры выклікаў страх і асацыяваўся з пагрозай агрэсіі. Жорсткасьць швэдзкіх аддзелаў у Вялікую Паўночную вайну абумовіла ўзьнікненьне шматлікіх паданьняў пра нялюдзкае стаўленьне жаўнераў да насельніцтва. Часам гэтыя паданьні закраналі тэму чараўніцтва. Згодна зь легендай «Адкуль ў нас узяліся кнігаўкі» гэтую птушку, якая часта фігуруе ў чарадзейных казках, завезьлі ў Беларусь падчас вайны швэды: *«Пры сустрэчы з чалавекам гэтая кнігаўка (іншая назва «каня») заўсёды гучна крычэла. Тады швэды йшлі на кліч птушак і мардавалі людзей. І цяпер кнігаўкі, як убачаць людзей, гучна крычаць»* [LIP:69].

Апазыцыя «мы–яны» працавала адносна ўсіх суседзяў за выняткам палякаў, летувісаў ды ўкраінцаў, зь якімі беларусы мелі доўгую супольную гісторыю жыцьця. Чараўнікамі, напрыклад, лічыліся прадстаўнікі этнічных меншыняў Вялікага Княства Літоўскага. У беларускіх замовах ад сурокаў фігуруе як шкадлівае *«вока цыганскае, жыдоўскае, татарскае»*. Часам вобраз чараўніка «швэда» спалучаўся з вобразам чараўніка *«татарына альбо турка»* [Jelenska 1893:589–590].

Беларусы лічылі чараўнікамі расейцаў-«маскалёў» [Demidovich 1896:112], маскалёў-старавераў [Barszczeuski 1990:98]. У беларускім фальклёры чорт выступае часьцей за ўсё ў вобразе «маскаля», «немца», «паніча». Важкую ролю ў вызначэньні чужынца-чараўніка выконвала незразумелая мова («гергатаньне») альбо асабістыя надзвычайныя здольнасьці.

Напрыклад, беларусы Падзьвіньня лічылі чараўнікамі сваіх суседзяў-латышоў. Бо, па-першае, яны гаварылі на незразумелай мове, па-другое, вельмі хутка і ўмела спраўлялі па Дзьвіне свае чоўны-«лайбы». Вяртаючыся з Рыгі, беларусы звычайна апавядалі гісторыі пра дзіўных латышоў, некаторыя вазілі нават да іх гасьцінца [Padbiareski 1844:79–82].

Згодна з уяўленьнямі беларуса існавалі два асноўныя віды чараўніцтва: спадкаемны й набыты. Інакшая этнічнасьць, іншая прафэсія





(млынар, буднік) давалі падставы лічыць чалавека чараўніком. Беларусы ўважалі, што чараўніцтва – гэта пераважна мужчынскі занятак [Nikiforovskii 1897:282–290]. Іншая мова, веравызнаньне, дзіўная зброя й форма жаўнераў швэдзкага войска (якое складалася ня толькі з швэдаў, але і зь фінаў, латышоў, эстонцаў, немцаў) лёгка стваралі вобраз чараўніка.

## 3.2. Швэды ў рэлігійных легендах беларусаў

Есть образ мыслей и чувствований,
есть тьма обычаев, поверий и прывычек,
принадлежавших исключительно
какому-нибудь народу.
АЛЯКСАНДАР ПУШКІН

Вобраз швэдаў у царкоўных легендах беларусаў пачынае фармавацца ў раньнім Новым часе (сярэдзіна XVII – пачатак XVIII ст.). Адразу адзначым – створаны народнай культурай вобраз швэда быў адмоўны. Шматлікія легенды апавядаюць пра «бязбожнасьць» швэдзкіх жаўнераў-«недаверкаў». Зьяўленьне гэтых легендаў – вынік як аб'ектыўных, гэтак і суб'ектыўных прычынаў.

Па-першае, адзначым надзвычай складаную канфэсійную структуру беларускага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Культуратворчы этнас ВКЛ – ліцьвіны-беларусы – быў падзелены ў той час на шэраг хрысьціянскіх веравызнаньняў. Паводле падлікаў дасьледнікаў у XVIII ст. пераважная бальшыня беларусаў (каля 75%) вызнавала ўніяцкую веру, каля 18% – рыма-каталіцтва, 6,5 – праваслаўе, 1–1,6% – пратэстанцтва [Turonak 1995:78]. Апрача беларусаў у местах жыхарылі жыды (да 20% агульнага насельніцтва), літоўскія татары (мусульмане), летувісы, палякі, немцы (каталікі й пратэстанты). Пры канцы XVII ст. на тэрыторыі Беларусі зьяўляецца папуляцыя расейцаў-стараабрадцаў, якія шукалі ў ВКЛ паратунку ад перасьледу ў Расеі. З-за стракатасьці этнічнага складу насельніцтва Рэч Паспалітую ў Эўропе называлі *«новым Бабілёнам»* (Poloniae bene nova Babiloniae).

Апісаная канфэсійная структура беларускага насельніцтва азначае, што для пераважнай бальшыні нашых продкаў як швэдзкія, гэтак і расейскія войскі былі «чужынскія» з гледзішча веры. Зыходзячы з гэтага, прынамсі, дзіўна выглядае меркаваньне некаторых сучасных беларускіх гісторыкаў, нібыта ў часе Вялікай Паўночнай вайны *«бальшыня беларусаў, у асноўным праваслаўных* (?!), *прыхільна* (?!) *сустрэлі расейскае войска і дапамагалі яму чым маглі – ад прадуктаў харчаваньня да сумесных* (?!) *ваенных дзеяньняў»* [GB 1998-1:213]. Зь іншага боку, для жаўнераў Карла XII (у асноўным лютэранаў) і жаўнераў Пятра I (у асноўным праваслаўных, а таксама мусульманаў, будыстаў) уніяцкія цэрквы й каталіцкія касьцёлы, да якіх належалі 93% ліцьвінаў-беларусаў, былі сьвятынямі іншай, «чужой» веры. Як ужо гаварылася, швэдзкі бок меў кантакты з пратэстантамі ВКЛ, расейскі бок празь сьвятароў – з праваслаўным насельніцтвам. Але гэта не перашкаджала швэдзкім ды расейскім жаўнерам рабаваць касьцёлы й цэрквы. Не паталаніла таксама й праваслаўным цэрквам. Напрыклад, у Магілёве іх сьпярша абрабавалі швэды, а потым дашчэнту зруйнавалі расейцы. У 1714 г. беларускае праваслаўнае сьвятарства (архімандрыт Слуцкі Язэп Лапіцкі, прэсьвітар Тураўскі Лявон Салавевіч ды іншыя) жалілася канцлеру ВКЛ Каралю Радзівілу на вялікія кантрыбуцыі падчас Паўночнай вайны, якія зьбіралі як свае, ліцьвіны (Lituanis), так і браты па веры расейцы (Moschis), а таксама швэды (Suecis) [AS 1870-7:172–173]. Шмат шкоды нарабілі жаўнеры-дэзэрціры. Расейскі жаўнер элітнага Праабражэнскага палка Ягор Лявонцьеў (Егор Леонтьев), які ўцёк у 1706 годзе з палка ў Полацку, па дарозе *«покрал католицкий костел в местечке Бешанковичи»* [PIBPV 1948-8-1:222].

Пра тое, што ў часе Вялікай Паўночнай вайны беларускае насельніцтва апынулася паміж *«молатам і кавадлам»,* трапна сьведчыць народная прыказка: *«Стуль маскалі, а сьсюль швяды, дзе пазбыцца з такой бяды».* Пункт погляду адукаванай часткі ліцьвінскага грамадзтва на гэтую праблему выклаў 9 лістапада 1708 г. віцебскі лоўчы Міхал Біруля ды ягоная жонка Настасься ў заяве да Віцебскага гродзкага суду: *«Калі ў 1708 годзе найясьнейшы кароль ягамосьць швэдзкі шоў з войскам праз Літву, вялікія рабункі чыніў абывацелям ВКЛ, нават не спыняючыся перад Сьвятынямі Божымі. Калі генэрал швэдзкі Каніфэр* (Gabriel Kanifer) *вышаў з Магілёва праз Віцебск, таксама разнастайныя кантрыбуцыі зь места на войска швэдзкае гвалтоўна ўзяў. Але потым з усходняга боку на Віцебск расейцы, нейкія капітан Салаўёў ды маёр Шышкін з 5 сотнямі казакоў ды калмыкаў. 28 верасьня 1708 г. ранкам расейцы загадалі месьцічам пакінуць горад, даўшы толькі дзьве гадзіны на зборы. Потым запалілі места разам з цэрквамі й касьцёламі. Віцебск абрабавалі, ня толькі маёмасьць усялякую пахапаўшы, але да цела жыхароў распранаўшы бяз жаднае літасьці.*

*Сьвятыні Божыя Рымскія й Грэцкія, кляштары й манастыры, палацы й двары панскія абрабавалі й папалілі дашчэнту. Рэчы царкоўныя й мескія пабралі ўсе, рэшту спалілі. Люд паспаліты ледзь да лесу пасьпеў уцячы»* [IUM 1888-18 №21:190–194].

Цікава, што, калі ў тагачасных пісьмовых памятках зь іншых паветаў ВКЛ найперш апісваюцца злачынствы расейскага войска, у фальклёры беларусаў Магілёўшчыны й Віцебшчыны захаваўся толькі «швэдзкі» сюжэт. Чаму?

Каб адказаць на гэтае складанае пытаньне, недастаткова прыгадаць цэнзуру, якая панавала ў Расейскай імпэрыі й, натуральна, забараняла публікаваць творы антырасейскай скіраванасьці. Гэты фактар, на маю думку, ня быў вырашальным. Нагадаю, што пануючыя ў ВКЛ каталіцкая і ўніяцкая (грэка-каталіцкая) цэрквы сустракалі першы й другі прыход швэдаў (1655–1657, 1702–1708) зь вялікай асьцярогай. Толькі коштам вялізарных высілкаў каталіцкае сьвятарства (абодвух абрадаў) дасягнула ў другой палове XVII ст. канчатковага кантролю над палітычнай элітай ВКЛ. Ліцьвінаў-«схізматыкаў» альбо «дызунітаў» (праваслаўных і пратэстантаў) тады пачыналі ўважаць варожым элемэнтам. Таму каталіцкая прапаганда абодвух абрадаў заўсёды мела моцны антышвэдзкі характар [Libiszowska 1957]. Акурат яна, выкарыстоўваючы фальклёрныя архетыпы, стварала адмоўны імідж «швэдаў-бязбожнікаў». Другі наход швэдаў у пачатку XVIII ст. успрымаўся каталіцкім і ўніяцкім клірам як пагроза існаваньню каталіцкага касьцёлу. Нягледзячы на посьпехі Контрарэфармацыі, на пачатку XVIII ст. у ВКЛ яшчэ існавалі 46 пратэстанцкіх парафіяў. Увесну 1708 г. у швэдзкім лягеры ў Радашкавічах з каталіцтва да лютэранства перайшло колькі шляхціцаў [Chodzka 1870:125]. Гэта азначала, што ў выпадку перамогі швэдаў ВКЛ маглі зноў ачоліць пратэстанты. Пагроза павароту да Рэфармацыі пры дапамозе палітычных захадаў сталася асноўнаю прычынай каталіцкай антышвэдзкай прапаганды, якая хутка набыла папулярнасьць.

Праўдападобна, посьпеху гэткай прапаганды паспрыяла насьцярожанасьць беларускага простага люду да чужынцаў *«іншай веры»*. Прыгадаем наступныя прыказкі: *«Над туркі й татары няма горшай веры»* [Federowski 1935-4 №8324]; *«Няма на сьвеце горшай веры над злы туркі й татары»* [Liatskii 1898:26]. Адначасна ў дачыненьні да «сваіх», беларускіх, татараў бытавала зусім іншая прыказка: *«Татары – добрыя гаспадары»*.

У былым Ваўкавыскім павеце была занатаваная прыказка: *«А стуль туркі, а сьсюль швэды, недзе дзецца зь вялікай бяды»*. Як бачым, знак роўнасьці паміж туркамі й швэдамі (памылкова з гледзішча сапраўднай гісторыі) адпавядаў народнай лёгіцы. Гэтыя ўяўленьні падсілкоўвалі дзеяньні швэдзкіх аддзелаў за часоў Малой і Вялікай Паўночных войнаў. Вядома, што ў 1655–1656 гг., калі швэдзкія аддзелы акупавалі Браслаўскі павет і Берасьце, яны наклалі вялікія кантрыбуцыі перадусім на каталіцкія і ўніяцкія кляштары й касьцёлы [Tkachou 1994:198]. У 1848 годзе наваградзкі ксёндз Міхал Гамаліцкі перадаў гісторыку Яўстаху Тышкевічу швэдзкі ўнівэрсал 1706 г. Загад, пісаны на лаціне, абавязваў усе каталіцкія парафіі Наваградзкага ваяводзтва прывезьці ў Жалудок, дзе месьціўся галоўны швэдзкі лягер, *«правіянт і кантрыбуцыю грашыма» («proviantum et peccuniam»)*. Выдаў загад у сакавіку 1706 г. швэдзкі кашталян Наваградку Аксэль Спэнс (Axel Spens, 1681–1745), абэрлейтэнант Упляндзкага зьвязу вершнікаў (Upplands kavalleri) [Tyszkiewicz 1846-1:241].

Пра характар швэдзкіх кантрыбуцыяў з уніяцкай царквы сьведчыць сьвяточная рыза грэка-каталіцкага мітрапаліта Юр'я Вініцкага (пачатак XVIII ст.), якая захоўваецца сёньня ў зборах музэю Каралеўскага палацу Стакгольму (Kungliga Slottet). Цікавыя зьвесткі пра швэдзкае стаўленьне да каталіцкага касьцёлу ВКЛ пакінуў у сваім дзёньніку беспасярэдні ўдзельнік падзеяў, сябра Трыбуналу Менскага ваяводзтва, беларускі шляхціц-пратэстант Аляксандар Мацкевіч. Згодна зь ягонымі нататкамі падчас побыту швэдаў у Вільні, *«адзін капітан швэдзкі аднойчы запатрабаваў у віленскіх езуітаў кантрыбуцыі сенам. Айцец рэктар запытаў, ці мае капітан паперы ад палкоўніка Карла Дзюкера (Carl Gustaf Düker, 1663–1732), швэдзкага кашталяна Вільні. У адказ швэдзкі капітан закрычаў: „Ах ты, сабака, рашыў афіцэра экзаменаваць! Я табе на паперы павінен загады прыносіць...“ Спужаўшыся, езуіты адразу пабеглі да Карла Дзюкера. Адзначым, што паміж швэдамі таксама людзі добрыя былі. Дзюкер з павагаю нашых прыняў і загадаў аднаму з афіцэраў капітана таго супакоіць... Але праз колькі дзён загадалі швэды Віленскай акадэміі даць на войска 5 000 злотых... Дарэмна мніхі хадзілі да лягеру караля швэдзкага, просячы літасьці. Дэлегацыю нават не дапусьцілі да караля»* [Tyszkiewicz 1846-1:238]. Цікава, што ў благім стаўленьні да касьцёлу Мацкевіч вінавуціў ня толькі швэдаў, але й каталіцкую частку ліцьвінскай шляхты зь ліку хаўрусьнікаў Карла XII: «*Ведаем добра пра эксцэсы швэдзкія ня толькі ў Кароне (Польскай.* – Аўт.*), але і ў ВКЛ: як сакрамэнты нішчылі, абразы сьвятыя тапталі, з касьцёлаў аздобу зьдзіралі. Але што вінаваць толькі швэдаў?! Тыя самыя нашыя каталікі былі ўдзельнікамі ўсіх падзеяў, праўду людзі кажуць, што разам з швэдамі ў лягеры срэбра касьцельнае дзялілі»* [Тамсама].

Калі абвінавачаньні швэдаў у жорсткіх кантрыбуцыях касьцёлаў і цэркваў адпавядаюць рэчаіснасьці, дык іншыя абвінавачаньні ёсьць хутчэй вынікам каталіцкай прапаганды ды цёмных забабонаў: быццам швэды *«стралялі ў сьвятыя абразы»*, *«хадзілі з сабакамі па цэрквах»*, *«пілі з касьцельных келіхаў»*, *«ставілі коні ў храмах»* і г.д. З аднаго боку, байкі пра такія паводзіны швэдаў былі вельмі характэрныя для антышвэдзкай прапаганды, а потым замацаваліся ў фальклёры (ці наадварот? – Аўт.). Зь іншага боку, сьведчаньняў гэтага кшталту няма ў верагодных гістарычных крыніцах.

Антышвэдзкая прапаганда актыўна выкарыстоўвала згаданыя сюжэты. Да прыкладу, прыгадаем антышвэдзкую прапаганду расейцаў на Ўкраіне. Канцылярыя Пятра І сьвядома прадукавала міты што да беларускіх падзеяў. Нібыта Карл XII змушаў праваслаўныя цэрквы ВКЛ перайсьці ў лютэранства альбо ўніяцтва (?!): *«Король шведский [...] от веры православной и церквей христианских отлучить [хотел], обращая оные в кирхи свои лютеранские и униатские* (?!), *– как он [...] в Великом Княжестве Литовском чинил и церкви православные грабить и осквернять допущал»* [PIBPV 1948-8-1: №2816]. Згодна з расейскімі крыніцамі, швэды ў Магілёве *«во время службы Божией с собаками ходили [...] в церкви соборной Могилевской святейший сакрамент тела Христова на землю выброся и оный потир похитя, вино из оного пили [...] в одной церкви лошадей поставили...»* [PIBPV 1948-8-1: №2816, 2771].

Падкрэсьлім, што гэткія сьведчаньні адсутнічаюць у Хроніцы Магілёва ды іншых беларускіх крыніцах, якія наагул цяжка абвінаваціць у сымпатыі да швэдаў. Такім чынам, расейцы ў сваёй прапагандзе выкарыстоўвалі папулярныя ў народным хрысьціянстве забабоны. Красьці царкоўны посуд, піць віно з касьцельнага келіха, заходзіць у храм з сабакам альбо заяжджаць на кані – усё гэта адпавядала пашыраным у тагачаснай эўрапейскай народнай культуры стэрэатыпам «блюзьнерства». Зьвесткі пра такія паводзіны чужынцаў сустракаюцца ў фальклёры шэрагу народаў, хоць пік іх пашырэньня прыпадае на часы вялікіх войнаў XVII–XVIII стст.

Адной з распаўсюджаных тэмаў у царкоўных легендах беларусаў ёсьць разбурэньне швэдамі каталіцкіх храмаў. Адзначым, што бальшыня падобных зьвестак, частка якіх пасьпяхова перайшла з фальклёру да навуковай літаратуры, не адпавядае сапраўднасьці. Да прыкладу, «Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі » ў артыкуле пра гісторыю Бярозы-Картускай сьцьвярджае, што *«ў часе Паўночнай вайны 1700–1721 гг. швэдзкія войскі разбурылі горад, разрабавалі кляштар»* [1997-4:170]. Насамрэч ані места, ані кляштар швэды не разбуралі, ды зрэшты й не маглі гэта зрабіць, бо Бяроза Картуская належала адданым хаўрусьнікам швэдаў Сапегам. Гэтая тэза цалкам адпавядае швэдзкім крыніцам: *«18 красавіка 1706 г. войскі Ягамосьці Караля прыйшлі ў Бярозу Картускую, якая ёсьць найзаможнейшым маёнткам сям'і Сапегаў. Тут яго Каралеўская Вялікасьць наведаў славуты картэзіянскі кляштар і адпачыў адзін дзень»* [Adlerfeldt 1740–2:222]. Насамрэч цяпер няісны кляштар, выгляд якога захавала адна з гравюраў Напалеона Орды, быў зачынены расейскімі ўладамі й разбураны жаўнерамі ў 1866 годзе [Jarashevich 1997:171].

Зь легенды вынікае, што швэды разбурылі ўніяцкую царкву ў мястэчку Дрысьвяты. Зноў *«народнае паданьне прыпісала швэдам чужыя грахі»*, бо згодна зь інвэнтаром Браслаўскага павету (1783) царква захоўвалася ў добрым стане [Tserashchatava, Jarashevich 1994:89–92]. Супярэчыць фактам легенда пра тое, што швэды разбурылі ў Горадні ў 1706 годзе Калоскую ўніяцкую царкву, францішканскі касьцёл у Пінску ды іншыя храмы. Ува ўсіх выпадках народная фантазія будавала собскую рэчаіснасьць, якая часьцей за ўсё не адпавядала фактам. Напрыклад, жыхары вёскі Камаі (Пастаўскі павет) наступным чынам тлумачылі паходжаньне гарматных ядраў у мурох касьцёлу: маўляў, гэта ядры швэдзкіх гарматаў, якія ў часе войнаў білі па касьцёле [Jarashevich







*56. Кляштар картэзіянаў у Бярозе-Картускай. Гравюра Напалеона Орды.*

1997-4:39]. Насамрэч гарматныя ядры ў муры Камайскага касьцёлу ўмуравалі пасьля Малой Паўночнай вайны на загад уладальніка вёскі Пятра Рудаміны-Дусяцкага [Tkachev 1987:213]. Сюжэты пра зруйнаваньне швэдамі храмаў былі нагэтульк папулярныя ў фальклёры, што лучылі і ў беларускую літаратуру. Гэткую фабулу мае й «швэдзкі твор» Каруся Каганца *«Вітаўка»* (1902).

З швэдамі зьвязана заснаваньне ў 1719 г. Сураскага Дабравешчанскага манастыра (сёньня Заходняя Браншчына, Расея). Ён пабудаваны праваслаўным шляхціцам Апанасам Есімантоўскім як знак удзячнасьці *«за ўратаваньне ад швэдаў у Нясьвіжы, у 1706 годзе»*. Гэты факт сапраўды меў месца [Chernigovskaya Letopis:92].

Згодна зь іншай легендай, з прыходам швэдаў у 1708 годзе *«заміраточыў»* абраз, які належаў старадубскаму месьцічу Цімоху Дульскаму, які даў слова пабудаваць для гэтага абразу царкву. «Швэдзкая» ікона Божай Маці дагэтуль захоўваецца ў царкве Міколы Цудатворцы ў вёсцы Балыкіна (сёньня Заходняя Браншчына, Расея).

Найпапулярнейшым сюжэтам беларускіх царкоўных легендаў пра швэдаў ёсьць пальба швэдзкіх жаўнераў па абразах. Дарма што сюжэту бракуе рацыянальнага тлумачэньня, ён зрабіўся вельмі вядомым у беларускім фальклёры. Прычынаў шмат. Па-першае, вядома, што лютэ-

ранства адкідае культ абразоў як стодапаклонства. Па-другое, сюжэт пальбы «чужынцаў» па абразох наагул уласьцівы для беларускага, расейскага ды ўкраінскага фальклёру. Да пашырэньня плётак спрычыніліся, відаць, і сьвятары. У 1872 годзе ў Валожыне занатаванае паданьне, нібыта ў 1709 г., калі *«швэды па дарозе назад* (?!) *праходзілі праз Валожын [...] яны ўварваліся ў царкву [...] і паставілі ў ёй коні. Некаторыя з швэдзкіх жаўнераў пачалі былі страляць у абраз Сьвятой Параскевы [...] і за тое [...] асьлеплі. Усьлед за швэдамі прыйшоў аддзел расейцаў, а зь ім іх сам расейскі цар Пётар Вялікі. Ён асабіста агледзеў пабітую непрыяцелем царкву»* [LIP №313]. Згодна з паданьнем, запісаным у 1879 годзе ў м. Клецак, «*швэды ў часе вайны з расейцамі занялі Клецак і падчас побыту ў месьце трымалі свае коні ў Пакроўскай царкве. За гэта яны былі пакараныя Богам. Не змаглі вывесьці коні з царквы ды выйсьці самі і ўсе загінулі ад расейскага войска»* [ОСМЕ 1879–3:129–131].

Узгаданая апазыцыя «пальба ў абраз – сьлепата» мае вельмі старыя карані ў фальклёры беларусаў ды іншых славянскіх народаў. Раней замест швэдаў у гэткіх легендах фігуравалі татары, туркі ды іншыя чужынцы. Сярод беларусаў і ўкраінцаў Падляшша ў свой час моцна шанаваўся цудатворны абраз Холмскай Божай Маці (сёньня м. Хелм, Польшча). Як падае легенда, у 1261 годзе ў часе мангольскай навалы хана Бурундая татары стралялі ў абраз. Ад гэтага яны ўсе нібыта асьлеплі, а места захавала свабоду. За доказ цуду сьвятары дагэтуль паказваюць сьляды ад стрэлаў на правай руцэ Божай Маці. Паводле расейскай легенды праціўнікі Ноўгараду суздальцы асьлеплі ў 1169 годзе, калі стралялі ў абароньніцу места, брамную ікону Божай Маці. Дарма што швэдзкі генэрал Якуб Дэ ла Гарды (Jakob De la Gardie, 1583–1652) у часе швэдзкай акупацыі Ноўгарадзкай зямлі дапамагаў праваслаўным парафіям [Tolstikov 2002], у легендзе пра Ціхвінскую Божую Маці ён выступае як галоўны вораг праваслаўя. Швэды, стрэліўшы ў Ціхвінскі абраз, сьлепнуць і даюць лататы.

Ува ўкраінскай легендзе абраз Богаяўленскай царквы Нежына абараніў у 1709 годзе места ад швэдаў. Ікона атрымала народны назоў *«Швэдзкі Мікола»* й дужа шанавалася ўкраінцамі й беларусамі Севершчыны. Згодна з пазьнейшым надпісам на іконе *«свеи* (швэды. – Аўт.) *дерзнуша ударить по иконе копьями* (?!)*, внезапно вси слепотою поражены быша»*. Там жа ў царкве наведнікам паказвалі вялізную *«швэдзкую бомбу»* [Berezhkov 1909:12].





У XIX ст. гэты самы сюжэт быў адаптаваны для новых чужынцаў. Гаворка йдзе пра французаў, якія ў 1812 г. двойчы прайшлі па Беларусі. Як бачна зь легенды, занатаванай у Марынай Горцы, *«калі францускія жаўнеры прыйшлі ў мястэчка, яны стралялі ў абраз Божай Маці, за што па волі Бога ўсе асьлеплі»* [Vitsbich 1956:81].

Дзякуючы гэткім сюжэтам у народнай культуры мацавалася апазыцыя «свае–чужыя». Свойскі, тутэйшы абраз бараніў ад чужых і адначасова лячыў сваіх. Абраз, які цудоўна выратаваў калісьці ад ворага, рабіўся цудадзейным, а парафія-ўладальніца гэтага абразу – заможнай. Акурат таму легенды пра цудатворныя *«татарскія, швэдзкія, францускія»* абразы набывалі папулярнасьць. Рабілася гэта, відаць, не без удзелу мясцовых сьвятароў. Хто быў ініцыятарам стварэньня новай легенды – народ альбо сьвятар, – сказаць цяжка.

Трохі апрычона выглядае запісаная пры канцы XIX ст. легенда *«Пра царкву ў вёсцы Валокі»* (Барысаўскі павет). Згодна з казачнікам Данілам Тубыльцам, калі *«швэды ці нейкія туркі прыйшлі да вёскі, увесь народ схаваўся ў царкве. Калі швэды рынуліся ў царкву, то ўбачылі, што ўвесь люд зь сьлязьмі на вачох на каленях моліцца. Тады князь швэдзкі ды іншыя недаверкі пачалі страляць у абраз, але нейкая нябачная сіла адкінула паганцаў назад ды раскідала ля царквы. Тыя ж зь іх, хто страляў у абраз, асьлеплі. А сам князь швэдзкі тут ля самой царквы перакульнуўся ў камень, які дагэтуль завецца „Князь-камень“, альбо Швэдзкі князь“»* [Shein 1893 №232]. Зноў мы сустракаем народнае атаесамленьне «швэдаў» зь іншымі чужынцамі – «туркамі». Апрача гэтага, на традыцыйны фальклёрны сюжэт накладаецца іншы, ня менш традыцыйны. Як вядома, абяртаньне ў камень за нейкія грахі (працу ў Вялікдзень) ёсьць вельмі пашыранай у беларусаў легендай (Mialeshka 1929). Цікава, што вялізарны «Князь-камень», альбо «Швэдзкі князь», захаваўся дагэтуль і зьяўляецца сёньня нацыянальным помнікам прыроды Рэспублікі Беларусі [Lyaukou 1992:142–143].

На тле адмоўнага вобразу швэдаў у царкоўных легендах беларусаў унікальнай выглядае магілёўская легенда *«Конь караля швэдзкага»*, згодна зь якой Карл XII быў абароньнікам праваслаўнага культу абразоў.

Адным словам, беларускія царкоўныя легенды пра швэдаў кідаюць больш сьвятла на асаблівасьці нашага фальклёру, чымся на рэальную постаць «швэда».

## 3.3. Швэдзкія скарбы й курганы

Над берагам павольнай Лані,
стагодні сон снуе стары курган…
Там прэюць косьці сьмелых Швэдаў,
а побач іх ляжыць Маскаль.
СЬВЯТАСЛАЎ КОЎШ

У дасавецкі час Беларусь займала адно зь першых месцаў ува Ўсходняй Эўропе па колькасьці курганоў. Толькі ў 1876 годзе ў Менскай губэрні згодна зь зьвесткамі статыстычнай управы налічвалася каля 1 000 гарадзішчаў і 30 000 курганоў [Minskiye Gubernskiye Vedomosti 1876:51–52]!

Беларусы называлі й называюць гэтыя курганы «швэдзкія», «французкія», «паганскія», «казацкія», «татарскія» альбо «валатоўкі» [Sergeeva 1988].

Чаму шмат курганоў завуцца «швэдзкімі»? Адкуль такая папулярнасьць? Адказ на гэтыя пытаньні ня просты.

З аднаго боку, назоў «швэдзкія» паказвае на беспасярэднюю сувязь з падзеямі Вялікай Паўночнай вайны. Зь іншага боку, сучасная беларуская археалёгія давяла, што ўсе «швэдзкія» курганы насамрэч ёсьць славянскімі й балцкімі пахаваньнямі часоў сярэднявечча. Паўстае пытаньне, чаму тады магілы сваіх далёкіх продкаў беларусы назвалі «швэдзкія»?

Першы, хто паспрабаваў вырашыць гэтую складаную праблему, быў гісторык і этноляг Яўстах Тышкевіч: *«Бальшыню курганоў тутэйшыя сяляне завуць „швэдзкімі“, як і амаль усе старыя акопы нашага краю. Справа ў тым, што з пачаткам апошняй інвазіі швэдзкай люд просты пахаваўся па лясох і ня бачыў, што швэды ды расейцы выраблялі. Па вайне, вярнуўшыся дахаты, убачылі шмат сьвежых могілак ды акопаў. Пачалі плесьці пра іх байкі, ды нарэшце самі далі ім веры»* [Tyszkiewicz 1842:2]. Сапраўды, у часе Вялікай Паўночнай вайны сяляне хаваліся ў лясох. Да прыкладу, на пачатку XIX ст. на Палесьсі пасьля вялікай сушы паляўнічыя натрапілі на невядомую выспу сярод дрыгвы. На ёй былі рэшткі зямлянак, вялікі звон, які ўрос у дрэва. Тутэйшыя палешукі патлумачылі, што 100 гадоў таму, у часе





*«швэдзкай вайны тутака хаваліся іхныя дзяды. Неспадзеўкі пайшлі дажджы, людзі ўцяклі, пакінуўшы шмат маёмасьці»* [Kotliarchuk 1999:189–190].

Пры гэтым яшчэ ў XIX ст. існавалі сапраўдныя швэдзкія курганы. Як сьведчыў Я.Тышкевіч, *«што да сапраўдных швэдзкіх курганоў, дык я разрыў колькі ў мясцох былых бітваў»* [Tyszkiewicz 1842:2].

Цікава іншае. Чаму ў Беларусі безьліч «швэдзкіх» курганоў, але зусім нямашака курганоў «рускіх»? Рэч у тым, што «русінамі», «людзьмі рускай веры» лічылі сябе самі беларусы (ды ўкраінцы) праваслаўнай і ўніяцкай веры. Расейцаў («русских») просты люд да пачатку XX ст. зазвычай зваў «маскалямі». Няма дзіва, што нават вялізны брацкі курган на месцы Палтаўскай бітвы, у якім расейцы пахавалі сваіх жаўнераў, тамтэйшыя ўкраінскія сяляне клічуць «Швэдзкая гара». Гэта нягледзячы на надпіс на расейскай мове.

Варта падкрэсьліць, што з кожным «швэдзкім» курганом альбо групай такіх курганоў у беларусаў часта зьвязана асобнае паданьне. Так, у 1878 годзе сяляне в. Даросын (Слуцкі павет) апавядалі, *«што на швэдзкім кургане „Княжа магіла“ да апошняга часу стаяла старое дрэва, на якім былі замацаваны драўляная стрэльба й драўляная шабля. Гэта знак таго, што тут быў пахаваны „швэдзкі князь“, што загінуў у часе вайны з маскалямі»* [ОСМЕ:1879-III:98]. Каля в. Сакі (Падляшша) ёсьць «швэдзкі» курган. Людзі гукалі, што тут быў *«забіты й пахаваны швэдзкі палкоўнік, а зь ім залаты пас, меч і грошы»* [LIP: 320].

Увосень 1708 г. войска Карла XII прайшло празь Імглінскі павет (сёньня заходняя Браншчына). Адгэтуль шэраг курганоў пачалі называць «швэдзкімі». Беларускі этноляг Марыя Косіч лічыць, што ля вёскі Расуха існавалі акопы пад назовам «Гарадок». На пытаньне, скуль яны паходзяць, сяляне адказвалі: *«Ета швэд шоў, тут ваявалі яны»*. Тутэйшыя ліцьвіны-беларусы верылі, што *«на Гарадку швэды схавалі безьліч скарбаў»* [Kosich 1902:4].

Гісторыі пра скарбы ў швэдзкіх курганох узьнікаюць ужо за часоў Вялікай Паўночнай вайны. Гэтаму спрыялі бясконцыя рэквізыцыі «на войска швэдзкае», якія жаўнеры Карла XII зьбіралі па ўсім ВКЛ. Кантрыбуцыі вялікім цяжарам накладаліся на месьцічаў, шляхту й сьвятароў. Да прыкладу, з «царкоўнага срэбра» Магілёва *«швэды білі ў табары манэту»* [КМ:274]. На швэдзкі загад кожны каталіцкі касьцёл і

кляштар мусіў даваць пэўную суму грошай на швэдзкае войска [Tyszkiewicz 1846-II:241]. Ужо адразу пасьля зыходу швэдаў зь Беларусі *«хеўры з тутэйшай шляхты й сялянаў бадзяліся па мясьцінах швэдзкіх сутычак, шукаючы каштоўнасьці й скарбы»* [KM: 276].

Няма дзіва, што пагалоскі пра нібыта вялізныя багацьці швэдаў ды схаваныя імі скарбы хутка пашырыліся сярод беларусаў. Бальшыня гэтых паданьняў паходзіць якраз з Магілёўшчыны – асноўнага тэатру вайсковых дзеяньняў у Беларусі. Згодна з паданьнем пасьля Лясной *«швэды скінулі ў Рудні сваю вайсковую зброю ў балота [...] а начальнікі швэдзкія кінуліся да ракі Сож ды закапалі там пад сасновым крыжам (!) кучу золата й срэбра...»* [LIP:311]. У 1872 годзе сяляне вёскі Старыя Юркавічы на Магілёўшчыне (сёньня Заходняя Браншчына) распавядалі настаўніку А.Піневічу, што ўва ўрочышчы Селішча іх продкі знаходзілі швэдзкія скарбы, якія швэды зарылі, калі атрымалі паразу ў бітве ля ракі Цата [LIP:545].

Забытае сёньня паданьне паходзіць зь вёскі Новы Сад (Койданаўшчына). Яно кажа пра схаваныя ад швэдаў (!) скарбы. На вясковым гарадзішчы яшчэ ў другой палове XIX ст. існавала вялізная яма – «калодзеж». Сяляне апавядалі, *«што калісьці ў тым калодзежы была вада, а сам ён быў каменны, накшталт цыстэрны. Але ў часы нашэсьця швэдаў пані, якая жыла тут у замку, не пажадала аддаваць багацьце швэдам. Усе свае скарбы яна паклала ў скрыню ды кінула іх у калодзеж. А за скрыняю й сама скакнула туды, каб ня здацца швэдам. Замак швэды разбурылі. Цэглу замкавую потым выкарысталі на аднаўленьне збору ў Койданаве»* [Vasileva 1879:18].

Паводле ўнівэрсальнай фальклёрнай мадэлі, усе швэдзкія скарбы лічыліся «заклятымі». Да «заклятых скарбаў», напрыклад, належалі скарбы швэдзкага пахаваньня ля вёскі Таракані (Кобрыншчына), на якім *«у Вялікую суботу ад зьмярканьня да поўначы штогод зьяўляліся агняныя языкі. Гэтыя языкі ўвесь час зьмяняюць свой колер і бываюць то белымі, то чырвонымі, то сінімі* [27]*. Гэта ёсьць ня што іншае, як закапаныя тут швэдамі грошы, якія перасушваюцца па закляцьці ў Вялікую суботу. Узяць грошы няцяжка: варта толькі, не шануючы памяці пахаваных тут людзей, разрыць могілкі ды раскідаць косьці»* [28] [LIP:735]. Беларусы лічылі, што «заклятыя скарбы» ніколі не прыносяць шчасьця. Бяда таму, хто трапіў на скарб на собскае зычэньне. Чакае яго горкая доля. Ня зможа ён перадаць набытую спадчыну нашчадкам і сам хутка згіне. Толькі зрэдку «заклятыя скарбы» самі хочуць аслабаніцца і дзеля таго шукаюць «выбарнага чалавека», які мусіць сасьніць прарочы сон [Nikiforovskii 1897 № 2305].

[27] Згодна з народнымі забабонамі белы колер азначаў схаванае срэбра, чырвоны – золата, сіні – каштоўныя камяні.









*57. Рэчы з пахаваньня швэдзкага жаўнера («швэдзкай магілы») часоў Вялікай Паўночнай вайны. XIX ст. Раскопкі Я.Тышкевіча ля Лагойску.*

Гэтае стаўленьне добра адлюстроўвае наступнае паданьне: *«Дзед карчаваў корча ды выкапаў гаршчок з золатам ды плача.*

*– Чаго ты, дзедку, плачаш?*

*– Я сьмерць сваю выкапаў»* [LIP:737].

Забабон гэты граў вялікую ролю ў народнай маралі, ахоўваючы старыя могілкі ад угнюшаньня. Але часам прага грошай была мацнейшая за забароны. Да прыкладу, чуткі пра «бочку золата», якую паводкам вывернула з-пад швэдзкага кургану, прывялі да пошукаў швэдзкіх

[28] Вялікая субота – конадзень Вялікадня.

скарбаў у вёсцы Расуха (Імглінскі павет). У 1856 годзе сяляне, узброіўшыся гострымі шыпамі, разрылі швэдзкі курган. Пан Гарасім Сілевіч мусіў даць дазвол, бо спыніць натоўп было немагчыма [Kosich 1902:4–6]. Згодна з паданьнем у часы Вялікай Паўночнай вайны ля вёскі Відзюны швэды схавалі свой вайсковы арсэнал. Паверыўшы гэтай легендзе, тутэйшы пан Котвіч у сярэдзіне XIX ст. пачаў сур'ёзныя раскопкі [29]. Хадзілі чуткі, што пан нават меў старасьвецкаю швэдзкую мапу. Але дарэмна, нічога не знайшоў [Ustsimenka 1997:43].

У 1858 годзе на загад мясцовага пана сяляне вёскі Дубавіцы (Магілёўшчына) разрылі адзін «швэдзкі» курган на месцы былой бітвы, але нічога не знайшлі [LIP:319]. «Швэдзкі» курган ля вёскі Кайкова (Меншчына) разрыў у 1862 годзе ўладальнік маёнтку Анаполь князь Радзівіл, але ці знайшоў нешта – невядома [Minskiye Gubernskiye Vedomosti 1879: 9]. У 1860 годзе «швэдзкі» курган ля вёскі Пятроўшчына (Меншчына) разрыў камандзір расейскага гусарскага палка, але ізноў невядома, ці пасьпяхова [Minskiye Gubernskiye Vedomosti 1879:5]. У 1865 годзе два «швэдзкія» курганы былі разрытыя лекарам Анацэвічам ля вёскі Каночыц (Меншчына). Зноў пра вынікі нічога невядома.

Зрэшты, зусім нядаўна, у 1998 годзе, побач з вёскай Расухай (радзіма пісьменьніцы й этноляга Марыі Косіч), у вёсцы Алёнаўка невядомыя разбурылі колькі «швэдзкіх» курганоў. Стыхійныя пошукі швэдзкіх скарбаў, якія пачаліся ў 1708 годзе, не перапыняюцца дагэтуль!

Вобраз шукальнікаў увайшоў у беларускую літаратуру. Ён вымаляваны ў апавяданьні Вацлава Ластоўскага «Вясковыя археолягі» (1924). Эліза Ажэшка ў рамане «Над Нёманам» (1887) вывела вобраз адукаванага шляхціца, студэнта-археоляга, які ўвесь час займаецца пошукамі швэдзкіх скарбаў.

Першыя пазытыўныя вынікі ў справе раскопак швэдзкіх курганоў зьявіліся тады, калі за яе ўзяліся прафэсіяналы. У 1842–1860 гг. Я.Тышкевіч і А.Кіркор разрылі каля 200 швэдзкіх курганоў на Лагойшчыне ды ля Галоўчына, дзе ў чэрвені 1708 г. паміж швэдамі й расейцамі адбыліся цяжкія баі. Было знойдзена шмат швэдзкай зброі, асабістыя рэчы (гузікі, сыгнэты, бляшкі, посуд). У адным з курганоў Я.Тышкевіч знайшоў швэдзкі лютэранскі крыж з надпісам, бляшку з швэдзкім гербам-«лявом» [Tyszkiewicz 1842:7, 53]. На жаль, да сёньня гэта адзіныя буйныя вынікі дасьледаваньня праўдзівых швэдзкіх пахаваньняў у Беларусі.

[29] З роду Котвічаў паходзіць выдатны польска-беларускі ўсходазнаўца Ўладзіслаў Котвіч (1872–1944), аўтар адной зь першых граматыкаў калмыцкай мовы.





Маштабнасьць вайсковай прысутнасьці Швэцыі ў Беларусі пацьвярджаюць шматлікія знаходкі манэтаў. У 1844 годзе ў Крэве на вуліцы Смургонскай знойдзены скарб, у складзе якога меліся 684 манэты, у тым ліку швэдзкія соліды каралеўны Крысьціны. Яшчэ такі скарб (62 швэдзкія манэты) быў знойдзены ў Ашмянах. У двaццатыя гады XX ст. на швэдзкіх могілках ля Чачэрску сяляне мэтанакіравана шукалі й знаходзілі «швэдзкія срэбныя грошы» [Ganzhyn 1927:60]. У 1958 годзе ў вёсцы Сьвірыдовічы знойдзены вялікі скарб з 1536 манэтаў, схаваны ў гліняным збане і абгорнуты грубым палатном. Сярод манэтаў частка паходзіць з швэдзкіх правінцыяў Усходняй Балтыкі часоў Густава II Адольфа й Крысьціны. Увесну 1970 г. ля вёскі Рамянкі (Ашмянскі павет) сяляне знайшлі скарб часоў Малой Паўночнай вайны 1655–1660 гг. Бальшыню скарбу складалі манэты Карла X, бітыя швэдамі ў вайсковым табары, магчыма, на абшарах Беларусі, на варштатах Кракаўскага манэтнага двара, які швэды захапілі ў 1655 годзе. Толькі ў 1974 годзе рэшткі скарбу (175 манэтаў) трапілі да навукоўцаў [Kolabava 1975:42–45]. У часе археалягічных раскопак гарадзішча вёскі Навасёлкі (Зэльвеншчына) у 1992 годзе знойдзены швэдзкія рыскія соліды Густава II Адольфа й Крысьціны – таксама важны паказьнік прысутнасьці швэдаў за часоў Вялікай Паўночнай вайны – ды швэдзкі эрэ, біты ў Швэцыі ў 1696 годзе.

Відаць, колькасьць знаходак была вялікая, бо ў XIX ст. сярод беларускай шляхты й сьвятарства швэдзкая манэта лічылася добрым падарункам пры адведзінах Балтыкі [AS 1912-14:135].

Папулярнасьць тэмы швэдзкіх скарбаў у беларускай вусна-паэтычнай творчасьці спарадзілі рэальныя падзеі Вялікай Паўночнай вайны. Але створаны народнай культурай вобраз гарманійна адпавядаў тагачаснаму беларускага сьветапогляду.

## 3.4. Карл XII у народнай культуры беларусаў

Зь дзедаў да ўнукаў,
З бацькоў на дзяцей
Ланцугом пляцецца,
Што было даўней.
ЯНКА КУПАЛА

Як вядома, у часе Вялікай Паўночнай вайны Карл XII наведаў шэраг гарадоў, мястэчак і вёсак Беларусі, сустракаўся з прадстаўнікамі беларускай шляхты, сьвятарамі, месьцічамі, звычайнымі сялянамі. Паступова ў народнай культуры беларусаў ствараўся вобраз магутнага ўладара, адлюстраваны ў шматлікіх паданьнях і легендах, а таксама тапаніміцы.

Між тым гэтая тэма дагэтуль была па-за ўвагай беларускіх дасьледнікаў. Нават акадэмічнае выданьне беларускага фальклёру не зьмяшчае ніводнага паданьня пра Карла XII, успамінаючы швэдзкага караля ўскосна, у сувязі з багата прадстаўленымі паданьнямі пра Пятра I [LIP: № 303–307, 312–313].

Тлумачыць гэткую нястачу трэба хіба ідэалягічнымі прычынамі, ціскам палітыкі на навуку за савецкіх часоў. Ведама, ня ўсе паданьні, іншыя помнікі народнай творчасьці пра Карла XII цалкам праўдзівыя. Але гісторык не павінен зь непавагай ставіцца да фальклёрных крыніцаў.

Абмяркоўваючы паданьні пра Карла XII, па-першае, адзначу адбітае ў іх уяўленьне пра каралеўскую ўладу як гаранту справядлівасьці, абароны ад крыўды й гвалту. Гэткія матывы добра адлюстраваныя ў творы *«Конік караля швэдзкага»* з унікальнага цыкла магілёўскіх легендаў:

*«Швэды, заняўшы Магілёў, манастыр Буйніцкі зруйнавалі, манахаў зрабавалі, разагналі, а царкву старадаўную Ўсьпеньня Багародзіцы разабралі, зь яе дошак парабіўшы кладкі па ямках.*

*Аднаго разу кароль швэдзкі, аглядаючы войска й фарпосты, ехаў цераз такую кладку. Раптам конь каралеўскі спыніўся, ня хочучы ехаць далей і надзьмухаючы храпы. Моцна зьдзівіўшыся, кароль загадаў перагарнуць гэтыя дошкі і пабачыў на першай выяву Збаўцы, а на другой – Багародзіцы. Гэтыя дошкі-абразы, ведама, былі з Буйніцкага манастыра. Загадаў тады кароль гэтыя абразы далікатна ў бок адкласьці, і адразу конік ягоны пайшоў па кладцы. Пабачыўшы гэта, кароль пастанавіў разабрацца, хто гэта ўчыніў, а даведаўшыся, хто гвалт зрабіў, даў загад двох вінаватых швэдзкіх жаўнераў за злы ўчынак горлам караці (павесіць), а абразы занесьці ў пусты манастыр»* [KM: 273].

Як бачна, швэдзкі кароль аднаўляе найвышшую справядлівасьць. Чужы кароль-лютэранін (які павінен адмаўляць культ абразоў) ратуе праваслаўныя сьвятыні й карае ўласных жаўнераў (!). Але такія паводзіны з гледзішча народнай культуры беларусаў не былі выключнымі для манарха. Прыгадаем, што вялікія князі літоўскія (каталікі за веравызнаньнем) былі найбуйнейшымі фундатарамі праваслаўных, а потым уніяцкіх цэркваў і манастыроў. Невыпадкова існавала прыказка: *«Лепш пакланіцца манарху, чым такому парху»* [Shein 1893-2:477]. Дык жэ ў вобразе швэдзкага караля ўвасобілася народнае стаўленьне да ўлады наагул.

Другое магілёўскае паданьне занатавала вобраз Карла XII «узору» лета 1708 г. З назіраньняў месьцічаў: *«Кароль швэдзкі быў малады, ня больш за 30 гадоў, ростам вельмі высокі, шчокі й твар папсаваны воспай, нос доўгі, у плячах моцны, твар таксама доўгі, косы пад нажніцы стрыжаныя. А ўсе месьцічы шмат разоў яго бачылі (!), ды ўсё ў адной вопратцы. Нагавіцы й камзол з ласінай шкуры, шапка гранатавая, сукно гафтанае толькі галуном. І на коніку ня вельмі францаватым езьдзіў»* [KM: 273].

Заўвага *«а ўсе месьцічы шмат разоў яго бачылі»* сьведчыць пра жаданьне гэтых месьцічаў далучыцца да Гісторыі. Безумоўна, працаўлівым магілёўцам імпанавала пазбаўленая снабізму пурытанская постаць караля. Сапраўды, як сьведчаць крыніцы, Карл XII быў просты ў побыце, жыў не ў палацах, а ў звычайным табары з жаўнерамі. У Беларусі каралю падабалася, *«пакуль ня быў нікому знаёмы, без усялякай варты з адным служкам гуляць па месьце».* Спыняючыся ў Радашкавічах, Ігумене (цяперашнім Чэрвіне) альбо Магілёве, кароль звычайна наведваў мясцовы рынак, размаўляў з простым людам, зрэдку нават купаўся ў акалічных азёрах. Напрыклад, у чэрвені 1708 г. у Ігумене Карл XII *«купаўся й ледзь не захлынуўся у мясцовым возеры [...] выратаваў*




*58. Карл XII. Мастак Г. Рэўтар (G. Reuter). Малюнак у швэдзкім народным стылі. 1746 г.*

*яго беларускі купец»* [Semenov 1905: 526]. Цікава, што падрабязнасьці гэтага здарэньня праз 140 гадоў (!) этнографу Паўлу Шпілеўскаму апавёў жыхар Ігумену, які сьцьвярджаў, што ён унук таго самага купца-збаўцы караля [Shpilevskii 1992:218].

Зацікаўленасьць беларускіх назіральнікаў выклікаў каралёў гумар. Да прыкладу, у Магілёве *«кароль швэдзкі часта прыяжджаў на рынак, даставаў з кішэні назіральную трубу, каб сачыць расейскія пазыцыі за Дняпром»*. Гэта былі татарскія й калмыцкія аддзелы войска Пятра I, жаўнеры якіх голыя з шаблямі пераплывалі раку й мардавалі швэдаў. Гаворачы з сваімі генэраламі, кароль сьмяяўся й паўтараў: *«Шэльмы! Татары маскоўскія»*. Камэнтуючы тэкст, беларускі храніст спачувальна заўважыў: *«Гэныя татары забівалі швэдаў, калі яны мурог касілі. І страх як цяжка было швэдам па сена езьдзіць, толькі з добра ўзброенай вартай езьдзілі»* [KM:273].

Увесну 1706 г., перасьледуючы расейскае войска, Карл XII захапіў Ляхавічы й Пінск. Але штогадавы разьліў палескіх рэкаў (Прыпяці, Гарыні, Сьцьвігі, Піны) не дазволіў яму ісьці далей. Паводле паданьня, кароль, пазіраючы зь вежы езуіцкага калегіюму на «палескае мора» й разумеючы марнасьць намераў прайсьці праз яго, з усьмешкай кінуў беларускаму сьвятару*: «Я знайшоў свае слупы Геркулесавы».* [Tyszkiewich 1846-2:248]. Відаць, кароль меў на ўвазе адзінаццаты вычын Геракла-Геркулеса: «Залатыя яблыкі Геспэрыдаў». А Геркулес мусіў узяць на карак нябесны звод (слупы) Атланта, але ня здолеў гэтага зрабіць.

Завышаная цана хлеба ў Магілёве абумовіла, паводле паданьня, наступны выпадак з жыцьця караля. Нейк, праяжджаючы ля ратушы, дзе







*59. Галава Карла XII. Левы бок. Фота 1917 г.*

звычайна прадавалі хлеб, кароль спытаўся праз перакладніка ў маладзіцы-прадальніцы: *«Колькі хочаш узяць за гэты бохан хлеба? Дзяўчына сказала цану. Тады кароль загадаў перакладніку зважыць бохан. Той дастаў вагі нямецкія, зважыў, выйшла на 9 грошай. Пачуўшы гэта, кароль зазначыў, што ніколі ў жыцьці яшчэ ня бачыў хлеба, які каштуе гэткія шалёныя грошы»* [KM:273].

Доўгі пастой у 1708 годзе ў Магілёве расейскага, а потым швэдзкага войска зьнішчыў мескі скарб. Паводле падрабязных падлікаў магістрату, кантрыбуцыі склалі агулам 100 тысячаў залатовак – фантастычныя грошы для тагачаснай Беларусі. У адчаі храніст назваў расейскага генэрала Аляксея Меншыкава *«заклятым чарвём, які точыць места»,* а Карла XII – *«люцыпарам».*

Беларускія назіральнікі адзначалі такія якасьці швэдзкага караля, як вялізную ўпартасьць і мэтанакіраванасьць. Зь сьведчаньня храніста ён гэтак сьцьвердзіў сябрам магілёўскага магістрату патрэбу кантрыбуцыяў: *«Паневаж маскалём давалі, трэба абысьце й мне далі».*

Падчас прыгатовы рэйду ў тыл расейскіх войскаў (у выніку чаго пад Галоўчынам быў разьбіты корпус Анікея Рапніна) у чэрвені 1708 г., Карл XII загадаў пабудаваць праз непраходныя балоты грэблю. Паводле згадак сялянаў, запісаных на пачатку XIX ст., грэблю хутка пабудавалі зь белага пяску швэдзкія жаўнеры. Яшчэ ў пачатку XX ст. гэтая дарога лічылася найлепшым шляхам зь мястэчка Ўхалоды ў Галоўчын. У знак павагі й прызнаньня мясцовыя жыхары назвалі дарогу *«Каралеўская грэбля»* [Shpilevskii 1992:189]. Таксама доўга служылі людзям пабудаваныя ў 1708 годзе на загад Карла XII масты цераз Сож ля Крычава.

Сярод беларускай шляхты хадзілі чуткі пра незвычайны вайсковы талент Карла XII. Напрыклад, лічылася дзівам, што ў сьнежні–лютым 1705–1706 гг., швэдзкае войска на чале з Карлам XII за два тыдні прайшло шлях з Варшавы да Горадні. Не зважаючы на моцны мароз і вялікі сьнег, швэды прайшлі па незнаёмай мясцовасьці 420 кілямэтраў за 14

дзён [Vozgrin 1986:151]. Шмат людзі дзейкалі аб выкарыстаньні Карлам XII незвычайных *«скураных мастоў»* – пантонаў. Кіруючы на Севершчыну (Імглін–Старадуб), Карл XII выдаў для беларускага люду ахоўны ўнівэрсал на старабеларускай мове. Гэта адзін з найпазьнейшых помнікаў нашай старой мовы, выціснутай з афіцыйнага ўжытку ў ВКЛ у 1696 годзе.

Неардынарная постаць швэдзкага караля пакінула неабыякавымі беларусаў і пасьля адыходу Карла XII зь Беларусі. Звесткі аб пагібелі караля ў далёкай Нарвэгіі набылі ў беларускім фальклёры чарадзейны працяг. Быццам насамрэч яшчэ да пачатку вайны «старцы» прадказалі, што малады кароль загіне. Дзякуючы сябру магілёўскага магістрату Трахіму Сурту, які занатаваў гэтае паданьне пад назвай *«З былічак народных»*, мы маем ягоны поўны тэкст:

*«Перад выхадам караля швэдзкага з сваёй краіны ў чужыя нацыі рыбакі пад Караляўцом Прускім лавілі рыбу. Закінулі невад у адным месцы – нічога, у другім – таксама анічагусенькі. Наапошку закінулі й раптам выцягнулі зь вялікімі высілкамі язя, дагэтуль ніколі нябачанага. Таўшчыні й даўжыні вялізнай, галава зь некалькімі ратамі, вельмі пачварны, з лускай невераготнага колеру, вочы як агонь палалі. Карацей, гэта быў монстар, які, калі невад выцягнулі, пачаў скрыгатаць зубамі й зноў мкнуцца ў ваду. Але рыбакі не спалохаліся, пачвару палкамі забілі. Затым, паклаўшы на сані, у Каралявец прывезьлі. Зьдзіўляўся народ такой нябачанай істоце. Але людзі вучоныя, бывалыя, прасьцей кажучы старцы, прадказалі, што выйдзе кароль моцны й жахлівы й возьме пад сваю ўладу розныя народы, але да сваёй сталіцы Штэкольму (Стакгольму) ня вернецца.*

*З таго язя зрабілі ў Караляўцы пудзіла, скуру зьняўшы і ватай набіўшы. Кажуць, яно дагэтуль у старой ратушы вісіць»* [KM:279]. Падкрэсьлім, што сюжэты пра лоўлю розных пачвараў у азёрах досыць распаўсюджаныя ў беларускім і польскім фальклёрах [Barszczewski 1990:95–108; Siemienski 1880:Dziwo na jeziorze Krakowskiem].

Памяць пра Карла XII занатаваная ў шэрагу беларускіх тапонімаў. Даліна паміж Магілёвам і Буйніцкім манастыром – Буйніцкае поле, месца швэдзкага табару ў 1708 годзе – вядомая як *«Карлава даліна»*. Цікава, што дагэтуль мікратапонім *«Карлава даліна»* захаваўся сярод тутэйшых жыхароў як назоў адной з частак Буйніцкага поля. Уласна поле было ў 1596 г. месцам бітвы паміж харугвамі ВКЛ і ўкраінскімі ка-







*60. Карл XII у саркафагу. Малюнак Г. Гальстром (G. Hallström). 1917 г.*

закамі Севярына Налівайкі, а ў 1941 г. месцам бітвы паміж савецкімі і нямецкімі войскамі. *«Карлавым акопам»* называлі сяляне рэшты абарончых збудаваньняў каля мястэчка Горкі. Вышэйпамянёны шлях зь мястэчка Ўхалоды ў Галоўчын меў назоў *«Каралеўская грэбля»*. Вялікі курган каля Чачэрску мае назоў *«Караліха»*, яшчэ ў 20-х гадох XX ст. сяляне знаходзілі там «швэдзкія срэбраныя грошы» [Ganzhyn 1927:60]. Пра адно з гарадзішчаў на Маладэчаншчыне хадзіла паданьне, што нібыта ў часе швэдзкай вайны, калі праходзілі войскі, яно было абрана Карлам XII для адпачынку. Пра курганы ля Смургоняў (месца доўгатэрміновага швэдзкага табару ў 1708 годзе) апавядалі, што тут Карл XII меркаваў даць генэральную бітву, але расейцы ўцяклі, і швэдам нічога не заставалася, як рушыць на Палтаву [Duchyts 1993:25–26].

На Брагіншчыне ёсьць вёска *«Карлаўка»*, назоў якой, магчыма, паходзіць ад асабістага імя швэдзкага караля. У вёсцы Дзям'янка на Добрушчыне занатаваная легенда, нібы ў старыцы ракі Іпуць загінула *«карэта Карла XII»* [Rohaleu 1992:100]. Цікава, што ўвосень 1708 г. швэды праходзілі праз гэты раён. Аналягічнае паданьне пра карэту Карла XII занатаваў у 1985 годзе ў вёсцы Глініца (Краснапольшчына) гісторык Ігар Марзалюк. З словаў Праскоўі Кузьмянковай (1904 г.н.): *«Карэта Карла загрузла ў балоце Благінь. Сьвеі цягалі, цягалі, выцягнуць ня здолелі. Так і засталася ў балоце, дагэтуль, дзеткі, шукаюць»*.

Да постаці Карла XII зьвярталіся беларускія пісьменьнікі XVIII–XIX стст. Гэта «Нарыс айчынных непрыемнасьцяў» Яна Аляшэўскага (Віцебск, 1721), паэма «Палтава» Нікадзіма Мусьніцкага (Полацак,

1803), верш «Дума а Каралю XII» Альгерда Абуховіча (ля 1863), п'еса «Люцынка, альбо Швэды на Літве» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1861).

Ведама, ня ўсе памяткі вусна-народнай творчасьці пра Карла XII праўдзівыя. Але для этноляга гэта не галоўнае. Цікавейшая не гісторыя факту (што адбывалася насамрэч), але гісторыя ўспрыманьня аб'екта. Гаворка ідзе пра этнічную імалёгію, прынцыпы якой абгрунтаваў А.Мыльнікаў [Mylnikov 1996:8–10; Mylnikov 1999:12–16]. Адзначым прысутнасьць асобы Карла XII ня толькі ў фальклёры беларусаў, але й шэрагу іншых эўрапейскіх народаў [Burke 1994:180].

Сюжэтныя тыпы народных успамінаў натуральна вынікаюць з архітэктонікі вуснай творчасьці беларусаў. Гэта матывы хрысьціянскіх легендаў, чарадзейныя казкі, пабытовыя гісторыі, тапанімічныя легенды. Існуюць такія згадкі і ў суседніх народаў. Напрыклад, у эстонскім фальклёры ёсьць паданьне, якое апісвае, як Карл XII садзіць дубы [30]. Аналягічныя паданьні пра Пятра I ёсьць у расейскім фальклёры. Але іх няма ў беларусаў. Чаму? Адказ просты, паводле беларускіх прымхаў: «*Садзіць дубы – благі ўчынак*». Гэта значыць істотна скарачаць сваё жыцьцё, бо дуб забірае моц чалавека [Barszczeuski 1990: 213].

Багаты сьлед у фальклёры пра караля-швэда тлумачыцца асаблівасьцямі беларускай культуры. Акурат адметнасьць чалавека, у нашым выпадку іншая этнічнасьць, выклікала сталую цікавасьць да яго ў народзе [Nikifirovskii 1897:282–283]. Да прыкладу, што да каранаваных асобаў у фальклёры беларусаў найвялікшы корпус тэкстаў захаваўся якраз аб манархах чужаземнага паходжаньня: каралеве Боне Сфорцы, Сьцяпану Батуру, Івану Жахлівым, Карлу XII, Пятру I, Кацярыне Вялікай [Kotliarchuk 2000: 375–380].

[30] Дзякую за гэтую інфармацыю сп. Уно Шульцу (унівэрсытэт Упсолы).





## 3.5. Прыказкі беларусаў пра швэдаў

Да не мінуць цябе прыпавесьці старых людзей,
Ані жэ наўчыліся суць у прэдкаў сваіх.
ФРАНЦІШАК СКАРЫНА, 1518

Прыказка ёсьць прыкладам алюзійнага тэксту (ад лацінскага *allusio* – згадка). У адрозьненьне ад наратыўнага (апавядальнага) тэксту, прыказка пры дапамозе мэтафары часта прыгадвае адрасату аб агульнавядомай падзеі. Вялікую ролю ў прыказцы выконвае эфэкт згадкі, асацыяцыя зь вядомай падзеяй. Народная культура беларусаў назапасіла пэўныя веды пра швэдаў, Малую й Вялікую Паўночную вайну, што й абумовіла пашырэньне сярод сялянаў і шляхты прыказак на гэткія тэмы ў XVIII–XIX стст.

Урбанізацыя й русыфікацыя, асабліва ў XX ст., моцна разбурылі традыцыйную культуру беларусаў. Прыказкі пра швэдаў перасталі быць зразумелымі й, як наступства, амаль што зьніклі з сучаснага моўнага ўжытку. Між тым яны ёсьць крыніцаю каштоўнае веды пра гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў з народнага гледзішча, цікавым адлюстраваньнем этнічнага стэрэатыпу пра швэда.

1. *Зьбіў мяне, як швэдаў Хадкевіч пад Кіргольмам.* Прыказка жыла ў асяродзьдзі беларускай шляхты як мэтафара нечаканага сутыкненьня зь іншым чалавекам. Як вядома, у 1605 годзе, падчас вайны Рэчы Паспалітай з Швэцыяй, Ян Кароль Хадкевіч з Быхава, беларускі магнат і тагачасны гетман ВКЛ, атрымаў бліскучую перамогу над швэдзкім войскам. Раніцай 27 верасьня 1605 г. Ян Хадкевіч, маючы 2 500 вершнікаў, 1 000 драбаў і толькі 7 гарматаў, перамог вялізнае швэдзкае войска (10 700 жаўнераў). Згодна зь літоўскімі крыніцамі швэды загубілі 6 000 жаўнераў, у той час як ліцьвіны страцілі толькі 100 чалавек.

Неспадзяваны трыюмф выклікаў фурор літоўскай шляхты. Амаль адразу паэты беларус Крыштап Завіша й швэд Лаўрэн Бойе склалі пра перамогу лацінамоўны панэгірык «Carolomachia...». Кнігу пра «прадказаньне перамогі пад Кіргольмам», прысьвечаную «Carolum Chod-

kiewicium comitem in Szklow et Bychow», надрукавала друкарня Віленскай акадэміі (Index Librorum Latinorum Lituaniae 1998:106).

Гэтая перамога зь цягам часу абрасла фантастычнымі драбніцамі. Дзейкалі, напрыклад, што насамрэч Хадкевіч моцна баяўся бітвы з швэдамі й длякаў з загадам пра наступ, прапануючы спачатку палічыць швэдаў. Але гусары падштурхнулі гетмана, адказаўшы: *«Атакуй, гетмане, палічым адразу, калі паб'ем»*. Кіргольмскую перамогу ў XVII–XIX стст. шляхта згадвала як сымбаль харобрасьці гістарычных ліцьвінаў. Нават на апошнім сойме Рэчы Паспалітай (Горадня, 1793) літоўская шляхта ўспамінала пра Кіргольм. Няма ўжо тае шляхты, але прыказка дзякуючы рупнасьці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які занатаваў яе ў камэдыі «Пінская шляхта», назаўсёды засталася ў беларускай мове.

2. *За дзедам швэдам.* Прыказка азначала падзеі сівой мінуўшчыны. З аднаго боку, гістарычная памяць беларусаў адносіла гісторыю дачыненьняў з Швэцыяй да сівой даўніны. Рэч у тым, што ад часу апошняга беспасярэдняга міжэтнічнага кантакту (пачатак XVIII ст.) да першых навуковых этнаграфічных дасьледаваньняў у краіне адбыўся шэраг эпахальных падзеяў. Нагадаем падзелы Рэчы Паспалітай і акупацыю Беларусі Расеяй (1772–1793), паўстаньне Тадэвуша Касьцюшкі (1794), паход Напалеона Банапарта (1812), паўстаньне 1830–1831 гг., скасаваньне прыгону (1861), антырасейскае паўстаньне ў Беларусі й Летуве пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага (1863–1864). Такім чынам, «швэдзкія падзеі» ў народнай памяці набылі адценьне старасьветчыны.

Зь іншага боку, цікава, што ў нашай прыказцы «швэд» ёсьць «дзедам» – продкам беларуса (!). Прыгадаем, што пасьля Вялікай Паўночнай вайны пэўная колькасьць швэдзкіх жаўнераў засталася ў Беларусі. У беларускім фальклёры ёсьць зьвесткі пра заснаваньне швэдзкімі жаўнерамі вёсак Швэды (Случчына), Іванічы (Ігуменшчына), Селішча (Гомельшчына). Згодна з занатоўкамі этнографаў жыхары гэтых вёсак *«лічылі сябе нашчадкамі (!) швэдаў»*. Хто ведае, магчыма, першыя запісы гэтай прыказкі былі зробленыя акурат у гэтых мясьцінах.

3. *Стуль маскалі, а сьсюль швяды, як пазбыцца такой бяды.* Гістарычная прыказка, якая дакладна адлюстроўвае настроі беларускага насельніцтва ў часе Вялікай Паўночнай вайны. Хутчэй за ўсё, прыказка ўзьнікла беспасярэдне ў часе Вялікай Паўночнай вайны, бо ўпершыню цытуецца ў 1721 годзе як «народная прыказка» гісторыкам зь Віцебску Янам Аляшэўскім у працы «Нарыс хатніх непрыемнасьцяў». Зь ідэалягічных прычынаў прыказка ніколі не друкавалася ані ў царскай Расеі, ані ў Радзкім Зьвязе (СССР). У 1936 годзе яна апублікаваная ў Польшчы ў чарговым томе фундамэнтальнай працы Міхала Федароўскага «Люд беларускі».





Як вядома, у выніку Вялікай Паўночнай вайны ад разбурэньняў, спрычыненых расейцамі й швэдамі, а таксама ад хваробаў і пошасьцяў насельніцтва Беларусі да 1710 г. скарацілася на 30–35%. Зіма 1708–1709 гг. з-за татальнай галечы й эпідэміяў атрымала ў народзе назоў «Рок лебяды». Эквівалент нашай прыказкі існуе ў суседзяў-латышоў. У пахавальных латыскіх галашэньнях гучыць такі акцэнт: *«Ідзі на той сьвет, дзе цябе ўжо ніколі ня будзе турбаваць ані расеец, ані немец»*.

4. *Як надышлі швяды, ня стала ў Дварчанскім возеры вады.* Прыказка падкрэсьлівае чараўніцтва швэдаў. Аналягічны сэнс мае легенда пра чараўніцтва швэдаў, якая бытавала на Навагрудчыне. Пазьней гэтую легенду апрацаваў Я. Чачот у балядзе «Навагрудзкі замак» (1819). Нагул тэма чараўніцтва – закляцьце-зьнікненьне вады – досыць папулярная ў фальклёры беларусаў.

5. *Тутэйшая асіна ня швэдзкая павуціна.* Прыказка паходзіць з Усходняй Беларусі. Як лічыў гісторык Яўген Тарле (Евгений Тарле), прыказка тычыцца эпізоду Вялікай Паўночнай вайны, а менавіта, калі быў горлам пакараны швэдзкі шпег, які паказаў Пятру I памылковы шлях у кірунку вёскі Лясная [Tarle 1958:231]. Зь іншай інфармацыі гэтым шпегам быў жыд-гандляр, дасланы Адамам Левэнгаўптам да Пятра I з мэтаю пераканаць апошняга, што швэдзкае войска не пераправілася праз Дняпро. Шпег нібыта быў павешаны на асіне. Чаму асіна? Бо ў беларускім фальклёры асіна – сымбаль здрады. Акурат на асіне засіліўся Юда Іскарыёт. Беларусы верылі, што гэтае дрэва заклятае Богам. Заклятым дрэвам таксама лічылася вольха, бо нібыта на гэтае дрэва пралілася кроў Юды, і таму яна мае чырвоны колер. Згодна з забабонам беларусаў абодва дрэвы забаронена было выкарыстоўваць у гаспадарцы. Але чаму тады ў прыказцы ўзьнікае «тутэйшая асіна»? Магчыма, прыказка мае намёк на ўмовы бітвы пад Лясной.

Ведама, што акурат лес (каля балота, дзе было багата асінаў) дапамог расейцам атрымаць перамогу. Праз тыдзень пасьля бойкі (6 лістапада 1708 г.) Пётар I раіў генэралу Хведару Апраксіну (Федор Апраксин): *«Только зело прошу, что не гораздо (баталии) на чистом поле, но при лесах (!), в чем превеликая польза, как я сам видел, ибо и на сей баталии (Лясная), ежели б не леса (!), то б оныя (швэды) выиграли»* [PIBPV 1948 8-1 № 2704].

Ролю лесу ў сваёй паразе прызналі й швэды. З словаў удзельніка бойкі швэдзкага афіцэра Ф.Вее: «Мы б выйгралі бітву, калі б ня лес і балоты». Таму, магчыма, прыказка ў сымбалічнай форме адлюстроўвае сапраўдныя падзеі таго часу [Vee 1931:219].

6. *Швэд пад Лясной загубіў боты й штаны, а ў Рудні пакінуў і шапку.* Гэтая прыказка таксама пра галоўную мілітарную падзею Вялікай Паўночнай вайны ў Беларусі – бітву пад вёскай Лясная 28 верасьня 1708 г.

Параза вялізнага швэдзкага корпусу Адама Левэнгаўпта была нечаканай для беларускіх назіральнікаў. Тлумачачы яе прычыны, храніст суседняга Магілёва ў 1708 годзе пісаў, што швэды атрымалі паразу бо, па-першае, *«войска Маскоўскае было нашмат большае»* [КМ: 276]. Цікава, але Пётар I наадварот сьцьвярджаў, што швэдаў на 6 000 было болей [PIBPV 1948 8-1 № 2704 183].

Па-другое, у расейцаў *«цар асабіста, яго Вялікасьць Пятро Аляксеевіч, кіраваў баталіяй. Заклікаў жаўнераў на змаганьне. Крычаў: „Радейте, братцы, Богу и Государю“».* Па-трэцяе, нягледзячы на восень, нечакана пачаліся маразы. Урэшце: *«Абкружыла Масква ўсяго Леонгофта з усіх бакоў вершнікамі ды й пасекла»* [КМ:276].

Нашая прыказка дакладна адлюстроўвае падзеі пасьля бойкі. Сапраўды, першую паразу швэдзкі корпус атрымаў пад Лясной, але швэдзкія шыхты пачалі арганізаваны адыход. Насамрэч найбольшую паразу яны перажылі ля мястэчка Рудня [PIBPV 1948 8-1 № 2687]. Вось скуль: «*... а ў Рудні пакінуў і шапку*».

Пра гэта падрабязна апавядае іншае беларускае паданьне «Бітва ля Лясной»: «*Швэд, разьбіты пад Лясной, трапіў у балота Чыстая Лужа. Там патанулі ў дрыгве яго гарматы, коні, людзі, а галоўны начальнік іх – Левэнгаўпт – кінуўся цераз Брадзілаў мост на Прапойск. [...] У той жа час на левым баку Сажа, у Старынцы й Краснапольлі,*





*зьявіліся казакі. Яны не дапусьцілі швэдаў да пераправы й пагналі іх далей, на Рудню. [...] Тут швэды пакідалі свой вайсковы рыштунак у балота й разьбегліся па лясох, ратуючыся ад пагоні маскоўцаў. [...] Начальнікі швэдзкія кінуліся да Сажа, закапалі там пад сасновым крыжам кучу золата й срэбра. [...] I давай уцякаць па сьлядох свайго караля»* [LIP:311]. Народнае паданьне, хай сабе вобразна, але дакладна адлюстроўвае падзеі Вялікай Паўночнай вайны.

7. *Босы як швэд.* Прыказка-параўнаньне, упершыню занатаваная ў 1920-я гады на Магілёўшчыне беларускімі этнографамі [Tarle 1958: 230]. Ужывалася як мэтафара вельмі кепскага маёмаснага становішча адрасата. Падставаю для ўзьнікненьня прыказкі стала катастрофа часткі швэдзкага корпусу Адама Левэнгаўпта пасьля бітвы ля вёскі Лясная ўвосень 1708 г.

8. *Як швэд пад Палтавай.* Беларуская гістарычная прыказка, запазычаная, хутчэй за ўсё, ад нашых суседзяў-украінцаў. Мэтафара абсалютнай няўдачы й нядолі ўва ўсіх справах.

9. *Каша з швэдамі.* Устойлівы выраз, назоў у беларускай народнай кухні кашы, *«мяшанай з скваркамі».* Згодна з паданьнем выраз узьнік наступным чынам: *«Служыў у аднаго папа парабак, які быў хітрым і зухаватым хлопцам. Але матушка, у сваю чаргу, была вельмі хцівай ды сквапнай. Калі яны прымаліся разам за вячэру, дык пападзьдзя ставіла на стол талерку з кашай каля парабка, а талерку з скваркамі ля свайго чалавека. Заўважыў гэтую абразу парабак і вырашыў абдурыць пападзьдзю. Аднойчы, калі яна зноў паставіла талеркі паасобку, парабак узяў тыя талеркі да сябе й запытаў:*

*– А ці ведаеце вы, як біліся калісьці швэды з маскалямі ды палякамі?*

*– Не.*

*– Дык я зараз пакажу. Як швэды прыйшлі да нас, пачалі яны змагацца з Маскалямі ды пачалі мяшацца, мяшацца, як гэтыя сквaркі з кашаю»* [Federowski 1903-3-2:210–217].

Калі ў 1843 годзе беларускі гісторык Яўстах Тышкевіч наведаў Стакгольм, ён упершыню ўбачыў вячэру швэдзкай гвардыі ля Каралеўскага палацу. Давалі кашу з скваркамі. Гісторык адразу ўспомніў, што

*«нашая назва гэтай ежы – „каша з швэдамі“, якая, магчыма, ад швэдаў і прыйшла»* [Tyszkiewicz 1846-1:59].

Беларуская народная культура захавала шмат прыказак пра швэдаў – найзырчэйшае сьведчаньне інтэнсіўнасьці нашых кантактаў з паўночным суседам. Справа сучаснай генэрацыі беларусаў вярнуць у сучасны ўжытак «мудрае слова» продкаў.

## 3.6. Швэдзкая тапаніміка ў Беларусі

Ёсьць возера вялікае – Крыж
І малое – Мядзьведжа Вуха
Пад Ушаччу ракою.
Там трыццаць валатовак вялікіх
І трыццаць валатовак меншых.
У вялікіх – жаўнеры на конях,
А ў малых – рыцары ў броні.
БЕЛАРУСКІ ВЕРШ XIX СТ.

Кагадзе ўжо гаварылася пра папулярнасьць «швэдзкіх» назоваў курганоў ды старых могілак сярод нашага вясковага люду. Зьяўленьне іх сягае да часоў Вялікай Паўночнай вайны, якая пакінула значны адбітак у народнай культуры.

Сёньня аўтарскі збор швэдзкіх тапонімаў складае звыш 120 назоваў. Сярод іх назовы курганоў, вёсак, палёў, гасьцінцаў, дарог, вёсак, вуліц, крыжоў, камянёў, колішніх абаронных збудаваньняў, частак лесу. Натуральна, пераважную бальшыню іх складаюць «швэдзкія курганы», вядомыя сярод люду таксама як «швэдзкія могілкі», «швэдзкія магілы» ці «швэдзкія капцы»[31].

Яны цягнуцца скрозь усю колішнюю этнічную прастору беларусаў: ад Падляшша (вёска Сакі, мястэчка Крынкі – цяперашняя Польшча) да Віленшчыны (в.Швэдзкая Дуброва ля Друскенікаў – цяперашняя Летува), ад Берасьцейшчыны да Браншчыны (вёска Алёнаўка Ўнецкага раёну, в. Касенкі Імглінскага раёну – цяперашняя Расея).

[31] Магчыма, літуанізм у беларускай мове, ад летувіскага «kapas» – «магіла».





Сярод іх ужо напачатку XVIII ст. былі вядомыя «Карлава даліна» й «Зьмена швэдзка» ля Магілёва, «Швэдава поле» ля вёскі Ваўдуты на Барысаўшчыне. Уладзімер Караткевіч калісьці напісаў пра швэдзкія лужкі «Калюгі» (ад «калоліся штыхамі») і «Пярэстань» («уладкавалі згоду») каля Любчы. Мясьціны гэтыя сяляне лічылі за поле бітвы паміж швэдамі й расейцамі [Karatkevich 1992:134].

Сярод «швэдзкіх вёсак» Беларусі адзначым наступныя: Швэды (Ігуменшчына), Швяды (Вялейшчына), Швяды (Случчына), Шведчына (заходняя Браншчына), Сьведзкае (Рэчыччына). У беларускім фальклёры ўзьнікненьне гэтых вёсачак тлумачылася пасяленьнем тут па вайне швэдзкіх жаўнераў.

Шмат у Беларусі й «швэдзкіх» гасьцінцаў. Найбольш вядомы зь іх «Каралеўская грэбля» – шлях зь мястэчка Ўхалоды ў Галоўчын, які лічыўся да другой паловы XIX ст. адным з найлепшых гасьцінцаў Магілёўшчыны. Як вынікае з паданьня, гэтую дарогу скрозь балоты пабудавала ў чэрвені 1708 г. каралеўская гвардыя Карла XII. «Швэдзкая грэбля» існавала таксама паміж селішчамі Круглае й Цяцерын, што ля Друцку. Сапраўды, швэды ўлетку 1708 г. ішлі праз гэтыя мясьціны.

Да другой паловы XIX ст. у Барысаве існавала вуліца «Швэдзкая», згодна з паданьнем – месца прыстанку швэдзкіх аддзелаў у 1708 годзе [Shpilevskii 1992:203].

Сярод «швэдзкіх лясоў» варта адзначыць «Швэдзкія сосны» ля Любчы, «Хвоі швэдзкія» паміж вёскамі Чашын і Мрочкі (Узьдзенскі павет), «Швэдзкі лес» (каля рэчкі Слота, што на заходняй Браншчыне).

Да ўсталяваньня савецкай улады стаялі па Беларусі «швэдзкія крыжы», якія, як верылі людзі, рабілі з каменьня над магіламі афіцэраў швэдзкія жаўнеры. Традыцыя ставіць каменныя крыжы сапраўды існавала за часоў Карла XII, а таксама ў часе вайны. Каменны крыж прастакутнай формы характэрны для лютэранскай Швэцыі XVIII ст. Зь сьведчаньняў краязнаўцаў крыжы мелі замшэлыя, незразумелыя лацінскія надпісы [Vasileuski 1927:42–43], напр., крыж ля вёскі Азярок (Смалявіччына), крыж каля вёскі Плеханы (Аршаншчына), крыж ля вёскі Выверы (Маладэчаншчына). На сёньня захаваўся толькі адзіны «швэдзкі крыж» ля могілак у вёсцы Вільча (Жыткавіччына).

Сярод «швэдзкіх камянёў» згадаю паміж вёскамі Сулы й Слабодка (Меншчына) *«швэдзкі камень зь літарамі, што іх ніхто прачытаць ня можа»*, ля мястэчка Лыскаў (Лыскава) былога Ваўкавыскага павету

(сёньня Пружаншчына) [LIP:317]. З абарончых збудаваньняў часоў Вялікай Паўночнай вайны адзначым «швэдзкі вал» ля вёскі Гарадзішча (Воранаўшчына), «Гарадок» ля вёскі Расуха (заходняя Браншчына), «Карлаў акоп» (Горкі). Захавалася безьліч «швэдзкіх акопаў»: ля вёскі Старое Сяло (Магілёўшчына), вёсак Азарычы, Дзям'янка (заходняя Браншчына).

Ёсьць нават колькі вялізных курганоў-гарадзішчаў з назовам «Швэдзкая гара». Маем на ўвазе гарадзішчы ля Радашкавічаў, Ваўкавыска, вёсак Аношкі (Нясьвіжчына) і Ольжава (Лідчына). Усе гэтыя гарадзішчы насамрэч зьяўляюцца помнікамі беларускага сярэднявечча й ня маюць жаднага дачыненьня да швэдаў. Але вядома, што ў часы Вялікай Паўночнай вайны швэдзкае войска выкарыстоўвала старыя гарадзішчы. Акурат на вялізных і натуральных узвышшах швэды часта спынялі свой абоз і цэйхгаўз.

Вялікая колькасьць швэдзкай тапанімікі ў Беларусі сьведчыць пра інтэнсіўнасьць швэдзкае вайсковае прысутнасьці за часоў Малой і Вялікай Паўночных войнаў. Часы гэтыя наклалі вялікі адбітак на народную памяць і фальклёр, таму амаль што з кожным «швэдзкім тапонімам» зьвязаная тая ці іншая легенда, паданьне, байка альбо чарадзейная казка.

## 3.7. Вобраз швэдаў у беларускай літаратуры

> Стуль маскалі, а сьсюль швыды,
> як пазбыцца такой бяды.
> БЕЛАРУСКАЯ ПРЫКАЗКА

Культура кожнага этнасу заўсёды ўтрымлівае стэрэатыпы пра суседнія народы. Больш за тое, само існаваньне «этнасу» прадугледжвае, што яго чальцы адасабляюць сябе, «сваё» ад «чужога», «чужога мора». Пры сутыкненьні «тутэйшы–чужы» тутэйшы заўсёды «лепшы». Нават калі ён і мае некаторыя хібы, але яны ніколі не разбураюць ягонага пазытыўнага вобразу. «Чужы», насупраць, утрымлівае «пагрозу», таму ён часта варожы, незразумелы й жорсткі [Schmidt 1991:6–11].





Храналягічна стэрэатыпы пра швэдаў у беларускай культуры зьявіліся ў адносна кароткі гістарычны тэрмін, а менавіта ў канцы XVI – пачатку XVIII ст., часу актыўных дачыненьняў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Швэдзкім каралеўствам. Прыгадаем найбуйнейшыя падзеі:

1592–1599 – Швэцыя й ВКЛ злучаны пад уладай аднаго караля Жыгімонта III Васы, які ёсьць манархам усіх беларусаў і швэдаў.
1629–1710 – паміж ВКЛ і Швэцыяй пралягае адзіная мяжа, якая праходзіць у Падзьвіньні. Швэдзкая Рыга выконвае выдатную ролю ў гандлі беларускіх купцоў зь Вільні, Полацку, Магілёва. У Рызе існуе беларуская царква Сьв. Мікалая – мэта паломніцтва беларускіх манахаў.
1655 – ува ўмовах вайны з Расейскаю дзяржавай пратэстанцкая эліта ВКЛ на чале зь Янушам і Багуславам Радзівіламі робіць спробу аднаўленьня сувэрэнітэту ВКЛ. Згодна з Кейданскай уніяй з Швэцыяй, ВКЛ разрывае фэдэрацыю з Польскім каралеўствам і кароткі час уваходзіць у склад Швэцыі. Швэдзкія аддзелы ў 1655 годзе займаюць абшары беларускага Падзьвіньня (Браслаў, Друя, Дрысьвяты).
1657 – швэдзкае войска на чале з каралём Карлам X бярэ Берасьце.
1702–1708 – «Беларускі этап» Вялікай Паўночнай вайны паміж Швэцыяй і Расеяй. Вялізарнае швэдзкае войска на чале з Карлам XII тройчы праходзіць па Беларусі (1702, 1706, 1708). Швэды заходзілі амаль што ўва ўсе месты Беларусі.

Асаблівасьцяй беларуска-швэдзкіх дачыненьняў ёсьць тое, што яны пераважна адбываліся ўва ўмовах вайны. Жорсткія дзеяньні швэдзкіх аддзелаў, кантрыбуцыі, руйнаваньні, безумоўна, паўплывалі на фармаваньне стэрэатыпу «швэда» ў беларускай культуры. Апрача гэтага, да «нэгатывізацыі» вобразу «швэда» спрычынілася тая акалічнасьць, што ў Рэчы Паспалітай за часоў Контрарэфармацыі была пашыраная непрыхільнасьць да пратэстантаў. У другой палове XVII – XVIII ст. пратэстанты ў прапагандзе Рэчы Паспалітай таўраваліся як здраднікі. Вытокі праблемы трэба шукаць у спэцыфіцы палітычнай эліты ВКЛ. Напярэдадні Люблінскай уніі 1569 г. паміж ВКЛ і Польшчай Літва з гледзішча палітычнай эліты была пратэстанцкаю краінай. На 1569 г. з 28 чальцоў

Рады ВКЛ 17 былі пратэстантамі, 5 праваслаўнымі й толькі 2 – каталікамі (абодва біскупы) [Ivanova 1997: 58]. Таму для Варшавы «акаталічваньне» палітычнай эліты Літвы мела прынцыповы характар.

У беларускай літаратуры XVII ст. фармуецца корпус антыпратэстанцкіх палемічных тэкстаў. Асабліва ініцыятыўнымі былі ў гэтай справе грэка-каталікі. У дыспутах з пратэстантамі набыў славу смаленскі біскуп Леў Крэўза (родам з Падляшша). Для яго было відавочна, што *«антыхрыст прыйдзе акурат з герэтычных пратэстанцкіх збораў і заходніх краінаў нямецкіх»* [Weingart 1926:14]. Пад уплывам каталіцкай прапаганды ў талерантнай калісь Літве пачаліся напады на зборы (Вільня, 1574, 1611, 1639; Навагрудак, 1638; Полацак, 1636, 1638). Прыход у сярэдзіне XVII ст. ды пачатку XVIII ст. швэдаў касьцельная прапаганда тлумачыла Божай помстай за тое, што на нашай зямлі жывуць пратэстанты. Сяляне падчас вайны рабавалі маёнткі пратэстанцкай шляхты. Супрацоўніцтва беларускіх пратэстантаў з швэдамі аўтаматычна выклікала рэпрэсіі супраць іх з боку ўладаў. У 1658 годзе арыяне былі змушаныя пакінуць краіну. Пасьля Вялікай Паўночнай вайны пратэстантызм у ВКЛ канчаткова страціў свае пазыцыі. Пад уплывам каталіцкай прапаганды ў беларускай мове нават зьявілася слова *«лютар»* з значэньнем «злы, жорсткі чалавек» [Nosovich 1870:198].

Як ужо гаварылася, створаны народнай культурай беларусаў вобраз швэдаў быў адмоўны. Інакш было з старабеларускай літаратурай, некаторыя творы якой разгледзім далей.

## СТАРАБЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

**1. Нарыс пасольства ў Швэцыю (Opis poselstwa do Szwecji). Kraków. 1588.**

Аўтарам першай кнігі, якая знаёміла беларускага чытача з Швэцыяй, быў Марцін Лесьнявольскі (каля 1554, Дарагічын – 1593, Кракаў). Нарадзіўся Марцін Лесьнявольскі ў Вялікім Княстве Літоўскім, паходзіў з праваслаўнай радзіны. Люблінская унія зьмяніла яго асабісты лёс. Калі бацька й Марцінавы браты былі праваслаўныя, дык Марцін Лесьнявольскі перайшоў у каталіцтва й пісаў па-польску. У 1587 г. ён двойчы наведвае Швэцыю. Мэта ягонага падарожжа – схіліць караля Ёхана III (Johan III) на абраньне польскім каралём і вялікім князем літоўскім





прынца Жыгімонта (сына Ёхана й Кацярыны зь Ягайлавічаў/Katarina Jagellonica, 1526–1583)*. Настойлівасьць Марціна Лесьнявольскага ў выніку другога пасольства дала посьпех. Згуляўшы на пагрозе абраньня польскім каралём маскоўскага царэвіча Хведара, Марцін пераканаў швэдаў «аддаць» Жыгімонта. Нататкі М.Лесьнявольскага прысьвечаныя збольшага перамовам, але месьцяць таксама нарыс Швэцыі, культуры й традыцыяў народу, уражаньні ад буйных гарадоў (Кальмар, Упсола, Стакгольм).

**2. Revel. 1626.**

Аўтарам гэтага лацінскага вершу быў Салямон Рысінскі (?, Кабыльнікі, Віцебскі павет – ля 1626, Любча). Нарадзіўся Салямон Рысінскі, паводле ўласнага сьведчаньня, *«у багатай на лясы Русі на мяжы з суворай Маскоўшчынай»*. Як ураджэнец тае часткі ВКЛ, якая атрымала назву Беларусь, Салямон Рысінскі бярэ лацінскі псэўданім *«Leucorussus»,* што можна перакласьці як *«Беларус».* Паэт быў адным з найадукаванейшых людзей у краіне. Абароньнік Рэфармацыі, сьвятар, ён быў шчыльна зьвязаны з кальвінісцкім атожылкам Радзівілаў. Адзін з адданых сяброў Крыштапа Радзівіла Перуна, Салямон Рысінскі быў настаўнікам Крыштапа II Радзівіла й ягонага сына Януша Радзівіла – ініцыятараў двух сэпаратных хаўрусаў ВКЛ і Швэцыі (1627, 1655). У гісторыю беларускай культуры Салямон Рысінскі ўвайшоў як першы дасьледнік народных прыказак. Ён назьбіраў і выдаў у 1618 г. у Любчы каля 1 800 беларускіх і польскіх прыказак.

Як вядома, 5 верасьня 1625 г. швэды захапілі цьвердзь Радзівілаў у паўночнай Летуве – Біржы. У гэтых умовах палітычная эліта ВКЛ рыхтуе сэпаратную дамову з Швэцыяй. У Біржах адбываецца таемная сустрэча гетмана ВКЛ, лідара літоўскіх пратэстантаў Крыштапа II Радзівіла й швэдзкага караля Густава Адольфа Моцнага. Акурат гэтая сустрэча,

---

* Дачка вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога і Боны Сфорцы. Выйшла замуж за швэдзкага прынца і будучага караля Ювана Васу (Johan III Vasa). Вясельле згулялі ў Вільні. Каралева Швэцыі ў 1569-1583 гг. Маці караля Швэцыі, Польшчы і вялікага князя літоўскага Жыкгімонта III. Зрабіла з каралеўскіх замкаў Стакгольма і Обу (адміністрацыйны цэнтар Фінляндыі Åbo / Turku) значныя асяродкі рэнэсанснай культуры. Пахавана ў каралеўскай спачывальні катэдральнага збору г. Упсола (Uppsala domkyrka).

удзельнікам якой быў нязьменны дарадца Крыштапа Радзівіла Салямон Рысінскі, таравала шлях да ўкладаньня дамовы паміж ВКЛ і Швэцыяй у Балдэнмойжа (19 студзеня 1627 г.). З нагоды сустрэчы пазьней намаляваная карціна «Спатканьне Крыштапа Радзівіла й Густава Васы», якая ўпрыгожвала галоўную залю палаца ў Біржах за часоў Крыштапа II й Януша Радзівілаў. У той самы час «Кунсткамэра» палаца Радзівілаў у Любчы мела ажно два партрэты галоўнага ворага Польшчы – Густава Адольфа Васы.

Як водгук на тыя падзеі Салямон Рысінскі стварае верш «Revel», у якім інакш, чымся польская традыцыя XVII ст., тлумачыць арыентацыю літоўскіх палітыкаў на хаўрус з Швэцыяй. Нагадаем, што ў польскай літаратуры сярэдзіны – другой паловы XVII ст. узьнікае так званая «антышвэдзкая» сатыра, у якой арыентацыя пратэстанцкай галіны Радзівілаў на хаўрус з Швэцыяй трактуецца як здрада. З тэндэнцыйных польскіх сьведчаньняў вынікае, што ў 1655 годзе ліцьвіны прадаліся швэдам за 10 тысячаў талераў, загнаўшы Літву ў швэдзкія «кайданы» (абгульвалася месца ўкладаньня дамовы – Кейданы, сучасны Кейданяй, Летува). Гэты жанр польскай сатыры льсьніўся нянавісьцю да ліцьвінаў-пратэстантаў і поўніўся абвінавачаньнямі іх як герэтыкоў і сэпаратыстаў [Libiszowska 1957:481–527]. У Салямона Рысінскага не сэпаратызм, а патрыятызм рухаў Радзівіламі, калі шукалі паразуменьня з Швэцыяй, яны нашмат мацней за Карону адчувалі пагрозу з Расеі, зь іншага боку, не прымалі ўціску канфэсійных мяншыняў, пратэстантаў і праваслаўных, у Рэчы Паспалітай.

Як падае Салямон Рысінскі, хаўрус паміж швэдамі й ліцьвінамі – хаўрус роўнага з роўным. Больш таго, не ліцьвіны, а швэды першыя пажадалі дамовіцца з *«знакамітым суседам»* – Літвою. Салямон Рысінскі піша:

Швэдзкі кароль вельмі зьдзіўлены, дзівіцца й прыдворныя.
Шыкоўнасьць палаца Радзівілаў засьляпіла іх вочы.
Адвага ліцьвінаў у сэрцах чужынцаў імпэт выклікае.
Вобраз паважны, Марс іх мячы й шчыты згартаваў.
Швэдзкі кароль пажадаў пабратацца з знакамітым суседам[32].

**3. Кароль швэдзкі афіцэраў свойскіх шукае (Król szwedzki oficerów swych szuka). Роспач швэдзкага караля (Desperatia króla szwedzkiego). 1657.**

[32] Пераклад Я.Парэцкага.





Аўтар гэтых пісаных па-польску вершаў вядомы беларускі й расейскі пісьменьнік Сімяон Полацкі (Самуйла Пятроўскі-Сітняновіч. 1629, Полацак – 1690, Масква). Нарадзіўся ён у заможнай сям'і беларускіх купцоў. Паліглёт (пісаў на чатырох мовах), застаўся ў гісторыі Беларусі сымбалем палітычнага ды рэлігійнага канфармізму. Праваслаўны ад нараджэньня, вучыцца ў Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе пераходзіць у каталіцтва па ўсходнім бізантыйскім абрадзе (уніяцтва). У часе вайны з Расеяй у родным Полацку Сімяон Полацкі вяртаецца ў праваслаўе, ладзіць урачыстую сустрэчу правадыра расейскіх захопнікаў цара Аляксея Міхайлавіча Раманава (Алексей Михайлович Романов). Абраўшы месцам сталага жыхарства Маскву, Сімяон Полацкі абгрунтоўвае палітычную канцэпцыю захопу Расеяй усіх праваслаўных земляў, з Канстантынопалем–Істанбулам улучна. Паказальна, што ў беларускі пэрыяд жыцьця Сімяон Полацкі быў ляяльны да палітыкі Рэчы Паспалітай. Калі ў Маскве ён пісаў пераважна па-расейску й па-царкоўнаславянску, дык у віленскі й полацкі пэрыяды па-польску й па-беларуску. Зусім іншай была й палітычная танальнасьць твораў. Прыгадаем малавядомы беларускі верш Сімяона Полацкага. Гэта эпітафія забітаму ў вайне 1654 г. беларускаму шляхціцу Георгію Пласкавіцкаму, у якой расейскія жаўнеры выстаўлены як злыдні й рабаўнікі [Marzaliuk 2001:65–71].

Створаныя Сімяонам Полацкім «швэдзкія» вершы не арыгінальныя, грунтам для напісаньня сталася папулярная ў Рэчы Паспалітай польская ананімная антышвэдзкая сатыра. Як і польскія пісьменьнікі, Сімяон Полацкі будуе свае творы ў выглядзе дыялёгу швэдзкага караля Карла Х з сваімі маршалкамі й хаўрусьнікамі. У вершах фігуруюць рэальныя гістарычныя асобы й падзеі.

У адрозьненьне ад польскіх аўтараў у вершах Сімяона Полацкага мы ня знойдзем жаднага асуду прашвэдзкай палітыкі Радзівілаў, хоць Януш і Багуслаў Радзівілы ёсьць пэрсанажамі гэтых вершаў (абодва Радзівілы былі галоўнымі фундатарамі праваслаўных парафіяў ВКЛ). Галоўны герой твораў, швэдзкі кароль Карл Х, сумуе з прычыны неталані швэдзкай палітыкі ў Літве, наракае, што недааценіў палякаў, жаліцца на антышвэдзкае паўстаньне ў Жамойці, гульні фартуны, нарэшце, Божую кару:

Блага я зрабіў, што палякаў недааценіў,
Нават іх Літву захапіў.
Ян Радзівіл быў нашым хаўрусьнікам
Разам з усёй Жамойцю,

Якая нас каралём вызнала,
а потым маіх жаўнераў пасекла.
Мала таго, што самі жамойты ад прысягі адракліся,
Дык яшчэ маскаля на галаву нам пасадзілі.
Дзьвюх дзяржаваў марыў я быць уладаром.
І Літва павінна была быць маёю,
Але фартуна была не маёй.
Пажадаў узяць чужое, загубіў сваё.
Інфлянты маскаль папаліў,
Татары – Памор'е.
Гэта Боская помста[33].

**4. Хроніка Магілёва. Нататкі за 1708 год.**

Аўтар хронікі, сябра магілёўскага магістрату Трахім Сурта, вельмі падрабязна апісаў месячны пастой у горадзе швэдзкага войска на чале з Карлам XII (7 ліпеня – 5 жніўня 1708 г.). Зразумела, хроніка – гістарычны дакумэнт, але «швэдзкія тэксты» маюць мастацкі характар, бо месьцяць шэраг паданьняў і легендаў пра швэдаў. Унікальнымі ёсьць паданьні пра Карла XII, постаць якога наагул была досыць папулярная ў літаратуры й фальклёры тагачаснай Эўропы [Kotliarchuk 2001:95–99].

Хроніка бадай упершыню ўводзіць у беларускую літаратуру тэму «чараўніцтва швэдаў»: «*Пасьля вайны сяляне нашыя ў пошуках пражытку бадзяліся па месцах бітваў [...] Прыйшлі аднаго часу да ямы, пачалі капаць і раптам бачаць: поўная яма жыта. Пачалі далей капаць і тут убачылі: швэд ляжыць у жыце, ды, вырачыўшы вочы, пазірае. Ведзьмака сяляне дасталі ды разам з тым жытам на ростанях спалілі. А дзе швэд ішоў, паўсюль недарод вялікі ў палёх быў, і людзі ральлі сьвятою вадой крапілі*».

**5. Obraz prawdziwy króla szwedzkiego Karola XII. «Pochwała y odpowiedź». 1706.**

Аўтарам гэтага твору ёсьць менскі шляхціц (канюшы менскі) пратэстант Аляксандар Мацкевіч. Твор на польскай мове быў зьмешчаны ў ягоным лацінамоўным дзёньніку «Liber manuscriptus, incipiendo ab anno 1706 per me Alexander Mackiewicz. Tribunalus stabili palatinati Minscensis». Гэты ўнікальны дзёньнік сёньня згублены. Але ў сярэдзіне XIX ст. зь ім працавалі Яўстах Тышкевіч і Ігнат Ходзька. Дзякуючы апошняму й захавалася асноўная частка верша [Chodzka 1870:121–123].

[32] Пераклад аўтара. – *Рэд.*





Радзіна Мацкевічаў была пратэстанцкай ад XVI ст. Разам з Воланамі, Сьвідамі, Курнатоўскімі, Гружэўскімі, Путкамэрамі, Воўк-Ланеўскімі Мацкевічы культывавалі эвангелічную традыцыю ў ВКЛ, былі абаронцамі кальвінісцкага й лютэранскага збораў. Брат Аляксандра Мацкевіча падчашы менскі Яраслаў Мацкевіч быў у пачатку XVIII ст. кальвінісцкім лідарам ВКЛ («актoрам генэральным»). Аляксандар Мацкевіч з сваяком стольнікам імсьціслаўскім Крыштапам Мацкевічам былі пратэктарамі (абаронцамі) храму ў Койданаве, які быў катэдральным зборам «Беларускага дыстрыкту Літоўскай супольнасьці» – пратэстанцкай царквы ВКЛ [Kriegseisen 1996:107].

Насуперак польскай каталіцкай традыцыі Мацкевіч у 1706 годзе стварае панэгірык Карлу XII:

Вялікага караля трыюмфы й мужнасьць
Зь вялікай радасьцю хвалім.
Ягоная гераічнасьць, на зайздрасьць лёсу,
Напоўніла краіны сусьвету.
Карл XII, кароль гаспадарства швэдзкага,
Вялікі пераможца, хоць веку малога...[34]

Насамрэч пабудова твору яшчэ цікавейшая, бо за эпіграмай ідзе «Адпаведзь», якая стварае адмоўны вобраз караля. Апошняя рыса адлюстроўвае глыбокі ідэалягічны падзел што да швэдаў сярод шляхты. Як пісаў Мацкевіч, пратэстанты ВКЛ чакалі швэдаў як збаўцаў, але прыход жаўнераў Адама Левэнгаўпта ў жніўні–верасьні 1708 г. у Мацкевічаў маёнтак ля Бярозы Сапескай выклікаў у яго моцную роспач. У дзёньніку Мацкевіч падае: *«Расейцы пад кіраўніцтвам Аляксея Меншыкава паўсюль шляхоцкія маёнткі, месты й вёскі палілі. Потым на гэтае папялішча прыйшоў швэд, якога мы лічылі абаронцам. Але швэды пачалі рабіць амаль тое... Калі Левэнгаўпт да нас прыйшоў, рабаваў таксама, нікому ня робячы аніякай палёгкі. Нават*

[34] Пераклад аўтара. – *Рэд.*

*снапы жытнія на палёх жаўнеры швэдзкія забралі ды змалацілі»* [Tyszkiewicz 1846-II:273–274]. Як вынік, у 1708 годзе Мацкевіч дапісвае да сваёй пахвалы Карлу XII адмоўную «Адповедзь».

**6. Нарыс хатніх непрыемнасьцяў (Abrys domowej nieszczęśliwości). 1721.**

Аўтар гэтага малавядомага твору грэка-каталіцкі сьвятар зь Віцебску Ян Аляшэўскі, які паказаў беларускі погляд на Вялікую Паўночную вайну. Ян Аляшэўскі шмат піша пра падзел беларускай шляхты на прашвэдзкую й прарасейскую партыі, пра нянавісьць расейскага вайсковага кіраўніка Аляксея Меншыкава да ўніяцкае царквы. Згодна зь Янам Аляшэўскім, швэды ня спраўдзілі чаканьняў беларусаў на абарону ад расейцаў і таксама блага ставіліся да грэка-каталіцкай царквы (да яе тады належала 75% беларусаў). Акурат Ян Аляшэўскі ўпершыню зацытаваў беларускую прыказку, у якой адлюстраваныя падзеі Вялікай Паўночнай вайны і якую потым забаранілі камуністы:

> Стуль маскалі, а сьсюль швэды, як пазбыцца такой бяды.
> [OLESZEWSKI 1899/1721]

НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Варункі творчасьці беларускіх пісьменьнікаў XIX ст. былі неспрыяльныя, таму яны аддавалі перавагу пісаньню паэзіі над прозай, упаасобку гістарычнай. Гістарычныя зьвесткі захоўваў перадусім фальклёр. Першая ў Новым часе «Гісторыя Беларусі», створаная беларусам, для беларусаў і на беларускай мове, пабачыла сьвет толькі ў 1910 годзе (праца Вацлава Ластоўскага). Выключна фальклёр робіцца галоўнай крыніцай ідэяў, тэмаў, сюжэтаў беларускай гістарычнай літаратуры [Jurevich 1999:8–9].

Гэта падкрэсьліваў у прадмове да свайго твору «Люцынка, альбо Швэды на Літве» Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч: *«Калі набыў я маленькі мой фальварчык Люцынку, пры аглядзе яго зацікавіла мяне перш за ўсё мясцовасьць; дзеля гэтага стараўся я ад старых людзей, якія здаўна тут жывуць, дапытацца, ці ня мае яна якіх гістарычных паданьняў, і амаль у адзін голас мне расказвалі, што тут менавіта знаходзіўся калісьці, у старажытныя часы, езуіцкі кляштар з храмам божым і што ў часе нашэсьця швэдаў, за Карлам XII, кляштар гэты*





*разам з касьцёлам ператвораны быў у груд друзу, а манахі былі змучаны адзіна за тое, што не хацелі паказаць месца, дзе імі былі схаваныя касьцельныя скарбы – і так тыя скарбы і да гэтага часу яшчэ знаходзяцца недзе ў зямлі».*

Ува ўмовах царскае цэнзуры перад жменькай беларускіх пісьменьнікаў, якіх цікавілі гістарычныя тэмы, паўставала складаная дылема. Антырасейскасьць у гістарыяграфіі каралася ў судовым парадку. Вядома, у народзе жыў успамін пра войны з Расеяй, паўстаньне Касьцюшкі. Ведала Беларусь «імсьціслаўскіх недасекаў», г.зн. жыхароў Імсьціслава, нашчадкаў тых, якія засталіся пасьля зьніштажэньня места расейскім войскам у 1654 годзе, калі некалі заможнае места ператварылася ў друз. Фрэскамалюнак гэтых падзеяў («Трубяцкая разьніна») цудам захавалася ў Імсьціслаўскім касьцёле. Яе хацелі зьнішчыць мясцовыя камуністы, *«каб не псавала дружбы Беларусі з Расеяй»,* але ня здолелі разьвязаць гэтага пытаньня дзякуючы савецкаму бюракратызму. Добра ведалі ў Беларусі й пра татальнае зруйнаваньне расейцамі ў верасьні 1708 г. Магілёва – найбуйнейшага цэнтра тагачаснай Беларусі. Вядома было, хто й як разбурыў у 1705 г. Полацкую катэдру – Сафійскі сабор, наогул першы храм у Беларусі, і забіў 5 чарняцоў (Пётар І ды ягоныя паплечнікі). Але ўсіх гэтых сюжэтаў няма ў беларускай гістарычнай літаратуры XIX ст., бо пісаць пра такое ў Расейскай імпэрыі было немагчыма.

У адрозьненьне ад гэтага «швэдзкая тэма» зусім бясьпечная. У XIX ст. Швэцыя была мірнаю нэўтральнаю дзяржавай. Краіна адмовілася ад глябальнай усходняй экспансіі й цалкам засяродзілася на ўнутраных справах. Карацей кажучы, Швэцыя была далёка, гісторыя беларуска-швэдзкіх дачыненьняў абрастала легендамі, што давала прастору для творчасьці.

**7. Наваградзкі замак. 1819.**

Аўтар баляды Ян Чачот (1796–1847) – вядомы беларуска-польскі паэта, сябра Адама Міцкевіча. Закаханы ў беларускую народную культуру, Ян Чачот назьбіраў ды выдаў 4 кнігі вусна-паэтычнай народнай творчасьці, у якіх зьмясьціў і ўласныя творы. Аўтар аднаго зь першых навуковых артыкулаў, прысьвечаных беларускай мове, у 1823 годзе арыштаваны, адбыў у высылцы на Ўрале амаль 20 гадоў і памёр праз 6 гадоў пасьля вяртаньня на Радзіму. Замілаванасьць беларускай народнай культурай назіралася ў Яна Чачота яшчэ ў юнацтве, калі ён разам з Ада-

мам Міцкевічам вучыўся ў Наваградзкай гімназіі. З успамінаў Ігната Дамейкі: «*Два нашыя студэнты* (Ян Чачот і Адам Міцкевіч. – Аўт.) *зь юнацтва палюбілі нашыя літоўскія* (тут *беларускія*. – Аўт.) *звычаі і люд. Мястэчка нашае Н. амаль што не адрозьнівалася духам і паэзіяй ад нашых вёсак і фальваркаў. Жыцьцё месьцічаў хутчэй было сялянскім. Сябры хадзілі па кірмашох, фэстах, вясельлях, дажынках, пахаваньнях. Менавіта вясковая хата й народная паэзія распалілі іх талент. Адам хутка пайшоў угору да ўзвышша чыстай паэзіі. Ян да сьмерці заставаўся верны народнай творчасьці»* [Stankiewicz 1936:5–6].

У аснову сюжэту балады «Наваградзкі замак» пакладзены захоп швэдамі замку ў 1706 годзе. Зразумела, асноўнай крыніцай дзеля рэканструкцыі падзеяў аўтару паслужыў фальклёр ці, словамі Яна Чачота, «гутаркі старых людзей». Камэнтары да балады не паведамляюць, менавіта якая легенда была падставай твору. Мне пашанцавала знайсьці яе: «*Замак Наваградзкі складаў колісь 7 вежаў, на кожнай было па колькі гарматаў, вакол замка быў глыбокі роўчак з вадою, цяпер зьніклай. Кажуць, што, калі швэды забралі замак, немаўля адной швэдкі-маркітанкі (служэбкі ў войску) зваліласяз моста ды захлынулася. Швэдка-чараўніца, будучы ў роспачы, закляла за гэта ваду, якая з таго часу зьнікла»* [Dmitriev 1853:240].

Як бачым, перад намі папулярны ў фальклёры беларусаў чарадзейны сюжэт. Паводле народных уяўленьняў чараўнік гэты альбо не зусім «свойскі» альбо чужы чалавек. Незвычайная прафэсія (млынар, каваль, буднік), сацыяльны статус (шляхціц), іншая этнічнасьць давалі падставу прызнаць чалавека за чараўніка. Шмат такіх легендаў з фабулай «загубленае дзіця–заклятая вада» зьвязана з вобразам каралевы Боны Сфорцы, італьянкі паходжаньнем, жонкі Жыгімонта Старога.

Параўнальны аналіз народнай легенды й літаратурнага твору добра адлюстроўвае творчы мэтад аўтара. Народны міт мадыфікуецца паводле эстэтыкі эпохі рамантызму. Захоўваючы вобраз «швэдкі-чараўніцы», Ян Чачот будуе фабулу балады на каханьні швэдкі й кашталяна замку. Агульны вобраз швэдаў традыцыйны, г.зн. благі:

Дым па-над Наваградкам віўся клубамі,
Людзей выразаў швэд крывавы…
Напэўна, яны мелі цьвёрдыя сэрцы,
Паўночныя тыя гіены.





У пазыцыі «тутэйшы–чужы» Ян Чачот сьведама не разбурае дадатнага стэрэатыпу «тутэйшых». Падкрэсьліваецца, што кашталян замку, які з-за каханьня да швэдкі здрадзіў Радзіме, быў чужынцам:

Ня знаю, адкуль ён, зь якога ён роду –
Відаць, не ліцьвін, не з палякаў:
У нас і ня бачылі гэтакіх зроду.
Хутчэй, з чужаземных ваякаў.

Што да гістарычнай сапраўднасьці, яна ў баладзе адсутнічае. Заснаваная на фальклёрным матэрыяле, гісторыя міталягізуецца. Замест Карла XII дзейнічае Карл X, які ў Наваградку ніколі ня быў, тым больш ня мог гэта зрабіць у 1706 годзе. Згодна з кантэкстам балады замак зруйнавалі швэды. Усе наступныя камэнтары літаратуразнаўцаў таксама гавораць пра гэта. Але насамрэч замак зруйнавала ў 1660 годзе расейскае войска на чале зь Іванам Хаванскім. У 1706 годзе швэды разбурылі апошнюю вежу ды забралі гарматы. Наагул, тэкст балады літаральна насычаны вострым адчуваньнем «забытай гісторыі»:

Тут сёньня толькі касьцяк замку
Здалёку і ўбачыш,
Ды на доле – гармата.

**8. Люцынка, альбо Швэды на Літве (Lucynka, czyli Szwedzi na Litwie. Opowiadania historyczne, w 4-ch obrazkach). 1861.**

Аўтар твору найбуйнейшы беларускі пісьменьнік XIX ст. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808–1884), вядомы перадусім як творца шэрагу цудоўных камэдыяў ды першы перакладнік на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (выданьне канфіскаванае расейскай уладай). У часе паўстаньня 1863–1864 гг. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч быў арыштаваны. «Люцынка, альбо Швэды на Літве» – апошняя кніга пісьменьніка. Як Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч будуе свой твор на падставе паданьня пра швэдаў, пачутага ад сялянаў уласнага фальварку Люцынка:

Век другі ўжо бытуе ў нас без спадмана
Праўда-быль аб нашэсьці ліхім Сюдэрмана.

Апрача сялянскіх паданьняў, аўтар выкарыстоўваў і шляхоцкія гавэнды. Дарэчы, цудоўна адлюстравана паветра шляхоцкага сойміка часоў Вялікай Паўночнай вайны з пытаньнем: які бок падтрымаць ліцьвінам? Швэдаў і Станіслава Ляшчынскага або расейцаў і Аўгуста Саса?

Агульны вобраз швэдаў будуецца на беларускай народнай традыцыі:

Закружыў хіжы птах швэдзкі з чорнаю зграяй
Над Літвою і Польшчай – дзяўбе, разьдзірае
Кіпцюрамі іх сэрца і кроў выпівае,
Нішчыць край і мардуе, людзей забівае;
Мала крыўдзіў, яму зажадалася больш шчэ:
Называе сябе ён «збавіцелем» Польшчы!

«Благім» швэдам, натуральна, супрацьстаяць «дабрачэсьлівыя» ліцьвіны:

...На Літве жыў народ, ды такі дабрачынны!
Край быў вольны, заможны – жылі, не ўздыхалі!

Цікава, што прысьвечаны твор Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча маршалку Магілёўскай губэрні Стэфану Любамірскаму, якога аўтар называе *«сьветлым знаўцам і аматарам народных паданьняў Беларусі»*. Адзін з продкаў князя Яраслаў Любамірскі быў найбольш пасьлядоўным хаўрусьнікам Карла XII, нават перайшоў у 1708 годзе ў Радашкавічах у лютэранства.

У творы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча прысутнічаюць тры пэрсанажы-швэды. Цнатліваму літоўскаму рыцару Ўладзіславу Даліву супрацьстаіць швэдзкі ротмістар Ларс (Lars). Вобраз швэда ня мае аніякіх заганаў. Гэта рыцарскі двубой, у якім, вядома, перамога за тутэйшым.

Так два буйвалы б'юцца ў бязьлюднай пустэчы,
Аж пакуль зь іх, нарэшце, адзін не загіне.
А Даліва тымчасам прызначыў удар свой
Не ў чало, але ў грудзі адкрытыя Ларса.
І, як дуб, ён упаў ад сьмяротнае раны,
Упусьціўшы з рукі сваёй меч гартаваны.

Другі герой – гэта мітычны кіраўнік швэдзкага войска ў Літве Сюдэрман. Камэнтары лічаць, што гэта прыдуманы пэрсанаж. Здаецца,





правобразам героя ёсьць швэдзкі кароль Карл IX Сюдэрман[35] (1550–1614) – суродзіч Жыгімонта III Васы, які скінуў апошняга з швэдзкага стальца. Але фактычна пад Сюдэрманам гаворка йдзе пра Карла XII (!):

Доўгі час стогне наша зямля дарагая,
Сюдэрман гаспадарыць на ёй і лютуе.
Паліць, нішчыць, люд абдзірае, рабуе…
Пнецца новага даць караля Станіслава.

Нарэшце, трэці швэд – гэта рэальная гістарычная асоба генэрал Карл Густаў Крэйц (Carl Gustav Creutz, 1669–1728). Бадай, гэта адзіны швэдпэрсанаж беларускай літаратуры XIX ст., чый вобраз адпавядае рэчаіснасьці. На загад Карла XII улетку 1706 г. Густаў Крэйц і ягоныя аддзелы зруйнавалі шэраг фальваркаў і мястэчкаў Заходняй Беларусі, перадусім тых, што належалі Радзівілам. Мэтай рэпрэсіяў было імкненьне «перакanаць» Радзівілаў узяць бок швэдаў. І яны свайго дасягнулі.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч падкрэсьлівае ўпартасьць і жорсткасьць Густава Крэйца:

Прагнасьць Густава Крэйца ня ведае межаў,
Дзень і ноч б'е з гарматаў па мурох і па вежах.

Думаецца, што гэты твор Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча быў інсьпіраваны паданьнем пра абарону ад «герэтыкоў-швэдаў» польскай сьвятыні – кляштара ў Чэнстахове – у сярэдзіне XVII ст. У сутнасьці, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч стварае *«мясцовы беларускі варыянт»* славутага паданьня.

**9. Дума а Каралю XII. Ля 1863 г.**

Аўтарам гэтага адзінага напісанага па-беларуску «швэдзкага твору» ёсьць адзін з найцікавейшых беларускіх паэтаў XIX ст. Альгерд Абуховіч (1840–1898). Нарадзіўся Альгерд Абуховіч (пэн-імя «Граф Бандынэлі») на Случчыне – былым цэнтры Рэфармацыі ў Беларусі, у шляхоцкай сям'і кальвіністкага паходжаньня. Скончыў Слуцкую гімназію, студы-

[35] Сюдэрман ёсьць беларуска-польскаю формай швэдзкага тытулу Карла: герцаг Сюдэрманлянду (hertig av Södermanland).

яваў ува ўнівэрсытэце Жэнэвы. Атрымаўшы імя ў гонар славутага вялікага князя літоўскага Альгерда, Абуховіч першым з тутэйшых пісьменьнікаў лічыў сябе «беларусам». Удзельнік паўстаньня 1863–1864 гг., ён быў сасланы ў Сібір. Пасьля вяртаньня аддаў усе землі сялянам. За гэта атрымаў сярод мясцовай шляхты мянушку «Зьбянтэжаны». Як пратэстант і беларускі патрыёт Альгерд Абуховіч меў благія стасункі з асяродкам спалянізаванай шляхты. Абуховіч – аўтар першых у новай беларускай літаратуры ўспамінаў.

«Дума а Каралю ХІІ» створаная напярэдадні паўстаньня, але надрукаваная толькі ў 1916 годзе. Зрэшты, у 1994 годзе філёляг Юрась Пацюпа зьвярнуў увагу, што гэты напаўзабыты твор варты лепшага месца ў гісторыі нашай літаратуры [Patsupa 1994: 73–83]. На маю думку, непапулярнасьць верша перадусім тлумачыцца цяжкасьцю яго разуменьня. Фабула прысьвечаная падзеям Вялікай Паўночнай вайны. Але імёны трох галоўных герояў – караля Станіслава Ляшчынскага, Пятра І і Карла ХІІ – зашыфраваныя. Перадусім Альгерд Абуховіч выкарыстоўвае забытыя сёньня вобразы беларускага фальклёру.

Зоры паўночы кроўю пылаюць,
Сьнежны чырвоняць прасторы;
Людзям варожбы ліхія зьвяшчаюць
Зораў паўночных разоры.

Насамрэч гэта забытая сёньня старажытная беларуская прыкмета: *«Напярэдадні вялікае жудаснае вайны, калі робіцца цёмна ў небе, з паўночнага боку неба пачынае чырванець. Гэта зоры паўночы, якія, чырванеючы, уздымаюцца вышэй і вышэй, запаўняючы ўсю прастору. У небе тады стаіць моцны шум, бразгатня й маланкі»* [Pietkiewicz 1938:20].

Галоўны герой верша Карл ХІІ. Альгерд Абуховіч будуе прынцыпова для «падпольнае» беларускае літаратуры вобраз швэдзкага караля. Калі Пётар І выстаўлены як забойца, «мардэрца народаў», Станіслаў Ляшчынскі як «нікчэмны авантурыст», постаць Карла ХІІ асьветлена ідэаламі рыцарства, братэрства й свабоды. У аўтарскай трактоўцы Карл ХІІ імкнуўся *«к шчасьцю народаў, для іхнай славы/ Агніста біла ў ім сэрца...»*. Гэтыя радкі падобныя да верша Аляксандра Мацкевіча 1706 г., што падкрэсьлівае, якую трываласьць сярод беларускай пратэстанцкай шляхты мела прашвэдзкая пазыцыя.





Параза швэдаў пад Палтавай (1709), паводле Альгерда Абуховіча, была нацыянальнай катастрофай для Беларусі. Палтава кінула край у няволю. «*Наша Русь у няволі марнее», –* кажа Альгерд Абуховіч, маючы на ўвазе захоп Беларусі Расеяй, які адбыўся па сыходзе швэдаў з абшару Ўсходняй Балтыкі. Аўтар кляне *«палі Палтавы»*. Гэты пункт погляду Альгерда Абуховіча разыходзіцца зь меркаваньнем сучасных швэдзкіх гісторыкаў, якія ўважаюць, што параза іхнай краіны пад Палтавай – падзея дадатная, бо назаўсёды пазбавіла Швэцыю ад імпэрскіх амбіцыяў, прывяла да адмовы ад «авантурнай усходняй палітыкі» [Englund 1995]. Між тым Альгерд Абуховіч верыў, што імя Карла ХІІ «расславяць» нашчадкі. Гэтага не адбылося. Карл ХІІ – непапулярная постаць у сучаснай швэдзкай гістарыяграфіі. Але народная культура швэдаў дагэтуль захоўвае прыхільнае да яго стаўленьне. Дастаткова згадаць знакаміты раман Астрыд Ліндгрэн «Эміль зь Лённэбэргу», у якім старыя людзі з павагай успамінаюць, як Карл ХІІ выратаваў швэдзкую правінцыю Смолянд ад нашэсьця ваўкоў.

Учытаемся ў верш Абуховіча:

Ось тры малойцы – з асобна кожны –
Буйныя думы гналі з укрыцьця;
На поўнач кідалі ўзгляды трывожны
З мысьлю, што стрэнуць у жыцьці.

Той [Станіслаў Ляшчынскі]
    каралеўскай жадаў кароны, –
Ня дбаў аб чэсьць у патомных,
Каб толькі д'ядэм меці злачоны
На скронях сваіх нікчомных.

Гэты [Пётар І], дзе поўнач, зроджан на цара,
Імпэратарам меў стацца,
Хоць баранілі народ і вера
Айчызьне з грунту зьмяняцца.

Дала абодвым злая фартуна
Сваіх дасьцігці намераў:
Першы на Польшчу кінуў цалуны,
А той расшырыў моц цараў.

Трэці [Карл XII], на стромкай апёршысь скалі,
Дзе вілі гнёзды саколы,
Думаў прайначыць злой долі шалі,
Ня дбаў аб цяжкі мазолі.
Зоры шырока неба крываюць,
Крываюць землі і воды, –
Гэтак шырока твае расслаўляць,
Манарша, імя народы.

К шчасьцю народаў, для іхнай славы
Агніста біла ў ім сэрца...
Будзьце ж праклятыя, палі Палтавы,
І ты, народаў мардэрца!

Памерклі зоры, памеркла слава,
Русь[36] у няволі марнее:
З грабу Кароля, з поля Палтавы
Устаньце, народаў надзеі!

Апошнія радкі верша Альгерда Абуховіча гучаць як заклік да паўстаньня. Для радыкальна настроенай часткі беларускай шляхты XIX ст. вобраз Карла XII, дарэчы, як і Напалеона Банапарта, быў сымбалем барацьбы з Расейскай імпэрыяй.

Аналіз «швэдзкай тэмы» ў беларускай літаратуры XIX ст. даводзіць залежнасьць літаратурных сюжэтаў ад фальклёрнае традыцыі. Таму беларускім пісьменьнікам даводзілася будаваць вобраз швэдаў, у якім гістарычная рэчаіснасьць адыходзіла на другі плян, а на першы выходзіла створаная народнай культурай «ненавуковая» ўнівэрсальная мадэль «чужога» этнасу. Напрыклад, вобраз швэда ў народнай культуры беларусаў амаль ня розьніцца ад узьніклага па вайне 1812 г. вобразу француза. Адсутнасьць беларусаў у шэрагу гістарычных народаў Эўропы, зьнікненьне нацыі з палітычнай мапы Эўропы XVIII–XIX стст. мела шмат благіх наступстваў, бальшыню зь якіх нацыя не пераадолела й сёньня.

Пабудаваны на мітах вобраз швэдаў актыўна выкарыстоўваецца ўладамі й цяпер, моцна ўплываючы на грамадзкую думку. У сучаснай Беларусі ўсе грахі дзьвюх Паўночных войнаў звальваюцца выключна на

[36] Беларусь.





швэдаў. На грунце антышвэдзкае, антызаходняе рыторыкі мацуецца міт пра спрадвечную дружбу з «усходнім суседам». Паказальная ў гэтым сэнсе экспазыцыя Магілёўскага краязнаўчага музэю. У ім няма ані згадкі пра татальнае зруйнаваньне места расейцамі, якое адбылося 8 верасьня 1708 г. Наадварот, пасьля наведваньня экспазыцыі зьяўляецца ўражаньне, што гэта зрабілі швэды. У цэнтральнай частцы экспазыцыі знаходзіцца карціна *«Ўцёкі Карла XII»,* на якой кароль, быццам баязьліўца, ратуецца на чаўне зь нібыта паўсталага супраць швэдаў Магілёва. Насамрэч ніякага паўстаньня не было. Карл XII і швэдзкае войска павольна выйшлі зь места па двух пабудаваных мастох праз Дняпро. У сваю чаргу, месьцічы сустрэлі Карла XII бы свайго ўладара хлебам з сольлю, уручыўшы на чырвоным ручніку «ключы ад места». Падчас трыюмфальнага шэсьця швэдзкіх аддзелаў адна з маладзіц нават закрычала: *«Дзякуй, што вызвалілі нас ад тых маскалёў».*

Народныя паданьні аб зруйнаваньні швэдамі касьцёлаў, цэркваў, кляштараў і манастыроў часта не адпавядаюць рэчаіснасьці. Але гэта не перашкаджае мітам трапляць у навуковыя выданьні. Да прыкладу, швэды ня маюць аніякага дачыненьня да зруйнаваньня францішканскага касьцёлу ў Пінску, кляштару картузаў у Бярозе, уніяцкай царквы ў Дрысьвятах.

Праўда ў тым, што падчас Вялікай Паўночнай вайны беларусы былі паміж молатам і кавадлам, Сцылай і Харыбдаю. Швэды бурылі фальваркі, іншыя ўладаньні Радзівілаў у Заходняй Беларусі, бралі вялізныя кантрыбуцыі. Расейцы руйнавалі месты Ўсходняй Беларусі, палілі вёскі, каб спыніць швэдзкі наступ на Расею. Як вынік, пасьля вайны насельніцтва Беларусі скарацілася на 35 адсоткаў [Eb 1985:126].

# 4. Швэдзка-беларускія дачыненьні ў Новы й Навейшы час

Чаму мы, швэды, зьвяртаем увагу на беларусаў? Чаму Швэцыю сёньня непакоіць лёс Беларусі? Перадусім таму, што гэтая краіна ёсьць нашай суседкай у Балтыцкім рэгіёне; таму, што колькі швэдзкіх грамадзянаў жыве ў Беларусі; зрэшты, таму, што мы, швэды, і беларусы маем супольную гісторыю, пачынаючы з часоў вікінгаў.

ГАННА ЛІНД (ANNA LINDH), МІНІСТАР ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАЎ ШВЭЦЫІ. 3 ЧЭРВЕНЯ 2002 Г.

Зьнікненьне пры канцы XVIII ст. Рэчы Паспалітай з палітычнай мапы Эўропы кепска паўплывала на лёс беларуска-швэдзкіх дачыненьняў. У адрозьненьне ад Польшчы, Летувы, Украіны беларускія ваяводзтвы Вялікага Княства Літоўскага цалкам апынуліся ў складзе вялізарнай Расейскай імпэрыі. Зьвесткі пра самабытны стан беларускай культуры, мовы, палітычныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага паступова забываліся ў Эўропе. Як вынік, асноўны этнас Вялікага Княства Літоўскага – ліцьвіны-беларусы – пачалі лічыцца ў XIX–XX стст. маладой негістарычнай нацыяй бяз жадных дзяржаўных традыцыяў. Не спрыяла ведамасьці й слабасьць беларускага нацыянальнага руху XIX – пачатку XX ст., пра які лучала мала зьвестак у эўрапейскую інфармацыйную прастору. Да прыкладу, найбольш вядомы швэдзкі славіст Альфрэд Енсэн (Alfred Jensen, 1859–1921) апісаў, здаецца, усе славянскія народы (у тым ліку ўкраінцаў), апроч беларусаў...

Кантакты паміж Швэцыяй і Паўночна-Заходнім краем Расейскай імпэрыі (тагачасным назовам Летувы й Беларусі) мелі ў XIX – пачатку XX ст. эпізадычны характар і зьвяліся збольшага да нефармальных дачыненьняў між асобнымі людзьмі. Не зьмянілася іхная сутнасьць і за часоў БССР.

Прыгадаем колькі галоўных момантаў.

У 1843 годзе беларускі гісторык і этноляг Яўстах Тышкевіч зрабіў навуковае падарожжа ў Швэцыю, па выніках якога напісаў і выдаў у 1846 годзе ў Вільні кнігу.





У ліпені 1914 г., напярэдадні Першай сусьветнай вайны, пешае падарожжа праз Швэцыю ажыцьцявіла паэтка, першая беларуская фэміністка Алаіза Пашкевіч-Цётка (1876–1916). Свае ўражаньні ад Швэцыі й швэдзкага люду яна занатавала ўва ўспамінах і лістох да сяброў. На жаль, толькі невялічкая частка лістоў да Браніслава Эпімах-Шыпілы была апублікаваная ў 2001 годзе выдавецтвам «Беларускі кнігазбор». У адным зь лістоў з Швэцыі яму, датаваным ліпенем 1914 г., Цётка пісала: *«Я ўжо 70 кілямэтраў адпаўзла ад Stockholm, начую сёньня ў сяле Vagnhärad у жалезнадарожным гатэлі на трэцім паверсе; кашчыстая. Ураджаяў я яшчэ нідзе такіх ня бачыла, як у Швэцыі. Крыху ўжо знаёмімся зь людзьмі, вучымся іхняй мовы. З інтэлігенцыяй усюды можна па-нямецку разгаварыцца. Лес, возеры, багатыя нівы, надзіў пекныя будынкі, кожны дамок нямаль мае тэлефон. [...] Ужо прайшлі 195 кілямэтраў пехатою. Вельмі цікавая старонка. Учора начавала ў Norrköping, фабрычны горад. Сёньня начуема ў Norsholm пры самым Göta канале каля возера Roxen, тры гадзіны паедзем цераз возера параходам. [...] Усяго найлепшага пасылаю з Göteborg. У дарозе вельмі дрэнна вядзецца: маю бабу-таварку муж адрывае дахаты, змаркоціўся, каб яго маланка. Мусіць, адна пайду па Нарвэгіі ... »*

Акурат у Стакгольме ўпершыню на міжнароднай арэне прагучала патрабаваньне незалежнасьці Беларусі. У красавіку 1916 г. беларускія лідары Іван Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі выступілі на міжнароднай канфэрэнцыі «Народы Расеі», якая ладзілася ў Швэцыі, з абгрунтаваньнем палітычнай ды культурнай аўтаноміі Беларусі [Miranovich 1999:25].

За кароткі час існаваньня Беларускай Народнай Рэспублікі (1918) у Капэнгагене працавала дыпляматычнае прадстаўніцтва БНР у Скандынавіі. Кіраўнік місіі Ісак Лур'е ведаў швэдзкую мову [Archivy BNR].

У паваенным часе ў Швэцыі існавала суполка беларусаў «Vitryssland societet».

26 красавіка 1986 г. «Радыё Швэцыі» першым у сьвеце агучыла жудасную навіну пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС. Нагадаю, што тадышнія афіцыйныя ўлады Масквы й Менску схавалі гэтую інфармацыю ад грамадзтва.

Швэцыя адной зь першых краінаў сьвету прызнала незалежнасьць Беларусі 14 студзеня 1992 г. Акурат з гэтага часу пачаўся новы, пасьля XVII–XVIII стст., пэрыяд сталых кантактаў паміж дзьвюма краінамі й народамі.

## 4.1. Першая манаграфія пра гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў: Яўстах Ганоры Тышкевіч і ягоныя «Лісты аб Швэцыі» (1846)

Цікавы гэты край Швэдзкі!
ЯЎСТАХ ТЫШКЕВІЧ, 1843

Аўтарам першай і адзінай дагэтуль працы з гісторыі беларуска-швэдзкіх дачыненьняў ёсьць Яўстах Ганоры Тышкевіч (06.04.1814, Лагойск – 27.08.1873, Вільня), граф з Лагойску, заснавальнік беларускай археалёгіі, музэязнаўства, гісторык, этноляг.

Асоба й творчы даробак Яўстаха Тышкевіча, як часам і ўся спадчына Вялікага Княства Літоўскага, сёньня вельмі па-рознаму трактуюцца ў летувіскай, польскай і беларускай гістарыяграфіях. Летувісы ўважаюць Тышкевіча за знанага летувіскага гісторыка, аўтара кнігі пра Біржы (адно з уладаньняў роду Тышкевічаў у XIX ст.), выдадзенай у перакладзе на летувіскую мову ў 1998 годзе.

Палякі лічаць Тышкевіча выдатным дзеячом польскай навукі й культуры ў Літве XIX ст. [Antonenko 2000].

Але для нас відавочная беларускасьць Тышкевічаў. Яны належалі да разгалінаванага магнацкага «рускага» (беларуска-ўкраінскага) роду Вялікага Княства Літоўскага. У другой палове XVI ст. прадстаўнікі Тышкевічаў займалі важныя дзяржаўныя пасады. Васіль Тышкевіч быў ваяводам падляскім, потым смаленскім, ягоны сын Юркгі (Юры) Тышкевіч – кашталянам менскім, потым ваяводам берасьцейскім. Навагрудзкі ваявода Фёдар Скумін-Тышкевіч быў заснавальнікам Віленскага праваслаўнага брацтва Сьв. Духу, якое яднала заможных віленскіх купцоў і тамашнюю праваслаўную шляхту. Тады бараніць беларускае праваслаўе ад уніі памкнулася багата шляхты: *«...з кола рыцарскага брацьці нашае ня мала»* [Kotliarchuk 1998:7–25]. Сямейны склеп Тышкевічаў месьціцца ў віленскай царкве Сьв. Тройцы. Бацька Яўстаха Тышкевіча Піюс Тышкевіч – апошні рэфэрэндар ВКЛ.





Беларуская галіна роду Тышкевічаў дала ў XIX ст. археоляга Яўстаха Тышкевіча й этноляга Канстанціна Тышкевіча. Украінская галіна Тышкевічаў дала ў XX ст. вядомага грэка-каталіцкага сьвятара Станіслава Тышкевіча й амбасадара Ўкраінскай Народнай Рэспублікі ў Францыі (1918–1921) Міхайлу Тышкевіча.

Яўстах Тышкевіч, гадунец Менскай гімназіі, усё жыцьцё разрываўся паміж Вільняй і радавым маёнткам у Лагойску. Абодва браты, Яўстах і Канстанцін, дачыненьняў зь летувіскім нацыянальным рухам першай паловы XIX ст. ня мелі, летувіскай мовай добра не валодалі. Што да беларускай мовы, дык ведалі яе лепш і шмат цытавалі ў сваіх творах.

Тышкевічы сьвядома ўжывалі выразы «наша Літва», «наша Літва й Беларусь» [Tyszkiewicz, J.1846-II:160], «Руская Літва» [Tyszkiewicz, K. 1865:62], разумеючы пад «нашаю Літвою» сучасную заходнюю й цэнтральную Беларусь зь Менскам улучна.

Такім чынам, летувісам у сучасным сэнсе гэтага слова Тышкевіч ня быў, гістарычным ліцьвінам – нашчадкам супольнай беларуска-літоўскай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага – безумоўна.

Навуковыя працы Я.Тышкевіч пісаў па-польску й па-расейску – на літаратурных мовах нашага краю ў XIX ст. Ня быў Тышкевіч і польскім нацыяналістам. Каб зьняць гэтае пытаньне, дамо слова Мікалаю Кастамараву, які сябраваў зь Я.Тышкевічам: *«Яўстах Тышкевіч разам з Уладзіславам Сыракомлем і Адамам Кіркорам стварылі віленскі гурток краёвых патрыётаў. Гэты гурток выклікаў вялікую нянавісьць тамтэйшых польскіх патрыётаў, якія бачылі ў ягонай дзейнасьці здраду агульнапольскай справе»* [Kostomarov Avtobiografiia http://tuad.nsk.ru/~history/Author/Russ/K/KostomarovNI/avtobiog/glava10.htm].

Згодна з Тышкевічавым тастамэнтам надпіс на яго помніку на віленскіх могілках «Росы» зрабілі кірыліцай. Для беларускай шляхты ў XIX ст. гэта было не саступкай русыфікацыі, хутчэй, вяртаньнем да сваіх каранёў. Характэрна, што расейцы рукамі віленскага губэрнатара М.Мураўёва-«вешальніка» зьвялі на глум справу жыцьця Я.Тышкевіча – Віленскі музэй старажытнасьцяў.

Апошнім часам у сэрыі «Нашы славутыя землякі» выдадзена кніга пра жыцьцё й дзейнасьць Я.Тышкевіча [Kakhanouski, H., Kakhanouski, A. 1992]. Але дагэтуль ніводная навуковая праца Я.Тышкевіча ў Беларусі не перавыдадзена. Што да кнігі «Лісты аб Швэцыі» віленскага выданьня 1846 г., дык яе наагул бракуе ў кнігазборах краіны.



*61. Беларуская шабля XVII ст. З збораў зброі замку Скуклостэр (Skoklosters slott).*

У пляне зьместу праца Я.Тышкевіча складае тры часткі. Першая – гэта аповед пра ўнівэрсытэцкую навуку, бібліятэкі й музэі Швэцыі. Другая прысьвечана беларускім калекцыям у зборах Швэдзкага каралеўства. Нарэшце, апошняя прысьвечана аналізу гісторыі беларуска-швэдзкіх дачыненьняў. Відаць таму, што Я.Тышкевіч першы зьвярнуўся да гэткай тэмы ды разьлічваў на працяг дасьледаваньняў, ён адмовіўся ад жорсткай структуры тэксту. Праца нагадвае хутчэй навуковы дзёньнік, што адпавядае ейнаму назову.

Пачаў сваё падарожжа 1843 г. Я.Тышкевіч з Даніі. У Швэцыі першым прыпынкам быў багаты сваімі традыцыямі ўнівэрсытэт Люнда/Lunds Universitet (заснаваны ў 1666 годзе). У Люндзе Я.Тышкевіч пазнаёміўся зь вядомым швэдзкім археолягам і заолягам, прафэсарам натуральнай гісторыі Свэнам Нільсанам (Sven Nilsson, 1787–1883), агледзеў музэй, кнігазборы. Ува ўнівэрсытэцкай кніжніцы Я.Тышкевіч адшукаў унікальныя швэдзкія ўлёткі часоў Вялікай Паўночнай вайны ў Беларусі [I:178].

Наступным пунктам у вандроўцы быў замак Скуклостэр, што месьціцца ля Стакгольму. Замак мае найлепшую ў Швэцыі калекцыю эўрапейскай зброі XVII ст. і выдатную бібліятэку. Сярод зброі Я.Тышкевіч атрыбутаваў беларускія парадныя шаблі, упаасобку так званую «шаблю-карабелю». Там жа Я.Тышкевіч выявіў поўны камплект узбраеньня літоўскага лятучага гусара XVII ст., які захаваўся да сёньня. За 147 гадоў наступны беларускі дасьледнік, аўтар гэтых радкоў, трапіў у зачынены для турыстаў збройны арсэнал Скуклостэра. На маё пытаньне, ці





ёсьць у зборах шляхоцкія шаблі зь Літвы, захавальнік калекцыі адразу адказаў «так» ды паказаў дакладнае месца. Адбылося гэта дзякуючы карэктнай атрыбуцыі беларускай зброі, якую зрабіў калісьці Я.Тышкевіч.

Сярод рукапісаў Скуклостэра Тышкевіч выявіў 83 манускрыпты зь Вялікага Княства Літоўскага XVII ст., сярод якіх унікальная «Інструкцыя на сойм вальны ў Варшаву пана Яна Пятру Сапегу, старасту ўсьвяцкаму» (№6 ад 17.09.1611), малавядомы старабеларускі лацінамоўны верш «Пра адбіцьцё Смаленску» 1634 г. [1:116].

У Стакгольме Я.Тышкевіч атрыбутаваў шэраг старабеларускіх экспанатаў з Каралеўскага замку, між іншым, рызу грэка-каталіцкага біскупа пачатку XVIII ст. Юр'я Вініцкага, якая праходзіла, нягледзячы на вышыты на ёй герб Сас, як адзежа «патрыярха Расейскага», захопленая швэдамі нібыта ў Нарве ў 1700 годзе. Як слушна заўважыў Я.Тышкевіч, Нарва ніколі ня мела свайго ўладыкі, ня кажучы пра патрыярха. Таксама ў Каралеўскім замку Я.Тышкевіч агледзеў булаву з ВКЛ, якая *«была здабытая не на полі бітвы, але ў прыватным парадку, бо мела аўтэнтычны футарал»* (I:166).

У Стакгольме Я.Тышкевіч меў шэраг прыватных сустрэчаў. Між іншым, зь сябрам, былым прафэсарам палеанталёгіі Віленскага ўнівэрсытэту Эдуардам Эйхвальдам (Eduard Eichwald), які пасьля ліквідацыі ўнівэрсытэту ў Вільні вымушаны быў працаваць у розных навучальных установах Эўропы. Адбылася таксама сустрэча з францускім кампазытарам Гектарам Бэрлёзам (Hector Berlioz). Рэдкага госьця зь Літвы-Беларусі запрасіў на прыватную аўдыенцыю сам кароль Швэцыі, заснавальнік дынастыі Карл XIV Ёхан Бэрнадот (Karl XIV Johan Bernadotte). Падчас сустрэчы высьветлілася, што кароль быў *«цудоўным знаўцам нашае Літвы [...] размаўляў пра справы нашага краю зь вялікай дасьведчанасьцю»* [II:98]. Крыніцай грунтоўных ведаў швэдзкага караля быў граф з Лагойску, бацька Я.Тышкевіча – Піюс Тышкевіч (!), бо за часоў свайго побыту ў Францыі малады Карл Бэрнадот сябраваў з панам Тышкевічам, які меў у Парыжы гасьцінны дом [Тамсама]. У Стакгольме Я. Тышкевіча абралі сябрам Каралеўскай акадэміі літаратуры, гісторыі й старажытнасьцяў (Kungliga Vitterhets Historia och Antikvitets Akademien).

У Гётэборгу (Göteborg) Я.Тышкевіч адведаў мясьціны, павязаныя з Тадэвушам Касьцюшкам. Як вядома, падчас падарожжа Касьцюшкі з

Санкт-Пецярбургу ў 1796 годзе ён з-за хваробы затрымаўся ў Швэцыі. Я.Тышкевіч завітаў у дом, дзе спыняўся Касьцюшка. Гаспадар дому, які хлопчыкам пазнаёміўся з Касьцюшкам (апошні вучыў яго маляваньню), паказаў верш-панэгірык, прысьвечаны Касьцюшку, творцам якога быў будучы лютэранскі біскуп вядомы швэдзкі паэт) Франц Мікалай Франзэн/Frans Mikael Franzen. Швэдзкі верш у гонар Касьцюшкі меў назоў «Under Kosciuzkoz porträtt. 1796» («Да партрэту Касьцюшкі»).

У гатэлі места Трольхэтан (Trollhättan) Я.Тышкевіч агледзеў запіс, зроблены Касьцюшкам у кнізе ганаровых гасьцей: «Dien benisse cette bonne et brave nation. T.Kościuszko» («Хай Бог праслаўляе гэтую добрую й адважную нацыю» [II:35–36]).

Магчыма, акурат у Швэцыі да Я.Тышкевіча прыйшла думка заснаваць Віленскі музэй старажытнасьцяў, бо ў пляне аховы старажытных памятак Швэцыя была тады эўрапейскім лідарам.

Вельмі цікавыя старонкі прысьвечаныя гісторыі беларуска-швэдзкіх дачыненьняў. Я.Тышкевіч надаў шмат увагі перадусім часу вікінгаў і падзеям Вялікай Паўночнай вайны. Зыходзячы з досьведу ўласных археалягічных пошукаў, ён адзначыў вялікую колькасьць вараскіх знаходак і рунічных надпісаў на абшарах колішняй Полацкай зямлі.

Досыць інтрыгуючымі выглядаюць Тышкевічавы разважаньні пра паралелі паміж беларускім і скандынаўскім фальклёрам. Гэтак беларусы й швэды маюць супольнае сьвята Купальле (Midsommar). Кажучы пра калядныя звычаі забіцьця й смаленьня вепрука ды жыта на абрусе, Я. Тышкевіч піша, што швэды маюць такі самы звычай. Да таго ж яны захавалі сэнс абраду. Чаму вяпрук зьяўляецца сымбалем ураджаю? Бо якраз ён, рыючы лычом зямлю, паказаў людзям прыклад, як карыстацца нарогам [II:106].

Пры канцы вясны скандынавы сьвяткавалі дзень бога Одына, прынасячы яму ў ахвяру коней. Як заўважыў Я.Тышкевіч, беларускія сяляне не пускаюць у гэты дзень на пашу коней, бо перакананыя, што яны загінуць [Тамсама].

Вялікую вартасьць маюць старонкі, прысьвечаныя Вялікай Паўночнай вайне ў Беларусі. У сутнасьці, яны ўяўляюць сабой першую ў Новым часе беларускую трактоўку падзеяў гэтай вайны. Да таго ж Я.Тышкевіч выкарыстоўваў унікальныя крыніцы, у прыватнасьці, пісаныя ў Беларусі дакумэнты швэдзкай вайсковай адміністрацыі, акты Віленскай каталіцкай капітулы, дзёньнік менскага шляхціца Аляксандра Мацкевіча.





Між іншым, Я.Тышкевіч даў сваю ацэнку падзелу беларуска-літоўскай магнатэрыі на «прашвэдзкую» й «прарасейскую». На ягоную думку, Сапегі гатовыя былі заняпад свайго роду абмыць у братняй крыві Вішнявецкіх, Агінскіх, Пацаў. У сваю чаргу, Агінскія ўзялі бок Аўгуста II і расейцаў *«не зь перакананьняў, але толькі таму, каб не падаваць рукі ў швэдзкім лягеры Сапегам»* [II:161].

Наагул, бачыны Тышкевічавай кніжкі, прысьвечаныя Вялікай Паўночнай вайне ў Беларусі, маюць вялізную вартасьць, бо бальшыня з крыніцаў, якімі карыстаўся аўтар, сёньня ўжо згубленыя.

Цягам другой паловы XIX–XX ст. праца Я.Тышкевіча адзіная, якая знаёміла беларуса з роляй Швэцыі ў нашай гісторыі. Спадзяюся, што яна будзе перавыдадзеная беларускімі выдаўцамі.

## 4.2. Суполка «Беларуская Грамада» ў Швэцыі (1948–1975)

Адной з малавядомых старонак гісторыі нашай дыяспары ёсьць дзейнасьць беларускай суполкі «Vitryssland societet» у Швэцыі ў 1948–1975 гг.

Стваральнікам суполкі быў Васіль Лукашык, таму варта трохі распавесьці пра гэтага чалавека ды ягоных сяброў.

Нарадзіўся Васіль Лукашык у 1905 годзе (за пашпартам – 1911 г.) на Сакольшчыне. Меў бацьку беларуса і матку расейку, дзявочае прозьвішча якой было Цьвярдынская (Твердынская). Гадаваўся ў Беластоку. Пры польскай уладзе В.Лукашык там скончыў расейскую гімназію, потым вывучаў паліталёгію ў Віленскім унівэрсытэце імя Сьцяпана Батуры. У Вільні Лукашык бярэ актыўны ўдзел у беларускім руху, сябруе зь земляком Станіславам Грынкевічам.

З прыходам Саветаў Лукашык стварае на Беласточчыне сетку беларускіх школак. Неўзабаве яго прызначаюць загадчыкам Беластоцкага дзіцячага дому. Зь цягам часу дом перапаўняюць дзеткі рэпрэсаваных саветамі бацькоў (палякаў, беларусаў, жыдоў, расейцаў).

Захапіўшы Беласток, немцы зачынілі дзіцячы дом, да таго ж на вачох дзетак разбураюць клюмбу з кветкамі ў форме «зоркі». Ствараючы цывільную адміністрацыю, немцы ставяць Лукашыка бурмістрам Бе-



*62. Стваральнік суполкі «Vitryssland societet» Васіль Лукашык.*

ластоку. Але па даносу ён быў арыштаваны гестапа й адпраўлены да канцэнтрацыйнага лягеру Асьвенцім («Аўшвіц»). З Асьвенціму Васіль Лукашык уцёк. У Варшаве набыў фальшывыя паперы, але падчас чарговай нацысцкай «зачысткі» быў злоўлены й адпраўлены на прымусовую працу ў Нарвэгію. За Палярным колам разам з палоннымі (перадусім савецкімі й польскімі жаўнерамі) Лукашык будаваў стратэгічна важную для нацыстаў дарогу. Тут, у лягеры, ён стварае беларускую групу. У 1944 годзе сябры групы ў складзе 10 чалавек чыняць пасьпяховыя ўцёкі зь лягеру праз горы ў Швэцыю. Так пачынаецца швэдзкі пэрыяд ягонай эміграцыі.

У 1948 годзе Васіль Лукашык як прадстаўнік беларускае грамады ў Швэцыі быў дэлегатам Першага сусьветнага зьезду беларускай паваеннай эміграцыі, які адбыўся ў Парыжы з 28 лістапада па 2 сьнежня.

Выконваючы пастанову зьезду, у тым самым годзе Лукашык разам зь сябрам Язэпам Федарчуком засноўвае «Беларускую Грамаду»/«Vitryssland societet» у Швэцыі. Суполка атрымлівае юрыдычную рэгістрацыю, выдае статут Грамады па-швэдзку й па-беларуску, публікуе свае адозвы ў СМІ.

У 1949 годзе «Беларуская Грамада» дапамагла зладзіць у Мальмё выставу выдатнага беларуска-фінскага мастака Аляксандра Ахола-Вало (Aleksanteri Ahola-Valo, 1900–1998), які з 1939 да 1950 г. жыў у Швэцыі. Трэба трохі больш сказаць пра гэтага мастака. У 1920–1932 гг. Аляксандар Ахола-Вало жыў у Беларусі, вучыўся ў славутай Віцебскай мастацкай школе. Браў удзел у беларускім руху, працаваў у Інбелкульце, кіраваў суполкай мастакоў «Прамень».

Як этнічны фін у 1932 годзе быў дэпартаваны з СССР. Аляксандар Ахола-Вало – добра вядомы ў Скандынавіі мастак, ён валодаў беларускай, фінскай, швэдзкай мовамі. У 1995 г. наведаў Беларусь, «родны Менск», паводле ягонага выразу, браў удзел у II міжнародным кангрэсе беларусістаў, марыў уладкаваць уласную выставу ў Беларусі [Kipel 1998].

Праца суполкі йшла цяжка. Моцная польская суполка перацягвала ўсіх беластоцкіх беларусаў (а менавіта яны складалі бальшыню сярод нашых суродзічаў у Швэцыі) да сябе, на падставе іх былога польскага





грамадзянства. Расейская суполка цягнула да сябе, выкарыстоўваючы тую акалічнасьць, што беларусы былі парафіянамі расейскай праваслаўнай царквы ў Стакгольме. Але дзякуючы непахіснай упартасьці, кіраўнічаму таленту Лукашыка й Федарчука беларусы здолелі згуртавацца, працаваць і захаваць сваю арганізацыйную структуру на чужыне, якая воляю лёсу стала новай Радзімай. Сябры суполкі ладзілі рэгулярныя сустрэчы, штогадовыя вячэры, прысьвечаныя Дню Волі (25 сакавіка). Грамада падтрымлівала сувязі з дыяспарай ЗША й Аўстраліі, атрымлівала беларускія газэты й часапісы. Лукашык асабіста супрацоўнічаў з выдаванай у Нью-Ёрку газэтай «Беларус» і яе тагачасным галоўным рэдактарам Станіславам Станкевічам.

17 сакавіка 1975 г., за тыдзень да чарговых угодкаў БНР, Васіль Лукашык раптоўна памёр. З прычыны ягонай сьмерці газэта «Беларускі голас» (№ 232 за 1975 г.) зьмясьціла нэкралёг:

Сьв. † пам.<br>ВАСІЛЬ ЛУКАШЫК<br>былы дзеяч БСР Грамады і Таварыства Беларускае Школы<br>ў Беластоку. Былы Бурмістар Беластоку. Арганізатар<br>«Беларускай Грамады» ў Скандынавіі. Сябра Камітэту<br>Вольнае Беларусі, памёр раптоўна 17-га сакавіка 1975 году<br>ў Густаўбэргу ў Швэдыі. Паходзіў з Сакольшчыны.<br>Хай будзе яму лёгкай чужая зямля!

Сябры

Адыходзілі ў іншы сьвет старыя сябры суполкі...

Так сталася, што на час заснаваньня новай беларускай суполкі «Vitryssland», якая паўстала ў 1998 годзе ў Швэцыі, яе папярэдніца спыніла існаваньне. Але высілкі ейных сяброў не прайшлі марна. Новай генэрацыі беларусаў у Швэцыі пачынаць справу было значна лягчэй, бо за ёю была Гісторыя.

## 4.3. Швэдзкая літаратура ў сучаснай Беларусі

Яшчэ напачатку XX ст. Максім Багдановіч пераклаў на нашую мову ўрывак з паэмы швэдзка-фінскага паэта Людвіка Рунэбэрга (Ludvig Runeberg) «Паво з Садыярві». Але да здабыцьця Беларусяй незалежнасьці адна з найбагатшых эўрапейскіх літаратураў – швэдзкая – была слаба прадстаўленая ў беларускіх перакладах.

Праз расейскія пераклады беларускі чытач мог пазнаёміцца з творчасьцю Аўгуста Стрындбэрга (August Strindberg) ды Астрыд Ліндгрэн (Astrid Lindgren). Імёны й творчасьць шасьцёх (!) швэдзкіх ляўрэатаў Нобэля заставаліся невядомымі.

Толькі зь сярэдзіны 1980 – пачатку 1990 гг. аднавіўся натуральны творчы дыялёг паміж Швэцыяй і Беларусяй.

У 1986 годзе былі апублікаваныя творы ляўрэата Нобэля 1951 г. швэдзкага празаіка Пэра Лягерквіста (Pär Lagerkvist) «Кат», «Карлік», у 1990 г. – апавяданьне Муі Марцінсан (Moa Martinson) «Мама выходзіць замуж».

У 1990 годзе зьяўляецца першы пераклад на беларускую мову «Браты Ільвінае Сэрца» Астрыд Ліндгрэн. У 1992 годзе альманах «Далягляды» друкуе вершы ляўрэата Нобэля 1916 г. Вэрнэра вон Гейдэнстама (Verner von Heidenstam). У 1994 годзе часапіс «Крыніца» знаёміць чытача з творчасьцю швэдзкага пісьменьніка сярэдзіны XX ст. Стыга Дагэрмана (Stig Dagerman). Усе гэтыя пераклады выкананыя Лявонам Баршчэўскім.

З 1997 г. зьяўляюцца пераклады з швэдзкай літаратуры Валера Буйвала. У часапісе «Крыніца» друкуецца пераклад навэлы Вільгельма Мубэрга (Vilhelm Moberg) «Зямля здраднікаў». У 1997 годзе ўпершыню па-беларуску перакладзены твор ляўрэаткі Нобэля 1909 г. швэдзкай пісьменьніцы Сэльмы Лягерлёф (Selma Lagerlöf) «Пярсьцёнак Лёвэншольдаў». У 1999 годзе часапіс «Крыніца» ўпершыню на беларускай мове публікуе творы клясыка швэдзкай літаратуры Аўгуста Стрындбэрга «Сон» ды «Сага Сэн Гатарда» ў перакладзе Валера Буйвала. Пры апецы Швэдзкага Інстытуту, перадусім супрацоўніцы гэтай установы ў Менску Кайсы Ёбэрг Ліндстэн (Kajsa Öberg Lindsten), у 1999 годзе ўбачыў сьвет зборнік «4+4+4. Швэдзкая й беларуская паэзія. Сустрэча паэтаў у Менску. Люты 1999». Гэтая кніга зьмяшчае ўзаемныя пераклады беларускіх і швэдзкіх літаратараў. Да прыкладу, Алесь Разанаў пераклаў вершы Кэнэта Клемэца (Kennet Klemets) і Крыстафора Леандоэра (Kristoffer Leandoer). Апавяданьне Агнэты Плэель (Agneta Pleijel) «Хто назірае вецер» пераклаў Рыгор Барадулін.

У 1999 годзе ў прыватным менскім выдавецтве «Гронка» выдадзены зборнік паэзіі Крыстафора Леандоэра «Вершы для Эльзы», у якім Рыгор Барадулін зьмясьціў прысьвячэньне швэдзкаму паэту:

Мы землякі па халадэчы,
Па рыфмах хісткіх дружбакі.
Відаць, яшчэ зь Сярэднявечча
Ў Стакгольме крумкаюць крукі.

А верас мой на баравіне
Нардычным позіркам гарыць.
Ня ведаю, як на лаціне, –
Па-швэдзку ўмее гаварыць.

У 2000 годзе пяты нумар часапіса «Полымя» надрукаваў у перакладзе Лявона Баршчэўскага вершы сучасных швэдзкіх паэтаў Інгі-Ліны Ліндквіст (Inga-Lina Lindkvist) і Хокана Сандэла (Håkan Sandel). Рыхтуюцца да друку таксама вершы Томаса Транстромэра (Tomas Tranströmer).

З 2000 г. у навучальную праграму беларускай сярэдняй школы (8-я кляса) уваходзіць скандынаўская гераічная сага «Старэйшая Эда».

Нарэшце, у 2000 годзе для дзетак-беларусаў у Вільні коштам аўстрыйскіх грамадзянаў (!) накладам 10 000 асобнікаў выдадзена апавяданьне славутай Астрыд Ліндгрэн «Усе нашы дзеці з Булербю» ў перакладзе Л.Баршчэўскага.

Такім чынам, за кароткі тэрмін (1986–2001) дзякуючы ў асноўным альтруістычным высілкам перакладнікаў швэдзкая літаратура патроху становіцца даступнай беларускаму чытачу.

Але глыбокае знаёмства з творчасьцю Аўгуста Стрындбэрга, Астрыд Ліндгрэн, Сэльмы Лягерлёф яшчэ наперадзе. Невядомай у Беларусі застаецца творчасьць ляўрэатаў Нобэля 1974 г. паэтаў Эйвінда Ёнсана (Eyvind Johnson) і Гары Марцінсана (Harry Martinson), ды так-

сама ляўрэата Нобэля 1931 г. празаіка Эрыка Аксэля Карльфэльда (Erik Axel Karlfeldt).

## 4.4. «Швэцыя» ў Беларусі й «Беларусь» у Швэцыі: агляд сучасных культурных і гуманітарных дачыненьняў

10 гадоў таму, 14 студзеня 1992 г., Каралеўства Швэцыя ўстанавіла дыпляматычныя зносіны з Рэспублікай Беларусяй. Швэцыя адна зь першых краінаў сьвету, якая прызнала незалежнасьць нашай краіны. У лістападзе 1999 г. была адчынена амбасада Беларусі ў Швэцыі.

На жаль, дагэтуль Беларусь (Vitryssland) (нагадаем, у зваротным перакладзе з швэдзкай гэта гучыць як «Белая Расея») застаецца для швэдзкага грамадзтва малавядомай і экзатычнай краінай Эўропы. Цікавасьць простых швэдаў да Беларусі абуджаюць выпадковыя падзеі.

Калі палітычныя стасункі паміж нашымі краінамі – не па віне Швэцыі – цяпер знаходзяцца ў замарожаным стане, то гэтага нельга сказаць пра гуманітарныя сувязі паміж прадстаўнікамі нашых народаў.

Галоўнай швэдзкай фундацыяй, якая падтрымлівае культурныя й навуковыя праекты з замежнымі краінамі, ёсьць Швэдзкі Інстытут (SI – Svenska Institutet; www.si.se), добра вядомая ў сьвеце аўтарытэтная дзяржаўная ўстанова Швэцыі. Асноўнай мэтай Швэдзкага Інстытуту ёсьць пашырэньне ведаў пра Швэцыю за мяжой краіны ды разьвіцьцё культурных і навуковых кантактаў паміж Швэцыяй ды іншымі краінамі эўрапейскай супольнасьці, перадусім дзяржавамі Балтыкі.

У 1999 годзе Швэдзкі Інстытут у межах праекту «Сяброўства дзеля культуры» (Partnership for Culture) выдаў шэраг кнігаў, прысьвечаных Беларусі. Да прыкладу, зборнік беларускай сучаснай паэзіі ў перакладзе на швэдзкую мову «Åtta vitryska poeter» («Восем беларускіх паэтаў») зь вершамі Алеся Разанава, Ніны Мацяш, Рыгора Барадуліна ды іншых. У тым самым годзе выйшла кніга ўраджэнца Беларусі (Пінску) знакамітага польскага падарожніка Рышарда Капусьцінскага «Вандроўка ў Пінск» («A visit to Pinsk»). Швэдзкім Інстытутам выдадзена вялікая мапа Швэцыі на беларускай мове. Таксама на беларускай мове падрыхтаваны шэраг выданьняў пра гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў, аўтарамі якіх зьяўляюцца Шэль Абрагамсон (Kjell Albin Abrahamson) і Андрэй Катлярчук.





У 2000 годзе Швэдзкі Інстытут прыняў прынцыпова важнае што да Беларусі рашэньне: у ягонай дзейнасьці Рэспубліка Беларусь лічыцца краінай Балтыцкага абшару. Гэта значыць, што ў актыўнасьці Швэдзкага Інстытуту навуковыя й культурныя праекты зь Беларусі маюць разам з краінамі Балтыкі, Польшчы, Нямеччыны, Паўночна-Заходняй Расеі першачарговую значнасьць.

У жніўні 2001 г. пры падтрымцы Швэдзкага Інстытуту ў менскім Музэі сучаснага мастацтва адбылася першая выстава швэдзкіх мастакоў. Пасьля, згодна з гэтым праектам, тры выставы беларускіх мастакоў прайшлі ў Швэцыі. Галоўны рэжысэр Нацыянальнага тэатру імя Янкі Купалы Валеры Раеўскі, працуючы над пастаноўкай выдатнай п'есы Аўгуста Стрындбэрга «Эрык XIV», наведаў у жніўні 2001 г. Швэцыю.

Сёньня ў Швэцыі найбольш вядомы імёны трох беларусаў. Гэта першы прэзыдэнт краіны Аляксандар Лукашэнка, выдатны спартоўца Ўладзімер Самсонаў і, канечне, народны пісьменьнік Васіль Быкаў. У 1990 годзе Швэдзкі Інстытут выдаў чарговую кнігу В.Быкава «Кар'ер» (Vasil Bykau. Grustaget). За апошні час шэраг артыкулаў пра Васіля Быкава надрукавалі буйныя швэдзкія газэты (Uppsala Nye Tidningen, Östergöta Correspondenten, Norrköpings Tidningar). Літаратурны крытык Стэфан Скот (Staffan Skot) у артыкуле пра творчасьць Васіля Быкава піша, што пісьменьнік, безумоўна, ёсьць найвыдатнейшым празаікам сусьветнай літаратуры, які цалкам адышоў ад гераічнай тэмы, каб насьледаваць старажытнаму правілу рыторыкі: *«Калі табе сапраўды ёсьць што сказаць, гавары ціўшэй, і тады цябе будуць слухаць»*. З словаў аўтара, Быкаў адкрыў для чытача сапраўдную атмасфэру вайны зь яе гратэскным абсурдам па-за межамі чалавечай штодзённасьці. У верасьні 2000 г. вялікае інтэрвію Васіля Быкава журналісту Мікаэлю Вінярскаму (Michael Winiarski) надрукавала буйнейшая газэта Швэцыі «Dagens Nyheter». У 1990 г. у перакладзе на швэдзкую мову пабачылі сьвет творы Алеся Адамовіча. У 1997 г. па-швэдзку выйшаў з друку раман Сьвятланы Алексіевіч «Чарнобыльская малітва» (Bön för Tjernobyl), за які годам раней яна атрымала прэмію Швэдзкага ПЭН-клюбу. Вядомы швэдзкі рэжысэр Ян Даніэльсан (Jan Danielson) зьняў стужку пра Белавескую пушчу.

Існаваньне незалежнай Беларусі на палітычнай мапе Эўропы патроху абуджае зацікаўленасьць у навуковых колах Швэцыі. У 1997 годзе доктар філязофіі Барбара Торнквіст-Плева (Barbara Törnquist-Plewa) з унівэрсытэту Люнду падрыхтавала і выдала першую навуковую манаграфію пра гісторыю Беларусі й беларускую мову (Sprek och identitet i Vitryssland). Кніга імгненна зьнікла з паліцаў кнігарняў, таму ўжо ў 2001 годзе выйшла другім накладам.

У 1999 годзе вядомы швэдзкі журналіст Шэль Абрагамсон, які значны час працаваў у Беларусі, падрыхтаваў папулярную кнігу пра Беларусь ды гісторыю беларуска-швэдзкіх дачыненьняў (Vitryssland: 89 millimeter från Europa). Яна таксама хутка зрабілася бібліяграфічнай рэдкасьцю. Швэдзкім Інстытутам рыхтуецца другое выданьне гэтай кнігі пашвэдзку, па-беларуску й па-расейску.

Шмат артыкулаў, прысьвечаных сучаснай моўнай сытуацыі ў Беларусі апублікаваў прафэсар, дырэктар Інстытуту Славістыкі Ўпсольскага ўнівэрсытэту Свэн Густаўсан (Sven Gustavsson). Беларускую літаратуру перакладае на швэдзкую мову Кайса Ёбэрг Ліндстэн (Kajsa Öberg Lindsten) і Зьміцер Плакс (Dmitry Plax). У сваю чаргу, як ужо гаварылася, у Беларусі швэдзкую літаратуру перакладаюць Лявон Баршчэўскі ды Валер Буйвал.

Улетку 2001 г. на Беласточчыне фундацыя «Villa Sokrates» на чале зь вядомым беларускім і польскім пісьменьнікам Сакратам Яновічам зладзіла навуковую канфэрэнцыю «Беларусь – Швэцыя – Расея: трыялёг культур» з удзелам беларускіх ды швэдзкіх гуманітароў.

З 1998 г. у Швэцыі працуе беларуская суполка «Vitryssland-Беларусь», ачольвае якую вядомая швэдзкая фотажурналістка Марыя Сёдэрбэрг (Maria Söderberg). Акурат гэтае грамадзкае аб'яднаньне папулярызуе зьвесткі пра Беларусь і беларускую культуру ў Швэцыі, упаасобку праз свой зьмястоўны сайт у Сеціве (www.vitryssland.nu), а таксама ладзячы шматлікія сэмінары й вячоркі. У гасьцёх «Vitryssland» былі Васіль Быкаў, Алесь Разанаў, Уладзімер Някляеў, Павел Шарамет. Дзякуючы дзейнасьці «Vitryssland» больш за 10 швэдзкіх грамадзкіх арганізацыяў знайшлі партнэраў у Беларусі ды распачалі гуманітарныя праекты.

Вялікая колькасьць швэдзкіх фундацыяў падтрымлівае гуманітарныя праекты ў Беларусі. Сярод найбуйнейшых «Швэдзкае міжнароднае агенцтва разьвіцьця супрацоўніцтва» – «SIDA» (www.sida.se), якое нядаўна прафінансавала ачыстку Дзьвіны-Даўгавы. Шэраг праектаў мае





«Швэдзкі цэнтар разьвіцьця няўрадавых аб'яднаньняў» – «Forum Syd» (www.forumsyd.se). Напрыклад, разам з грамадзкім аб'яднаньнем «Калегіюм» (Пінск) «Forum Syd» цяпер ажыцьцяўляе праект па барацьбе з наркаманіяй у Беларусі. Падтрымкай дэмакратычных рухаў у Беларусі займаецца «Міжнародны цэнтар Улафа Пальмэ» (Olof Palmes Internationälla centrum; www.palmecenter.se).

Мэта ўсіх фундацыяў – дапамагчы беларусам стварыць актыўнае, дэмакратычнае, некарумпаванае грамадзтва.

Сёньня сталыя сувязі зь Беларусяй маюць шэраг звычайных швэдзкіх няўрадавых аб'яднаньняў. Часта па першым азнаямляльным візыце яны пачынаюць дапамагаць сваім партнэрам у Беларусі. Да прыкладу, швэдзкая недзяржаўная арганізацыя «Дапамога Эрыка» (Erikshjälpen) падаравала раённай больніцы Бярозы новы самаход «хуткай дапамогі» маркі «Вольва», лекі ды мэдычнае абсталяваньне. Швэдзкая партыя «зялёных» (Miljöpartiet de Gröna) разам зь беларускай экалягічнай арганізацыяй «Экалайн» з 1997 г. праводзіць праект, мэта якога – барацьба з наступствамі чарнобыльскай катастрофы. Швэдзкая арганізацыя пэнсіянэраў «PRO» (пэнсійны ўзрост у Швэцыі для мужчынаў і кабет – 65 гадоў) навязала кантакты з пэнсіянэрскімі арганізацыямі Віцебску.

З кастрычніка 2001 г. Рада беларускіх маладзёвых суполак разам з нацыянальнай радай моладзі Швэцыі распачала двухгадовы адукацыйны праект «Wake-up» («Падыміся»), мэта якога – дапамога разьвіцьцю няўрадавых арганізацыяў Беларусі. Беларускіх партнэраў мае «Балтыцкая праграма» (The Baltic University Programme) унівэрсытэту Ўпсолы, якая лучыць звыш 140 ВНУ краінаў Балтыкі.

1 лютага 2002 г. у Менску распачаў працу Скандынаўскі адукацыйны цэнтар, які будзе спрыяць вывучэньню студэнтамі швэдзкай мовы, гісторыі, культуры, эканомікі Швэцыі. Гэта сумесны праект Унівэрсытэту Паўднёвага Стакгольму (Södertörns högskola), Швэдзкага Інстытуту й Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (Менск).

Партнэраў у Беларусі таксама мае швэдзкая недзяржаўная арганізацыя «CRAC» (Creative room for Art and Computing, www.crac.org), мэта якой – падтрымка супольных праектаў у артыстычным асяродку. Сумесны праект ажыцьцяўляюць Каралеўскі тэхнічны ўнівэрсытэт (Kungliga Tekniska Högskola – KTH) і Полацкі ўнівэрсытэт.

У сакавіку 2002 г. з мэтай наладжваньня кантактаў з гістарычнымі музэямі Беларусі Менск і Полацак адведала дэлегацыя Дзяржаўнага гіста-

рычнага музэю Швэцыі (Statens Historiska Museum). Яшчэ ў 1996 годзе швэдзкія археолягі прайшлі беларускім шляхам з «варагаў у грэкі» па Дзьвіне й Дняпры. У 2002 годзе ў Інстытуце гісторыі НАН адбылася першая сустрэча беларускіх і швэдзкіх археолягаў, мэта якой – сумеснае вывучэньне часу вікінгаў у Беларусі. Як вынік ў 2003 г. ў Менску з вялікім посьпехам прайшла выстава «Вікінгі на Ўсходзе» арганізаваная сумесна нацыянальнымі гістарычнымі музэмі Швэцыі і Беларусі. Да выставы быў надрукаваны каталёг скандынаўскіх знаходак ў Беларусі на беларускай і ангельскай мовах (Scandinavian artifacts in Belarus. Catalogue. Minsk. 2002.)

Урад Швэцыі ўхваліў стратэгію тэхнічнай дапамогі Беларусі на 2003–2004 гг. Адпаведна стратэгіі вызначаныя наступныя сфэры дапамогі: праекты ў сацыяльным сэктары, зямельны кадастар, падтрымка малога й сярэдняга бізнэсу, ахова навакольнага асяродзьдзя, студэнцкі абмен, інавацыі, падтрымка навукова-вытворчых аб'яднаньняў, падтрымка СМІ. Мяркуецца, што аб'ём фінансаваньня тэхнічнай дапамогі для Беларусі будзе складаць штогод 10–20 млн. швэдзкіх кронаў.

Сёньня ў Беларусі працуе сусьветны лідар у вытворчасьці мэблі – канцэрн «IKEA».

У 2005 годзе швэдзкі экспарт у Беларусі склаў 459,8 млн швэдзкіх крон, а швэдзкі імпарт зь Беларусі – 341,4 млн. швэдзкіх крон.

Толькі маруднасьць дэмакратычных працэсаў ды рынкавых пераўтварэньняў у Беларусі перашкаджаюць працэсу збліжэньня дзьвюх нашых краінаў. Паводле дасьведчанага ў беларуска-швэдзкіх справах журналіста Шэля Абрагамсона: *«Швэдзкія бізнэсоўцы ня вельмі ахвотна наладжваюць гандлёвыя кантакты зь Беларусяй, таму што ў гэтай краіне зачаста мяняюцца законы ды выдаюцца ўсё новыя дэкрэты»*.

Але блізкае геаграфічнае становішча Швэцыі й Беларусі, багатая супольная гісторыя даюць надзею на добрыя пэрспэктывы супрацоўніцтва ў будучыні.





# 5. Эсэ 2006-2007 гг.

## Місія Торвальда Вандроўніка, або Скандынаўскія пачаткі хросту Беларусі

У 1992 годзе менскі гісторык Сяргей Тарасаў заўважыў супярэчнасьць паміж афіцыйнай канцэпцыяй хросту Беларусі з Кіева ля 988 году і фактамі моцных сувязяў тагачаснага Полацку і Турава з Скандынавіяй.

Гэты артыкул прысьвечаны малавядомым і сэнсацыйным падзеям хросту палачан каля 986 году, адноўленым на падставе скандынаўскіх крыніцаў. Наш герой – вікінг Торвальд, сын Кодрана, па мянушцы «Вандроўнік» (Thorvald Kodransson) нарадзіўся каля 950 году на поўначы Ісьляндыі ля затокі Скага (Skagafjord) у найбольш вульканічнай зоне краіны. Ягоны жыцьцярыс «Апавяданьне пра Торвальда Вандроўніка» захаваўся ў тэкстах трох ісьляндзкіх сагаў: «Сага пра Ўлава Трыгвасона», «Флатэйр кніга» і «Сага пра хрост». Інфармацыю пра Торвальда зьмяшчаюць таксама розныя эўрапейскія кронікі, што дае ўсе падставы лічыць яго рэальнай гістарычнай асобай.

У маладосьці Торвальд служыў памочнікам дацкага караля Свэна па мянушцы «Вілабароды». Заўважым, што кароль Даніі (960–1014) і Ангельшчыны (1013–1014) Свэн часта бываў на славянскіх землях усходняй Балтыкі. Ягонай жонкай была дачка польскага караля Мешка I. Разам з Торвальдам дацкі кароль арганізоўваў набегі на Ірляндыю і Валію. Ужо падчас паходаў выявілася незвычайная для вікінгаў рыса Торвальда – усю сваю здабычу ён мяняў на захопленых палонных, якіх адпускаў дахаты. Між іншым, дзякуючы гэтаму валійскія князі аддалі аднойчы Торвальду захопленага імі караля Свэна. У Ірляндыі Торвальд упершыню сутыкнуўся зь верай Хрыстовай. Багацьце і глыбіня новага вучэньня так уразілі вікінга, што ён кінуў рыцарскія ўчынкі і падаўся ў Саксонію, дзе ў 980 годзе прыняў хрост ад тамтэйшага біскупа Фрэдрыка.

Разам зь біскупам у 981 годзе Торвальд адправіўся на Радзіму, «каб прывесьці сваіх братоў у сьвятло праўдзівай веры». Галоўны абавязак

місіі выпаў на Торвальда, «бо біскуп Фрэдрык ня ведаў мовы краіны». У той 981 год ісьляндцы на чале з Эрыкам Рудабародым адкрылі Грынляндыю. Спачатку справа хросту пайшла выдатна. Хрысьціянства прынялі родзічы й суседзі Торвальда. Упершыню — праз 106 гадоў ад часу засяленьня — у Ісьляндыі паўстала першая царква. Але паганцы пачалі супраціў. Надзейнай зброяй стаў жарт. Юнакі стваралі і сьпявалі на кірмашах абразьлівыя прыпеўкі пра прапаведнікаў. Напрыклад: «Біскуп 9 дзетак нарадзіў/Торвальд быў бацькам ім». Разьюшаны Торвальд забіў двух пасьмешнікаў. У адказ суродзічы сабралі 240 чалавек, спалілі царкву і сядзібу Торвальда, забілі багата хрысьціянаў. Прапаведнікі мусілі ўцякаць. Менавіта тады Торвальд даў абяцаньне: «Ніколі не вяртацца на Радзіму і прывесьці да сьвятла веры Хрыстовай хаця б адзін народ». Гісторыя наканавала, каб гэтым народам сталі беларусы.

У 985 годзе празь Ерусалім Торвальд прыехаў у Царград (Канстантынопаль). Тут знаны вікінг, да таго-ж сябар караля Даніі, сустракаецца з самым імпэратарам Васілём II па мянушцы «Забойца баўгараў» і патрыярхам Мікалаем II. На просьбу Торвальда імпэратар выдае грамату, згодна зь якой Торвальд прызначаўся «паўнамоцным прадстаўніком Бізантыі да рускіх князёў у краінах Усходняй Балтыкі». Князі (мелася на ўвазе Полацку, Ноўгараду і Пскова) мусілі выконваць усе парады Торвальда. Заўважым, што менавіта ў часы Васіля II Бізантыя дасягнула вяршыні сваёй магутнасьці. Пад яе кантроль трапілі Баўгарыя, Арменія, Грузія, паўднёвая Італія і, нарэшце, Кіеўская Русь. У 988 годзе вялікі князь кіеўскі Ўладзімер (Володымір) прызнаў сябе васалам імпэратара, прыняў хрост, прызнаў духоўную ўладу грэцкага мітрапаліта і ажаніўся зь сястрой Васіля II. Такім чынам, выдача Торвальду граматы да полацкага князя выглядае цалкам лягічна. Гэтым полацкім князем быў Рагвалод (Ragnvald) – скандынаўскі конунг, што, згодна з старабеларускімі летапісамі, прыплыў «изь заморья имаше власть свою в Полотьске». Каля Стакгольму (Солентуна) захаваўся рунічны камень, пабудаваны ў памяць маці-хрысьціянкі «каралём Рангвальдам», магчыма, з Полацку.

У сагах Полацак вядомы як Палтеськ'я/Palteskia. Адразу падкрэсьлім, што назва гэтая пазычана з старабеларускай назвы. Пад ёю горад узгадваецца ў шэрагу скандынаўскіх твораў. Найбольш стары сьпіс – «Нарыс зямлі I» (апошняя чвэрць XII ст.). Полацак прысутнічае таксама ў сазе «Дзеі данаў» Саксона Граматыка, каралеўскай сазе «Пра дзеі аб Эймундзу», «Сазе пра хрост», «Сазе пра Одда Стралу» ды іншых сагах.







*63. Рунічны камень ля возера Эд/Ed пастаўлены «на жаданьне Рагнвальда Рагвалода» ў гонар сваёй маці хрысьціянкі Фастві. Імя Ragnvald было ў час вікінгаў вельмі рэдкім і амаль не сустракаецца ў рунічных надпісах Швэцыі.*

Шмат рунічных надпісаў выяўлена ў Беларусі. Асабліва вылучаюцца абшары Падзьвіньня. Касьцяная біта для гульні з рунічным надпісам была выяўленая ў часе раскопак 1961–1962 гадоў у Полацку. Рунічны надпіс «Карі» азначае «карысьць». Каля 100 рунічных надпісаў на косьці былі знойдзеныя беларускімі археолягамі ў Маскавічах – абарончым фарпосьце Полацкага княства на паўночным захадзе. Гэта найбуйнейшая знаходка рунічных надпісаў на ўсходзе балтыйскага рэгіёну. Усяго на 86 касьцях нанесена каля 265 рунічных знакаў малодшага (старашвэдзкага) альфабэту. Сярод надпісаў розныя паганскія магічныя замовы, вараскія імёны. Знаходкі рунічных надпісаў даюць падставы казаць пра міжэтнічнае культурнае ўзаемадзеяньне паміж швэдамі й крывічамі. Сярод 300 знакаў, якімі карысталася насельніцтва Маскавічаў, ёсьць 11 літараў кірылічнага альфабэту.

Ананімная сага (канец XII ст.) пералічвае рэкі Ўсходняе Эўропы, якія мелі выключную вагу ўва ўсходнім гандлі вікінгаў. Дык вось, з шасьці рэчак тры – беларускія. Гэта Дзьвіна (Duna), Дняпро (Nepr) і невялікая Друя (Drofn). Дзьвіна ўзгадваецца ў надпісах рунічных камянёў. Напрыклад: «Сумір загінуў на Ўсходзе ля вусьця ракі Дзьвіна». Гэтыя факты сьведчаць пра асаблівае эканамічнае і палітычнае становішча Полацкага княства ў скандынаўскай мінуўшчыне.

Полацак стаўся цэнтрам першага княства на абшарах сучаснай Беларусі. Менавіта зь вікінгамі-русамі наўпрост зьвязана зьяўленьне места Полацкага ў гісторыі. Першае паведамленьне пра Полацак датуецца 862 годам, калі варaскі конунг Рурык /Rorik аддаў умацаванае паселішча полацкае аднаму з сваіх ярлаў: «Овому Полотеск, овому Ростов, дру-

гому Белоозеро». Найбольш раньнія «гарадзкія» рэчы Полацку паходзяць менавіта з другой паловы IX ст. Пра існаваньне ранейшага славянскага селішча сьведчыць толькі ляпны посуд VIII – першай паловы IX ст. Крывічы былі асноўным насельніцтвам Полацкай дзяржавы, празваўшы свайго конунга-князя славянізаваным прозьвішчам «Рагвалод». Хутка Полацкае княства пашырыла свае межы за кошт земляў ліваў і латгалаў. Апошняе, відаць, і выклікала імкненьне канкурэнта – Ноўгараду – на чале зь вікінгам Уладзімерам (Valdemar) распачаць татальную вайну. Справа ў тым, што кіеўска-наўгародзкі шлях з «варагаў у грэкі» быў менш эфэктыўны за ягоны полацкі варыянт. Праз Рыскую затоку і Дзьвіну магчыма нашмат хутчэй выйсьці ў Дняпро і Чорнае мора. Такім чынам, як заўважыў дацкі гісторык А. Стэндэр-Пэтэрсан, кіеўска-наўгародская дзяржава «вельмі хутка сутыкнулася з спробаю гегемоніі з боку іншай скандынаўска-славянскай дзяржавы, узьніклай, верагодна, адначасова ў басэйне Дзьвіны з цэнтрам у Полацку, якая імкнулася праклясьці новы шлях з Балтыйскага мора ў Дняпро». Наступная сумная гісторыя – захоп Уладзімерам Полацку і забойства Рагвалода – агульнавядомая. Іншая справа, што ключ да гэтых падзеяў знаходзіцца ў старажытнай Швэцыі і барацьбе розных купецкіх карпарацыяў варагаў за вялікі ўсходні шлях. Барацьба Полацку з Ноўгарадам і Кіевам праходзіць скрозь усю гісторыю старажытнай Русі: «И оттоле мечъ взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуком».

У 986 годзе Торвальд прыбывае ў Полацак разам з памочнікам Стэўнірам Таргельсанам. Хтосьці з полацкіх варагаў дапамагаў місіянэрам зь перакладам казаньняў на беларускую мову. Місія была настолькі пасьпяховай, што Торвальд вырашыў ня рухацца далей і застацца ў Полацку. Тут быў пабудаваны храм і кляштар Сьв. Яна «недалёка ад места пад гарой пад назваю Дрофн». У Полацку адбылася сустрэча Торвальда з іншым вікінгам-хрысьціянінам Улавам Трыгвасанам (969–1000). Гэты скандынаў з шляхетнага нарвэскага роду гадаваўся ў Ноўгарадзе, потым служыў у Кіеве. Яго жонка была дачкой польскага караля Баляслава Харобрага. Пасьля спатканьня ў Полацку Ўлаў адправіўся на Бацькаўшчыну, дзе быў абраны каралём. Малады кароль хрысьціў нарвэжцаў, і быў прызнаны першым сьвятым у Нарвэгіі. Нацыянальны рух нарвэжцаў XIX ст. пачаўся сьвяткаваньняў Дня сьвятога Ўлава.

Торвальд застаўся кіраўніком створанага ім кляштара Сьв. Яна. Ён памёр у Полацку каля 1000 году – верагодна, падчас штурму гораду войскамі вялікага князя Ўладзімера – ворага полацкай дзяржавы. Свой паход на Полацак Уладзімер рыхтаваў у Швэцыі, дзе тры гады на грошы купцоў Ноўгараду зьбіраў вікінгаў, каб зьнішчыць у пень ненавісны горад на Дзьвіне – гандлёвы канкурэнт Ноўгараду і Пскову. Як вядома, на загад Уладзімера абаронцы гораду былі з асаблівай жорсткасьцю забітыя. Замак быў зруйнаваны і быў адбудаваны на новым месцы. Уладзімер на вачох Рагвалода згвалціў Рагнеду (Ragnhild), а потым забіў полацкага князя ды ўсіх ягоных сыноў. Магчыма, падчас гэтай разьні быў забіты і Торвальд.

У той самы 1000 год па іроніі лёсу хрысьціянства атрымала афіцыйны статус у далёкай Бацькаўшчыне Торвальда – Ісьляндыі. Зноў жа ў той самы год лёс зьвёў у бітве ля Свальдэра двух сяброў Торвальда: караля Даніі Свэна і Нарвэгіі Ўлава. Малады нарвэскі кароль загінуў ад рукі старэйшага ворага. Праз 50 гадоў, каля 1050 году, Полацак адведаў вікінг Бранд. Ён прыйшоў да магілы Торвальда ў полацкі кляштар, што насіў ягонае імя. Па сьведчаньні Бранда, тагачасныя палачане ўважалі Торвальда «сваім вялікім сьвятым». Полацкая дынастыя і надалей мела шчыльныя сувязі з Скандынавіяй. Напрыклад, кароль Даніі Вальдэмар I Вялікі ажаніўся з дачкою князя полацкага і менскага Валадара Глебавіча Зоф'яй Менскай (1141–1198).

Такім чынам, хрост Беларусі (прынамсі, першай дзяржавы на яе тэрыторыі) адбыўся не ў 988, а ў 986 годзе. Полацкі летапіс, дзе, напэўна, былі зьвесткі пра гэта, на жаль, не захаваўся. Як вядома ў XVIII ст. зь ім працаваў расейскі гісторык Тацішчаў. Але потым гэты летапіс зьнік, верагодна па загаду Кацярыны II, бо зьвесткі гэтага летапісу супярэчылі афіцыйнай канцэпцыі расейскай гісторыі. У гэтай канцэпцыі забойца і гвалтаўнік Уладзімер быў сьвятым, «Владимиром Красное солнышко»[1].

Падкрэсьлім, што апісаныя мною полацкія падзеі адбываліся ў часе царкоўнай еднасьці, да падзелу на праваслаўных і каталікоў у 1054 годзе. Такім чынам, ад самых пачаткаў хрысьціянская культура Беларусі была адкрытая Поўначы і Ўсходу. Сёньня імя нашага першага прапаведніка невядомае грамадзтву. Але час збору камянёў прыйшоў. У вольнай Бе-

[1] Як давёў гісторык Аляксей Талочка, усе спэкуляцыі Тацішчава наконт полацкага летапісу былі фальсыфікацыяй. Гл.: Толочко Алексей. «История Российская» Василия Татищева: источники и известия. Москва: Новое литературное обозрение; Киев: Критика, 2005. – *Рэд.*

ларусі ў гонар нашага першага сьвятога трэба будзе паставіць храм ды стварыць ікону Сьв. Торвальда як сымбаля духоўнай еднасьці беларусаў.

Пры канцы нагадаем асноўныя факты першых беларуска–скандынаўскіх хрысьціянскіх стасункаў:

1. Менавіта ў скандынаўскіх, а не славянскіх пахаваньнях сустракаюцца першыя памяткі хрысьціянскага культу (нацельныя крыжыкі і сьвечкі).
2. Заснаваньне скандынаўкай Рагнедай другога манастыра ў Беларусі (ля 1005 г.).
3. Заснаваньне вікінгамі (Сымон і Афрыкан) першага манастыра на ўкраінскіх землях – Кіева-Пячорскай Лаўры.
4. Заснаваньне князем Сьвятаполкам у 1005 годзе ў Тураве царквы лацінскага абраду. Князь Сьвятаполк быў родзічам сябра Торвальда – караля Даніі Свэна Вілабародага; абодва ўладары былі жанатыя зь сёстрамі – дочкамі караля Баляслава Харобрага. Паводле тураўскіх паданьняў першыя прапаведнікі прыплылі ў места па Прыпяці на «сьвятых», каменных крыжах (тры зь якіх захаваліся). Цікава, што падобныя легенды ў Эўропе былі зьвязаныя зь дзейнасьцю ірляндзкіх місіянэраў.
5. Біскупства ў XI ст. у швэдзкай Сігтуне ўладыкі Асмунда, які да гэтага быў арцыбіскупам Полацку.
6. Знаходкі ў Швэцыі крыжоў старабеларускай вытворчасьці і вялікодных гліняных яек з Палесься.
7. Шанаваньне праваслаўнай царквою Беларусі скандынаўскіх сьвятых Кнута і Магнуса, невядомых расейскай царкве.
8. Пабудова ў дацкім Калундборзе ў другой палове XII ст. каралевай беларускага паходжаньня Сафіяй касьцёла на ўзор полацкага Сафійскага сабору.
9. Існаваньне ў XI–XIII стст. «гоцкай царквы» ў Полацку і «вараскай бажніцы» ў Смаленску.
10. Існаваньне ў XII –XIV стст. полацкай царквы на Готляндзе (Вісьбю).

## Зоф'я: забытая беларуская каралева Даніі

Імя гэтай кабеты сёньня невядома ў Беларусі нават гісторыкам. Між тым жанчына, якая ўвайшла ў эўрапейскую гісторыю як *«Sophie av Minsk og Polotzk»*, была жонкай аднаго з наймагутнейшых каралёў дацкай гісторыі і заснавальніцай «па кудзелі» дацкай каралеўскай дынастыі. Дачка князя менскага і полацкага Валадара Глебавіча († 1161), Зоф'я нарадзілася каля 1141 г., верагодна, у Менску. У часы Валадара Глебавіча полацкае княства знаходзілася на вяршыні сваёй магутнасьці. Як давёў Генадзь Сагановіч, апрача двух замкаў па Дзьвіне (Кукенойс і Герцыке) полацкая дзяржава кантралявала Рыскую затоку і разам зь ёй усходнюю частку балтыйскага гандлю. Да таго ж нейкі час гэтае старабеларускае гаспадарства межавала з Даніяй. Так, бо ў той час Данія распачала сваю экспансію на поўначы Балтыкі і патрабавала моцнага хаўрусьніка. У 1219 г. сын Зоф'і Вальдэмар Другі заклаў «Дацкі замак» – *Талін* у перакладзе на эстонскую мову. Таму цалкам зразумела, чаму ў 1157 г. Зоф'я пабралася шлюбам з каралём Даніі Вальдэмарам I Вялікім, адным з наймагутнейшых каралёў у дацкай гісторыі. Сямейнае жыццё пары было шчасьлівым. Зоф'я нарадзіла 2 сыноў і 6 дачок. Сыны Кнуд IV (1163–1202) і Вальдэмар II (1170–1241) па чарзе ўспадкавалі бацькаў сталец. Дзьве дачкі згодна з полацкай традыцыяй сталі манахінямі. Астатнія выйшлі замуж за тагачасных уладароў Эўропы. Інгеборг пабралася з каралём Францыі Філіпам II Аўгустам, Рычыза пабралася з каралём Швэцыі Эрыкам Кнудсанам, малодшая Зоф'я выйшла за князя орламундзкага Сігфрыда, нарэшце Гелена стала жонкай князя люнэбурскага Вільгельма. Як пішуць дацкія гісторыкі, Зоф'я не абмежавалася хатнім жыццём ды брала актыўны ўдзел у палітыцы. Пра яе пісалі тагачасныя летапісцы, між іншым, «Славянская кроніка» Арнольда зь Любэку і Сакс Граматык.

У горадзе Калундборг (Kalundborg) Зоф'я пабудавала катэдральны сабор. Спэцыялісты лічаць яго адзінай захаванай сярэднявечнай царквой Скандынавіі, пабудаванай у бізантыйскім стылі. Калі аўтар гэтага артыкула параўнаў самы раньні вядомы яму від калундборскай катэдры з 1801 г. зь першай вядомай выяваю полацкай Зоф'і (з 1579 г.), нарадзілася сэнсацыя. Дарма што абедзьве царквы перабудоўваліся з часоў сярэднявечча (асабліва дацкая царква, што гарэла колькі разоў), абсалютна ясна: царква ў Калундборзе ёсьць насьледаваньнем полацкай Зоф'і.

Каралева Зоф'я перажыла свайго мужа. Яна памерла 5 траўня 1198 г. і пахаваная побач з Вальдэмарам у каралеўскай спачывальні места Рынгстэд (Ringsted). Захаваліся два яе пазьнейшыя партрэты 1580 і 1757 гг.

Паўстае пытаньне: чаму імя каралевы-беларускі, якое мусіць быць

у кожным падручніку, невядомае на Бацькаўшчыне, дачкі і сыны якой чулі, у найлепшым выпадку, пра Рагнеду з Эўфрасіньняй, а ў горшым толькі пра «Анну – королеву Франции»? І гэта ў той час, калі нацыянальнай беларускай галерыі катастрафічна бракуе герояў! Адказ просты. Спачатку за часамі расейскай імпэратрыцы Кацярыны, калі Беларусь была забраная Расеяй, містычна зьнік Полацкі летапіс. Тое, што яшчэ ў XVI ст. ён хадзіў у Полацку і не ў адным сьпісе, даказаў беларускі гісторык Васіль Варонін. Менавіта гэты летапіс зьмяшчаў некарысныя для расейскай вялікадзяржаўнай канцэпцыі гістарычныя факты, у т.л. пра нашу Зоф'ю. На жаль, сучасныя беларускія гісторыкі пішуць гісторыю Полацкай дзяржавы толькі на падставе лівонскіх хронік ды наўгародзкіх і ўладзімірскіх летапісаў, што стварaліся тагачаснымі ворагамі Полаччыны. Выходзіць тое самае, што пісаць гісторыю Ізраілю па арабскіх крыніцах. Толькі адзінкі разумеюць, што да канца XVIII ст. Беларусь была інтэгральнай часткай эўрапейскай цывілізацыі. Гэта значыць, што процьма патрэбных крыніцаў зь беларускай гісторыі ляжыць менавіта ў заходніх архівах. Да прыкладу, гарадзкі архіў Вісьбю поўніцца крыніцамі на старанямецкай і лацінскай мовах датычных гандлю гэтага места з Полацкам у X–XIII стст. Нацыянальны архіў Нідэрляндаў захоўвае матар'ялы аб гандлі полацкіх купцоў з гэтай краінай у XVII ст.

У першым выданьні кнігі «Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў» я ўзгадаў ісьляндзкага вікінга і прапаведніка X ст. Торвальда Кодрансана (Torvald Kodransson) па мянушцы «Падарожнік». Гэта добра знаная ў стараскандынаўскіх крыніцах асоба, якая распаўсюджвала хрысьціянства на поўначы Эўропы. Дакладна вядома, што з 986 г. Торвальд жыў і прапаведаваў слова Хрыстовае ў Полацку, дзе і памёр каля 1000 г. Пахаваны быў Торвальд у заснаваным ім полацкім кляштары Сьв. Яна. Заўважу, што гэты, на першы погляд, дробны факт падрывае афіцыйную канцэпцыю, згодна зь якой хрысьціянства ў Беларусь прыйшло з усходу (Бізантыі) пасьля 988 г. Дзякуй Богу, скандынаўскі ўплыў на хрост Беларусі часоў царкоўнай еднасьці (да 1054 г.) паволі робіцца вядомым грамадзтву. На просьбу краязнаўцы Міхася Баўтовіча я адправіў поўны нарыс жыцьця Торвальда ў Полацак. Тамтэйшы ўніяцкі сьвятар Лявонці Тумоўскі хоча замовіць абраз першага полацкага прапаведніка.

Нядаўна я даведаўся пра Крыштапа Арцішэўскага – пратэстанта з Беларусі XVII ст. Гэты «пісар рускай мовы» пры двары Радзівілаў у пару кантррэфармацыі ўцёк з Бацькаўшчыны ў Амстэрдам, а адтуль падаўся ў Бразылію, дзе даслужыўся да пасады адмірала галяндзкага флёту. Колькі нашых школьнікаў ведае імя першага беларускага адмірала?

Апошняе пытаньне: ці рыхтуе наагул сыстэма гістарычнай адукацыі Беларусі вучоных, здольных працаваць з старажытнымі і заходнімі мовамі, шукаць і знаходзіць гранты для навуковых дасьледаваньняў, валодаць сучаснай міжнароднай тэрміналёгіяй і мэтадалёгіяй? Інакш застаецца ў сто пяты раз гартаць беларускія ды расейскія крыніцы. Эўрапейскасьць будуецца на падставе здаровай гістарычнай сьвядомасьці. Пакуль гэтулькі бар'ераў аддзяляе памяць звычайнага менчука ад уласнай гісторыі, рэжыму хваляваца няма чаго.

## Швэцыя і пратэстанцкі збор Вялікага Княства Літоўскага

Сучасная Беларусь/Vitryssland[1] мае ў Швэцыі іміджы праваслаўнай краіны, вернікі якой нібыта заўсёды знаходзілася пад вялікарасейскім культурным уплывам. Пра Рэфармацыю і існаваньне з XVI ст. кальвінскага і лютэранскага збораў Беларусі ня ведае значная частка швэдзкіх гісторыкаў. Нават сьвятары Швэдзкай лютэранскай царквы/Svenska kyrkan маюць кантакты перадусім зь Беларускім экзархатам Расейскай праваслаўнай царквы. Між тым Швэцыя грала важную ролю ў гісторыі пратэстантаў Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стст. Малавядомым дачыненьням паміж Швэцыяй і літоўскімі пратэстантамі і прысьвечаны гэты артыкул.

У новы час Швэцыя рушыла як моцная дзяржава Балтыкі. У выніку нацыянальнага паўстаньня супраць Даніі ў 1521–1523 гады на чале з простым шляхціцам, будучым каралём, Густавам Васам/Gustav Vasa, Швэцыя здабыла незалежнасьць. У 1527 Густаў Васа прымае ідэі Рэфармацыі. За часы ягонага ўладарства (да 1560) Швэцыя робіцца суцэльна пратэстанцкай краінай, «лютэранскай Гішпаніяй», як яе называлі ў Эўропе.

Калі палітыка сучаснай Швэцыі арыентаваная перадусім на заходнюю Эўропу, асноўным напрамкам міжнароднай палітыкі навачас-

[1] У зваротным перакладзе з швэдзкай мовы «Белая Расея».

най Швэцыі была ўсходняя Эўропа. У 1561 годзе сын Густава Васы Эрык XIV/Erik XIV Vasa (1533–1577) падбівае пад швэдзкае панаваньне Эстонію. Унук Густава Васы, Густаў Адольф II / Gustav Adolf II (1594–1632) адбівае ў 1617 годзе ад Расеі Інгерманляндыю і Карэлію. У 1622 годзе Рыга далучаецца да Швэдзкага каралеўства, каб стацца найбольшым местам краіны. З 1629 году большая частка Лівоніі належыць Швэцыі.

У адрозьненьне ад Швэцыі, ВКЛ з канца XVI ст. зазнала вялікую крызу. Па Люблінскай уніі дзяржава страціла незалежнасьць і самастойную міжнародную палітыку. Брутальны канфлікт з суседняй Масквой набыў сталы характар. Апошнім замежным посьпехам ВКЛ было далучэньне ў 1561–1566 гады Лівоніі. ВКЛ і Швэцыя атрымалі супольную мяжу, і былі да 1721 году суседнімі краінамі. Менавіта суседзтва вызначыла шчыльнасьць палітычных, культурных і рэлігійных кантактаў ВКЛ і Швэцыі XVI–XVIII стст.

Першыя дысыдэнты на чале з Геранімам Праскім адведалі ВКЛ у 1413 годзе. Пачатак Рэфармацыі ў ВКЛ зьвязаны з уплывам Прусіі. Як вядома, першыя зборы ўзьнікаюць у 1540-х гадах на Жмудзі. Унівэрсытэт Караляўца-Кёнігсбэргу робіцца важным цэнтрам адукацыі пратэстантаў ВКЛ[2]. У 1553 годзе Мікалай Радзівіл «Чорны» заснаваў Берасьцейскі лютэранскі збор – першы на абшарах сучаснай Беларусі.

У 1578 годзе пратэстанцкая царква ВКЛ афармляецца структурна. «Яднота літоўская»/Jednota Litewska складалася з двух збораў: «збор вялікі» – кальвінская царква – і «збор меншы» – арыяне, ці літоўскія браты (іншая назва сацыяне). Палова збораў месьцілася на беларускай этнічнай прасторы[3]. Абсалютную большасьць вернікаў складала шляхта, што ўскосна сьведчыць пра жаданьне ліцьвінаў пабудаваць адметную палітычную нацыю паміж праваслаўнай Масквой і каталіцкай Польшчай.

[2] Małłek Janusz. 1996. Polscy i litewscy studenci na uniwersytecie Królewskim w XVI i XVII wieku // Europa Orientalis. Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność. Studia i materiały ofiarowane Profesorowi Stanisławowi Alexandrowiczowi w 65 rocznicę urodzin. Redakcja naukowa Zbigniew Karpus, Tomasz Kempa, Dorota Michaluk, Torun, s. 179.

[3] Ingė Lukšaitė. 1999. Reformacija Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje ir Mažojoje Lietuvoje. Vilnius. Kriegseisen, Wojciech. 1996. Ewangelicy Polscy i Litewscy w Epoce Saskiej (1696–1763). Warszawa, s.100–101.





Яднота Літоўская падтрымлівала таксама лютэранскі збор, які на пачатку XVII ст. складаўся з 12 парафіяў і ачольваўся біскупам/супэрінтэндантам[4]. З канца XVI ст. Рэфармацыя хутка пашыраецца сярод праваслаўнай шляхты ўсходніх паветаў ВКЛ[5]. Новыя зборы ўзьнікаюць ў Віцебску, Полацку, Магілёве, Галоўчыне. Цэнтрам Рэфармацыі паўночнай Беларусі робіцца Браслаўскі павет, дзе пратэстанцкая шляхта на чале зь Мірскімі й Пуцятамі трымае на працягу XVII ст. уладу.

Росквіт Рэфармацыі на паўночным усходзе Беларусі быў спрычынены прыкладам суседняй Швэцыі. З 1622 году швэдзкая Рыга была важным гандлёвым партнэрам Віцебску й Полацку. Невыпадкова, толькі ў гэтых гарадох ВКЛ аснову пратэстанцкіх парафіяў складалі купцы. Пасьля далучэньня Лівоніі да ВКЛ і падзелу Лівоніі паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай (1629) важную ролю ў рэфармацыйным руху Беларусі пачынае мець лютэранская лівонская шляхта. Цэнтрам адукацыі лівонскай шляхты робіцца ад 1632 году швэдзкі Дорпацкі ўнівэрсытэт – другі пасьля Ўпсолы ўнівэрсытэт Швэцыі. Члены лівонскіх фаміліяў Корфаў, Путкамэраў, Тызэнгаўзаў, Нонхардаў, Плятэраў, Отэнгаўзаў пераяжджаюць на службу ў ВКЛ, фундуюць новыя зборы ды адаптуюцца ў асяродку беларускай шляхты[6]. Зь іншага боку, беларуска-літоўская шляхта атрымала пасады ў Лівоніі. Палітычная нацыя літоўска-польскай Лівоніі/Ducatus Ultradunensis складалася зь ліцьвінаў, палякаў і немцаў-лівонцаў. Лівонія абірала 6 паслоў на вальны сойм Рэчы Паспалітай, зь іх два шляхціцы былі прадстаўнікамі беларуска-літоўскага рыцарства[7]. Падкрэсьлім, што менавіта беларуская шляхта, якая служыла і жыла на мяжы з Швэцыяй, упарта трымалася Рэфармацыі. Маю на ўвазе радзіны Касакоўскіх, Раецкіх, Календаў, Высоцкіх, Еўлашоўскіх, Сіцінскіх і Корсакаў.

У 1592–1599 гады Швэцыя й ВКЛ былі злучаныя пад ўладаю аднаго

[4] У Беларусі моцныя лютэранскія парафіі існавалі ў Слуцку, Гайцюнішках, Нэйдорфе (ля Дамачава), Венграве, Орлі.

[5] Liedke, Marzena. 2002. Szlachta ruska Wielkiego Księstwa Litewskiego a Reformacja. Białoruskie Zeszyty Historyczne. №18. Даступны праз Сеціва: http://kamunikat.net.iig.pl/www/czasopisy/bzh/index.htm

[6] Менавіта такім чынам былі заснаваныя лютэранскія зборы ў Гайцюнішках (фамілія Нонгартаў) і ў жмудзкіх Шаўкенах/ Šaukėnų (фамілія Корфаў).

[7] Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy. Oprac. Henryk Lulewicz i Andrzej Rachuba, Kórnik, 1994, s.7.

караля, Жыгімонта III Васы/Sigismund Vasa, які, будучы вялікім князем літоўскім, зацьвердзіў Статут 1588 году, што ў часе рэлігійных войнаў гарантаваў свабоду веравызнаньня. Сын караля Ёвана III/Johan III і Кацярыны Ягелонкі/Katarina Jagellonica, швэдзкі каралевіч, нарадзіўся, як паведамляюць энцыкляпэдыі, у 1566 годзе ў каралеўскім замку Грыпсгольм ля Стакгольму. Але па-за ўвагай застаецца адна дробязь: Жыгімонт нарадзіўся ў сям'і вязьня, бо ягоны бацька, вялікі князь фінляндзкі Ёван, плянаваў стварыць незалежную Фінляндыю, за што быў арыштаваны каралём Эрыкам XIV ды кінуты ў турму Грыпсгольму. Таму Жыгімонт быў узгадаваны маткай у непрыхільнасьці да швэдзкай улады і лютэранства. Згубіўшы швэдзкі сталец, Жыгімонт III распачаў у Рэчы Паспалітай зацятую контррэфармацыю, мэтай якой была, перадусім, ліквідацыя ў ВКЛ панаваньня пратэстанцкай эліты. У першы год гаспадарства Жыгімонта ВКЛ заставалася пратэстанцкаю краінаю (большасьць сэнатараў была пратэстантамі). У 1632 годзе – апошнім годзе жыцьця Жыгімонта – усе сэнатары-ліцьвіны былі выключна каталікамі[8]. Дарма што Статут 1588 забараняў гвалт над хрысьціянскімі храмамі, не зважаючы на канфэсію[9], паміж 1610–1640 гадамі шэраг збораў быў разрабаваны каталіцкімі фанатыкамі. Сярод іх зборы Вільні (1611, 1639), Полацку (1632), Навагрudку (1638). Справа 1639–1640 гадоў аб разбурэньні галоўнага кальвінскага збору ў Вільні вызначыла перамогу каталіцкага палітычнага блёку. Рашэньне вальнага сойму 1640 году аб закрыцьці збору сымбалізавала паразу пратэстанцкай эліты на чале з ваяводам віленскім Крыштапам II Радзівілам ды перамогу караля, біскупа Абрагама Войны і каталіцкага кляну Сапегаў[10].

Палітыка Жыгімонта III прывяла да глыбокага крызісу ў ВКЛ. Эліта гаспадарства падзялілася на дзьве варожыя партыі: каталікоў і дысыдэнтаў. У гэтых умовах пратэстанцкая шляхта пачала шукаць уплывовага абаронцу.

[8] Lulewicz, Henrik 1977. Skład wyznaniowy senatorów świeckich Wielkiego Księstwa Litewskiego za panowania Wazów. Przegląd Historyczny. T. LXVIII, Z. 3. s. 425–445; Іванова, Людміла. 1997. Рэфармацыйны рух на Беларусі. Беларускі гістарычны часопіс. № 2, б. 58.

[9] Артыкул 3, частка 11. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Менск. 1989, б. 278.

[10] Lulewicz, Henryk. 1984. Elita polityczno-społeczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w polowie XVII wieku. Praca doktorska. Manusk. Warszawa, s. 5.





У 1621 годзе коштам старасты аршанскага і гараднічага віленскага, лютэраніна Пятра Нонгарта[11] ў Кракаве была выдадзена кніга «Postilla chrześciańska, albo Kazania y wykłady porządne Świętych Ewangelii na każdą niedzielę i na każde święto». Менавіта гэтай кнізе наканавана было стацца найпапулярнейшай чытанкай лютэранаў Беларусі. Яна перавыдавалася 12 разоў у XVII–XXI стст[12]. Аўтарам твору быў славуты біскуп лютэранскага збору ВКЛ Самуэль Дамброўскі (1577–1625). У прадмове да другага выданьня фундатар Пётар Нонгарт зазначыў, што выданьне прысьвячаецца «сьвятой памяці найясьнейшай паньне яе каралеўскай мосьці Ганьне, з ласкі Боскай швэдзкай каралеўне... патронцы і апякунцы ўбогага касьцёлу Аўгсбурскай канфэсіі». Швэдка Ганна Васа/Anna Vasa (1568–1625) была галоўнай апякункай лютэранскага збору ВКЛ. Нарадзілася яна ў каралеўскім замку Эскільстуна/Eskilstuna slott і да 1589 году жыла ў Швэцыі. Яе бацькам быў кароль швэдзкі Ёван III, маці – Кацярына Ягелонка. Маці – фанатычная каталічка – выхавала дзяцей тайнымі каталікамі. Але, паводле каралевы Кацярыны, дачка Ганна ўпарта трымалася лютэранства «як драб, захоўваючы вернасьць першаму хросту». Ад 1589 году Ганна Васа жыве ў Рэчы Паспалітай. Жыгімонт III і езуіты спадзяваліся навярнуць яе на каталіцтва ды выдаць з палітычный карысьцю замуж. Але Ганна ніколі ня выйшла замуж і да сьмерці захавала вернасьць роднаму збору. Дзякуючы яе падтрымцы Жыгімонт III даў дазвол на друк у трэцім Статуце ВКЛ (артыкул 3, частка 3) славутага акту талеранцыі Варшаўскай канфэдэрацыі 1573 году[13]. Па спачыне ў 1625 годзе цела Ганны Васы 11 гадоў заставалася непахаваным дзеля забароны каталіцкага касьцёлу. Нарэшце, 16 ліпеня 1636 году яна была пахаваная ў лютэ-

[11] Пётар Нонгарт/Piotr Nonhardt (Nonhard), паходжаньнем лівонскі немец, асыміляваўся ў літоўскім асяродзьдзі. Быў найбольш уплывовым шляхціцам-лютэранінам ВКЛ першай паловы XVII ст. Яму належалі маёнткі Халопенічы і Хацюхова ў Аршанскім павеце. У 1613–1633 гады ён пабудаваў лютэранскі збор у Гайцюнішках, які дзейнічаў да 1939 году, а пасьля быў зруйнаваны савецкай уладай. На спачын Пятра Нонгарта (18 лютага 1633 г.) пастар Андрэй Шонфлісіюш напісаў і выдаў у Любчы эпітафію «Obchód pogrzebu Jego Mości Pana Piotra Nunharta...».

[12] Гл. апошняе выданьне: Dambrowski, Samuel. 2002. Sakrament Ołtarza w kazaniach ks. Samuela Dambrowskiego. Wstęp, wybór i oprac. Barbara Żyszkowska. Ustroń. Towarzystwo Ewangelickie.

[13] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мінск. 1989, б.112–113.

ранскім зборы Торуні. Ніхто з польскага каралеўскага дому Васаў не прыбыў на хаўтуры[14]. Пахаваньне пераўтварылася ў магутную дэманстрацыю еднасьці пратэстантаў. Кіраўніком цырымоніі быў Крыштап II Радзівіл[15]. За труной рушыла каля 60 пратэстанцкіх сьвятароў з ВКЛ.

Адразу па пахаваньні Крыштап Радзівіл выправіў свайго пасла, рэктара Слуцкай пратэстанцкай гімназіі Адама Рэйнгольда ў Заходнюю Эўропу. Пры канцы 1636 году ў Парыжы Рэйнгольд перадаў амбасадару Швэцыі ў Францыі, заснавальніку сучаснага міжнароднага права Гуга Гроцыюсу/Hugo Grotius, мэмарандум пра хаўтуры Ганны Васы ды рэзкае пагаршэньне пасьля яе спачыну становішча пратэстантаў ВКЛ[16]. У той самы час у Варшаве сын Крыштапа II Януш Радзівіл прамовіў знакамітыя словы: «Я веру, прыйдзе час, калі мы ўсіх палякаў павыкідваем праз вокны»[17]. Гэтая заява адсылала да славутай «дэфэнэстрацыі» 1618 году ў Празе, калі чэскія пратэстанты павыкідвалі праз вокны немцаў – каталіцкіх паслоў Габсбургаў.

Кантакты з швэдзкімі пратэстантамі Януш Радзівіл падтрымліваў перадусім праз эўрапейскіх інтэлектуалаў кшталту Яна Амоса Каменскага і Самуэля Гартліба з Лёндану, якія, у сваю чаргу, мелі добрыя сувязі ў Стакгольме й Рызе. Бліжэйшым паплечнікам Каменскага быў беларускі шляхціц, пратэстант Амброзі Кахлеўскі, сын судзьдзі земскага берасьцейскага Пятра Кахлеўскага, кліента Радзівілаў. Родны брат Самуэля Гартліба Георг Гартліб быў рэктарам пратэстанцкай школы Вільні[18]. Важную ролю ў кантактах Радзівілаў з Швэцыяй граў настаўнік Януша Радзівіла швэд Лаўрэнці Горн/Laurentius Horn. Менавіта праз гэтыя кантакты найбуйнейшы швэдзкі прамыслоўца Луіс дэ Гір/

[14] Lindkvist, Sven. 1996. Anna Vasa: polsk nutid och svensk historia. Kungliga Vitterhets historien och antikvitetsakademiens årsbok. S. 131–135; Anna Vasa. Svenskt Biografiskt handlexikon. T. I. Stockholm, 1906, s. 39.

[15] Augustyniak, Urszula. 2001. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwilla (1585–1640). Mechanizmy funkcjonowania patronatu. Warszawa, s. 23.

[16] Лялькоў, Ігар. 1999. Gallia Albaruthenensie або пяць стагодзьдзяў беларускай прысутнасьці ў Францыі. Спадчына, № 2, б. 186.

[17] Kotłubaj, Edward. 1859. Życie Janusza Radziwiłła ś.Państwa Rzymskiego Xiążęcia na Birżach i Dubinkach. Wilno–Witebsk, s. 49.

[18] Skutil, Jan. 1993. Jan Komenský mezi Stockholmem a Lešnem v letech 1642–1650. Acta Musei Moraviae. LXXVIII. s. 193, 203.





Luis de Geer дапамагаў арыянам ВКЛ грашыма. У першай палове XVII ст. уладары дынастыі Васа пераўтварылі Швэцыю ў дынамічную балтыцкую імпэрыю, якая кантралявала амаль што ўсе марскія парты на Балтыцы. Балтыцкае мора зрабілася «ўнутраным швэдзкім возерам». Густаў II Адольф лічыў сябе галоўным апекуном пратэстантаў Эўропы. Ведаючы пра сур'ёзнае пагаршэньне становішча пратэстантаў ВКЛ, Густаў II дамагаўся ад свайго стрыечнага брата, польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III спыненьня контррэфармацыйнай палітыкі. 26 верасьня 1629 году ў прускім мястэчку Альтмарк Швэцыя і Рэч Паспалітая падпісалі чарговую мірную дамову, якая гарантавала правы пратэстантаў ВКЛ і Польшчы[19].

Жыгімонт Васа ціха памёр у Варшаве 30 красавіка 1632 году. Праз 6 месяцаў, 6 лістапада 1632 года Густаў II Васа загінуў у бітве пры Лютцэне/Lützen (Нямеччына) у вайне ў імя абароны лютэранскай веры. Але дзякуючы палітыцы гэтага швэдзкага караля было адноўлена права пратэстантаў і праваслаўных ВКЛ займаць дзяржаўныя пасады. У траўні 1632 году віленская канвакацыя (рада магнатаў ВКЛ) на чале з Крыштапам II бяз згоды Кароны даслала пасольства ў Швэцыю (да губэрнатара Лівоніі)[20]. У выніку перамоваў каралевіч Уладзіслаў Васа, зацікаўлены ў падтрымцы пратэстантамі ягонай кандыдатуры на выбарах караля, падпісаў з Густавам Васам пагадненьне, якое гарантавала свабоды пратэстантаў Рэчы Паспалітай, між іншым, правы на сэнатарскія пасады[21]. Напачатку новы кароль Уладзіслаў IV Васа выканаў абяцаньні: легалізаваў праваслаўную царкву і спыніў рэпрэсіі супраць пратэстантаў. З нагоды вяртаньня талеранцыі ў лютэранскім зборы Вільні адбыўся т.зв. «трыюмф», нарыс аб якім быў надрукаваны ў Любчы[22].

4 верасьня 1644 году «Яднота літоўская» склікала сынод у Орлі (Гарадзенскі павет, сёньня ў Польшчы). Вёў рэй Януш Радзівіл. На яго

[19] Sveriges traktater med frammande magter. V. 5:1. 1571–1632. 1903. Stockholm, s. 352.

[20] Wisner, Henryk. 1997. Kilka uwag o Wielkim Księstwie Litewskim połowy XVII wieku. Lietuvos Valstybe XII–XVIII a. Vilnius, s. 315.

[21] Szelągowski, Adam. 1899. Układy królewicza Władysława i dysydentów z Gustawem Adolfem w roku 1632. Kwartalnik Historyczny. T. XIII. S. 683-733.

[22] Triumph po spokoyney electiey Naiaśnieyszego Władysława Zigmunta króla Polskiego y Szwezkiego, Wielkiego X. Litewskiego w Wilnie w kościele Confess. Auspur. Roku 1632. dnica secunda Adventus solleniter odprawowany. Lubcza, 24 ss.

апроч кальвінаў, арыянаў і лютэранаў былі запрошаныя праваслаўныя. Тэмай абмеркаваньня было стаўленьне да прапановы Варшавы арганізаваць экуменічны калёквіюм у Торуні, каб паяднацца з каталікамі. Дысыдэнты ВКЛ вырашылі ня браць удзелу ў калёквіюме. Адзінае, што былі дасланыя як назіральнікі два сьвятары – Мікалай Высоцкі і Адам Рэйнгальд. Падрабязная рэляцыя пра сынод у Орлі, напісаная Янушам Радзівілам, выйшла друкам у 1645 годзе ў Лёндане[23]. Асобнік атрымала каралеўская бібліятэка Швэцыі[24].

Наступнага году пратэстантаў ВКЛ наведала дэлегацыя Швэцыі на чале з рэктарам унівэрсытэту Дорпата/Academia Gustaviana прафэсарам швэдзкага і рымскага права Гейнрыхам Гейнам/Heinrich Hein і прафэсарам грэцкай мовы Ёганэсам Гізэлем/Johannes Georgii Gezelius[25]. Гізэль быў дарадцам губэрнатара Эстоніі Эрыка Оксэншэрны/Erik Oxenstierna і выдаўцом латыскага катэхізісу. У выніку перамоваў быў усталяваны сталы кантакт паміж пратэстантамі ВКЛ і Швэцыі. З таго часу Януш Радзівіл падтрымліваў стасункі з элітай Швэцыі.

Ужо цягам першай Паўночнай вайны (1600–1629) беларуска-літоўскія пратэстанты насуперак інтарэсам Польшчы цягнуліся да нармалізацыі стасункаў з Швэцыяй. У верасьні 1625 году па капітуляцыі перад швэдамі Біржаў Крыштап II бяз згоды польскага караля сустрэўся з швэдзкім каралём, братам па веры, Густавам II. З нагоды сустрэчы, паплечнік Крыштапа Радзівіла, беларускі кальвініст Салямон Рысінскі напісаў панэгерычную паэму, дзе ўхваліў ідэю швэдзка-літоўскага хаўрусу. Паводле Рысінскага, «швэдзкі кароль пажадаў пабратацца з знакамітым суседам». Прыдворныя мастакі ствараюць карціну «Спатканьне Крыштапа Радзівіла і Густава Васы», што ўпрыгожвала палац у Біржах, ды два партрэты «галоўнага ворага Польшчы» Густава II для палаца і музэю Радзівілаў у Любчы. У польскай літаратуры досыць хутка зьявілася рэакцыя на гэтыя падзеі – паэма «Поўнае здрады вітаньне з Густавам каралём швэдзкім

[23] Radzivil, Janusius. 1645. Ad epistolam Synodi Warsawiensis... sicut & ad subsequutum Sacrae Regiae Majestatis ad eosdem dissidentes eodem in negotio diploma, Ordinum evangelicorum responsio. Londini.

[24] Syntagmatis Confessionum Fidel. S. 11–30. Raritets-Kammaren. Kungliga biblioteket. Stockholm.

[25] Skutil, Jan. op. cit., s. 204.





Крыштапа Радзівіла, на той час гетмана польнага літоўскага». У ёй Крыштапа II быў абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе[26].

19 студзеня 1627 году ў латыскіх Балдонах/Baldone з ініцыятывы Швэцыі ВКЛ падпісала сэпаратную дамову з Стакгольмам, што бурыла ўсю міжнародную палітыку Кароны і Жыгімонта III. Падпісантамі з боку ВКЛ былі спрэс пратэстанты[27]. Сярод іх – ліцьвіны-беларусы Гедэон Раецкі і Марцін Карлінскі. Стараста жмудзкі каталік Юры Валовіч публічна абвінавацію пратэстантаў у тым, што яны мараць разарваць унію з Польшчай ды далучыць ВКЛ да Швэцыі. Першымі подпісы на Балдэнмуйскай дамове паставілі Крыштап II і Якуб Дэ ля Гарды/Jakob De la Gardie. Праз 28 гадоў іх сыны Януш Радзівіл і Магнус Дэ ля Гарды падпішуць Кейданскую унію, згодна зь якой ВКЛ разрывала стасункі з Польшчай, злучаючыся ў адно фэдэратыўнае гаспадарства з Швэцыяй.

Пратэстанцкі характар Кейданскай уніі не падкрэсьліваўся на паперы. Наадварот, артыкул 5 дамовы ад 17 жніўня 1655 году гарантаваў правы праваслаўнай, уніяцкай і каталіцкай цэркваў, нічога ня кажучы пра зборы[28]. Але складальнікі уніі ў будучыні бачылі ВКЛ пратэстанцкай краінай. Адразу па другой Кейданскай дамове (20 кастрычніка 1655 году) Магнус Дэ ля Гарды і Бэнгт Шуттэ даводзілі Карлу Х: хоць біскуп жмудзкі Пётар Парчэўскі (кліент Януша Радзівіла) падпісаў тэкст уніі, каталіцкія сьвятары моцна агітавалі супраць яе[29]. Розныя погляды на будучыню ВКЛ выклікалі, на думку швэдаў, хваляваньні каталіцкага жыхарства[30]. Ідэю барацьбы пратэстантаў ВКЛ на чале з «правадыром

[26] Pełne zdrady witanie z Gustawem królem szwedzkim Krzysztopha Radziwiłła na ten czas Hetmana Polnego Litewskiego. Biblioteka Czartoryskich. Muzeum Narodowe w Krakowie. Signatura 2064 (IV) /65, s. 55–56.

[27] Wisner, Henrik. 2001. Rozejm w Baldenmojzie (1627). Lietuva ir jos kaimynai. Nuo normanų iki Napoleono: Straipsnių rinkinys. Vilnius, p. 266–277.

[28] Riksarkivet. Militaria. Vol. 1304. s. 3–4.

[29] Magnus Gabriel De la Gardi och Bengt Skytte till Carl X. Keidaniai. October 21, 1655. In: Riksarkivet. Livonica II. Generalguvernor Livland till Kungliga Majestat 1655-1656. Volym 77. 4pp.

[30] Carlson, Fredrik Ferdinand. 1883. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. Sveriges historia under Carl den tionde Gustafs regering. Andra upplagan. Stockholm, s. 287.

эвангелікаў-каралём Швэцыі» супраць каталікоў Рэчы Паспалітай адлюстроўваюць матэрыялы шляхецкага стану швэдзкага сойму/Riksdagen[31]. Абмяркоўваючы справу палону князя Багуслава Радзівіла (8 кастрычніка 1656 году), швэды сьцьвярджалі, што галоўнага апекуна «Ядноты літоўскай» «езуіты на сваёй радзе прысудзілі забіць ды даслалі адпаведны ліст Вінцэнту Гансеўскаму», але князь Багуслаў быў выратаваны дзякуючы пільнасьці генэрала Густава Ота Стэнбока/Gustav Otto Stenbock[32].

Сярод уплывовай шляхты ВКЛ з тых, хто падпісаў Кейданскую унію, абсалютная большасьць былі пратэстантамі. Напрыклад, ваявода віленскі і гетман вялікі Януш Радзівіл, кашталян вэндэнскі Мікалай Корф, кашталян жмудзкі Яўстах Кірдэй, маршалак вількамірскі Ян Мяржынскі, маршалак ашмянскі Ян Дэспат-Зяновіч, маршалак лідзкі Тэафіл Дунін-Раецкі, маршалак браслаўскі Самуэль Пуцята ды іншыя[33]. У 1655–1656 гады на занятай згодна з Кейданскай уніяй швэдамі частцы ВКЛ (Жмудзь, Вількамірскі, Упіцкі, Ковенскі і Браслаўскі паветы) дзейнічала рада Швэдзкага губэрнатара ВКЛ Бэнгта Шуттэ/Bengt Skytte, сябрамі якой былі абраныя тутэйшыя ўплывовыя шляхціцы. З 16 чальцоў рады 11 былі пратэстантамі. Сярод іх: кухмістар ВКЛ (ад 1667 г.) Казімер Сясіцкі, пісар земскі вількамірскі Гектар Азэмблоўскі, падстолі браслаўскі Ўладзіслаў Пуцята, пісар гродзкі ковенскі Ян Візгірд, пісар земскі ковенскі Павал Празор, падстолі ковенскі Міхал Варлоўскі, судзьдзя земскі ўпіцкі Павал Марцінкевіч, скарбнік упіцкі Міхал Волмінскі, стольнік упіцкі Ўладзіслаў Сіцінскі, цівун Дырвянскі і арыгальскі Альбэрт Вяжынскі, стараста Орлі Вільгельм Корф[34]. Большасьць маёнткаў, што ў 1655–1656 гады раздаў Карл X, атрымала пратэстанская шляхта[35].

[31] Relation till standerna av statssekretaren Edvard Ehrensteen. Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdags- protokoll. Sjunde delen 1660. Stockholm, 1881. Bilaga A, s. 172–173.

[32] Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdags-protokoll. Sjette delen 1656–1658. Stockholm, 1877, s. 144–145.

[33] Konopczyński, Władysław, Lepszy, Kazimierz. 1935. Akta Ugody Kiejdańskiej 1655 roku. Ateneum Wilenskie, R.10, Wilno, p. 173–224; Gronski, Paul. 1928. Le traite Lituano-Suedois de Keidany (18 aout 1655). Revue historique. V.159, p. 291–304.

[34] Riksarkivet. Militaria. Vol. 1304.

[35] Wasilewski, Tadeusz. 1973. Zdrada Janusza Radziwiłła w 1655 r. i jej wyznaniowe motywy. Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Volume 18. Warszawa, s. 142–146.





Камандзерамі харугваў Януша і Багуслава Радзівілаў таксама былі пратэстанты. Значная частка пратэстантаў падтрымлівала ідэю Кейданскай вуніі і служыла ў швэдзкім войску. На чале палка Багуслава Радзівіла з 800 вершнікаў стаяў лівонскі немец палкоўнік Эбэргард Путкамэр. Сярод жаўнераў рэгімэнту больш за палову складалі шляхціцы ВКЛ. Эбэрхард Путкамэр быў патронам лютэранскага збору Вільні[36]. Генэрал швэдзкай службы Багуслаў Радзівіл быў галоўным прыхільнікам Кейданскай уніі. Менавіта праз яго йшлі дыпляматычныя кантакты. У Нацыянальным архіве Швэцыі/Riksarkivet і ў Каралеўскай бібліятэцы/Kungliga biblioteket захавалася каля 100 лістоў, дасланых у 1655–1657 гады Багуславам Радзівілам Карлу X, Магнусу Дэ ля Гарды, Бэнгту Оксэншэрна/Bengt Oxenstierna.

У 1655 годзе Швэцыя набрала ў ВКЛ на службу 1600 вершнікаў, на чале якіх стаялі лютэране Вільгельм Корф і Эрнэст Ян Корф. Іх аддзелы біліся ў траўні 1656 году супраць жмудзкіх паўстанцаў, а потым адышлі ў Курляндыю. На жаль, невядома, колькі ў складзе гэтых палкоў было замежных наймітаў, а колькі мясцовай шляхты. Швэды называлі полк Эрнэста Корфа «польскай кавалерыяй», што ўскосна сьведчыць пра ягоны «тутэйшы» склад[37].

Вядома, што лютэранскія сьвятары Беларусі падтрымлівалі швэдзкі ўрад ВКЛ. Да прыкладу, 12 верасьня 1656 году кароль польскі Ян Казімер забраў усе маёнткі ў Лідзкім павеце ў лютэранскага пастара Хаціжэўскага «як здрайцы Рэчы Паспалітай і Касьцёла нашага, які дагэтуль пры непрыяцелю нашым Швэдзе застаецца»[38]. Узімку 1656 году ковенскія шляхціцы Якуб Шэмфелт і Павал Мэйрах ачолілі дэлегацыю пратэстанцкай шляхты да Карла X з просьбай перадаць ковенскі фарны касьцёл Сьв. Пятра пад збор, за што згубілі ўсе маёнткі[39]. Ад расейскага палону на прасторах швэдзкай Літвы хавалася ў 1655–1656 гады шмат беларускай пратэстанцкай шляхты і пастараў. Пра гэта піша ў сваіх успамінах менскі

[36] Adamowicz, Adam. 1855. Die Evangelisch-Lutherische Kirche zu Wilna. Eine Chronik geschrieben zur Freyer des dreihundertjährigen Bestehens der Kirche… Wilna, s. 53.

[37] Fagerlund, Rainer. 1979. Kriget i Ostersjoprovinserna 1655–1660. Operationer och krigsanstrangningar pa en bikrigsskadeplats under Carl X Gustafs krig. Abo, s. 63.

[38] Metryka Litewska. Księga wpisów nr 131. Opracował Andrzej Rachuba. Warszawa, 2001. № 203.

[39] Metryka Litewska. 2001. № 214.

кальвін Ян Цадроўскі, які падкрэсьліў, што беларускія пратэстанты «пад той час заступніцтвам ягамосьці караля швэдзкага ганарыліся»[40].

Заўважым, што ўрачыстая цырымонія падпісаньня Кейданскай уніі адбылася ў мурах лютэранскага збору[41]. Швэдзкая дэлегацыя падаравала збору звон з красамоўным надпісам на лаціне: «Дар ад швэдзкіх сяброў Літве на памяць хаўрусу ў Кейданах»[42]. Набажэнствы з нагоды уніі прайшлі ўва ўсіх зборах Лівоніі і швэдзкай Літвы. Януш Радзівіл атрымаў найвышэйшую ўзнагароду лютэранскай Швэцыі – ордэн імя Ісуса[43].

Будучы ў 1655–1657 гг. у Беларусі, швэды шанавалі пратэстанцкія помнікі нашай краіны. Збор пад Браславам зрабіўся ў 1655–1656 гады домам малітвы жаўнераў швэдзкага гарнізону. У траўні 1657 году, будучы ў складзе швэдзкага гарнізону Берасьця, швэдзкі мастак Эрык Дальбэрг/Erik Dahlberg склаў плян места. У паўднёвай частцы старога гораду пад літарай «D» ён абазначыў вялікі лютэранскі збор/Pfarr Kirche, зьвесткі пра які губляюцца на пачатку XVII ст.

Пасьля антышвэдзкага паўстаньня на Жмудзі (красавік–травень 1656 году) і пачатку вайны Расеі супраць Швэцыі (ліпень 1656 году) швэдзкія аддзелы пакідаюць абшары ВКЛ. Ідэя Кейданскай уніі сканала. Да ліпеня 1657 году Багуслаў Радзівіл няўдала імкнецца ажыцьцявіць плян спадчыннага пратэстанцкага княства, якое мусіла паўстаць пад пратэктаратам Швэцыі з Навагрудзкага ваяводзтва і Падляшша. Нагадаем, менавіта гэтыя абшары былі цэнтрамі пратэстанцтва на беларускіх землях Рэчы Паспалітай.

Па вайне Рэчы Паспалітай з Швэцыяй (1655–1660) пратэстанты ВКЛ былі абвінавачаныя ў калябарацыі з Швэцыяй ды абмежаваныя ў палітычных правах. Адбудова зруйнаваных у вайну храмаў была забароненая, пастары не маглі публічна насіць сьвятарскую вопратку. Польская

[40] Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. 1983. Мінск, б. 127–128.

[41] Mikalojaus Kazimiero Šemetos «Reliacija». 1994. (1657). Senoji Lietuvos literatūra. Knyga 2. Vilnius, s. 100–102.

[42] Sandberg, Per. 1938. Fördraget i Kedainiai mellan Sverige och Litauen 1655. Planerna på en Svensk-Litauisk union. Baltisk revy. Lund, s. 49.

[43] Да 1914 году гэты ўнікальны «з 16 дыямэнтамі» ордэн захоўваўся ў Нясьвіскім замку. Пасьля быў набыты каралеўскім музэем Швэцыі ад прыватнай асобы ў Польшчы. Сёньня ў зборах музэю «Цэйгаўз»/«Livrustkammaren».





літаратура канца XVII–пачатку XVIII стст. стварыла вобраз «пратэстантаў-здраднікаў» з «монстрам літоўскім» Янушам Радзівілам на чале[44]. Найбольш радыкальная частка пратэстантаў – арыяне – былі асуджаны на баніцыю альбо мусілі прыняць каталіцтва[45]. Шмат зь іх зьехала ў Каралявец, дзе Багуслаў Радзівіл атрымаў пасаду губэрнатара Ўсходняй Прусіі. У Караляўцы былі заснаваныя збор і друкарня «Яднoты Літоўскай». Некаторыя пратэстанты праз Галяндыю трапілі ў Амэрыку, дзе заснавалі ўнітарскі збор/the Unitarian Church[46]. Ужо ў 1659 годзе эмігрант з ВКЛ пратэстант Аляксандар Курціч/Alexander Curtius працаваў настаўнікам адной зь першых школаў Нью-Ёрку[47]. Вялізарная колькасьць пратэстантаў вымушана была падацца на эміграцыю ў розныя краіны Заходняй Эўропы. Сярод краінаў эміграцыі была таксама Швэцыя. Апошнім лютэранскім пастарам швэдзкага места Нюен/Nyen, якое ў 1703 годзе захапіла Расея, заснаваўшы там сваю сталіцу Санкт-Пецярбург, быў нейкі Захар Ліцьвін/Zacharius Litovius[48].

Па сьмерці кашталяна полацкага Яна Сасноўскага і кашталяна віцебскага Тамаша Касакоўскага (1664) у Беларусі і Літве не засталося ніводнага сэнатара-пратэстанта. Адсутнасьць уплывовых дабрадзеяў прывяла да зьнішчэньня каталікамі большасьці парафіяў беларускага дыстрыкту кальвінскага збору (Полацак, Віцебск, Магілёў, Шацак, Галоўчын, Сакольня, Сэрвач)[49]. Кульмінацыяй рэпрэсіяў сталася разбурэньне кальвінскага збору Вільні (1682)[50].

[44] Libiszowska, Zofia. 1957. Antyszwedzka literatura propagandowa z czasów «Potopu». Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655–1660. Warszawa, s. 481–527.

[45] Prawa, Konstytucye y Przywileie Królewstwa Polskiego, Wielkiego Xięstwa Litewskiego y wszystkich prowincyi należących. Volumen Quartum (4). Ab anno 1641 ad annum 1668. 1859. St. Petersburg, s. 238–239.

[46] Tazbir, Janusz. 1977. Bracia polscy na wygnaniu. Studia z dziejów emigracji ariańskiej. Warszawa.

[47] Eriksonas, Linas. 2000. The lost Colony of Scots: Unravelling overseas connections in a Lithuanian town. Ships, Guns and Bibles in the North Sea and the Baltic States c. 1350 – c. 1700. East Lothian, p. 180.

[48] Bonsdorff, Carl Gabriel. 1891. Nyen och Nyenskans: historisk skildring. Helsingfors, s. 84.

[49] Kriegseisen, op. cit., p. 109.

[50] Zwolski, Bolesław. 1937. Zburzenie zboru ewangelicko-reformawanego w Wilnie w 1682. Ateneum Wilenskie, V.XII. s. 482–514.

Пры канцы XVI ст. у ВКЛ было каля 150 пратэстанцкіх храмаў, у 1655 – 110, у 1696 годзе захавалася толькі 46 парафіі[51]. «Швэдзкая справа» атрымала паразу. У выніку рэпрэсіяў супраць пратэстанцкай шляхты ВКЛ яна з уладароў краіны ператварылася ў стыгматызаваную меншасьць. У 1661 годзе ў Лёндане выйшаў палемічны нарыс з гісторыі мучэньняў кальвінскага збору Беларусі й Літвы ў войнах сярэдзіны XVII ст. Аўтар, пастар з Заблудава Ян Краінскі, няшчыра абвінавачіў швэдаў, што яны ня здолелі абараніць пратэстантаў ВКЛ ды наагул ставіліся да кальвіністаў як да ворагаў[52].

Наступны этап супрацоўніцтва Швэцыі з пратэстантамі ВКЛ прыпадае на часы Вялікай Паўночнай вайны. У выніку палітычнай барацьбы каталіцкі клан Сапегаў падтрымаў у гэтай вайне Швэцыю. Ужо ў 1696 годзе лідар партыі Ян Павал Сапега навязаў кантакт з пратэстантамі. Пастары зрабіліся пажаданымі гасьцямі палацаў Ружанаў і Горадні. У 1700 годзе Ян Павал Сапега лічыўся генэральным патронам кальвінскага збору. У 1703 годзе Сапега перайшоў разам з сваімі шматлікімі ўладаньнямі ў швэдзкае падданства. У той самы час клан Агінскіх праз свайго пасла, каталіцкага каноніка Крыштапа Белазора, дамаўляўся зь Пятром І аб пратэктараце Расеі над ВКЛ.

У 1703 годзе пратэстанты ВКЛ перадалі праз сваіх людзей у Караляўцы і амбасадара Прусіі ў Швэцыі дэкларацыю Карлу XII з просьбай дапамагчы аднавіць рэлігійныя свабоды. Сярод прашвэдзкай партыі былі прадстаўнікі сярэдняй шляхты: мечнік літоўскі Казімер Сяніцкі, ягоны брат Людвік Сяніцкі, палкоўнік Аляксандар Корф, мечнік менскі Яраслаў Мацкевіч, ягоны брат канюшы менскі Аляксандар Мацкевіч, стольнік мсьціслаўскі Крыштап Мацкевіч, харужы ваўкавыскі Юры Аледзкі, ягоны брат пісар гродзкі ваўкавыскі Гедэон Аледзкі, скарбнік літоўскі лівонскі немец Ян Шротэр, лоўчы наваградзкі Ян Воўк-Ланеўскі, ягоны брат харужы старадубскі Міхал Воўк-Ланеўскі, чашнік ашмянскі Томаш Волян ды іншыя.

[51] Сагановіч, Генадзь. 2002. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. Мінск, с. 94; Kriegseisen, op. cit., p. 100–101; Luksaite, Inga. 1999. Reformacija Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje ir Mažojoje Lietuvoje. Vilnius, p. 583–591.

[52] Krainsky, John de Kraino. 1661. A relation of the distressed state of the church of Christ professing the protestant religion in the Great Dukedom of Lithuania presented to the view of all compassionate Christians. London, p. A 5.





Як вядома, у 1706 і 1708 гады Швэцыя кантралявала значную частку ВКЛ. За гэты час пастары швэдзкага войска ўсталявалі шчыльны кантакт зь «Яднотай» ВКЛ. Да прыкладу, швэдзкі пастар Свэн Агрэль/Sven Agrell у сакавіку 1708 сустракаўся з кальвіністамі мястэчка Беліца на Нёмне ды з ласкі тамтэйшага пастара «чытаў казань для швэдзкіх харугваў у будынку кальвінскага збору». Швэдзкі палкоўнік Карл Пасэ/Carl Posse даслаў з Лоску ў Вільню харугву швэдзкіх жаўнераў для аховы лютэранскага збору. Афіцэр Ёакім Луц/Joachim Luth размаўляў зь лютэранамі ВКЛ. Паводле Луца, «гэтыя людзі нашай веры скардзіліся на ціск каталікоў, таму моцна радаваліся з прыходу швэдаў і выказвалі пажаданьне, каб мы ніколі больш адсюль не выходзілі»[53].

У 1704 годзе Варшаўская канфэдэрацыя, арганізаваная Карлам XII, абвясьціла каралём польскім і вялікім князем літоўскім Станіслава Ляшчынскага, які падпісаў Варшаўскі трактат. Згодна з артыкулам 18 пратэстантам вярталіся ўсе палітычныя і прыватныя правы, між іншым, права гадаваць дзяцей у веры бацькоў[54]. У 1707 годзе галоўныя патроны «Ядноты літоўскай» браты Сяніцкія, што кіравалі Быхавам, паднялі паўстаньне супраць Расеі, абвесьцілі пра пераход пад швэдзкае падданства ды накіравалі ліст аб дапамозе Карлу XII. Помач не прыйшла. Быхаў быў захоплены і зруйнаваны, браты Сяніцкія сасланыя ў Сібір. Менскі шляхціц, апякун Койданаўскага збору, Аляксандар Мацкевіч напісаў у 1706 годзе панэгірык Карлу XII, які абсалютна немагчыма ўявіць у польскай традыцыі. Пад швэдзкім кантролем у 1706 годзе ў Слуцку ды ў 1708 годзе ў Кейданах адбыліся генэральныя сыноды збору ВКЛ. На гэтых сынодах пратэстанты з надзеяй на будучыню прынялі рашэньні адбудаваць занядбаныя храмы[55].

15 красавіка 1708 году ў швэдзкім табары ў Радашкавічах шэраг каталіцкіх шляхціцаў ды колькі магнатаў у прысутнасьці Карла XII вырашылі прыняць лютэранства, падпісаўшы «Вызнаньне веры праўдзівай хрысьціянскай эвангелічнай»[56]. Гэты крок ствараў магчымасьць

[53] Lyth, Joachim. 1903. Dagbok 1703–1722. Karolinska Krigares Dagbocker. V. 2. Lund, s. 50–51.

[54] Гл.: Feldman, Jan. 1925. Polska w dobie wielkiej wojny połnocnej 1704–1709. Kraków.

[55] Катлярчук, op. cit., б., 91–94.

[56] Chodźko, Ignacy. 1870. Podania Litewskie. Wilno, s.125.

вяртаньня пратэстантаў ВКЛ (з дапамогай Швэцыі) да ўлады. Параза пад Палтавай перакрэсьліла гэтыя надзеі. Праз 155 гадоў пра гэтыя падзеі паэтычна выкажацца гадунец слуцкай пратэстанцкай гімназіі Альгерд Абуховіч у паэме «Дума а Каралю XII». Згодна зь ім, параза Швэцыі пад Палтавай пахавала надзеі Беларусі на свабоду.

Па Вялікай Паўночнай вайне на «Ядноту літоўскую» абрынулася другая хваля рэпрэсіяў, якая фактычна прывяла пратэстанцкі рух Беларусі да поўнага занядбаньня. Каталіцкі ўрад ВКЛ прымусіў лютэранскую шляхту пакінуць сваю веру, бо іх царква ў часе вайны дапамагала варожай Швэцыі. Віленскі лютэранскі збор мусіў заплаціць 1 000 талераў штрафу[57]. Ад таго часу большасьць вернікаў лютэранскага збору Вільні пачалі складаць купцы й рамесьнікі замежнага паходжаньня, між іншым, швэд Самуэль Вэбэр/Samuel Weber.

Шукаючы шляхі выйсьця з крызісу, койданаўскі кальвінскі пастар Багуслаў Капіевіч напісаў праграму захаваньня збору ВКЛ, у якой раіў забыцца пра дапамогу Швэцыі, «якая больш ніколі ня будзе біцца за нас лоб у лоб з Польшчай», ды шукаць унутраныя рэсурсы[58]. Ён заклікаў асьцярожна заахвочваць ідэямі Рэфармацыі беларускіх купцоў і рамесьнікаў, а ля кожнага збору ўтвараць школку й бібліятэку. Напрыклад, кнігазбор збора мястэчка Асташын налічваў у 1728 годзе 118 кніжак, сярод якіх былі выданьні на нямецкай, галяндзкай і францускай мовах[59]. У выніку дамоўленасьцяў Капіевіча з эўрапейскімі партнэрамі будучыя пастары Беларусі атрымалі 15 сталых стыпэндыяў на навучаньне ў найлепшых унівэрсытэтах Галяндыі, Шатляндыі, Нямеччыны й Францыі. У XVIII ст., калі нават магнаты ня езьдзілі на вучобу далей за Вільню, дробная пратэстанцкая шляхта Беларусі вучылася па ўсёй Эўропе. Па адукацыі яна вярталася на Бацькаўшчыну. У выніку па-эўрапейску адукаваныя людзі зь ведамі заходніх моваў былі вымушаны служыць на дробных пасадах у памежных з Расеяй замках. Да прыкладу, староста замку Сітна (Полацкі павет) Стэфан Аледзкі пераклаў у 1757 годзе з францускай на польскую мову культавую кнігу эўрапейскіх пратэстантаў

[57] Adamowicz, Adam. 1855. Die evangelisch-lutherische Kirche zu Wilna: Eine Chronik... Wilna, s. 53.

[58] Kriegseisen, op. cit., s. 234.

[59] Ibid, s. 279.

[60] Bonuan, Joan. The piligrim's progress.





«Шлях пілігрыма» ангельца Джона Бонана[60]. Неверагодна, каб сёньня бібліятэка вёскі Асташын мела галяндзкія кніжкі, а ў Сітне жыў перакладчык з францускай мовы.

Апошнім разам швэдзкі сьлед у ВКЛ заўважаецца пры сконе Рэчы Паспалітай. 14–18 сакавіка 1767 году 130 шляхціцаў-пратэстантаў падпісалі ў Слуцку акт канфэдэрацыі з патрабаваньнем аднавіць свабоду веравызнаньня. Між іншым, бараніць «стаптаныя правы» Слуцкая канфэдэрацыя заклікала ўрад Швэцыі[61]. Сярод падпісантаў былі простыя нашчадкі колішніх палітычных хаўрусьнікаў Швэцыі ў 1655–1657 і 1702–1708 гады: генэрал Ян Грабоўскі, генэрал Лаўрын Путкамэр, Стэфан Аледзкі, Уладзіслаў і Самуэль Воўк-Ланеўскія, Ян Раецкі, Самуэль Корсак, Марцін Отэнгаўз[62]. Менавіта Слуцкая канфэдэрацыя запачаткавала зьнішчэньне Рэчы Паспалітай. Цікава, што калі ў 1805 годзе новая расейская ўлада вырашала, якім літургічным абрадам мусіць карыстацца лютэранскі збор былога ВКЛ, была абраная менавіта швэдзкая мадэль.

***

Падчас нашай размовы з Рышардам Радзікам, якая адбылася ў траўні 2003 году ва ўтульнай кавярні старога Любліна побач зь лютэранскім зборам, той выказаў цікавую думку. Спадар Радзік зазначыў, што як мінімум тры разы (у канцы XVI ст., 1655–1657 і 1706–1708 гады) Беларусь мела шанцы зрабіцца пратэстанцкай краінай і апынуцца ў швэдзкіх межах. У гісторыі суседняй Латвіі кароткі пэрыяд швэдзкага панаваньня (1622–1704) вядомы як «добры швэдзкі час». Швэдзкі ўрад правёў аграрную рэформу, якая палепшыла стан сялянаў, заснаваў унівэрсытэт, заклаў сыстэму народнай адукацыі, спрыяў разьвіцьцю латыскай літаратуры, надрукаваў Біблію на латыскай мове, праз выхаваньне настаўнікаў і пастараў стварыў першую ў гісторыю латыскую эліту. Як вынік спынілася германізацыя латыскага этнасу, быў закладзены падмурак для посьпеху мадэрнага нацыянальнага руху. Беларусі ў той час не пашанцавала. Калі б мары пратэстанцкай эліты зьдзейсьніліся, сёньня Беларусь мэнтальнасьцю, культурай насельніцтва і дабрабытам нагадва-

[61] Анішчанка, Яўген. 2003. Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Інкарпарацыя. Менск, б. 102–104.

[62] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Фонд. 1727. Справа 14. Ліст 1246–1249. Паводле: Рэфармацыя і грамадства: XVI стагоддзе: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. Менск: Беларускі кнігазбор, 2005. С. 54–69.

ла б паўночнаэўрапейскія пратэстанцкія краіны. Ува ўсялякім разе, пратэстанты ВКЛ зрабілі больш паважны ўнёсак у культуру Беларусі, чым гэта прызнаецца сучаснымі беларускімі гісторыкамі.

## Першы ў сьвеце дзяржаўны банк і першыя банкноты: беларускі сьлед

30 лістапада 2006 адсьвяткаваў 400-ю гадавіну Дзяржаўны банк Швэцыі (Riksbanken) – першая такая ў сьвеце ўстанова. Цэнтральны банк Швэцыі вядомы ня толькі як вялікая фінансавая арганізацыя, але і як найбуйнейшы навуковы фонд, што падтрымлівае разьвіцьцё тэхнічных і гуманітарных досьледаў у краіне.

«Але якое дачыненьне мае гэты юбілей да Беларусі?» – спытае чытач. Самае беспасярэднае. Чалавек, які заснаваў банк Швэцыі і прыдумаў першыя ў Эўропе банкноты, працаваў у Беларусі, валодаў беларускай мовай ды нават па маці быў беларусам. Пошук у архівах Швэцыі дае магчымасьць падрабязна распавесьці пра яго.

15 чэрвеня 1611 г. у Рызе нарадзіўся хлопчык на імя Ганс Вітмахер (Hans Wittmacher). Нягледзячы на, здавалася б, нямецкае прозьвішча, хлопец ня быў немцам. Ягоны бацька, галяндзкі месьціч, прыехаў у Рыгу ў пошуках лепшай долі. Тут ён распачаў лясны гандаль зь Віцебскам і Полацкам. Дачка аднаго зь ягоных беларускіх партнэраў шляхцянка Ганна Бельская стала жонкай нашага галяндца. Напалову беларус Ганс Вітмахер нарадзіўся як падданы ВКЛ – Рыга знаходзілася тады пад кіраваньнем Рэчы Паспалітай. Але ў 1621 г. у жыцьці гараджанаў адбылася значная зьмена. Места Рыскае адышло да Швэцыі. Рыга, а не Стакгольм была найбуйнейшым горадам Швэцыі з 1621 па 1721 г.

Эканамічны патэнцыял Рыгі грунтаваўся на гандлі зь Беларусьсю. Менавіта Рыга была нашай брамай у Заходнюю Эўропу. Места было заснаванае немцамі ў 1201 г., але ўжо ў 1229 г. паўстала першая гандлёвая дамова паміж Рыгай і Полацкам, Віцебскам і Смаленскам. Гэта, дарэчы, першы вядомы помнік на старажытнай беларускай мове. Дамова дазваляла нашым продкам вольна гандляваць і жыць у Рызе. Гэтак у XIII ст. у старой Рызе паўстаў значны беларускі квартал, што гуртаваўся вакол праваслаўнай царквы Сьвятога Міколы. Царква была





пад юрысдыкцыяй полацкага ўладыкі. Такім чынам, беларусаў, а не латышоў трэба лічыць другімі пасьля немцаў гістарычнымі жыхарамі сталіцы сучаснай Латвіі.

«Еду ў Рыгу па соль, па скрыгу», – кажа наша старая прыказка. – Уся жыцьцёва неабходная соль паступала ў Беларусь ажно з Партугаліі праз Рыгу. Праз Рыгу ішоў шкоцкі і дanскі селядзец (тады танны, а сёньня дарагі, ён дагэтуль лічыцца адной з галоўных страваў беларускай кухні). Дзьвіной рыскія купцы везьлі ў Беларусь піва, віно, цукар, мэталёвыя рэчы, закрасы. Зь імі ехалі да нашай краіны швэды, што тады не ўспрымалася як экзотыка. Шмат хто зь іх асядаў настала ў ВКЛ.

Швэд Рыгор Барастус складаў панэгірычныя вершы ў гонар Лява Сапегі. У той самы час іншы швэд Лаўрэн Бойе славіў Яна Караля Хадкевіча. Конрад Гётке ілюстраваў беларускія кнігі. Ляўрэн Горн працаваў настаўнікам Януша Радзівіла. Майстар Самуэль Вэбэр вырабляў канаты. Нарэшце Рыгор Штэтэнбэрг падрабляў у Горадні дастамэнты. Усё гэта сьведчыць, што тады Беларусь і Швэцыя знаходзіліся ў супольным эканамічным і праўным полі – правобразе сучаснага Эўразьвязу.

Што везьлі ў Швэцыю беларусы? Перадусім гэта пянька (зь яе рабілі канаты і вяроўкі). Рыга была сусьветным манапалістам у гандлі пянькой. «Русінская якасная і чыстая пянька» была ў два разы даражэйшая за «маскоўскую». Апрача пянькі, стругамі плыў у Рыгу воск (бадай, уся Эўропа чытала пад беларускія сьвечкі), скуры, лес, смолы. Рыская гільдыя купцоў зь Беларусьсю была найзаможнейшая і фактычна кіравала рыскім магістратам. Менавіта да гэтай гільдыі належала сям'я Вітмахераў-Бельскіх. Іх галоўным партнэрам была радзіна віцебскіх мільянэраў – купцоў Аверкаў. Разам яны пабудавалі магутную гандлёвую карпарацыю, што злучыла Віцебск з Рыгай, Амстэрдамам і Стакгольмам.

Сярод купцоў Віцебску было шмат пратэстантаў. Але Аверкі ў часы уніі трымаліся праваслаўя, бадай з эканамічных прычынаў: у Швэдзкім каралеўстве забаранялася знаходзіцца каталікам. Адзін з Аверкаў склаў Віцебскі летапіс XVIII ст..

Новая швэдзкая ўлада рэзка павялічыла экспартныя магчымасьці рыскага порту. «Гэта было за добрым швэдзкім часам», – кажа латыская прыказка. Наш Ганс скончыў швэдзкую школу, а потым пераехаў у Стакгольм, дзе працаваў у швэдзкім Дзяржаўным калегіюме (міністэр-

стве) гандлю. Менавіта ў гэтай установе ў 1654 г. быў распрацаваны плян па далучэньні Беларусі да Швэцыі.

Агрэсія Расеі супраць ВКЛ і захоп Полацку і Віцебску адрэзалі Рыгу ад беларускага рынку. У выніку швэдзкай контрапалітыкі 20 кастрычніка 1655 г. ВКЛ і Швэцыя падпісалі Кейданскую унію ды злучыліся ў адну фэдэрацыйную дзяржаву. У гэтым апроч пратэстанцкай шляхты, было зацікаўленае беларускае і рыскае купецтва. Менавіта беларускія купцы ўсталявалі кантакт паміж вялікім гетманам ВКЛ Янушам Радзівілам і губэрнатарам Рыгі і Лівоніі швэдам Магнусам дэ ля Гарды. Купцы-беларусы выдалі 100 тысячаў талераў крэдыту на падтрымку прашвэдзкай палітыкі Радзівіла. Былі купцы і сярод падпісантаў Кейданскай уніі. Напрыклад, заможны купец з Друі Іван Харламповіч падпісаў дамову кірыліцай, па-беларуску. Віцебскі купец Васіль Гіра пазычыў «на патрэбы караля швэдзкага» вялікія грошы – амаль 3 тысячы талераў.

Кейданская унія паклала пачатак зорнай кар'еры Ганса Вітмахера. Як швэдзкі ўраднік і знаўца беларускай і польскай моваў ён быў прызначаны дэ ля Гарды галоўным падатковым інспэктарам на ВКЛ. Нашай шляхце было цяжка ўжыцца з новым ураднікам. Ад акуратнага швэда, што валодаў беларускай мовай і ведаў Беларусь, немагчыма было схаваць даходаў. У выніку ў 1656 г. паўстала скарга беларускай і літоўскай шляхты на новага інспэктара.

Але Кейданская унія хутка заняпала. Прапольская шляхта Жмудзі ўзьняла паўстаньне. Расея акупавала Браслаўскі павет і Інфлянты. Страціўшы працу, фінансіст Ганс Вітмахер прапанаваў каралю Швэцыі Карлу X новы сьмелы праект, які дазваляў знайсьці ўва ўмовах вайны дадатковыя грошы.

30 лістапада 1656 г., у свой дзень народзінаў, Карл X даў дазвол на стварэньне пад кіраўніцтвам Ганса Вітмахера *Stockholm Banko* – першага ў сьвеце цэнтральнага банку. Але галоўным вынаходніцтвам Вітмагера былі банкноты. Папяровыя грошы існавалі ў старажытным Кітаі, але не былі банкаўскімі крэдытнымі знакамі. У Стакгольме Ганс распачаў друк банкнотаў наміналам у 5, 25, 100 і 1000 швэдзкіх талераў. Кожная банкнота рабілася ўручную, зь якаснай ільняной паперы (менавіта з дадаткам лёну вырабляюцца амэрыканскія даляры, што не псуюцца з часам), і выдавалася за асабістым подпісам Ганса. Новыя грошы ахвотна набывала насельніцтва за вялікія, цяжкія, нязручныя і ня вельмі





каштоўныя швэдзкія медныя «платы»-грыўны. За новыя банкноты можна было набыць што заўгодна ці ў любы час абмяняць. Новыя лёгкія і надзейныя грошы хутка набылі папулярнасьць. Посьпех быў абсалютны. За заслугі перад дзяржавай Ганс Вітмахер быў набілітаваны як шляхціц і атрымаў ад караля, паводле швэдзкай традыцыі, новае імя і прозьвішча – Ёван Пальмструх (Johan Palmstruch). Пад гэтым імем ён і вядомы сучасным швэдам. Відаць, не выпадкова свой герб новы швэдзкі шляхціц размаляваў у бел-чырвона-белы колер.

Пахаваны Пальмструх у зборы мястэчка Тэбю ля Стакгольму (Täby kyrka). Пра беларускае паходжаньне першага банкіра сучасным швэдам, на жаль, невядома.

Жыцьцё Ганса Вітмахера, апрача моцных сувязяў зь Беларусьсю, ламае шмат якія стэрэатыпы. Аказваецца, беларус у мінулым быў ня толькі «панам сахі і касы». Нашыя продкі (тыя ж Аверкі) былі бізнэсоўцамі эўрапейскага ўзроўню. Нават ува ўмовах шляхецкай рэспублікі ВКЛ, што, у адрозьненьне ад Швэцыі, ня мела яснай дзяржаўнай палітыкі ў падтрымцы прыватнага гандлю, беларускія купцы збудавалі фінансавыя імпэрыі. Гэта дае надзею што да пэрспэктываў сучаснага беларускага бізнэсу, бо ўсё новае – гэта добра забытае старое.



*64. Ордэн імя Ісуса – вышэйшая ўзнагарода Швэцыі XVII ст. Уручаны ад імя Карла X гетману ВКЛ Янушу Радзівілу з нагоды Кейданскай уніі.*



*65. Кацярына Ягелонка (Katarina Jagellonica) 1526–1583. Дачка вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога і Боны Сфорцы. Каралева Швэцыі ў 1569–1583 гг.*



*66. Швэдзкі плян Берасьця 1657 г. Аўтар інжынер Банелл (Bonell). Ваенны архіў Швэцыі (Krigsarkivet).*








*67. Герб вынаходніка банкнотаў і заснавальніка першага нацыянальнага банку ў сьвеце Ганса Вітмахера (Бельскага па маці).*



REGNI POLO-
NIÆ HISTORIA:
Quam,
Deo Duce ac Auspice,
In Regiâ Academiâ GUSTAVI-
anâ, quæ Dorpati Livonorum est
ad Embeccam, die 18. Maji, Anno
1642. publicè solenniterq; in Au-
ditorio Magno pro concione
enarrabat
JOHANNES PETREJUS JU-
NECOPINUS, Smoland: Svecus,
DORPATI, Typis Acad.
Anno M. DC. XLII.

*69. Regni Poloniae Historia. Першая швэдзкая навуковая праца, прысьвечаная гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. 1642 г. Аўтар – Ёханэс Пэтрэюс.*



*68. Зоф'я Менская, каралева Даніі (справа), разам з мужам Вальдэмарам I. Выява на дацкіх манэтах XII ст.*



*70. Харугва войска ВКЛ. 1702 г. Вайсковы музэй Швэцыі (Armémuseum).*




*71. Адна зь першых банкнотаў. 10 талераў. Стакгольм. 1666 г. Подпіс Ёвана Пальмструха.*




*72. Полацак. Швэдзкі плян. 1702 г. Ваенны архіў Швэцыі (Krigsarkivet).*



# КРЫНІЦЫ Й БІБЛІЯГРАФІЯ

*У працы аўтарам выкарыстаныя рукапісныя матэрыялы з:*
Бібліятэкі ўнівэрсытэту Ўпсолы (Carolina Rediviva);
Нацыянальнага гістарычнага архіву Швэцыі (Riksarkivet, Stockholm);
Нацыянальнага гістарычнага архіву Беларусі (НГАБ, Менск);
Расейскай нацыянальнай бібліятэкі (РНБ, Санкт-Пецярбург);
Расейскага дзяржаўнага архіву старажытных актаў (РГАДА, Масква).

Abrahamson, K. A. 2000. Vitryssland: 89 millimeter fren Europa. Stockholm, Fischer.
Abrahamson, K. 2001. Vitryssland och Sverige / Białorus i Szwecja / Беларусь і Швэцыя. *Annus Albaruthenicus.* Krynki, 43–56.
Abrahamson, K. 2002. Sverige och Vitryssland / Швецыя і Беларусь /Швеция и Беларусь. Stockholm.
Adlerfeld, M.G. 1740. The military history of Charles XII. King of Sweden. Volume 1–3. London.
Agrell, S. Dagbok 1707–1713. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 5. Lund. 1909, 1–368.
Alekseev, L.B. (Алексеев, Л.В.) 1966. Полоцкая земля IX–XIII веков: очерки истории Северной Белоруссии. Москва.
Ambjörsson, R., Gaunt, D. (red). 1984. Den Dolda historien. Malmö.
Antonenko, B. 2000. Eustachy Tyszkiewicz – historyk i obywatel Wilna. Nasza Gazeta. № 41 (530).
Apine, J. 1995. Baltkrievi Latvija. Rīga.
Arbman, H. 1943. Birka : Untersuchungen und Studien. 1, Die Gräber. Stockholm.
Arbman, H. 1961. The Vikings. London.
Arcihovskij, A.V. (Арциховский, А.В.) 1938. Лекции по археологии. Часть 2. Москва.
Arest= Записки игумена Ореста. 1867. 1871. *Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа.* Т. 2. Т. 5. Вильно.
Arkhiu uniyatskich mitrapalitau=Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Даведнік. Менск–Полацак, 1999.
Arkhivaryus=Архіварыюс. 2001. НГАБ. Менск, 71–72 (публікацыя Н.А. Барсукова).
Arkhivy BNR=Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. 1998. Т. 1. Кніга 2. Miensk–New York–Prague–Vilnius.
Arnestedt, C. 1894. Uppsala Universitets biblioteks historia untill år 1702. Stockholm, 88–99.
AS=Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильно. Т.5. 1871; Т.10. 1874; Т. 12. 1900; Т.14. 1912.
Augustyniak, U. 2001. Dwór i klientela Krysztofa Radziwiłła (1588–1640). Warszawa.
Avdusin, D.A., Tikhomirov, M.N. (Авдусин, Д.А., Тихомиров, М.Н.) 1950. Древнейшая русская надпись. *Вестник Академии наук СССР.* 4.
Avdusin, D.A. (Авдусин, Д.А.) 1967. Варяжский вопрос по археологическим данным. *Археология СССР.* Москва.
Avdusin, D.A. (Авдусин, Д.А.) 1972. Гнездово и Днепровский путь. Новое в археологии. Москва, 159–169.
Avdusin, D.A. (Авдусин, Д.А.) 1974. Скандинавские погребения в Гнездове. *Вестник МГУ. История,* № 1.
Avdusin, D.A. (Авдусин, Д.А.) 1987. Варяжский вопрос по археологическим данным. *Археология СССР.* Москва.
Avdusin, D. A., Pushkina, T.A. (Авдусин, Д.А., Пушкина, Т.А.) 1989. Три погребальные камеры из Гнездова. История и культура древнерусского города. Москва, 193–233.

Bantysh-Kamenski, D. (Бантыш-Каменский, Д.) 1859. Источники малороссийской истории. Часть II. (1691–1722), Москва.
Bardach, J. 1988. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań.
Barshcheuski, J. (Баршчэўскі, Я.) 1990. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Менск.
Batskau dar. Belaruskia narodnyia kazki (Бацькаў дар. Беларускія народныя казкі) 1985. Менск.
Beck, C. Bref till J. Beck. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 9. Lund. 1913, 279–281.
Bektineev, Sh. (Бектинеев, Ш.) 1992. Полоцкие гирьки-разновесы. У: *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі.* Полацак, 5–6.
Bely, A. (Белы, А.) 1999. Невядомыя эпізоды «невядомай вайны», або Ваенныя дзеянні Швецыі супраць ВКЛ у 1656–1657 гг. вачыма Эрыка Дальберга. *Спадчына.* № 3, 114–129.
Bely, A. (Белы, А.) 2001. Радноцкі дагавор 1656. *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* Т. 6. Кн. 1. Менск, 69.
Bente, M. 2000. Birka. Växjö.
Berezhkov, M.N. (Бережков, М.Н.) 1909. Нежинские предания, относящиеся к 1709 – Полтавскому году. Нежин.
Birgegård, U. 1975. Лексикографические работы И.Г. Спарвенфельда и их место в истории русской лексикографии. *Slavica Lundensia.* V.3. Lund, 29–55.
Botvidi, I. 1620. Theses de qvaestione utrum Muschovitae sint Christiani. Holmiae (Stockholm).
Braun, F.A. (Браун, Ф.А.) 1902: Фрианд и Шимон, сыновья варяжского князя Африкана. *Известия Отделения русского языка и словесности.* Санкт-Петербург. Т. XII. Книга 1. 359–365.
Bring, S. 1918. Karl XII. Stockholm.
Broberg, G. 1992–1994. Olaus Magnus *Svenskt Biografiskt Lexikon.* V.28. Stockholm, 136–141
Bulkin, V.A. (Булкин, В.А.) 1975. Большие курганы Гнездовского могильника. *Скандинавский сборник.* Таллин, В. 20, 134–145.
Bulkin, V.A., Lebedev, G.S. (Булкин, В.А., Лебедев, Г.С.) 1974. Гнездово и Бирка (к проблеме становления городов). Культура феодальной Руси 11–17 вв. Ленинград.
Burke, P. 1994. Popular culture in Early Modern Europe. London.
Cederhielm, J. Bref till sin broder Germund. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 6. Lund. 1912, 1–297.
Cederhielm, J. Bref till sin broder Germund. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 8. Lund. 1913, 139–257.
Chakvin, I. U. (Чаквін, І.Ю.) 1989. Нарманы. *Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя.* 337–338.
Charniauski, M. (Чарняўскі, М.) 1998. Ян Кароль Хадкевіч. Правадыр крылатых вершнікаў. Менск.
Charopka, V. (Чаропка, В.) 1994. Вэндэнская Вунія. *Спадчына.* № 5, 67–73.
Chernigovskaya Letopis=Черниговская летопись. *Киевская старина.* Май. 1890.
Chodźka, I. 1870. Podania Litewskie. Wilno.
Dahlberg, A.M. 1995. Kungliga prakt i Livrustkammaren. Stockholm.
Dahlbergh, E. 1962. Erik Dahlberghs dagbok. Stockholm.
Dauhiala, Z. (Даўгяла, Зьм.) 1928. Стары Менск. *Наш край.* №3 (30).
Davidsson, K. 1975. Собрание славянских рукописей в Библиотеке университета в Уппсале. *Slavica Lundensia.* V.3. Lund, 57–86.
Degiel, R. 2000. Protestanci i Prawosławni. Patronat wyznaniowy Radziwiłłow birżańskich nad Cerkwią prawosławną w księstwie Słuckim w XVII w. Warszawa.
Demidovich, P.P. (Демидович, П.П.) 1896. Из области верований и сказаний белорусов. *Этнографическое обозрение.* № 1, 91–120.
Deruga, A. 1936. Piotr Wielki a unici i unja kościelna, 1700–1711. Wilno.
Dmitriev, M.A. (Дмитриев, М.А.) 1853. Несколько слов краткого исторического обозрения русско-литовского Новогрудка. *Вестник Императорского Русского географического общества.*
Doroshenko, V. (Дорошенко, В.) 1985. Торговля и купечество Риги в XVII веке. Рига.
Dounar-Zapolski, M. (Доўнар-Запольскі, М.) 1994. Гісторыя Беларусі. Менск.





Druts, E., Gessler, A. (Друц, Е., Гесслер, А.) 1990. Цыгане. Москва.
Duchyts, L. (Дучыц, Л.) 1980. Маскавіцкае гарадзішча (XI–XIII стст.) *Весці Акадэміі навук БССР.* № 4.
Duchyts, L. Melnikova, E. (Дучиц, Л. Мельникова, Е.) 1981. Надписи и знаки на костях с городища Масковичи (Северо-Западная Белоруссия). *Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования 1980 года.* Москва.
Duchyts, L. (Дучыц, Л.) 1993. Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў. Менск.
Duchyts, L. (Дучыц, Л.) 1993-2. Варагі. *Энцыклапедыя. Археалогія і нумізматыка Беларусі.* Менск, 113.
Dzakson, T.N. (Джаксон, Т.Н.) 1986. Наименования Древней Руси и Новгорода в древнескандинавской письменности: о возникновении топонимов garpar и holmgarpr. *Скандинавский сборник.* Выпуск 30. Таллин. 85–95.
Dzakson, T. (Джаксон, Т.) 2000. Исландские королевские саги о Восточной Европе (середина XI – середина XIII). Тексты, перевод, комментарии. Москва.
Dziarnovich, S. (Дзярновіч, С.) 1998. Аб знаходжанні нарманаў у Полацку ў XI–XII стст. *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі.* Полацак. 90–91.
EB= Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. 1989. Менск.
Eb= Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. 1985. Менск.
Edberg, R. 2001 Vikingaresan till Polteskiuborg. *Populär arkeologi.* 3(19), 36–37.
Englund, P. (Энглунд, П.) 1995. Полтава: рассказ о гибели одной армии. Москва.
Englund, P. 2000. Den övervinnerlige. Om den svenska stormartstiden och en man i dess mitt. Stockholm, s. 200–223.
Ericsson, G. 1924. Borastus Gregorius Laurentii. *Svenskt Biografiskt Lexikon.* T. 5, 452–455.
Eriksonas, L. 2000. The lost Colony of Scots: Unravelling overseas connections in a Lithuanian town. *Ships, Guns and Bibles in the North Sea and the Baltic States c. 1350–c. 1700.* East Lothian, 173–187.
*Europe Orientalis. Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność.* Toruń, 35–52
Federowski, M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. 1897–1981. T. 1–8. Kraków. Warszawa.
Feldman, J. 1925. Polska w dobie wielkiej wojny północnej 1704–1709. Kraków.
Floria, B. (Флоря, Б.) 1997. О некоторых особенностях развития этнического самосознания восточных славян в эпоху средневековья – раннего Нового времени. *Россия–Украина: история взаимоотношений.* Москва, 9–27.
Forssman, J. 1967. Scandinavische spuren in der Altrussischen sprache und duchting. München.
Fursov, M., Chulovskii, S. (Фурсов, М., Чуловский, С.) 1892. Дневник курганных раскопок в пяти уездах Могилевской губернии. Могилев.
Gaunt, D. 2001. Kinship: thin red lines or thick blue blood. *Family life in Early Modern Times 1500–1789.* V.1. New Haven and London, 257–287.
GB= Гісторыя Беларусі ў дзвюх частках. 1998. Ч. 1. Пад рэд. Я.К. Новіка і Г.С. Марцуля. Менск.
Glubokovskii, E. (Глубоковский, Е.) 1918. Описание славянских рукописей, хранящихся в университетской библиотеке в Уппсале. Манускрипт. Carolina Rediviva.
Grickevičius, A. 1997. The seminary of Gregory XIII in Vilnius (1583–1655) *Lithuanian Historical Studies.* №2, 72–96.
Grimsted, P. 1984. The «Lithuanian Metrica» in Moscow and Warsaw: Reconstructing the Archives of the Grand Duchy of Lithuania. Cambridge, Massachusetts.
Gurevich, F. (Гуревич, Ф.) 1990. Скандинавские находки на территории Белоруссии. *Скандинавский сборник.* Таллин, В. 33, 110–121.
Gurevich, F.D. (Гуревич, Ф.Д.) 1981. Древний Новогрудок. Ленинград.
Gurin, M. (Гурин, М.) 1997. Развитие металлургии железа в Беларуси. *Гісторыка-археалагічны зборнік.* Менск. 11:93–98
Gurkov, V.S.,Terekhin, S.F. (Гурков, В.С., Терехин, С.Ф.) 1980. Бортничество в Белоруссии. Минск.
Gustavsson, S. 1995. Belarus: a multilingual state in Eastern Europe. *Language, minority, migration.* Uppsala, 39–74.

Gyllenstierna, N. Berättelse om Polska och Ryska krigen 1702–1709. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 8. Lund. 1913, 15–124.
Hallendorff, G. 1902. Karl XII:s och Lewenhaupts operationer år 1708. *Uppsala Universitets Årsskrift.* 1–142.
Hanzhyn, A. (Ганжын, А.) 1927. Мястэчка Чачэрск Гомельскай акругі (геаграфічна-гістарычны нарыс). *Наш край.* №1 (16).
Hardzeieu, M. (Гардзееў, М.) 1999. «Под час небеспеченства од Москвы...» (Актавая кніга полацкага магістрату за 1656–1657 гг. як крыніца па вывучэнні вайны 1654–1667 гадоў). *Беларускі гістарычны агляд.* Т. 6. Сш. 1–2 (10–11). Менск.
НВ=Гісторыя Беларусі ў 6 тамах. 2000. Менск
Hildenbrand, C-G. 1964. Svensk expansionspolitik. *Historia kring Karl XII.* Stockholm, 40–64.
HSBM=Гістарычны слоўнік беларускай мовы. В.1–20. Менск, 1982–2001.
Hummerhielm, A. Dagbok 1707–1708. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 10. Lund. 1914, 1–191.
Ignatenko, A.P. (Игнатенко, А.П.) 1957. Участие белорусского народа в борьбе против шведских захватчиков в годы Северной войны. *Вопросы Истории БССР. Ученые записки. В. 36.*
Index Librorum Latinorum Lithuaniae Saeculi Septimi Decimi. 1998. Vilnius.
Ingelman-Sundberg, C. 2000. Boken om Vikingarna. Stockholm.
Istoria vneshnej politiki=История внешней политики России. XVIII век. 2000, Москва.
Istoria Severnoi voiny=История Северной войны 1700–1721 ( И.И. Ростунов, В.А. Авдеев, М.Н. Осипова, Ю.Ф. Соколов). 1987. Москва.
IUM= Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской и изданные под редакцией А. Сазонова, Д.И. Довгялло, Н. Мещерского, М. Веревкина). Витебск, В. 11–32, 1880–1906.
Ivanova, L. (Иванова, Л.) 1997. Рэфармацыйны рух на Беларусі (2 пал. 16 – 1 пал. 17 ст.). *Беларускі гістарычны часопіс.* №2, 54–72.
Ivanovič, M. 1998. XVII a. Lietuvos lenkiškos knygos. Kontrolinis sąrašas. Vilnius.
Jacoby, J. 1959. Boguslaus Radziwill: der Statthalter des Grosseen Kurfъrsten in Ostpressen. Marburg. Lahn.
Janin, V. (Янин, В.) 1981. Денежно-весовые системы русского средневековья. Москва.
Jankowski, Cz. 1896. Powiat Oszmiański. Materjały do dziejów ziemi i ludzi. Cz.1. Petersburg.
Jansson J. 1987. Communication between Scandinavia and Eastern Europe in the Viking Age. *Untersuchungen zu Handel und Vörkehr der vor- und frühgeschlichen Zeit in Mittel- und Nordeuropa.* Göttingen.
Jansson, I. (Янссон, И.).1996. The Vikings Heritage. A dialogue between cultures. Наследие варягов. Диалог культур. Borås.
Jarashevich, A. (Ярашэвіч, А.) 1997. Камайскі касцёл. *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* Т.4. Менск, 39.
Jefferyes. J. 1954. Letters to the Secretary of State, Whitehall from the Swedish Army, 1707–1709. Ed.by Ragnhild Hatton. Stockholm.
Jelenska, E. 1893. Szwedzi, Tatarzy, Turcy w wyobraźni ludu białoruskiego. *Wisła.* T.8, №3.
Jesch, J. 1991. Women in the Viking age. Woodbridge.
Johansson, A. Melin, J. Hedenborg, S. 2001. Sveriges historia. Stockholm.
Jones, S. 1997. The Archeology of Ethnicity. Constricting Identities in the Past and Present. Routledge, London and New York.
Jurevich, L. (Юрэвіч, Л.) 1999. Камэнтары. Літаратуразнаўчыя артыкулы. Менск.
Kainov, S.U. (Каинов, С.Ю.) 1999. Ланцетовидные наконечники стрел из раскопок Гнездова. *Раннесредневековые древности Северной Руси и ее соседей.* Санкт-Петербург, 49–62.
Kakhanouski, H. Kachanouski, A. (Каханоўскі, Г., Каханоўскі, А.) 1992. Руплівец нашай старасвеччыны. Менск.
Kan, A. (Кан, А.) 1996. Швеция и Россия в прошлом и настоящем. Москва.
Karatkevich, U. (Караткевіч, У.) 1992. Зямля пад белымі крыламі. Менск.
Karlsson, E. (Карлсон, О.) 2002. Карл XII. Stockholm.
Karras, R. 1989. Slavery and Society in Medieval Scandinavia. New Haven–London.





Karskii, E. (Карский, Е.) 1930. Русская правда по древнейшему списку. Ленинград.
Kaspiarovich, J. (Касьпяровіч, Я.) Чэрвеншчына. *Наш край.* Менск. № 5–6 (56–57).
Kepsu, S. (Кепсу, С.) 2000. Петербург до Петербурга. История устья Невы до основания города Петра. Санкт-Петербург.
Kharlampovich, P. (Харлампoвіч, П.) 1927. Манэтныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі ў зборах Беларускага дзяржаўнага музэя. *Гісторыка-археолёгічны зборнік.* Менск, 1927, №1, 303–345.
Kipel, Z. (Кіпель, З.) 1998. Нізкі паклон Аляксандру Вало. Кантакты і дыялогі. 6, 20–22.
Kjellberg, L. 1951. Catalogue des imprimes slavons. Des XVIe, XVIIe, et XVIIIe siecles conserves a la Bibliotheque de L'universite Royale P' Uppsala. Uppsala.
Klaczowski, E. (Клачоўскі, Е.) 1994. Беларусь, Літва, Украіна ў «Атласе» грамадска-рэлігійнай гісторыі Рэчы Паспалітай. *Беларусіка. Albaruthenica.* В.3. Менск.
Kletnova, E.N. (Клетнова, Е.Н.) 1916. Раскопки Гнездова левобережного. *Смоленская старина.* Выпуск 3. Часть 2. Смоленск.
KM= Могилевская хроника Трофима Романовича Сурты и Юрия Трубницкого. 1980. *Полное собрание русских летописей.* Т.35. *Летописи белорусско-литовские.* Составитель и редактор Н.Н. Улащик. Москва.
Kolabava, I.N. (Колабава, І.Н.) 1975. Раменнікаўскі манэтны скарб. *Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.* № 3, 42–45.
Kolberg, O. 1968. Dzieła wszystkie. Białoruś-Polesie. T. 52. Wrocław–Poznań.
Konopczyński, W. 1935. Polska a Szwecja. Toruń.
Konopczyński, W., Lepszy, K. 1935. Akta Ugody Kiedańskiej 1655 roku. Ateneum Wileński, R.10, Wilno, s. 173–224.
Konung Karl XII:s. Egenhändiga bref af Ernst Carlson 1893, Stockholm.
Kopyskii, Z. (Копысский, З., Клок, Л., Мигулин, И.) 1958. Битва под Лесной в 1708 году. Менск.
Korzukhina, G. (Корзухина, Г.) 1963. К истории игр на Руси. *Советская археология.* № 4, 85–101.
Kosich, M.N. (Косич, М.Н.) 1902. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни. Санкт-Петербург.
Kosman, M. 1973. Reformacja i Kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław.
Kosman, M. 1978. Protestanci i Kontrreformacja. Z dziejów tolerancji w Rzeczypospolitej XVI–XVIII wieku. Wrocław.
Kostomarov, N. (Костомаров, Н.) 1885. Автобиография. *Русская мысль.* № 5, 190–223.
Kotliarchuk, A. (Котлярчук, А.) 1998. Православная церковь в Великом княжестве Литовском. *Веснік Беларускага праваслаўнага экзархату.* В.1. Менск, 7–25.
Kotliarchuk, A. (Котлярчук, А.) 1999. Шведы в этнической истории и преданиях белорусов. *Скандинавские чтения 1998 года.* Санкт-Петербург. 187–194.
Kotliarchuk, A. (Котлярчук, А.) 2001. Карл XII у гісторыі і паданнях Магілёва. *Мінулая і сучасная гісторыя Магілёва.* Магілёў, 95–99.
Kotliarchuk, A. (Котлярчук, А.) 2001-2. Польска-царкоўнаславянскі слоўнік Сімяона Полацкага ў зборах Carolina Rediviva. *Кантакты і дыялогі.* № 6, 31–32.
Kotliarchuk, A. (Котлярчук, А.) 2001-3. Беларусы Бранскага краю. *ARCHE.* №2, 155–161.
Kotliarchuk, A. 2002. «Barfora som en svensk» – vitryska ordspråk om svenskar. www.vitryssland.nu
Kotliarchuk, A. 2002-2. The image of Swedes in the Belarusian literature. *Annus Albaruthenicus.* Krynki, 79–92.
Kriegseisen, W. 1996. Ewangelicy Polscy, Litewscy w Epoce Saskiej (1696–1763). Warszawa.
Krman, D. 1969. Intinerarium (cestovny dennik z rokov 1708–1709). Bratislava.
Kubala, L. 1913. Wojna Szwedzka w roku 1655–1656. Lwów.
Kurbatov, A.V. (Курбатов, А.В.) 1999. Наследие М.К.Каргера: коллекция кожевенных предметов из раскопок 1957 г. на Верхнем замке Полоцка. *Раннесредневековые древности севера Руси и ее соседей.* Санкт-Петербург, 100–116.

Körner, S., Tamulynas, A. 1994. Lithuania–Sweden, Visby.
Labuda, G. 1960 Żródła, sagi i legendy do najdawniejszych dziejów Polski. Warszawa.
Laskavy, G. (Ласкавый, Г.) 1992. Мечи Полоцкой земли (X–XIII вв.) *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі.* Полацак, 40–41.
Lastouski, V. (Ластоўскі, В.) 1926. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Спроба паясьніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўна.
Lebedev, G. (Лебедев, Г.) 1996. «Из варяг в греки» – под парусом и на веслах. *Восточный путь. Журнал любителей старины.* № 2. 16–20.
Les manuscrits slaves de la Bibliotheque Royale de Stockholm. Par A. A. de-Roubetz. Manuscript. Kungliga Biblioteket. Stockholm.
Letapis Avraamki=Летописный сборник, именуемый летописью Авраамки. ПСРЛ. Москва, 2000.
LI-1989=Латиноязычные источники по истории Древней Руси. Германия. IX – первая половина XII в. 1989. Москва, Ленинград.
LI 1990=Латиноязычные источники по истории Древней Руси. Германия. Середина XII – середина XIII в. 1990 Москва, Ленинград.
Liatskii, E. (Ляцкий, Е.А.) 1898. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. Пословицы, поговорки, загадки. Москва.
Liaukou, E. (Ляўкоў, Э.А.) 1992. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Менск.
Libiszowska, Z. 1957. Antyszwedzka literatura propogandowa z czasów «Potopu». *Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655–1660.* Warszawa, s.481–527.
Liljegren, B. 2000. Karl XII. En biografi. Lund.
LIP-1983=Легенды і паданні. 1983. Склад. М.Я.Грынблат і А.І.Гурскі. Менск: Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру.
Lipnicki, A. 1858. Życie, cuda, i cześć świętego Kazimierza królewicza polskiego, wielkiego księcia litewskiego. Wilno.
Lithuania on the map. 2001. Vilnius.
Litwin, H. 1993. Przynależność narodowa alumnów Seminarium Papieskiego w Wilnie 1582–1798. *Między Wschodem a Zachodem.* Warszawa, 61–65.
Łukaszewicz, J. 1843. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. T.2. Poznań.
Lukšaitė, I.1999. Reformacija. Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštysteje ir Mažojoje Lietuvoje. Vilnius.
Lulewicz, H. 1977. Skład wyznaniowy senatorów świeckich Wielkiego Księstwa Litewskiego za panowania Wazów. *Przegląd Historyczny.* T. LXVIII, cz. 3, 425–445.
Lyth, M. Dagbok 1703–1722. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 2. Lund. 1903, 1–99.
Machinskii, D.A. (Мачинский, Д.А.) 1997. Ладога/Aldeigja: религиозно-мифическое сознание и историко-археологическая реальность (VIII–XII вв). *Ладога и религиозное сознание. Материалы III чтения.* Санкт-Петербург, 156–167.
Magnus, O. 2000. Historia om Nordiska folket. Stockholm.
Makarii (Макарий). 1996. История русской церкви. Книга пятая. История Западнорусской или Литовской митрополии. Москва.
Mallek, J. 1990. Polscy, Litewscy studenci na uniwersytecie królewieckim. *Europa Orientalis.* Toruń, 177–185.
Marzaliuk, I. (Марзалюк, І.) 2001. Невядомая спадчына Сімяона Полацкага. *Край.* Магілёў, 65–71.
Mats, G., Rune, E. 1994. Han for Österut till Gårdarike. Nordborna och Ryssland under vikingatider. Stockholm.
Medvedev, M. 2000. Belarusians about Swedes. www.vitryssland.nu
Meleshko, V. I. (Мелешко, В.И.) 1971. Военные разорения и восстановление сельского хозяйства на востоке Белоруссии во второй половине 17 – первой половине 18 века. *Ежегодник аграрной истории Восточной Европы.* Вильнюс.
Meletinskii, E.M. (Мелетинский, Е.М.) Тор. Мифы народов мира. Т.2. Москва, 519–520.
Melnikova, E., Sedova, M., Shtykhov, G. (Мельникова, Е., Седова, М., Штыхов, Г.) 1983. Новые находки скандинавских рунических надписей на территории СССР. *Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования 1981 года.* Москва.







Mialeshka, M. (Мялешка, М.) 1929. Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Менск.
Milutin, B., Shadyro, V. (Милютин, Б., Шадыро, В.) 1994. Находки монет из поселения Прудники. Гісторыка-археалагічны зборнік. № 5. Менск, 255–262.
Mironowicz, A. 1997. Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza. Białystok.
Miranovich, J. (Мірановіч, Я.) 1999. Навейшая гісторыя Беларусі. Беласток.
Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Zbiór pomników Reformacyi.Wilno, 1911.
Moszyński, K. 1967–1968. Kultura Ludowa Słowian. Cz. 1–2. Warszawa.
Murzakevich, N. (Мурзакевич, Н.) 1804. История губернского города Смоленска от древнейших времен до 1804 года. Смоленск.
Mylnikov, A.S. (Мыльников, А.С.) 1996. Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы. Этногенетические легенды, догадки, протогипотезы XVI – начала XVIII века. Санкт-Петербург.
Mylnikov, A.S. (Мыльников, А.С.) 1999. Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы. Представления об этнической номинации и этничности XVI – начала XVIII века. Санкт-Петербург.
Mörner, C. Berättelse om sina krigföretag. 25.02.1702–09.07.1702. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 8. Lund. 1913, 2–11.
Nadson, A. 1968. The Memoirs of Theodor Jeulasheuski. *The Journal of Byelorussian Studies* London, 1/4: 269–348.
Nemtsau, A. (Немцаў, А.) 1928. Помнікі старасьветчыны ў Асіповіцкім раёне. *Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі.* Менск.
Nikiforovskii, N. (Никифоровский, Н.) 1897. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легенды, сказания о лицах и местах Витебской Белоруссии. Витебск.
Nikolaev, N. (Николаев, Н.) 1983. Меч X века из Гродно. *Древнерусское государство и славяне.* Минск. 81–82.
Nordberg, J. 1740. Carl den XII tes Historia. Del 1. Frâm 1662 till Junii Mânad âr 1709, Stockholm.
Norsberg, J. Dagbok 1700–1710. *Karolinska Krigares Dagböcker.* V. 3. Lund. 1907, 185–250.
Nosovich, I. (Носович, И.) 1870. Словарь белорусского наречия. Санкт-Петербург.
Novikov, G.A. (Новиков, Г.А.) 1991. Скандинавские амулеты из Гнездова. *Смоленск и Гнездово (к истории древнерусского города).* Москва, 175–200.
Nowak, M. T. Szwedzka mapa przemarzu wojsk Karola XII w 1708 roku z Kujaw na Białoruś. *Europe Orientalis. Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność.* Toruń, 197–209.
OCME-1878=Описание церквей и приходов Минской епархии. Т.1. Минский уезд.
Oleszewski, J. 1899 (1721) Abrys domowej nieszczęśliwości. Wydał Franciszek Ksawery Kluczycki. Kraków.
Opisanie=Описание рукописей Санкт-Петербургской духовной академии. Составил А.Абрамович. Выпуск 1. Санкт-Петербург, 1905.
Pachkaeu, M. 450 years of Protestantism in Belarus. http://www.cus.cam.ac.uk/~np214/reform.htm
Padbiareski, R. (Падбярэскі, Р.) 1844. Лісты пра Беларусь. *Шляхам гадоў.* Менск, 1994, 249–269.
Padokshyn, S. (Падокшын, С.) 2000. Унія, дзяржаўнасць, культура. Менск.
Pamiats=Памяць. Жыткавіцкі раён. Менск, 1994.
Pankratova, M.V. (Панкратова, М.В.) 1997. Грим Эгир «Саги о Хрольве Пешеходе» и стародорожская мифоэпическая традиция. *Ладога и религиозное сознание. Материалы III чтения.* Санкт-Петербург, 7–12.
Pashkevich, U. (Пашкевіч, У.) 1995. ВКЛ у Паўночнай вайне (1700–1721 гг). *Беларускі гістарычны часопіс.* № 3, 163–171.
Paszkiewicz, H. 1963. The making of the Russian Nation. London.
Patsupa, J. (Пацюпа, Ю.) 1994. Гратэскі і арабескі. *Свіцязь.* № 3, 73–83.
Pauli, U. 1995. Mellan Moskva och Warszawa. Malmö.
Pendzich, B. 1998. The burghers of the GDL during the war of 1654–1667: resiliency and cohesion in the face of Muscovite annexation. Dissertation, Georgetown University Press.
Perkhavko, V. (Перхавко, В.) 1992. Западнодвинская магистраль и связи Древней Руси с

